ГЕРОЛЬД  LITHERLAND

**№ 20** **Горадня–Менск** **2014**


**E-mail: Litherland@tut.by**

**ЗМЕСТ:**

## АД РЭДАКЦЫІ

Нумар 20-ы нашага часопіса супаў з выдатнай падзеяй у беларускай гісторыі – 500-годдзем бітвы пад Воршай у верасні 1514 г. На юбілейную дату варта звярнуць увагу па некалькіх важкіх прычынах. Звесткі пра перамогу войска ВКЛ пад Воршай прысутнічаюць ужо ў першых спробах аднаўлення гістарычнай памяці беларусаў. Нататка пра бітву ўвайшла ў надрукаваныя ў 1855 г. "*Гістарычныя звесткі пра найбольш прыкметныя мясціны Беларусі*" Міхаіла Без-Карніловіча, а ў выдадзеным у 1857 г. "*Аглядзе гісторыі Беларусі са старажытных часоў*" Восіп Турчыновіч замацаваў за падзеямі 8 верасня 1514 г. сімвалічны эпітэт *"слаўная перамога"*. У адпаведнасці з гэтай традыцыяй беларускія гісторыкі XX ст. (Вацлаў Ластоўскі, Уладзімір Пічэта, Усевалад Ігнатоўскі, Мітрафан Доўнар-Запольскі) не забываліся нагадваць пра перамогу над маскоўскім войскам, але не рабілі яе выключнай. Бадай, адзіным прыкладам акцэнтаванай мемарыялізацыі гэтай падзеі, трэба лічыць згадку В. Ластоўскага ў "*Кароткай гісторыі Беларусі*" пра пабудову гетманам ВКЛ князем Канстанцінам Іванавічам Астрожскім у гонар перамогі пад Воршай царквы ў Вільні.

Аднаўленне незалежнасці Беларускай дзяржавы ў 1990-я гады ажывіла цікавасць да мілітарнай гісторыі, у тым ліку была пераасэнсавана і ўключана ў лік нацыянальных дасягненняў Аршанская перамога. Падзеі 1514 г. намаганнямі беларускіх гісторыкаў сталі часткай грамадскага жыцця, значным аб'яднальным фактарам нацыі. Аднак эмацыйны ўздым з нагоды падзеі не можа доўга замяняць грунтоўнага і ўсебаковага навуковага аналіза Аршанскай бітвы. На жаль, сучасная беларуская гістарыяграфія не ідзе далей артыкулаў навукова-папулярнага жанру, хаця ўжо даўно наспела патрэба ў айчынным абагульняючым даследаванні тых далёкіх падзеяў. Мяркуем, што наша выданне пэўным чынам паспрыяе актывізацыі працы ў гэтым напрамку.

У 20-ы нумар "*Герольда Litherland*" увайшлі даследаванні Алеся Казакова, Юрыя Копціка, Уладзіміра Канановіча, Аляксея Шаланды і Андрэя Шулаева, якія ставяць новыя акцэнты на аршанскіх падзеях пяцісотгадовай даўніны. Заяўленай ў анонсе мэтай нумару было вывучэнне бітвы пад Воршай праз прызму спецыяльных гістарычных навук. Таму лакалізацыя месца "*Вялікай бітвы*", крыніцазнаўчы аналіз славутай карціны "*Бітва пад Воршай*" і разгляд рэляцыі Жыгімонта Герберштайна, пастаноўка вексілалагічных праблем войска ВКЛ першай паловы XVI ст. склалі аснову раздзела "*Артыкулы*". У раздзеле "*Матэрыялы*" друкуецца праца Альбіны Семянчук пра аўтара "*Пахвалы Жыгімонта*" і "*Пахвалы Гаштольду*" Дэадатуса Септэніюса (Багдана Сямашкі). Жанр "*Пахвалаў*" быў вельмі папулярны ў старажытнай беларускай літаратуры XV–XVI ст., але як гістарычная крыніца недаацэньваецца беларускімі гісторыкамі. "*Пахвала Жыгімонта*" цікавая тым, што ўтрымлівае ў сабе водгукі пераможнай Аршанскай бітвы. Гістарыяграфічны агляд пра асвятленне бітвы пад Воршай ў айчынных падручніках, падрыхтаваны гарадзенцам Віктарам Белазаровічам. Аўтар прыходзіць да высновы, што адлюстраванне аршанскіх падзей 1514 г. у навучальным працэсе недастатковае і тлумачыць гэта адсутнасцю сур'ёзных навуковых даследаванняў па праблеме. Храналагічна блізкі аршанскім падзеям таксама біяграфічны нарыс Фёдара Чарняўскага пра смаленскага намесніка Юрыя Салагуба, які, як лічыць аўтар, беспадстаўна пацярпеў за страту Смаленска ў 1514 г.

У раздзеле "*Крыніцы*" публікуецца "*Попіс шляхты Аршанскага павета 30 верасня 1765 г.*", які падрыхтаваў да друку Сяргей Рыбчонак. Выбар дакумента не выпадковы – нашчадкі герояў Аршанскай бітвы напэўна жылі і ў XVIII ст. ды жывуць і зараз. "*Попіс*" з'яўляецца унікальнай крыніцай, якая дазваляе на новым узроўні даследаваць вайсковую, генеалагічную і дэмаграфічную гісторыю Аршаншчыны і Беларусі ў цэлым. У нейкім сэнсе публікацыя з'яўляецца працягам раней надрукаваных попісаў войска ВКЛ за XVI–XVIII ст. Традыцыйна нумар завяршаюць рэцэнзіі на кнігі і артыкулы, выдадзеныя ў 2012–2014 г.

**Аляксандр Казакоў**
**(Менск)**

# ДЗЕ АДБЫЛАСЯ АРШАНСКАЯ БІТВА 1514 г.?

Паўтысячы год таму недалёка ад Воршы адбылася адна з самых буйных і крывавых бітваў у гісторыі супрацьстаяння ВКЛ з Вялікім княствам Маскоўскім. Аб'яднанае літоўска-польскае войска на чале з князем Канстанцінам Іванавічам Астрожскім здзейсніла поўны разгром непрыяцельскай арміі пад камандаваннем Івана Андрэевіча Чалядніна. Хоць стратэгічныя наступствы гэтай перамогі не былі значнымі (Смаленск застаўся ў руках вялікага князя маскоўскага Васіля ІІІ), ягелонскі двор актыўна выкарыстаў яе ў прапагандысцкіх мэтах. Намаганнямі дыпламатыі польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта І Старога слава пра Аршанскую бітву дасягнула еўрапейскіх сталіц, прычым яе маштабы былі значна перабольшаныя. Апавяданне пра бітву патрапіла ў данясенні агентаў, лісты высокапастаўленых асоб, летапісы і хронікі. Перамога каралеўскіх войскаў натхніла некаторых аўтараў на стварэнне паэтычных твораў. У ВКЛ гэтая падзея стала вядомай як "*Вялікая бітва*". І сапраўды, дагэтуль віленскі двор не ведаў такой буйной і рашучай перамогі над маскоўскім непрыяцелем.

На сённяшні дзень гістарыяграфія Аршанскай бітвы прадстаўлена даволі вялікім спісам прац рознай ступені навуковай вартасці. Сярод іх ёсць як спробы вырашэння пэўных праблем, так і матэрыял кампілятыўнага характару, адрасаваны шырокаму чытачу. Аршанскую бітву не маглі абысці ўвагай аўтары, якія разглядалі гісторыю Польшчы, ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы той эпохі, пытанні міжнародных адносінаў, а таксама гістарычную постаць князя Канстанціна Астрожскага[1]. Асобнай згадкі заслугоўваюць даследаванні, прысвечаныя ягелонскай прапагандзе аршанскага трыумфа і лёсу маскоўскіх палонных[2]. Ваенна-тактычны аспект бітвы (дыспазіцыя войскаў, ход бітвы, фактары поспеху арміі Астрожскага, роля ў перамозе розных родаў войскаў) быў няблага распрацаваны, пераважна ў рамках польскай мілітарнай гісторыі[3]. Асобны інтарэс выклікала і працягвае

---

[1] Карамзин Н. *История государства Российского*. СПб., 1819. Т.VII. Соловьев С. *История России с древнейших времен*. М., 1993. Т.5. Кашпровский Е. *Борьба Василия III Ивановича с Сигизмундом I из-за обладания Смоленском (1507–1522).*// Сборник историко-филологического общества при институте кн. Безбородко. Нежин, 1899. Вып.II. Зимин А. *Россия на пороге нового времени*. М., 1972. Хорошкевич А. *Русское государство в системе международных отношений конца XV–начала XVI века*. М., 1980. Кузнецов А. *Внешняя политика Российского государства в первой трети XVI в.* Саранск, 2002. Wojciechowski W. *Zygmunt Stary (1506–1548)*. Warszawa, 1946. Сагановіч Г. *Айчыну сваю баронячы. Канстанцін Астрожскі, 1460–1530*. Мн., 1992. Ульяновський В. *"Славний для всіх часів чоловік": князь Костянтин Іванович Острозький*. Київ, 2009.

[2] Граля И. *Мотивы "Оршанского триумфа" в Ягеллонской пропаганде.*// Проблемы отечественной истории и культуры периода феодализма: Чтения памяти В. Кобрина. М., 1992. С.46–50. Grala H. *Jeńcy spod Orszy: między jagiellońską propagandą sukcesu a moskiewską racją stanu (1514–1552).*// Aetas media, aetas moderna. Studia ofiarowane profesorowi Henrykowi Samsonowiczowi w siedemdziesiąta rocznice urodzin. Warszawa, 2000. S.439–466. Čiurinskas M. *Pergalės prie Oršos (1514) propaganda Europoje: Šaltinių apžvalga, literatūriniai ir kultūrniai aspektai.*// Senoji lietuvos literatūra. Vilnius, 2006. T.21. P.317–344. Krom M. *Rejestry jeńców moskiewskich na Litwie w pierwszej połowie XVI wieku.*// Przegląd Wschodni. Warszawa, 1994. T.III. Z.3 (11). S.451–470. Кошалеў М. *Жывыя і мёртвыя: Маскоўскія вязні пасля Аршанскай бітвы 1514 г.*// Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1998. С.176–183. Публікацыю рэестраў маскоўскіх вязняў у ВКЛ за першую палову XVI ст. гл.: Антонов А., Кром М. *Списки русских пленных в Литве первой половины XVI века.*// Архив русской истории. М., 2002. Вып.7. С.149–196.

[3] Górski K. *O rozwoju sztuki wojennej w Polsce w wieku XV.*// Biblioteka Warszawska. 1890. T.II. S.407–422. T.III. S.85–98. Korzon T. *Dzieje wojen i wojskowości w Polsce. Epoka przedrozbiorowa*. Kraków, 1912. T.I. S.250–256. *Orsza* // Encyklopedia wojskowa. Warszawa, 1937. T.VI. S.161–163. *Zarys dziejów wojskowości polskiej do roku 1864*. Warszawa, 1965. T.I. Do roku 1648. S.331–336. Herbst S., Walicki M. *Obraz bitwy pod Orszą. Dokument historii sztuki i wojskowości XVI w.*// Rozprawy komisji historii kultury i sztuki. Warszawa, 1949. T.I. S.33–68 (частка гэтага артыкула, напісаная С. Хэрбстам, таксама змешчана ў: Herbst S. *Potrzeba historii czyli o polskim stylu życia*. Warszawa, 1978. T.II. S.273–295. *Wypisy źródłowe do historii polskiej sztuki wojennej. Polska sztuka wojenna w latach 1454–1562*. Oprac. Z. Spieralski. Warszawa, 1958. Z.4. S.134–143. Żygulski Z. jun. "*Bitwa pod*

выклікаць знакамітая карціна невядомага мастака “*Бітва пад Воршай*”[4]. Варта адзначыць, што ў Беларусі спецыяльных грунтоўных даследаванняў створана не было. Працы, якія асвятляюць Аршанскую бітву, носяць пераважна капмілятыўны характар[5]. Выключэнні складаюць хіба толькі планы бітвы Вячаслава Насевіча[6] і Віктара Цемушава[7], змешчаныя ў гістарычных атласах. Варта таксама ўзгадаць працы, якія прысвечаны не ўласна Аршанскай бітве, але яе месцу ў гістарычнай памяці[8].

Адмысловай увагі заслугоўвае даследаванне расійскага спецыяліста Аляксея Лобіна[9]. Гэта – першая манаграфія, прысвечаная вайне 1512–1522 г. паміж Масквой і Вільняй, дзе Аршанская бітва займае цэнтральнае месца[10]. Вартасцю даследавання трэба прызнаць крытычны падыход да крыніц і гістарыяграфічных штампаў. На аснове ўжо вядомых і новых крыніц аўтар перагледзеў колькасць войскаў, якія ўдзельнічалі ў бітве з абодвух бакоў, а таксама стратэгічнае і знешнепалітычнае значэнне перамогі ВКЛ. Паводле А. Лобіна, Аршанская бітва не адыграла той ролі, якую ёй прыпісваюць, ані ў распадзе антыягелонскай кааліцыі, ані ў спыненні маскоўскай агрэсіі на ўсход. Што тычыцца памераў армій варагуючых бакоў, то яны, на думку расійскага даследчыка, былі прыблізна роўныя. Колькасць войска ВКЛ, якая паддаецца прыблізнаму падліку на аснове дакументальных і наратыўных крыніц, дасягала 12–13 тыс. чал.[11] Колькасць жа маскоўскіх ратнікаў А. Лобін высветліў, прымяніўшы арыгінальную методыку падліку, якая, на наш погляд, з’яўляецца даволі сумнеўнай[12]. Паводле расійскага даследчыка, Чаляднін меў пад Воршай 11–14 тыс. чал.[13] Трэба адзначыць, што пытанне колькасці маскоўскага войска ў Аршанскай бітве з’яўляецца вельмі спрэчным, як і наогул пытанне памераў узброеных сіл Маскоўскай дзяржавы ў канцы XV–XVI ст.[14]

---

*Orszą” – struktura obrazu*.// Rocznik Historii Sztuki. 1981. T.12. S.85–132. Żygulski Z. jun. “*Bitwa pod Orszą” – struktura obrazu*.// Światła Stambułu. Warszawa, 1999. S.253–290. Dróżdż P. *Orsza 1514*. Warszawa, 2000. Plewczyński M. *Bitwa pod Orszą 8 września 1514 r*.// Bitwy decydujące o losach Europy Środkowej. Warszawa, 2010. S.131–144. Голицин Н. *Русская военная история. От Иоанна III до Петра I*. СПб., 1878. Ч.2. С.105–106. *Русская военная энциклопедия*. СПб., 1914. Т.17. С.186–187. Разин Е. *История военного искусства VI–XVI в.* СПб., 1999. С.351–353. Першае выданне: Разин Е. *История военного искусства. Военное искусство феодального периода*. М., 1957. Т.2. У хуткім часе выйшаў яго пераклад на польскую мову: Razin E. *Historia sztuki wojennej. Sztuka wojenna okresu feudalnego*. Warszawa, 1960. T.II. Гуцул В. *Битва під Оршею 1514 р.: історичні і літературні реалії*.// Київська старовина. 2009. № 5–6. С.2–19.

[4] Białostocki. J. *Zagadka “Bitwy pod Orszą”*.// Biuletyn Historii Sztuki. 1955. R.XVII. S.80–99. [4] Białostocki. J. *Czy Dürer naśladował “Bitwę pod Orszą”?*// Biuletyn Historii Sztuki. 1969. R.XXXI. Nr 3. S.276–281. Stefańska Z. *Działo “orszańskie”*.// Muzealnictwo Wojskowe. 1959. T.I. S.359–366. Bołdyrew A. *Obraz “Bitwa pod Orszą” i badania nad jego przydatnością do dziejów uzbrojenia. Przyczynek do legendy historiograficznej*. У друку. Аўтар выказвае падзяку Аляксандру Болдыраву за магчымасць азнаёміцца з рукапісам гэтай працы.

[5] Гл., напрыклад: Грыцкевіч А. *Аршанская бітва 1514 г*.// Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Мн.: БелЭн, 2007. Т.1. С.249–251. Сагановіч Г. *Айчыну сваю баронячы*. С.34–51. Гарматны В. *Аршанская бітва 8 верасня 1514 г*.// ARCHE. 2008. № 7–8. С.169–187.

[6] *Бітва пад Оршай (08.09.1514 г.)*.// Гістарычны атлас Беларусі. Беларусь ад старажытных часоў да канца XVIII ст. Варшава, Мінск, 2008. Т.1. С.73.

[7] *Аршанская бітва 8 верасня 1514 г*.// Вялікі гістарычны атлас Беларусі. Мн., 2009. Т.1. С.75.

[8] Сагановіч Г. *Аршанская бітва 1514 г. – канфлікт гістарыяграфій і ідэнтычнасцяў*. Рэжым доступу: http://bk.baj.by/lekcyji/historyja/sahanovicz_01.htm. Дата доступу: 27.04.2014. Семянчук А. *Бітва пад Оршай як “фігура памяці”*. // ARCHE. 2013. № 2. С.146–161.

[9] Лобин А. *Битва под Оршей 8 сентября 1514 г*. СПб., 2011.

[10] Манаграфія польскага даследчыка Пятра Дружджа, якая выйшла ў 2000 г., носіць навукова-папулярны характар і нічога новага да гісторыі Аршанскай бітвы не дадае. У 2014 г. пабачыла свет яе беларускамоўнае выданне, гл.: Друждж П. *Бітва пад Оршай 1514 года*. Мн.: Янушкевіч, 2014.

[11] Лобин А. *Битва под Оршей*. С.133.

[12] Падрабязную крытыку методыкі А. Лобіна гл. у рэцэнзіі на яго манаграфію: Казакоў А. *Паляванне на “Аршанскі міф”*.// ARCHE. 2012. № 5. С.88–97.

[13] Лобин А. *Битва под Оршей*. С.104.

[14] Адсутнасць надзейных крыніц наконт мабілізацыйных магчымасцяў Маскоўскай дзяржавы таго перыяду абумоўлівае розныя меркаванні на гэты конт. Аднак у апошні час у расійскай гістарыяграфіі назіраецца трэнд да значнага змяншэння колькасці войскаў (напрыклад, гл. дыскусію вакол методыкі, прапанаванай А. Лобіным: Лобин А. *К вопросу о численности вооруженных сил Российского государства в XVI в*.// Studia

Іншай складанай праблемай, звязанай з Аршанскай бітвай, з'яўляецца яе лакалізацыя. У выніку пошуку месца бітвы даследчыкамі розных краін і часоў паўстала шэсць асноўных версій. У пачатку 90-х г. мінулага стагоддзя пры ўпадзенні ракі Крапівенкі ў Днепр быў пастаўлены памятны знак і крыж ва ўшанаванне герояў Аршанскай перамогі. Там жа неаднаразова праводзіліся святкаванні яе ўгодкаў. Такім чынам, у пэўных колах беларускай грамадскасці "*Крапівенскае поле*" стала вядома як месца перамогі над маскоўскім ворагам. Але праблема лакалізацыі бітвы яшчэ далёкая ад вырашэння.

Гэтая праца прадстаўляе сабой спробу аналізу ўсіх вядомых версій, а таксама крыніц, на якіх яны грунтуюцца. У выніку, мы ўсё ж паспрабуем адказаць на пытанне, дзе адбылася Аршанская бітва. Вырашаючы гэту праблему, неабходна ўзяць пад увагу не толькі звесткі крыніц, але і меркаванні тагачаснай тактыкі і аператыўнае становішча непрыяцельскіх армій, *ratio* іх камандавання ў канкрэтных умовах. Неабходна таксама ўлічваць і колькасці войскаў, што сышліся пад Воршай. Бітва магла адбыцца там, дзе маглі размясціцца і дзейнічаць менавіта такія па памеры арміі. Як ужо было адзначана, колькасць удзельнікаў бітвы застаецца спрэчным пытаннем, што робіць пошук яе месца больш складаным. З іншага боку, паспяховае вырашэнне гэтай задачы можа дапамагчы ў вызначэнні колькасці войскаў.

## Кампанія 1514 г. і бітва 8 верасня.

Перад тым, як перайсці да разгляду пастаўленай праблемы, варта нагадаць ход падзей ваеннай кампаніі 1514 г. і дня 8 верасня. Пасля двух няўдалых спроб авалодаць Смаленскам маскоўскія палкі ізноў з'явіліся пад горадам у красавіку 1514 г., а ў траўні, пасля падыходу асноўных сіл на чале з самым вялікім князем, была распачата яго планамерная аблога. На гэты раз Васіль III быў лепей падрыхтаваны да дасягнення сваёй мэты: ён сабраў вялікае войска, якое мела магутны артылерыйскі парк. Польскі кароль і вялікі князь літоўскі Жыгімонт арганізаваў збор паспалітага рушэння і наймітаў для дэблакады Смаленска. Некаторыя атрады былі пасланыя супраць непрыяцеля ў канцы вясны–пачатку лета, але асноўныя сілы збіраліся вельмі марудна. 30 (паводле іншых дадзеных – 31) ліпеня горад капітуляваў пасля моцнага артылерыйскага абстрэлу. Працягваючы кампанію, маскоўскія войскі рушылі ўглыб тэрыторыі ВКЛ. Мсціслаўскі, Крычаўскі і Дубровенскі замкі адкрылі брамы перад непрыяцелем, але Ворша, якая мела добры гарнізон, трымала абарону. Абышоўшы яе, загоны маскоўскай кавалерыі рушылі на захад, займаючыся спусташэннем тэрыторыі[15].

Тым часам пад Барысавам сабралася войска, якое складалася з паспалітага рушэння, найманай пяхоты і кавалерыі, артылерыі, кароннай надворнай харугвы і польскіх добраахвотнікаў. Учыніўшы агляд наяўных сіл, Жыгімонт пакінуў для аховы сваёй манаршай асобы 4000 ваяроў. Астатняе войска на чале з вялікім гетманам рушыла ў бок Смаленска, маючы галоўнай задачай вярнуць страчаны горад. Першая сустрэча з сіламі непрыяцеля адбылася на рацэ Беразіне, але да баявога кантакту справа не дайшла, бо маскавіты ўхіліліся ад бітвы. Затым іх нязначныя атрады былі разбітыя ў сутычках на рэках Бобр і Адроў у канцы жніўня–пачатку верасня, пасля чаго войска Астрожскага

---

Slavica et Balcanica Petropolitana. СПб., 2009. № 1–2. С.45–78. Кром М. *Еще раз о численности русского войска в XVI в. (по поводу статьи А. Н. Лобина).*// Studia Slavica Et Balcanica Petropolitana. СПб., 2009. № 1–2. С.79–90. Пенской В. *Некоторые соображения по поводу статьи А. Н. Лобина "К вопросу о численности вооруженных сил Российского государства в XVI в.".*// Studia Slavica Et Balcanica Petropolitana. СПб., 2009. № 1–2. С.91–103. Курбатов О. *Отклик на статью А. Н. Лобина.*// Studia Slavica Et Balcanica Petropolitana. СПб., 2009. № 1–2. С.104–119. *Форум.*// Studia Slavica Et Balcanica Petropolitana. СПб., 2009. № 1–2. С.120–150).

[15] Лобин А. *Битва под Оршей*. С.58–81. *Lietuvos Metrika*. Vilnius. 2011. Kn. 7 (1506–1539). № 159. P.303–304. *Летопись Рачинского.*// Полное собрание русских летописей (далей – ПСРЛ). М., 1980. Т.35. С.168. Górski S. *Anno domini millesimo quingentessimo quartodecimo.*// Acta Tomiciana. Posnaniae, 1853. T.III. № I. P.1–2.

выйшла да Воршы. Ваявода Міхаіл Іванавіч Булгакаў-Голіца, які камандаваў маскоўскім корпусам, адступіў за Днепр, збіраючы раскіданыя для рабунку па наваколлі атрады. Незадоўга да бітвы да ягонай групоўкі далучылася войска, прыведзенае Чалядніным, які стаў на чале аб'яднанай арміі[16]. У гэтыя ж дні вядомы сваім выступленнем супраць Жыгімонта Старога князь Міхаіл Львовіч Глінскі спрабаваў ізноў перайсці на яго бок, але быў пайманы людзьмі М. Булгакава і зняволены[17].

Маскоўскія войскі кантралявалі адзіны ў наваколлі брод праз Днепр[18]. Наконт таго, якім чынам Астрожскі пераправіў сваю армію на левы бераг, крыніцы даюць супярэчлівую інфармацыю. Паводле адной з версій, літвіны і палякі адцягнулі ўвагу маскоўскіх ваяводаў перамовамі і дэманстрацыяй прысутнасці войска, а ў гэты час асноўныя сілы перайшлі раку ў іншым месцы па таемна наведзеным пантонным мосце (пяхота і гарматы, частка кавалерыі) і ўплаў (кавалерыя)[19]. Згодна з іншымі крыніцамі, Астрожскі не прыбягаў да ніякіх хітрыкаў, а прераправіў сваю армію проста на вачах непрыяцеля[20]. Першая з гэтых версій, да разгляду якой мы яшчэ вернемся, больш заслугоўвае даверу.

Наконт дыспазіцыі армій і ходу бітвы сведчанні крыніц настолькі няпоўныя і супярэчлівыя, што любая рэканструкцыя будзе прыблізнай. Хутчэй за ўсё, палякі сталі на левым крыле, літвіны – на правым. Пяхота і артылерыя заняла пазіцыю ў цэнтры; частка пяхоты і гарматаў былі схаваныя ў засадзе. Некаторыя аўтары змяшчаюць яе ў ляску справа ад пазіцый літвінаў. Аднак, больш імаверным прадстаўляецца яе размяшчэнне справа ад польскага кантынгента, г.зн. паміж польскім і літоўскім шыхтамі[21]. Пра засаду, падрыхтаваную Астрожскім, кажа толькі Жыгімонт Герберштайн[22], а вось наконт "*засады*" маскавітаў (на самай справе гаворка ішла пра спробу часткі маскоўскага войска абысці непрыяцеля флангавым манеўрам) засталося больш сведчанняў[23]. Чаляднін пашыхтаваў сваіх ратнікаў традыцыйным парадкам: бліжэй да непрыяцеля стаў перадавы полк, за ім вялікі, па флангах размясціліся палкі левай і правай рукі. Правае крыло пад камандаваннем Булгакава-Голіцы было магутнейшым за левае. Магчыма, за вялікім палком знаходзіўся яшчэ і старажавы полк[24].

Бітва пачалася з атакі Булгакава на левы фланг войска ВКЛ, дзе разгарэлася зацятая сеча. Відаць, адначасова, маскавіты паспрабавалі абысці пазіцыі палякаў злева і зайсці ім

---

[16] Górski S. *Anno domini…* P.3. *Epistola Pusonis, legati Apostolici, ad Joannem Coritium, de Victoria regis ex Moscis*.// Acta Tomiciana. Posnaniae, 1853. T.III. № CCXLVI. P.203–204. Лобин А. *Битва под Оршей*. С.133, 142–144.

[17] *Архангелогородский летописец*.// ПСРЛ. Л.: Наука, 1982. Т.37. Лобин А. *Битва под Оршей*. С.91–92.

[18] Górski S. *Anno domini…* P.4.

[19] Górski S. *Anno domini…* P.4. Decii L.J. *De Sigismundi regis temporibus liber 1521*. Kraków, 1901. P.76. Тое ж па-польску: Decjusz J.L. *Księga o czasach króla Zygmunta*. Warszawa, 1960. S.80. Марцін Бельскі і Мацей Стрыйкоўскі апавядаюць, што конніца кінулася ў раку, калі мост разарвала плынню: Bielski M. *Kronika Polska*. Sanok, 1856. S.974. Stryjkowski M. *Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi*. Warszawa, 1846. T.2. S.379.

[20] Герберштейн С. *Записки о Московии*. М.: Памятники исторической мысли, 2008. Т.1. С.83.

[21] Herbst S., Walicki M. *Obraz bitwy pod Orszą*. S.34 (план), 38. Лобин А. *Битва под Оршей*. С.149–150.

[22] Герберштейн С. *Записки о Московии*. Т.1. С.85. За Ж. Герберштайнам гэта паўтарае і М. Стрыйкоўскі: Stryjkowski M. *Kronika Polska*. T.2. S.382. Ніканаўскі летапіс не кажа пра засаду наўпрост, але паведамляе, што: "*многие желныри с пищалми… биша из лесов великого князя людей*", гл.: *Летописный сборник, именуемый Патриаршей или Никоновской летописью*.// ПСРЛ. СПб., 1904. Т.13. Ч.1. С.22.

[23] Górski S. *Anno domini…* P.4. *Opis bitwy pod Orszą według Stanisława Sarnickiego*.// Wypisy żródłowe. S.143. *Epistola Pusonis*. P.204. С. Хербст памыляецца, лічачы, што гаворка ў Якуба Пізоні ідзе пра засаду, падрыхтаваную Астрожскім: Herbst S., Walicki M. *Obraz bitwy pod Orszą*. S.38. Ж. Герберштайн, распавядаючы пра падрыхтаваную засаду, не згадвае спробу маскавітаў абысці пазіцыі Астрожскага злева. Гэта можна патлумачыць тым, што ён меў адрозную ад С. Гурскага, Я. Пізоні і С. Сарніцкага крыніцу інфармацыі. І толькі ў М. Стрыйкоўскага, які выкарыстоўваў розныя паведамленні, сустракаем згадку абодвух акалічнасцяў, гл.: Stryjkowski M. *Kronika Polska*. T.2. S.380, 382.

[24] Лобин А. *Битва под Оршей*. С.154–155.

у тыл. Гэты манеўр не меў поспеху, таксама як і ўся атака правага крыла. Полк Булгакава быў адкінуты на зыходныя пазіцыі, панёсшы, відаць, істотныя страты[25].

Пасля гэтага ці адначасова з гэтым, Чаляднін павёў у бой асноўныя сілы, атакаваўшы цэнтр і левае крыло войска Астрожскага, якое складалася з паспалітага рушэння пад камандаваннем Юрыя Радзівіла. Прарваць абарону найманай пяхоты ў цэнтры маскавітам не ўдалося. Што ж тычыцца атакі на правы фланг, то яна была настолькі няўдалай, што прывяла да пералому ў бітве. Паводле прыгожай версіі Ж. Герберштайна, каб завабіць ворага пад агонь пяхоты і гармат у засадзе, Астрожскі загадаў літвінам падацца назад пад націскам палка левай рукі[26]. Такі манеўр выглядае вельмі рызыкоўным. Здзейсніць яго паспяхова маглі толькі вопытныя, добра арганізаваныя аддзелы. Наўрад ці шляхецкае апалчэнне было даволі спрактыкаваным, каб адысці ва ўмовах баявога кантакту з непрыяцелем арганізавана, не ператварыўшы падманнае адступленне ў сапраўдныя ўцёкі[27]. Больш імаверна, што літвіны ад пачатку займалі такую пазіцыю, каб непрыяцель, заатакаваўшы іх, падставіў фланг (а, можа, часткова і тыл) пад агонь з засады. Таксама нельга выключаць магчымасць таго, што літоўскі гуф падаўся назад не па загадзе, а пад націскам пераважаючых маскоўскіх сіл.

Залпы пяхоты і артылерыі з лесу прыйшліся па задніх шэрагах маскавітаў, якія згрувасціліся ў вузкім месцы[28]. Можна ўявіць ахопленых панікай ратнікаў, якія не мелі магчымасці выйсці з-пад абстрэлу, бо былі заціснутыя масамі сваіх таварышаў. Кожная куля трапляла ў цэль, гарматныя ядры забівалі ды калечылі многіх перад тым, як спыніць свой палёт. Пакуль пяхота ды артылерыя знішчалі заднія шэрагі маскавітаў, Ю. Радзівіл з усімі сіламі ўдарыў па іх спераду. Пачалася паніка, якая прывяла да бязладнага адступлення палка левай рукі, які натрапіў на шыхты вялікага палка. Такім чынам, галоўныя сілы Чаляднiна былі дэзарганізаваныя, чым умела скарыстаўся Астрожскі, аддаўшы загад да агульнай атакі. Пасля канчатковага паражэння маскоўскага левага фланга і цэнтра быў дабіты і полк правай рукі. Падобна, як гэта часцяком і бывала ў такіх выпадках, асноўныя страты маскоўскае войска панесла падчас уцёкаў. У наратыўных крыніцах называецца розная колькасць забітых маскавітаў, у асноўным перабольшаная (30–40 тыс.). Пытанне пра маштабы страт арміі Чаляднiна ў колькасным выражэнні можа быць паспяхова вырашана толькі пры больш-менш дакладным вызначэнні яе колькасці перад бітвай. Але той красамоўны факт, што амаль усе ваяводы патрапілі ў палон ці былі забіты, сведчыць пра поўны разгром. Не выпадае сумнявацца, што маскоўскае войска страціла значна больш за палову свайго складу[29].

---

[25] Паводле Усцюжскага летапіса, Булгакаў, які аспрэчваў старшынства ў Чаляднiна, пачаў атаку самавольна. Канфлікт паміж ваяводамі прывёў да няўзгодненых дзеянняў і ў выніку да паражэння. Аднак іншыя крыніцы, у тым ліку афіцыйнае маскоўскае летапісанне, пра гэта нічога не паведамляюць, гл.: *ПСРЛ.* Т.37. С.53–54, 101.

[26] Герберштейн С. *Записки о Московии.* Т.1. С.85.

[27] Скепсіс наконт арганізаваных падманных уцёкаў раней выказваў К. Гурскі, гл.: Górski K. *O rozwoju…* T.III. S.89.

[28] *"А место пришло тесно"*, гл.: *ПСРЛ.* Т.13. Ч.1. С.22.

[29] А. Лобін звярнуў увагу на некаторыя дакументы былога архіва Тэўтонскага Ордэна, якія ўтрымліваюць інфармацыю пра Аршанскую бітву (зараз яны захоўваюцца ў Geheimes Staatsarchiv Preußischer Kulturbesitz. Ordensbriefarchiv у Берліне). Сярод іх ёсць данясенне комтура Дынабурга пра перамогу літвінска-польскіх сіл 8 верасня (Ordensbriefarchiv. № 20215). Пра страты маскоўскага войска там паведамляецца наступнае: "*и значительное число московитов было там убито и захвачено в плен живыми; как говорят, около 2 тысяч*", цыт. па: Лобин А. *Документы об осаде Смоленска и битве под Оршей 1514 г. из собрания Кёнигсбергского тайного архива.*// Вялікае княства Літоўскае і суседзі: Права. Вайна. Дыпламатыя. Мн.: БІП, 2012. С.188. Тут важна, што агент перадаваў толькі чуткі ("*как говорят*"). Акрамя таго, знакі прыпынку ў гэтай фразе можна паставіць і па-іншаму, таму магчыма, што меліся на ўвазе 2 тыс. палонных, а не палонных і забітых разам. Калі зыходзіць з прапанаванай самым А. Лобіным колькасці маскоўскага войска ў 11–14 тыс. і факта гібелі ці палону амаль усяго камандавання, агульныя страты ў 2 тыс. будуць неверагодна нізкімі. Сітуацыя, калі войска пакінула поле бітвы не згубіўшы і пятай часткі свайго складу, а яго камандзіры паздаваліся ў палон, нерэальная.

Пераможцам дастаўся палон, колькасць якога з'яўляецца яшчэ адным дыскусійным пытаннем, штандары і маёмасць з маскоўскага лагера. Прадпрынятая далей спроба адваяваць Смаленск скончылася няўдала. Непасрэдным наступствам перамогі стаў пераход у рукі літвінаў Крычава, Дуброўны і Мсціслава, якія раней лёгка паддаліся непрыяцелю. На гэтым кампанія 1514 г. скончылася. У гонар гетмана князя Канстанціна Астрожскага, які здабыў бліскучую перамогу над непрыяцелем, быў учынены трыумф.

**Звесткі пісьмовых крыніц пра месца бітвы.**

Крыніцы, якія даюць нам інфармацыю пра Аршанскую бітву, можна падзяліць на некалькі катэгорый. Па-першае, гэта помнікі летапісання, створаныя на тэрыторыі Вялікага княства Маскоўскага. На той час у склад гэтай дзяржавы ўжо ўваходзіла амаль уся "*нелітоўская*" Русь[30]. Паведамленні пра паражэнне пад Воршай патрапілі ў многія летапісы, але, па зразумелых прычынах, яны адрозніваюцца крайняй сціслацю. Аповяд пра бітву 8 верасня 1514 г. займае, у сярэднім, некалькі сказаў. Іншай характэрнай рысай, таксама вельмі чаканай, з'яўляецца апраўданне паражэння маскоўскіх ваяводаў[31]. Указанняў на дакладнае месца бітвы не знаходзім ні ў адным летапісе, акрамя Усцюжскага і Тыпаграфскага. Апошні паведамляе пра Аршанскую бітву адной фразай:

"*Лета 7023, сентября 8, на Рожество святыя Богородици, побиша Литва под Оршею, за 5 верст (тут и далей падкрэслена мной – А. К.), великого князя воевод и многих поимаша воевод, князя Михаила Голицу с товарищи*"[32].

Відаць, мелася на ўвазе 5 вёрст на ўсход ад Воршы.

Паведамленне Усцюжскага летапісу пра Аршанскую бітву і папярэднія падзеі адрозніваецца ад іншых помнікаў большай інфарматыўнасцю і арыгінальнасцю звестак, а таму заслугоўвае адмысловай увагі[33]. Гэты звод сканчваецца на 1517 г. і, відаць, быў створаны цягам найбліжэйшых год[34]. Імаверна, што крыніцай інфармацыі пра захоп Смаленска і Аршанскую бітву выступіў сведка тых падзей[35]. Летапіс утрымлівае вельмі падрабязны аповяд пра няўдалую спробу М. Глінскага ад'ехаць назад да Жыгімонта, а таксама згадку пра спрэчку паміж Булгакавым і Чалядніным, якая ў выніку стала прычынай паражэння маскоўскіх палкоў[36]. Аднак тут знаходзім адную недарэчнасць: паміж пасажамі пра пайманне М. Глінскага і бітву стаіць апавяданне пра перамовы паміж літвінамі і маскавітамі на Беразіне.

"*И приде весть к великому князю в Дорогобуж, что по совету княжю Михаила Глинскаго король посла силу свою к Орши городу, воиводою князя Констянтина Острожского. И князь великии Василеи Иванович посла воивод своих с силою противу силы королевския, посла князя Михаила Голицу, Ивана Андреевичя, да князя Ивана Семеику, князя Ивана Пронского, и иных многих воивод, и князеи, и бояр, и детеи боярских. Они же сретошася*

---

[30] Разань яшчэ захоўвала прыкметы самастойнасці, але фактычна кіравалася з Масквы.

[31] Маскоўскія войскі нібыта не чакалі з'яўлення непрыяцеля, які раптоўна падышоў дзякуючы інфармацыі ад здрадніка М. Глінскага: "*приидоша на них безвестно королевы воеводы… по изменников по княж Михайлов Глинского ссылке*", гл.: *Продолжение летописи по Воскресенскому списку.*// ПСРЛ. СПб., 1859. Т.8. С.257–258. Таксама сумнеўныя сцвярджэнні знаходзім, напрыклад, у Наўгародскім чацвертым летапісе: "*зане же не надеялися бою, и того ради разплошилися, а сила не нарядна была, а иные люди в розъезде были*", гл.: *Новгородская четвертая летопись.*// ПСРЛ. М., 2000. Т.4. Ч.1. С.470.

[32] *Типографская летопись.*// ПСРЛ. М., 2000. Т.24. С.217.

[33] Гл. спасылку 24.

[34] *ПСРЛ.* Т.37. С.4.

[35] Лобин А. *Битва под Оршей.* С.18.

[36] Напрыклад, паведамляюцца такія акалічнасці паймання М. Глінскага: "*И бысть в четвертую стражу нощы, оже князь Михаило Глинскои едет один наперед своих дворян за версту… На всходе солнечном приспе Иван Андреевич…*", гл.: *ПСРЛ.* Т.37. С.101.

*о реце о Березене и стояша долго время: ни Литва за Безыню не лезет к москвичем, ни москвичи к Литве. И начаша литва льстити к москвичем, глаголющее "Разоидемся на миру". А сами литва вверх по Березине за 15 верст выше перевезошася к москвичем, и приидоша литва сторонь безвестно на москвич*".

Аднак, паводле іншых крыніц, Астрожскі выкарыстаў перамовы, каб адцягнуць увагу ворага ад сапраўднага месца пераправы праз Дняпро, а не праз Беразіну[37]. Таксама вядома, што спроба М. Глінскага ўцякчы назад да Жыгімонта адбылася незадоўга да бітвы, а значыць ужо пасля сустрэчы войска ВКЛ з маскоўскімі атрадамі на Беразіне. Тое ж датычыцца і прыбыцця на тэатр ваенных дзеянняў Чаляднiна з войскам: гэта адбылося за некалькі дзён да бітвы[38]. Нягледзячы на гэта, А. Лобін, больш давяраючы летапісу, чым С. Гурскаму і Я. Пізоні мяркуе, што перамовы маглі сапраўды адбыцца на Беразіне[39]. Праўда, тады давядзецца даспусціць, што інфармацыя дзвюх лацінамоўных крыніц пра перамовы на Дняпры няверная, для чаго няма ніякіх падстаў. Яшчэ менш імавернай прадстаўляецца магчымасць таго, што маскавіты далі сябе падмануць двойчы запар: на Беразіне і на Дняпры.

Хутчэй за ўсё, памылка ўтрымліваецца ва Усцюжскім летапісу: перапісчык альбо аўтар пераблытаў Днепр з Беразіной[40]. Калі гэтую памылку выправіць, то паслядоўнасць падзей становіцца вернай. Спачатку адбылася спроба ад'езду М. Глінскага да літоўска-польскага войска, якое набліжалася да Воршы. Ён быў схоплены Булгакавым і зняволены. Дасягнуўшы Дняпра, Астрожскі мусіў пераправіцца праз раку, каб уступіць у бой з непрыяцелем. Для гэтага ён прыбег да хітрыкаў з дэманстрацыяй прысутнасці войск і перамовамі, пакуль асноўныя сілы таемна рыхтаваліся да пераправы. Усцюжскі летапіс нават дае адказ на пытанне, дзе гэтая пераправа адбылася:

"*вверх по Березине (г. зн. па Дняпры – А.К.) за 15 верст выше*".

Найбольш імаверна, што кропкай адліку выступаюць ваколіцы Воршы, бо менавіта туды вяла дарога з Барысава, па якой падышло войска Астрожскага. З улікам таго, што адна "*пуцявая*" вярста складала трошкі больш за кіламетр[41], месца пераправы знаходзілася ля сутоку Крапівенкі і Дняпра. Гэта вельмі важная інфармацыя для лакалізацыі бітвы.

Такім чынам, маскоўскія летапісы даюць нам супярэчлівыя звесткі адносна месца Аршанскай бітвы: 5 вёрст на захад ад Воршы (Тыпаграфскі летапіс) і 15 вёрст уверх па Дняпры ад таго ж пункта (Усцюжскі летапіс). Пазначэнне адлегласці ў Тыпаграфскім летапісе, калі ўлічыць крайнюю сціпласць яго паведамленняў пра захоп Смаленска і Аршанскую бітву, выглядае выпадковасцю[42]. Таму варта аддаць перавагу Усцюжскаму летапісу, дзе аповяд пра тыя ж падзеі даволі падрабязны. Інфарматар, які ведаў пра дробныя акалічнасці гісторыі з пайманнем М. Глінскага, мог даволі дакладна ведаць і пра месца пераправы войска Астрожскага. Трэба дадаць, што ўскоснымі сведчаннямі, якія

[37] Górski S. *Anno domini*… P.4. *Epistola Pusonis*. P.204.
[38] Лобин А. *Битва под Оршей*. С.91–92.
[39] Лобин А. *Битва под Оршей*. С.144–145.
[40] Па іроніі лёсу, такую ж памылку дапусціў аўтар каментароў да сачынення Ж. Герберштайна, напісаўшы: "*Река Кропивна – левый приток Березины*", гл.: Герберштейн С. *Записки о Московии*. М., 2008. Т.2. С.333, каментар № 160. Што ўжо тут казаць пра ўсцюжскіх кніжнікаў!
[41] Каменцева Е., Устюгов Н. *Русская метрология*. М., 1975. С.89. Аўтары называюць дакладную лічбу – 1080 метраў.
[42] Магчыма, у Тыпаграфскім летапісе таксама мусіла быць 15 вёрст, але ў выніку памылкі перапісчыка гэта лічба ператварылася ў 5. Арыгінальная частка Тыпаграфскага летапіса сканчваецца на падзеях канца XV ст., наступны жа перыяд з'яўляецца кампіляцыяй. Улічваючы адносную тэрытарыяльную блізкасць Кірыла-Белазерскага манастыра, дзе захоўваліся спісы Тыпаграфскага летапіса, і Усцюга Вялікага, а таксама іх прыналежнасць да адной епархіі, можна выказаць асцярожнае меркаванне пра магчымыя ўзаемаўплывы. Як ужо было сказана вышэй, сярод усёй разнастайнасці рускага летапісання Усцюжскі і Тыпаграфскі летапісы – адзіныя, што паведамляюць пра месца Аршанскай бітвы з пазначэннем адлегласці ў лічбах.

дапамагаюць прывязаць бітву да пэўнай мясцовасці, з'яўляецца згадка пра наяўнасць там лесу ("*многие желныри с пищалми… биша из лесов великого князя людей*"), а таксама абмежаванай прасторы ("*а место пришло тесно*").

У другую групу крыніц, якія апавядаюць пра Аршанскую бітву, можна аб'яднаць паведамленні, што паходзяць са стану пераможцаў (умоўна дадамо сюды паведамленне Ж. Герберштайна). На жаль, мы не маем звестак ад непасрэдных удзельнікаў тых падзей, таму вымушаныя задаволіцца інфармацыяй ад сучаснікаў. Калі не ўлічваць данясенні агентаў Ордэна і пасланні Жыгімонта, дзе няма ніякіх зачэпак адносна дакладнага месца бітвы, найбольш раннім з'яўляецца падрабязнае паведамленне папскага легата Я. Пізоні, якое было складзена ў Вільні і датаванае 26 вераснем 1514 г.[43] Аповяд, які ўтрымлівае больш дэталяў самой бітвы 8 верасня, належыць Станіславу Гурскаму[44]. Ён быў сакратарам кракаўскага біскупа Пятра Таміцкага, а пасля яго смерці – каралевы Боны. З 1535 г. С. Гурскі актыўна збіраў гістарычныя дакументы, якія аб'яднаў у шэраг тамоў, пазней выдадзеных пад назвай "*Acta Tomiciana*" ("*Акты Таміцкага*"). Апісанне Аршанскай бітвы ўтрымліваецца ва ўступе да трэцяга тома, у якім С. Гурскі змясціў і згаданае вышэй пасланне Я. Пізоні, а таксама іншыя помнікі, датычныя ваеннай кампаніі 1514 г.[45] Відавочна, свой аповяд пра бітву С. Гурскі склаў не толькі на аснове гэтых крыніц, але і нейкіх іншых. Прыблізна адначасова з ім працаваў над стварэннем сваёй хронікі сакратар Жыгімонта Старога Бернард Вапоўскі. Праўда, яго аповяд пра Аршанскую бітву вельмі сціслы[46].

Блізкімі да нашых падзей па часе стварэння крыніцамі з'яўляюцца "*Хроніка*" Дэцыя, даведзеная да 1521 г.[47], а таксама паведамленне Ж. Герберштайна, які першы раз наведаў ВКЛ у 1517 г.[48] Пазнейшыя аўтары, такія як М. Бельскі і М. Стрыйкоўскі, апісваючы Аршанскую бітву, карысталіся працамі папярэднікаў. Выключэнне складаюць "*Гетманскія кнігі*" Станіслава Сарніцкага, напісаныя дзесьці пасля 1575 г. Яны ўтрымліваюць вельмі арыгінальны аповяд пра бітву, а таксама самы ранні яе план[49].

Якія звесткі пра месца бітвы даюць нам гэтыя крыніцы? У апісанні С. Гурскага ёсць згадка пра тое, што шмат маскавітаў патанула ў Крапіўне:

"*у чатырох мілях ад месца бітвы"*
*("in quator milliariis a loco pugne")*"[50].

Гэта дазваляе некаторым даследчыкам шукаць месца бітвы ў 4 мілях, то бок прыблізна ў 6 кіламетрах, на захад ад Крапіўны. Паводле Ж. Герберштайна, Астрожскі пераправіў пяхоту па мосце "*возле города Орша*", а кавалерыя перайшла раку "*под самой крепостью Орша*"[51]. Пасля гэтага імперскі дыпламат прыводзіць паведамленне, якое, часта ў скарочаным ці змененым выглядзе, было пазней паўторана ці не ў кожным аповядзе пра Аршанскую бітву:

[43] *Epistola Pusonis*. P.202–207.
[44] Górski S. *Anno domini…* P.3–6. Пераклад апісання бітвы на польскую мову фрагментарны і недасканалы: *Wypisy żródłowe…* S.137–140.
[45] *Acta Tomiciana*. T.III.
[46] *Kroniki Bernarda Wapowskiego (1480–1535).*// Scriptores Rerum Polonicarum. Cracoviae, 1874. T.2. S.119–120.
[47] Decii L.J. *De Sigismundi regis…* P.75–79. Decjusz J.L. *Księga…* S.77–83.
[48] Герберштейн С. *Записки о Московии*. Т.1. С.80, 83, 85. Гл. далей у часопісе артыкул У. Канановіча.
[49] *AGAD. Archiwum publiczne Potockich*. Rkps. 325. Księgi hetmańskie S. Sarnickiego. T.1. S.387–393. Апісанне Аршанскай бітвы С. Сарніцкага было апублікавана: *Wypisy żródłowe*. S.140–143.
[50] Górski S. *Anno domini…* P.5. У перакладзе на польскую мову "*чатыры мілі*" ператварыліся ў "*4000 Moskali*", гл.: *Wypisy żródłowe…* S.140.
[51] Герберштейн С. *Записки о Московии*. Т.1. С.83. Ж. Герберштайн адзіны, хто кажа пра выкарыстанне брода. Дэцый, напрыклад, паведамляе, што ніякага падыходзячага для пераправы брода не ўдалося адшукаць, гл.: Decjusz J.L. *Księga…* S.80.

"*Когда половина войска (Астрожскага – А. К.) перешла Борисфен, об этом доложили Ивану Андреевичу Челяднину, которому московит вверил главное начальство, советуя напасть на эту часть войска и уничтожить ее. Но тот возразил на это: "Если мы сомнем эту часть войска, то останется еще другая часть, с которой, вероятно, смогут соединиться другие войска, так что нам будет грозить еще большая опасность. Подождем до тех пор, пока не переправится все войско, ибо наши силы настолько велики, что, без сомнения, мы без особого усилия сможем смять это войско, либо окружить его и гнать, как скот, до самой Москвы. В конце концов, нам не останется ничего другого, как занять всю Литву*"[52].

Далей Ж. Герберштайн піша:

"*Меж тем литовское войско, усиленное поляками и иностранными воинами, приближалось, и когда оно продвинулось на четыре мили от Орши, оба войска (маецца на ўвазе літоўскі і замежны кантынгенты – А. К.) остановились*"[53].

Атрымліваецца, што маскоўскія ваяводы не проста дазволілі ворагу бесперашкодна перайсці на левы бераг Дняпра, але і далі ім аператыўную прастору. Матывацыя такога рашэння больш нагадвае літаратурную прыдумку, інакш трэба дапусціць, што колькасцю маскоўскае войска сапраўды перавышала літоўска-польскае ў некалькі разоў. Імаверна, аповяд пра Аршанскую бітву трапіў да Ж. Герберштайна ўжо ў міфалагізаваным выглядзе[54]. Трэба было падкрэсліць шматлікасць і фанабэрыю ворага, які саманадзейна дазволіў усёй арміі "*хрысціянаў*" перайсці раку, а таксама рыцарскія вартасці "*сарматаў*", якія без страху перад вялікім войскам смела перайшлі Дняпро на яго вачах. Цікава, што Дэцый, апавядаючы тую ж гісторыю, аднак у сціплейшых за герберштайнавыя выразах, сумняваўся ў яе праўдзівасці[55]. Ён, а таксама Я. Пізоні, С. Гурскі і М. Бельскі згадваюць, што маскоўскія сілы баранілі адзіную пераправу праз Днепр (ці варта сумнявацца, што яна была пад Воршай?), у сувязі з чым Астрожскаму давялося пераходзіць раку ў іншым месцы[56]. Гэта паведамленне ў тых жа аўтараў спалучылася з аповядам пра наўмыснае бяздзеянне маскавітаў падчас пераправы непрыяцеля. Калі Дэцый называў гэта рашэнне Чаляднiна чуткамі, то астатнія крыніцы не ўтрымліваюць такой агаворкі[57]. Аповяд пра самаўпэўненых "*варвараў*" быў вельмі прыдатным для гераізацыі "*хрысціянаў*".

Як адзначаў сам імперскі дыпламат, у Вільні ён наведаў палонных маскоўскіх ваяводаў, у прыватнасці Чаляднiна[58]. На гэтым факце грунтуецца меркаванне, што звесткі пра бітву ён мог атрымаць менавіта ад іх. Аднак, сам Ж. Герберштайн пра гэта не кажа, хоць згадвае іншыя акалічнасці візіту[59]. Ды і наўрад ці ўшчэнт разбітыя ваяводы сталі б распавядаць, якімі яны былі саманадзейнымі, думаючы загнаць усё непрыяцельскае войска да Масквы "*як быдла*".

Такім чынам, аповяды пра бітву з літоўска-польскага боку ўтрымліваюць вельмі сціплую інфармацыю наконт яе месца. Калі адкінуць сумнеўную згадку Ж. Герберштайна

---

[52] Герберштейн С. *Записки о Московии*. Т.1. С.83.
[53] Герберштейн С. *Записки о Московии*. Т.1. С.83.
[54] Пра гэта ўскосна сведчыць і завышаная колькасць армій з абодвух бакоў – шырокавядомыя 35 і 80 тыс. чалавек.
[55] "*Fata est (Ёсць чуткі)*" – з гэтых словаў пачынаецца аповяд Дэцыя пра планы маскоўскага камандавання. Храніст падвяргае сумненню сам факт, што непрыяцель даведаўся пра таемную пераправу, гл.: Decii L.J. *De Sigismundi regis*… P.76.
[56] С. Сарніцкі прытрымліваецца версіі пра тое, што Чаляднін наўмысна не стаў перашкаджаць пераправе непрыяцеля, гл.: *Wypisy źródłowe*. S.141.
[57] Б. Вапоўскі толькі адзначыў сам факт таго, што маскавіты дазволілі войску Астрожскага пераправіцца, гл.: *Kroniki Bernarda Wapowskiego*. S.119.
[58] Герберштейн С. *Записки о Московии*. Т.1. С.85.
[59] Напрыклад, дыпламат паведамляе, што пазычыў палонным ваяводам грошы, гл.: Герберштейн С. *Записки о Московии*. Т.1. С.85..

пра тое, што яна адбылася за 4 мілі (каля 6 км) на ўсход ад Воршы, то застаецца толькі арыенцір, які дае С. Гурскі: маскоўскія ўцекачы танулі ў Крапіўне за 4 мілі ад месца бітвы[60]. Таксама вартыя ўвагі згадкі розных аўтараў пра характар мясцовасці. Паводле адной версіі, маскоўскі атрад спрабаваў абысці пазіцыі Астрожскага злева "*па невялічкім узгорку, парослым хмызняком*" (Дэцый), ці "*па схіле і зарасніках*" (С. Гурскі)[61]. Іншыя аўтары кажуць, што маскавіты хаваліся ў "*нізіне*" ці "*даліне*", альбо ішлі "*праз нізіну (даліну)*" (Я. Пізоні, С. Сарніцкі)[62]. Калі спалучыць гэтыя дадзеныя, то атрымліваецца вельмі невялікае ўзвышша, відаць, з пакатым схілам (па якім можа рухацца коннае войска), што пераходзіць у нізіну. Як уяўляецца, гаворка ідзе пра неістотны перапад вышыні.




*Іл.1. С. Сарніцкі. План бітвы пад Воршай, пасля 1575 г.*

Нарэшце, у кароткім аповядзе Б. Вапоўскага таксама ёсць паведамленне пра характар мясцовасці. Храніст кажа, што поле бітвы мела невялічкія ўзвышшы, і размешчаныя там гарматы маглі паражаць тыл маскоўскага войска[63]. Такую акалічнасць ніхто, акрамя Б. Вапоўскага, не згадвае. Рызыкнем дапусціць, што каралеўскі сакратар

[60] М. Бельскі спалучыў звесткі С. Гурскага і Ж. Герберштайна, не заўважыўшы, што меліся на ўвазе розныя мілі. С. Гурскі кажа пра чатыры рымскія мілі да Крапіўны, а паводле Ж. Герберштайна паміж Воршай і Смаленскам было 24 мілі. Імперскі дыпламат выкарыстоўвае тут нямецкую мілю, якая была ў некалькі разоў даўжэйшай за рымскую, гл.: Bielski M. *Kronika Polska*. S.975.

[61] "*per locum pauculo colle dumetis obsitum*", гл.: Decii L.J. *De Sigismundi regis…* P.77. "*per declivum et dumeta*", гл.: Górski S. *Anno domini…* P.5. У М. Бельскага невысокі пагорак ператварыўся ў горы, гл.: Bielski M. *Kronika Polska*. S. 975.

[62] "*per vallem*", гл.: *Epistola Pusonis*. P.204. "*w padole*", гл.: *Wypisy żródłowe*. S.141.

[63] *Kroniki Bernarda Wapowskiego*. S.120.

ведаў пра агонь з гарматаў па задніх шэрагах непрыяцельскай конніцы, але не ведаў, што ён вёўся з лесу па наступаючых ратніках палка левай рукі (як пра гэта піша Ж. Герберштайн). Каб патлумачыць, якім чынам артылерыя паражала менавіта тыл варожай арміі, Б. Вапоўскі прыдумаў, што страляла яна з узвышша. Зрэшты, сам факт няроўнасці поля бітвы выглядае абсалютна імаверным.

У заключэнні разгляду звестак крыніц трэба закрануць і беларуска-літоўскія летапісы. Апавяданне пра Аршанскую бітву, якое там сустракаем, не адрозніваецца падрабязнасцю і ўтрымлівае толькі прыблізныя арыенціры мясцовасці. “*Хроніка Літоўская і Жамойцкая*” паўтарае паведамленне М. Стрыйкоўскага, запазычанае ім у Ж. Герберштайна, пра пераправу літвінаў і палякаў на левы бераг Дняпра пад самым Аршанскім замкам[64]. “*Летапісец Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага*” кажа, што Астрожскі знаўшоў непрыяцельскае войска “*за Оршою городом, за Днепром, на рецэ Кропивницы*”[65].




*Іл.2. Дыспазіцыя войскаў у Аршанскай бітве паводле К. Гурскага.*

Цяпер пяройдзем да абмеркавання версій лакалізацыі Аршанскай бітвы, якія існуюць на сённяшні дзень у гістарычнай літаратуры. Асабліва нас будзе цікавіць абгрунтаванне таго ці іншага выбару. З улікам даступных звестак крыніц пра месца бою мы паспрабуем вызначыць, наколькі кожная з версій з’яўляецца імавернай.

### Лакалізацыя 1 (Л1): план бітвы Станіслава Сарніцкага.

Сваё апісанне Аршанскай бітвы, змешчанае ў створаных пасля 1575 г. “*Гетманскіх кнігах*”, С. Сарніцкі суправадзіў планам[66] (Іл.1). Ён вельмі схематычны і не ўтрымлівае

[64] *Хроника литовская и жмойтская.*// ПСРЛ. М., 1975. Т.32. С.105.

[65] *Летопись Рачинского.*// ПСРЛ. М., 1980. Т.35. С.168. Тое ж паведамленне ўтрымліваецца і ў іншых спісах, гл.: *ПСРЛ.* Т.35. С.234. *Список графа Красинского (вторая часть).*// ПСРЛ. Т.17. Слп.186.

[66] *Księgi hetmańskie S. Sarnickiego*. S.387–393. Выдаўцы апісання бітвы С. Сарніцкага план не сталі публікаваць, аднак, змясцілі легенду да яго, гл.: *Wypisy żródłowe*. S.141. Сам план быў апублікаваны ў манаграфіі Гедымінаса Лесмайціса, гл.: Lesmaitis G. *Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės samdomoji kariuomenė*

ніякіх элементаў мясцовасці, акрамя Дняпра з аднаго боку і “*гораў*” з іншага. Дыспазіцыя маскоўскага войска ў складзе пяці палкоў (“*гуфаў*”) левым флангам упіраецца ў Дняпро. Літоўска-польскія сілы, падзеленыя на чатыры “*гуфы*”, маюць раку справа[67]. Інтэрпрэтаваць такое размяшчэнне непрыяцельскіх армій даволі цяжка. Дакладна вядома, што бітва адбылася на левым беразе Дняпра. У такім разе войска Астрожскага ў выніку пераправы мусіла б выйсці ў тыл маскоўскім сілам, што даволі імаверна (гл. абмеркаванне Л7). Але няясна, які дакладна ўчастак левага берагу Дняпра меў на ўвазе С. Сарніцкі, бо іншыя арыенціры адсутнічаюць. Намаляваныя на левым фланзе войска ВКЛ “*горы*” (“*guri*”) робяць карціну яшчэ больш незразумелай.




*Іл.3. Дыспазіцыя войскаў у Аршанскай бітве паводле А. Ласкоўскага.*

Аповяд С. Сарніцкага пра бітву значна адрозніваецца ад апісанняў іншых аўтараў. З аднаго боку, ён паўтарае паведамленне пра тое, што маскавіты дазволілі літоўска-польскаму войску пераправіцца на левы бераг Дняпра. З іншага, у С. Сарніцкага ёсць акалічнасці, якіх больш нідзе не сустракаем. Напрыклад, ён называе імя невядомага па іншых крыніцах даводцы найманай пяхоты Палобшы (“*Polobsza*”)[68].

Некаторыя сцвярджэнні аўтара даволі сумнеўныя ці наогул памылковыя. Пешы гуф размешчаны ў С. Сарніцкага за вальным, у другой лініі войска. Адпаведна яго аповяду, Палобша самавольна атакаваў маскоўскі полк, які абыходзіў пазіцыі Астрожскага справа і стварыў сур’ёзную пагрозу. Аднак, згодна з іншымі крыніцамі і меркаваннямі даследчыкаў, абхадны манеўр маскоўскіх войскаў адбыўся не на правым, а на левым фланзе пазіцый Астрожскага. Зыходзячы з малюнка, цэлы полк маскавітаў павінен быў уціснуцца паміж ракой і правым непрыяцельскім крылом, што прадстаўляецца вельмі

*XV a. pabaigoje–XVI a. II pusėje*. Vilnius, 2010. P.80). Гл., таксама, Іл.25 да тэксту Андрэя Шулаева далей у часопісе.

[67] *Księgi hetmańskie S. Sarnickiego*. S.387.

[68] *Wypisy żródłowe*. S.142–143.

сумнеўным. Акрамя гэтага, С. Сарніцкі памылкова сцвярджае, што маскоўскім войскам камандаваў сам Васіль III[69].

З іншага боку, істотнай вартасцю аповяду С. Сарніцкага з’яўляецца самая блізкая да рэальнай колькасць войскаў Астрожскага. У адрозненне ад іншых аўтараў, якія рэпрадукавалі завышаныя дыпламатыяй Жыгімонта Старога лічбы (30–35 тыс.), С. Сарніцкі называе агульную колькасць у 17 тыс.: 2 тыс. палякаў, 3 тыс. пяхоты і 12 тыс. літвінаў[70].




*Іл.4. Тапаграфічная мапа мясцовасці паміж Воршай і Дуброўнай. Сучасны стан.*

Цяжка сказаць, якімі крыніцамі карыстаўся С. Сарніцкі пры стварэнні аповяду пра Аршанскую бітву і яе плана. Зважаючы на час стварэння ягоных “*Гетманскіх кніг*”, наўрад ці ён меў магчымасць атрымаць інфармацыю ад непасрэдных сведкаў падзей. У тэксце ёсць сведчанне, што С. Сарніцкі карыстаўся нейкай пісьмовай крыніцай[71].

Такім чынам, паводле С. Сарніцкага, непрыяцельскія арміі займалі пазіцыі перпендыкулярна Дняпру. Астрожскі меў раку справа, маскавіты – злева. Адсутнасць іншых дакладных арыенціраў (рэк, населеных пунктаў), а таксама звестак пра крыніцу, з якой С. Сарніцкі запазычваў інфармацыю, робіць далейшае абмеркаванне Л1 даволі цяжкім.

## Лакалізацыя 2 (Л2): версія Канстантыя Гурскага.

У канцы XIX ст. польскі гісторык вайсковасці Канстанты Гурскі даволі грунтоўна падышоў да вывучэння Аршанскай бітвы разам з усёй кампаніяй 1514 г. Вынікам стаў

[69] *Wypisy żródłowe*. S.141, 143. Гэтую ж памылку сустракаем у калектыўнай працы польскіх спецыялістаў, гл.: *Zarys dziejów wojskowości polskiej do roku 1864*. T.I. S.333.
[70] *Wypisy żródłowe*. S.140.
[71] Характарызуючы ўзбраенне пяхоты, С. Сарніцкі піша: “*Huf pieszych z oszczepy, spisy, i z rusznicami i z halabardy, tak piszą, ale żeby Polacy halabardów w bitwach używali, nie słychałem*” (“*Гуф пешых з вошчапамі, спісамі, і з ручніцамі і з алебардамі, так пішуць, але я не чуў, каб палякі ў бітвах ужывалі алебарды*”), гл.: *Wypisy żródłowe*. S.141–142. Паводле дакументальных крыніц таго часу, алебарды, хоць і вельмі рэдка, але выкарыстоўваліся польскай найманай пяхотай, гл.: Bołdyrew A. *Piechota zaciężna w Polsce w pierwszej połowie XVI wieku*. Warszawa, 2011. S.215. Гэты від наступальнага ўзбраення можна ўбачыць на карціне “*Бітва пад Воршай*”.

самы падрабязны на той час нарыс, а таксама графічнае выяўленне дыспазіцыі войскаў у бітве (Іл.2)[72]. Як відаць, К. Гурскі змясціў яе на левым беразе Крапівенкі; маскоўскае войска аказалася прыціснутае тылам да ракі[73]. Гэта абмяжоўвала яго магчымасці манеўраваць, а таксама стварала вялікую небяспеку ў разе неабходнасці адступлення. Такая невыгодная пазіцыя сіл Чалядніна выглядае надзвычай сумнеўнай. Заняць яе маглі яго прымусіць хіба толькі нейкія надзвычайныя абставіны. Было б дзіўным меркаваць, што маскоўская армія там і стаяла, калі Астрожскі падышоў да Дняпра каля Воршы. Варта адзначыць, што самое месца прыблізна адпавядае паведамленню Усцюжскага летапісу пра пераправу войска ВКЛ "*за 15 верст выше*".

Сам аўтар прапанаваную дыспазіцыю варожых армій ніяк не тлумачыць. Ён аргументавана крытыкуе М. Галіцына, які лакалізаваў бітву на правым, а не на левым беразе Крапівенкі (Л6)[74]. Цікава, што К. Гурскі не лічыць колькасць маскоўскага войска ў 80 тыс., а літоўска-польскага ў 30 тыс. перабольшанай[75]. Акрамя таго, ён не падвяргае сумневу, што маскавіты наўмысна далі непрыяцелю пераправіць усё войска на левы бераг, бо ведалі пра яго малалікасць, а таму былі ўпэўненыя ў перамозе[76]. Спрабуючы аднавіць невыказаную аргументацыю польскага гісторыка, дазволю сабе меркаванне, што па той жа прычыне маскоўскіх ваяводаў не хвалявала рака ва ўласным тыле.

### Лакалізацыя 3 (Л3): польская гістарыяграфічная традыцыя.

Лакалізацыя, прапанаваная К. Гурскім, не атрымала прызнання ў польскай гістарыяграфіі. Падобна, першым, хто памясціў бітву туды, куды яе памяшчаюць усе польскія аўтары і па сённяшні дзень, быў знаны спецыяліст па мілітарнай гісторыі А. Ласкоўскі[77]. Паводле артыкула "*Ворша*" ў шостым томе "*Вайсковай энцыклапедыі*" пад яго рэдакцыяй, які пабачыў свет у 1937 г., месца бітвы знаходзіцца ў 4–5 кіламетрах на паўночны ўсход ад Воршы ў лукавіне Дняпра. Гэтую версію паўтарылі С. Хербст і М. Валіцкі ў класічнай працы 1949 г., прысвечанай вядомай карціне (Іл.3)[78]. Яе прытрымліваліся аўтары ўсіх наступных як навуковых, так і папулярных выданняў. Планы бітвы ў іх адрозніваюцца дэталямі, але нязменнай застаецца лакалізацыя[79]. У польскай гістарыяграфіі не прадпрымаліся спробы перагляду гэтай версіі.

Як і К. Гурскі, А. Ласкоўскі свой выбар не аргументуе. Ён толькі выказвае меркаванне, што Астрожскі перапраўляў свае войскі праз Дняпро ў тым жа месцы падчас кампаніі 1508 г., але не абгрунтоўвае яго[80]. Бадай адзінай крыніцай, якой мог кіравацца аўтар, памяшчаючы бітву на паўночны ўсход ад Воршы, была знакамітая карціна[81]. У ніжняй яе частцы мы бачым, што левы фланг літоўска-польскага войска ўпіраецца ў вялікую раку, якая робіць паварот. Відаць, А. Ласкоўскі змясціў бітву ў тое месца, дзе

---

[72] Górski K. *O rozwoju…* T.III (уклейка).
[73] Гэта лакалізацыя стасуецца з паведамленнем Ж. Герберштайна пра тое, што Астрожскі спыніўся ў 4 мілях ад Воршы, калі гэтыя 4 мілі адлічваць ад тылу літоўска-польскага войска.
[74] Górski K. *O rozwoju…* T.II. S.420.
[75] Górski K. *O rozwoju…* T.II. S.417, 419.
[76] Górski K. *O rozwoju…* T.II. S.419.
[77] *Orsza*.// Encyklopedia wojskowa. 1937. S.161–163.
[78] Herbst S., Walicki M. *Obraz bitwy pod Orszą*. S.34.
[79] План бітвы, які знаходзім у беларускіх энцыклапедычных выданнях, быў запазычаны з польскай "*Малой вайсковай энцыклапедыі*", гл.: *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*. Мн.: БелЭн, 1993. Т.1. С.187. *Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя*. Т.1. С.250. *Orsza*.// Mała encyklopedia wojskowa. Warszawa, 1970. T.2. S.541.
[80] *Orsza*.// Encyklopedia wojskowa. 1937. S.162. Паводле гэтай версіі, Астрожскі ў 1508 і 1514 г. скарыстаўся адным і тым жа бродам. Аднак, было б дзіўным з боку маскавітаў "*забыць*", дзе перапраўляўся непрыяцель 6 год таму. І наогул, мясцовасць пад Воршай мусіла быць добра знаёмай маскоўскім ваяводам, якія неаднаразова там праходзілі ў канцы XV–пачатку XVI ст.
[81] Не выклікае сумневу, што карціна была выкарыстаная аўтарам у яго рэканструкцыі. Ён памяшчае на флангі літоўска-польскага войска атрады гусараў, пра ўдзел якіх у бітве вядома толькі з карціны, гл.: *Orsza*.// Encyklopedia wojskowa. 1937. S.162.

малюнак рэчышча Дняпра найбольш адпавядаў выяўленаму на карціне. Да таго ж, супаў і характар ландшафта. На карціне вышэй за шыхт цяжкой кавалерыі ў цэнтры мы бачым гарматы, схаваныя сярод елак, а яшчэ вышэй – даволі глыбокую нізіну. У абранай А. Ласкоўскім мясцовасці каля сучаснай вёскі Пашына акурат знаходзіцца вялікі яр (Іл.4). Таксама трэба адзначыць, што ЛЗ стасуецца з паведамленнем С. Гурскага пра адлегласць паміж месцам бітвы і берагамі Крапівенкі (4 мілі), у якой загінула шмат маскавітаў.

Тут будзе дарэчы абмеркаваць вартасці і недахопы карціны невядомага мастака як крыніцы для рэканструкцыі бітвы. З пэўнага часу ў польскай гістарыяграфіі запанавала думка, што яна носіць характар "*рэпартажу*", г.зн. з высокай дакладнасцю перадае падзеі 8 верасня 1514 г.[82] Лічылася, што аўтар твору быў сведкам бітвы ці нават яе ўдзельнікам: інакш, маўляў, было б немагчыма перадаць столькі дэталяў[83]. На думку Здзіслава Жыгульскага малодшага, побач з групай пяхотнікаў, якія цэляць уверх з ручніцаў (трошкі ніжэй і правей ад шыхта цяжкой кавалерыі ў цэнтры) мастак намаляваў сябе. Як заўважыў польскі даследчык, гэта адзіны няўзброены чалавек на ўсёй карціне[84].

Аднак "*Бітва пад Воршай*" утрымлівае пэўныя недарэчнасці, якія ставяць пад сумнеў вартасць карціны як гістарычнай крыніцы. Яшчэ С. Хербст звярнуў увагу на выяву мураваных фартыфікацый у правым ніжнім куце карціны. Калі яны сімвалізавалі Аршанскі замак, то іх трэба было б размясціць ніжэй па цячэнні Дняпра, у верхнім левым куце[85]. Можна было б выказаць меркаванне, што мастак меў на ўвазе не Воршу, а Смаленск, за валоданне якім ішла тады барацьба. У такім разе пашкоджанні надбрамнага ўмацавання і вежы справа – гэта вынік маскоўскай бамбардыроўкі горада, пра якую паведамляюць пісьмовыя крыніцы. Калі нават дапусціць гэтую версію, то становіцца відавочнай супярэчнасць гістарычным рэаліям: умацаванні Смаленска былі на той час выключна драўляна-землянымі, а муры Аршанскага замка не былі скончаныя, і яго дабудавалі з дрэва[86]. На карціне ж выяўленыя цалкам мураваныя ўмацаванні, якія мастак не мог бачыць ні ў Воршы, ні тым болей у Смаленску.

Шэраг заўваг быў зроблены гісторыкам мастацтва Янам Беластоцкім. На карціне ён знайшоў некаторыя запазычанні з іншых твораў. Напрыклад, галава гетмана Астрожскага была змаляваная з дрэварыта Х. Бургкмайра[87].

Цікавая дыскусія ўзнікла вакол гарматы, якую пехацінцы цягнуць па мосце праз Днепр (у ніжнім правым куце). Яна настолькі падобная да гарматы на адной з гравюр Альбрэхта Дзюрэра 1518 г., што не застаецца сумневу ў запазычанні. Аднак, меркаванне Я. Беластоцкага, што аўтар "*Бітвы пад Воршай*" выкарыстаў твор вядомага мастака ў якасці ўзору, было аспрэчана Зоф'яй Стэфаньскай, на думку якой адбылося якраз адваротнае[88]. Кропку ў гэтай спрэчцы, як і дыскусіі вакол часу стварэння карціны, паставіў дэндрахраналагічны аналіз дошак, на якіх яна была намаляваная. Невядомы мастак мог стварыць яе не раней за 1524–1530 г., г.зн. у лепшым выпадку праз 10 год пасля бітвы[89]. Вядома ж, гэта дадае шмат сумневу наконт гістарычнай дакладнасці карціны.

Пэўная крытыка прагучала і з боку вядомага гісторыка вайсковасці Марэка Пляўчынскага, які зрабіў дзве істотныя заўвагі. Па-першае, вершнікаў, узброеных па-

---

82 Herbst S., Walicki M. *Obraz bitwy pod Orszą*. S.41–42. Żygulski Z. jun. "*Bitwa pod Orszą" – struktura obrazu.*// Rocznik Historii Sztuki. S.97.

83 Herbst S., Walicki M. *Obraz bitwy pod Orszą*. S.47–48.

84 Żygulski Z. jun. "*Bitwa pod Orszą*" *– struktura obrazu.*// Rocznik Historii Sztuki. S.92.

85 Herbst S., Walicki M. *Obraz bitwy pod Orszą*. S.42.

86 На 1560 г. уязная брама Аршанскага замка была пераважна драўлянай, гл.: Ткачоў М. *Аршанскі замак.*// Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Т.1. С.251.

87 Białostocki. J. *Zagadka "Bitwy pod Orszą"*. S.88. Я. Беластоцкі дадае, што гаворка можа ісці не пра ўласна запазычанні, але пра выкарыстанне пэўных шаблонаў. У любым выпадку гэта – аргумент на карысць таго, што аўтар не бачыў жыўцом тых аб'ектаў, якія маляваў.

88 Stefańska Z. *Działo "orszańskie"*. S.359–366. Białostocki. J. *Czy Dürer naśladował "Bitwę pod Orszą"?* S.276–281.

89 Żygulski Z. jun. "*Bitwa pod Orszą" – struktura obrazu.*// Światła Stambułu. S.290.

гусарску, на карціне дыспрапарцыйна зашмат. У такой колькасці іх на службу ў Кароне і Княстве не наймалі. Акрамя таго, карціна наогул з'яўляецца адзінай крыніцай, якая кажа пра ўдзел гусараў у бітве[90]. Па-другое, намаляваныя яны не ў баявым, а хутчэй у парадным адзенні[91]. Падобную заўвагу зрабіў яшчэ адзін польскі даследчык, Аляксандр Болдыраў, але ўжо адносна пешых жаўнераў, некаторыя з якіх на "*Бітве пад Воршай*" выглядаюць занадта шыкоўна. У той жа час ён адзначае, што мастак у цэлым верна перадаў набор узбраення пяхоты перыяду 1520–1540-х г. Аднак такія дэталі, як, напрыклад, прысутнасць пяхотнікаў у турнірным даспеху, прымушае лішні раз сумнявацца ў тым, што мастак быў сведкам бітвы. На думку А. Болдырава, аўтар быў добра знаёмы з узорамі ўзбраення і рыштунку, якія адлюстраваныя на карціне. Але даследчык выказвае сумнеў, што бачыў ён гэта на полі бою[92]. Пра тое ж кажа і М. Пляўчынскі, калі звяртае ўвагу на парадны строй гусараў[93].

У працяг гэтых разважанняў трэба дадаць, што паспалітае рушэнне ВКЛ мусіла складаць да паловы войска Астрожскага. Нормы ўзбраення шляхты, вызначаныя соймавай пастановай 1502 г., а таксама прапановай Жыгімонта Старога для сойма 1512 г., прадугледжвалі мабілізацыю цяжкаўзброеных капійнікаў. Нарматыўнае ўзбраенне пачатку XVI ст. у ВКЛ адлюстроўвае працэс пашырэння пласцінавага даспеха за кошт традацыйных наборных канструкцый[94]. Нават калі ўлічыць, што нормы не заўсёды вытрымліваліся, на карціне мусіла б быць значная колькасць вершнікаў у пласцінавым даспеху і панцырах. Што ж мы там бачым замест гэтага? Кавалерыю з "*Бітвы пад Воршай*" можна падзяліць на тры віды. Першы складаецца з капійнікаў у поўным даспеху (як вершнікаў, так і коней), што з'яўляецца, вядома ж, ідэалізацыяй. Іх шыхт знаходзіцца ў цэнтральнай частцы кампазіцыі. Другі складаюць згаданыя вышэй гусары, выяўленыя на правым і левым флангах. Яны ўзброеныя спецыфічнымі тарчамі няправільнай формы, коп'ямі і шаблямі. І цяжкіх капійнікаў, і гусараў мы таксама бачым на правым беразе Дняпра і падчас пераправы праз раку. Трэці від складаецца з вершнікаў, узброеных па-татарску (сагайдак і шабля), і ўласна татараў, якія памешчаныя на крайнім правым флангу войска Астрожскага. А дзе ж паспалітае рушэнне, якое па засцерагальным узбраенні мусіла б быць лягчэйшым за першых і цяжэйшым за другіх і трэціх?

Усё вышэйсказанае прымушае нас з вялікім сумневам паставіцца да меркавання, што аўтар карціны быў сведкам бітвы 8 верасня. Нават калі дапусціць, што ён прысутнічаў у войску, то паўстае наступнае пытанне: як мог адзін чалавек дакладна перадаць ландшафт на плошчы ў некалькі квадратных кіламетраў, а таксама ўсё тое, што на гэтай мясцовасці адбывалася? Акрамя таго, не варта забываць, што мастак мусіў на адным палатне перадаць розныя фазы бою. Выканаць гэтую задачу без пэўных скажэнняў як ландшафту, так і ходу бітвы наўрад ці магчыма. І ці ставіў ён наогул такую мэту? Як заўважыў М. Валіцкі, мастака больш цікавіла адлюстраванне не тактычных дэталяў бітвы, а яе брутальнасці, зацятасці барацьбы, драматызму моманту[95].

Ёсць яшчэ адная акалічнасць, вартая адмысловай згадкі. Ранейшыя даследчыкі заўважылі, што карціна была абрэзаная зверху, справа і злева, прычым з апошняга боку –

---

[90] М. Пляўчынскаму застаўся невядомым дакумент з "*Радзівілаўскіх актаў*", які сведчыць пра наяўнасць роты гусараў ("*рацэяў*") з 94 чалавек у войску ВКЛ летам 1514 г. Гэта, аднак, надта малая колькасць, каб змяніць агульную карціну, гл.: *Памятники истории Восточной Европы. Источники XV–XVI в. Радзивилловские акты из собрания Российской национальной библиотеки. Первая половина XVI в.* Сост. М. Кром. Москва, Варшава, 2002. T.VI. № 3. С.27.

[91] Plewczyński M. *Wkład Serbów w rozwój staropolskiej wojskowości (1450–1570).*// Studia i materiały do historii wojskowości. T.XXXVI. 1994. S.14, 17–18.

[92] Bołdyrew A. *Obraz "Bitwa pod Orszą"*. У друку.

[93] Падобныя заўвагі былі зробленыя і З. Жыгульскім, гл.: Żygulski Z. jun. "*Bitwa pod Orszą*" – *struktura obrazu.*// Rocznik Historii Sztuki. S. 96.

[94] Бохан Ю. *Вайсковая справа ў Вялікім Княстве Літоўскім у другой палове XIV–канцы XVI ст*. Мн., 2008. С. 306–308.

[95] Herbst S., Walicki M. *Obraz bitwy pod Orszą*. S.62.

аж на 1/5[96]. З. Жыгульскі ў класічнай працы па структуры “*Бітвы пад Воршай*” разбіў кампазіцыю на 47 эпізодаў, пракаментаваўшы кожны з іх[97]. Аднак ён, як і іншыя даследчыкі, праігнараваў адзін вельмі цікавы фрагмент у самым верхнім левым куце. Там відаць плынь ракі і гусараў, якія скідваюць у яе маскавітаў. Вельмі цікава тое, што гусары атакуюць ворага з тылу. Нічога падобнага пісьмовыя крыніцы не згадваюць. Гэты эпізод вельмі цяжка інтэрпрэтаваць, не ведаючы, што было выяўлена на абрэзанай частцы палатна. Магчыма, згубленыя фрагменты карціны маглі б змяніць наш погляд на яе як крыніцу па вывучэнні Аршанскай бітвы і на самую бітву.

З улікам усёй выказанай крытыкі, трэба адзначыць, што вартасць карціны як асновы для ЛЗ даволі сумнеўная. На вядомых планах бітвы можам знайсці і іншыя хібы. Да іх належыць перанос сучасных населеных пунктаў на мясцовасць паўтысячыгадовай даўніны. На плане А. Ласкоўскага знаходзім вёскі Пашына, Рукліна, Пугайлава і Гуры (Іл.3). На плане С. Хербста населеных пунктаў меней – толькі Пашына і Рукліна[98]. У З. Сперальскага да гэтых двух сёлаў дадаецца Пугайлава (Шугайлава)[99]. Аднак на сярэдзіну XVI ст. ва ўсім наваколлі было вядомае толькі адно сяло – Крапіўна[100]. Гэта слушна ўлічыў В. Цемушаў ва ўласнай рэканструкцыі (Іл.5). Трэба дадаць, што ніводнае апісанне бітвы не ўтрымлівае згадак пра населеныя пункты акрамя Воршы і Дуброўны.




*Іл.5. Схема Аршанскай бітвы В. Цемушава.*

Іншая праблема ЛЗ – улік суадносінаў памераў поля бітвы і колькасці войскаў, якія ў ёй удзельнічалі. Бітва мусіла адбыцца на плошчы прыкладна ў 6–7 км². Калі ўзяць найменшую колькасць войскаў з абодвух бакоў (12–13 тыс. для літвінска-польскай і 11–14

[96] Herbst S., Walicki M. *Obraz bitwy pod Orszą*. S.55, 57. Żygulski Z. jun. “*Bitwa pod Orszą*” *– struktura obrazu.*// Rocznik Historii Sztuki. S.85.
[97] Żygulski Z. jun. “*Bitwa pod Orszą*” *– struktura obrazu*.// Rocznik Historii Sztuki. S.85–132.
[98] Herbst S., Walicki M. *Obraz bitwy pod Orszą*. S.34.
[99] Напрыклад, гл.: *Zarys dziejów wojskowości polskiej do roku 1864*. T.I. S.332.
[100] *Вялікі гістарычны атлас Беларусі*. Мн., 2009. Т.1. С.110. Вёска Свіракі, якая знаходзілася паміж Крапіўнай і Дуброўнай, упершыню згадваецца пад 1534 г., а вёска Кабылякі на правым беразе Дняпра – пад 1563 г., гл.: *Вялікі гістарычны атлас Беларусі*. Мн., 2009. Т.1. С.110, 233.

тыс. для маскоўскай арміі), агулам атрымліваем каля 30 тыс. амаль цалкам коннай массы, якой трэба было атакаваць, манеўраваць і перагрупоўвацца. Больш за тое, паміж Дняпром і левым флангам пазіцый Астрожскага мусіла быць адлегласць, дастатковая для маскоўскага абхаднога манеўра. Даволі сумнеўна, каб столькі войскаў памясцілася на такой малой плошчы, асабліва з улікам тактыкі маскоўскай кавалерыі, якая не прадугледжвала шчыльнага шыхта. Тым болей дзіўнымі выглядаюць спробы "*запхнуць*" туды разам 115 тыс. чалавек[101].

*Іл.6. Мапа Аршанскага ўезда 1792 г. Фрагмент.*

Неабходна таксама зірнуць на месца бітвы як на выбар Астрожскага. З пункту гледжання магчымых пагрозаў Л3 з'яўлялася ці не найгоршым варыянтам з усіх магчымых. Яго войска мела б вялікую раку не толькі з тылу, але і з левага флангу. У выніку неабходнасці тактычннага адступлення яго немагчыма было б здзейсніць, а ў выніку панікі і уцёкаў войска было б вырачанае на амаль поўнае знішчэнне ці палон. Акрамя таго, месца пераправы было недалёка ад размяшчэння асноўных маскоўскіх сіл, а таму ў выніку яе раскрыцця непрыяцель мог лёгка ёй перашкодзіць, атакаваўшы частку войска, якая паспела б фарсіраваць раку. Акрамя таго, пазіцыі Астрожскага перасякалі яры, якія былі перашкодай для манёўру войскаў. Выбіраючы гэтае месца для бітвы, гетман заводзіў сваіх людзей у пастку.

Такім чынам, насуперак польскай гістарыяграфічнай традыцыі, варта прызнаць Л3 малаімаверным месцам Аршанскай бітвы.

### Лакалізацыя 4–5: версія В. Цемушава (Л4) і А. Лобіна (Л5).

Свой варыянт рэканструкцыі бітвы прапанаваў В. Цемушаў. На жаль, ён зрабіў гэта толькі ў графічным выражэнні, а таму абгрунтаванне яго выбару нам невядомае (Іл.5). Як бачым, аўтар памясціў бітву прыкладна на паўдарозе паміж Воршай і ракой Крапівенкай. Чым ён мог кіравацца, робячы такі выбар? Паводле В. Цемушава, войска Астрожскага

[101] *Zarys dziejów wojskowości polskiej do roku 1864.* T.I. S.331–332. У А. Ласкоўскага атрымалася, што 30-тысячнае войска ВКЛ займала па фронце меней за 3 км. Нават калі ўлічыць, што яго пазіцыі былі глыбокаэшэланіраванымі, такі малы фронт немагчымы, гл.: *Orsza*.// Encyklopedia wojskowa. S.162.

пераправілася праз Дняпро ў двух месцах. Недалёка ад Воршы ўверх па рацэ пяхота і артылерыя перайшлі на левы бераг па пантонным мосце, тады як астатняя частка войска пераправілася пад самой Воршай. Гэта адпавядае арыгінальнаму апісанню бітвы Ж. Герберштайна (гл. агляд крыніц вышэй). Л4, хоць і прыблізна, таксама стасуецца з яго паведамленнем пра тое, што пасля пераправы войска ВКЛ адышло ад Воршы на 4 мілі. У В. Цемушава адлегласць атрымалася меншай, відаць, з-за неабходнасці знайсці лес на правым фланзе аб’яднанай арміі, дзе магла размясціцца артылерыйская і пяхотная засада. Такім чынам, асновай для Л4 сталі запіскі Ж. Герберштайна.




*Іл.7. Дыспазіцыя войскаў ў Аршанскай бітве паводле А. Лобіна.*

Узнікае ўражанне, што план бітвы не быў дапрацаваны аўтарам да канца. Як ужо было адзначана, на мапе адсутнічаюць вёскі, акрамя Крапіўны, аднак ёсць дарогі, якія вядуць да тых месцаў, дзе знаходзіліся Рукліна і Пашына. Тапаграфія лясоў супадае з сучаснай (параўн. з Іл.4). Трэба заўважыць, што невялікі лес, куды В. Цемушаў памясціў засаду, на самай справе з’яўляецца садовымі дзялянкамі аршанскіх лецішчаў. Ці быў там лес раней? Прынамсі, на мапе генеральнага межавання канца XVIII ст. ён не адзначаны (Іл.6). Адсутнічае там, дарэчы, і лес, які цяпер расце абапал дарогі Віцебск–Магілёў паміж вёскамі Ларынаўка і Пашына – ён мусіў схаваць засаду паводле аднаго з варыянтаў Л3.

Месца, прапанаванае А. Лобіным у сваёй манаграфіі, некалькі адрозніваецца ад Л4 (Іл.7). Як бачым, пазіцыі войска ВКЛ пачынаюцца дзесьці паміж Шугайлава і Дняпром, цягнуцца на паўднёвы захад да дарогі Ворша–Дуброўна, а потым паварочваюць на поўдзень. Такім чынам, даўжыня фронту складае да 6 км. Застаецца толькі шкадаваць, што ў такой грунтоўнай працы пра Аршанскую бітву адсутнічае не толькі абмеркаванне праблемы яе лакалізацыі, але нават падрабязная аргументацыя на карысць аўтарскай версіі. Асноўнае адрозненне Л5 ад Л4, а менавіта больш шырокі фронт, можна патлумачыць адмысловай увагай аўтара да пытанняў ваеннай лагістыкі. Відаць, А. Лобін зыходзіў з таго, што для бітвы такога памеру армій была неабходна адпаведная прастора.

Якім чынам войску Астрожскага ўдалося заняць такую пазіцыю? На думку А. Лобіна, напярэдадні пераправы войска Астрожскага знаходзілася не пад Воршай, куды падышло з боку Барысава, а вышэй па цячэнні Дняпра, у раёне Пашына, а ўжо адтуль перайшло пад Воршу, дзе і фарсіравала раку. Расійскі даследчык прытрымліваецца версіі,

што Астрожскі быў вымушаны дзейнічаць падманам, хаваючы ад непрыяцеля месца пераправы (з чым мы пагаджаемся). Але падрабязнай рэканструкцыі дзеянняў літоўска-польскага боку напярэдадні бітвы ён не прапануе. А. Лобін толькі кажа, што спачатку на левы бераг перайшла частка цяжкой кавалерыі і дадае:

"*Собравшиеся 7 сентября у Днепра русские отряды не сумели предотвратить переправу остальной части литовского войска, ибо её надежно прикрыли польские латники*"[102].




*Іл.8. Дыспазіцыя войскаў ў Аршанскай бітве паводле князя М. Галіцына.*

Такая версія выклікае істотныя сумневы. Нават калі дапусціць даволі дзіўнае меркаванне, што асноўныя сілы Астрожскага сапраўды знаходзіліся на правым беразе Дняпра насупраць Пашына, а маскавіты пільнавалі іх на супрацьлеглым беразе, няўжо Чаляднін не пакінуў варту, а можа і даволі значную частку войска, пад самой Воршай на выпадак, як найменей, нейкіх дзеянняў з боку гарнізона замка, як найболей – для супрацьдзеяння спробе пераправы? Відавочна адмоўны адказ на гэтае пытанне спараджае наступнае: як Астрожскі разлічваў падмануць непрыяцеля, рыхтуючы пераправу пад яго носам? Нават калі дапусціць, што яму гэта сапраўды ўдалося, чаму масквічы не атакавалі тую невялікую частку войска, якая пераправілася, дазволіўшы перайсці на левы бераг асноўным сілам? Акрамя таго, каб літвіны і палякі змаглі заняць пазіцыі адпаведна Л5,

[102] Лобин А. *Битва под Оршей*. С.145–146.

трэба было, каб непрыяцель аддаў ім аператыўны прастор. Інакш нам давядзецца меркаваць, што маскоўскае войска знаходзілася не ля самога Дняпра пад Воршай, а бліжэй да Крапівенкі, і, адпаведна, не мела намеру перашкодзіць Астрожскаму з пераправай. Альбо Чаляднін наўмысна адступіў у бок Крапівенкі, дазваляючы ворагу заняць зручныя пазіцыі. Прыгадаем, што, на думку А. Лобіна, маскавіты ледзь не саступалі непрыяцелю ў кольскасці. Калі зыходзіць з гэтага тэзіса, варта было б чакаць актыўных дзеянняў Чалядніна супраць варожых спробаў перайсці Днепр. Такім чынам, верагоднасць пераправы літоўска-польскіх сіл непасрэдна пад Воршай крайне нізкая. Гэтыя заўвага ў роўнай ступені адносіцца і да Л4.

Яшчэ адна хіба Л5 – размяшчэнне левага фланга войска Астрожскага. На плане бачым, што ён не выходзіць да Дняпра, чаго можна было б чакаць з меркаваннеў бяспекі ад абхаднога манёўра. Як было адзначана вышэй, маскавіты падчас бітвы спрабавалі абысці непрыяцеля менавіта злева. Нават пры такім размяшчэнні левага фланга гэты манёўр нёс больш небяспекі для тых, хто яго ажыццяўляў, бо ў разе контратакі яны рызыкавалі быць скінутымі ў Днепр. Куды прасцейшым і больш эфектыўным мог стаць абход пазіцый Астрожскага справа, дзе фланг не быў прыкрыты натуральнай перашкодай. Аднак А. Лобін наогул не давярае паведамленням чатырох крыніц пра спробу маскавітаў зайсці ў тыл непрыяцеля[103], на што ўцямнай аргументацыі не дае[104].

Апісваючы атаку палка левай рукі, які патрапіў пад агонь з засады, А. Лобін піша:

"*Залп фельдшлангов и ручниц <u>в узком дефиле</u> ("а место пришло тесно") пришелся по линиям полка Левой руки и Передового полка, очевидно, с фланга…*"[105].

Але калі мы паглядзім на план бітвы, то ніякага вузкага дэфіле не ўбачым. Наадварот, менавіта на ўчастку маскоўскага левага крыла магчымасць манёўра не абмяжоўваецца натуральнымі перашкодамі.

Л4 і Л5 з'яўляюцца адносна новымі і арыгінальнымі версіямі, але з улікам выказанай крытыкі трэба прызнаць іх малаімавернымі.

### Лакалізацыя 6 (Л6): ад князя М. Галіцына да В. Насевіча.

У 70-х г. XIX ст. свет пабачыла абагульняльная праца па расійскай мілітарнай гісторыі пад рэдакцыяй князя Мікалая Сяргеевіча Галіцына. У другім томе, прысвечаным перыяду ад Івана III да Пятра I, быў змешчаны кароткі нарыс пра Аршанскую бітву, а таксама яе план[106] (Іл.8). На думку князя Галіцына, бітва адбылася на правым беразе Крапівенкі, дзе маскоўскія ваяводы занялі пазіцыі фронтам да Дняпра. Каб уступіць з імі ў бой, Астрожскі пераправіў сваё войска ўначы праз Днепр у непасрэднай блізкасці ад непрыяцеля, падрыхтаванага да гэтай сустрэчы. Аўтар лічыць, што Чаляднін, упэўнены ў колькаснай перавазе свайго войска, наўмысна не перашкаджаў пераправе, каб потым адрэзаць ліцвінаў і палякаў ад мастоў і цалкам знішчыць[107]. На жаль, князь Галіцын не тлумачыць выбар месца бітвы, а таксама вельмі дзіўную пазіцыю маскоўскага войска[108].

За савецкім часам прычын не вывучаць Аршанскую бітву было больш, чым дастаткова. Аднак, кароткі нарыс пра яе ўсё ж з'явіўся ў другім томе "*Гісторыі ваеннага*

[103] Гл. спасылкі 60 і 61. Калі б маскавіты спрабавалі абысці непрыяцельскія пазіцыі па беразе Дняпра, было б дзіўным не ўзгадаць гэта, бо вялікая рака з'яўляецца вельмі добрым арыенцірам. Але ў крыніцах такой згадкі няма.
[104] Лобин А. *Битва под Оршей*. С.157.
[105] Лобин А. *Битва под Оршей*. С.161.
[106] *Русская военная история. От Иоанна III до Петра I.* СПб., 1878. Т.2. С.105–106 (план бітвы знаходзіцца на ўклейцы ў канцы тома).
[107] Наконт гэтай версіі ўжо было выказана дастаткова крытыкі.
[108] Крытыку гэтай версіі знаходзім у К. Гурскага, гл.: Górski K. *O rozwoju…* T.II. S.420.

*мастацтва*" пад рэдакцыяй Е. Разіна (1957 г.)[109]. Ён прапанаваў уласны план бітвы, але памясціў яе туды ж, куды і князь Галіцын, таксама без аргументацыі.

Л6 атрымала падтрымку і ў беларускай гістарыяграфіі з боку Вячаслава Насевіча. Падобна працы В. Цемушава, вынікі яго пошуку месца Аршанскай бітвы не маюць тэкстуальнага выражэння, а ўвасоблены ў плане, а таму мы ізноў не ведаем абгрунтавання[110]. Трэба адзначыць, што ўсе тры варыянты Л6 маюць агульную рысу: войскі размешчаныя перпендыкулярна Крапівенцы.




*Іл.9. Мапа Аршанскага ўезда 1792 г. Фрагмент.*

Як бачым, Л6 кардынальна адрозніваецца ад іншых лакалізацый тым, што бітва памяшчаецца не на левым, а на правым беразе Крапівенкі. Мы не ведаем, чым кіраваліся даследчыкі, якія схіляліся да гэтай версіі, але выснова заслугоўвае ўвагі. На наш погляд, месца бітвы сапраўды варта шукаць паміж Крапівенкай і Дуброўнай.

### Лакалізацыя 7 (Л7): спроба аўтарскай рэканструкцыі.

Пры набліжэнні войска Астрожскага сілы Булгакава, што знаходзіліся ў раёне Беразіны, пачалі адступаць да Дняпра. Пасля паймання М. Глінскага Васіль III паслаў на

---

[109] Разин Е. *История военного искусства VI–XVI в.* СПб., 1999. С.351–353.

[110] *Бітва пад Воршай (08.09.1514 г.).*// Гістарычны атлас Беларусі. Т.1. С.73. У асабістай размове В. Насевіч паведаміў, што прыйшоў да сваёй высновы адносна месца бітвы ў выніку аналізу крыніц.

Днепр яшчэ адное войска пад камандаваннем Чалядніна[111], загадаўшы яму злучыцца з корпусам Булгакава. Паводле афіцыйнага летапісання, ваяводы не мелі нейкіх стратэгічных задач. Вялікі князь маскоўскі загадаў ім "*постояти на Непре*", чакаючы вяртання накіраваных на Друцкія палі, пад Менск і Барысаў загонаў, а потым "*за собою итти*"[112]. Аднак, больш заслугоўвае даверу іншая версія, паводле якой аб'яднаная групоўка мусіла бараніць смаленскі напрамак ад непрыяцеля, які вырушыў з-пад Барысава[113]. Уласна таму пад Воршу і была паслана армія пад камандаваннем Чалядніна. Маскоўскія палкі адышлі на левы бераг Дняпра перад наступаючым непрыяцелем, заняўшы абарону каля адзінага броду. Раскіданыя па наваколлі загоны працягвалі сцякацца ў лагер Чалядніна. Магчыма, ён чакаў і нейкіх падмацаванняў ад Васіля III. Час граў на карысць маскоўскага боку.



*Іл.10. Падлесак каля Свіракоў. Фота аўтара.*

Гэта разумеў Астрожскі, таму перад ім стаяла складаная задача: пераправіць праз Днепр свае сілы і даць маскавітам бой як мага хутчэй. Зрабіць гэта трэба было з найменшай рызыкай таго, што непрыяцель раскрые месца пераправы і абрынецца на харугвы, якія ўжо будуць на левым беразе. Акрамя таго, было вельмі пажадана пасля пераправы наогул аддаліцца ад ракі, якая ў разе няўдалай бітвы магла стаць брацкай магілай для тысячаў ваяроў. Гетман мусіў добра памятаць урок бітвы на Вядрошы 1500 г., калі маскавіты разбурылі адзіны мост праз рацэ Трасна. Гэтым яны пазбавілі войска ВКЛ шляху да адступлення і амаль цалкам знішчылі яго. Сам Астрожскі разам з іншымі даводцамі патрапіў тады ў палон[114].

Гетман таемна падрыхтаваў пераправу праз Дняпро на ўсход ад вусця Крапівенкі, у раёне сучаснай вёскі Гацькаўшчына (Іл.4)[115]. Частка лёгкай кавалерыі была пакінутая пад Воршай для дэманстрацыі прысутнасці войска, тады як асноўныя сілы начным маршам выйшлі да месца пераправы. Першай задачай, якую выканалі харугвы на левым беразе

---

[111] Разам з Чалядніным на чале гэтай групоўкі стаяў і баярын Г. Ф. Давыдаў, які быў вышэй па статусе. Відаць, ён ад'ехаў з войска да бітвы, бо пра яго ўдзел у ёй крыніцы не згадваюць, гл.: Лобин А. *Битва под Оршей*. С.153.

[112] *Никоновская или Патриаршая летопись*.// ПСРЛ. Т.13. СПб., 1904. С.21. *ПСРЛ*. Т.8. С.257.

[113] *Постниковский летописец*.// ПСРЛ. Т.34. М.: Наука, 1978. С.11. *ПСРЛ*. Т.37. С.101. Многія летапісы ў адзін голас кажуць, што Астрожскі з'явіўся пад Воршай нечакана для маскоўскіх ваяводаў дзякуючы парадзе здрадніка М. Глінскага. Гэта паведамленне не вытрымлівае крытыкі. Па-першае, войска ВКЛ спачатку доўга збіралася, а потым правяло пэўны час пад Барысавам, што не магло застацца незаўважаным з маскоўскага боку. Па-другое, ужо на Беразіне адбыўся першы кантакт Астрожскага з маскоўскімі атрадамі, а пазней мелі месца сутычкі паміж Беразіной і Дняпром. Таму з'яўленне войска ВКЛ пад Воршай аніяк не магло быць для ваяводаў Васіля III "*непрыемным сюрпрызам*", гл.: Лобин А. *Битва под Оршей*. С.143. Гэта пацвярджае таксама Усцюжскі летапіс, паводле якога "*приде весть к великому князю в Дорогобуж, что… король посла силу свою к Орши городу. И князь велики Василеи Иванович посла воивод своих с силою противу силы королевския…*", гл.: *ПСРЛ*. Т.37. С.101.

[114] *Бітва на Вядрошы*.// Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Т.1. С.334.

[115] "*А сами литва вверх по Березине (трэба "Днепру" – А.К.) за 15 верст выше перевезошася*", гл.: *ПСРЛ*. Т.37. С.101.

Дняпра, быў захоп моста (ці брода) праз Крапівенку на дарозе Ворша–Дуброўна. Наўрад ці Астрожскі мог разлічваць, што яго манёўр застанецца незаўважаным з боку непрыяцеля. Але абранае месца пераправы давала пэўныя гарантыі бяспекі. Маскоўскія палкі знаходзілася паміж Воршай і Крапівенкай, а таму, каб атакаваць перайшоўшыя на левы бераг Дняпра войскі, ім неабходна было прайсці 6–8 км. Акрамя таго, яны мусілі пераадолець Крапівенку, берагі якой былі месцамі стромкімі, месцамі – багністымі. З той прычыны, што літоўска-польскія сілы прыкрылі зручнае для пераправы месца, фарсіраванне гэтай ракі наўрад ці было хуткім і лёгкім. Такім чынам, пакуль Астрожскі, маючы пэўную фору ў часе, нарошчваў сілы на левым беразе Дняпра, ратнікаў Чаляднiна прыбывала на правым беразе Крапівенкі.



*Іл.11. Даліна Таборы. Фота аўтара.*

Якую пазіцыю заняло войска Астрожскага? Ідэальным для яго варыянтам было б прымусіць непрыяцеля даць бой, маючы ў тыле Крапівенку. Відаць, менавіта гэта і адбылося. Правы фланг літоўска-польскага войска, які складаўся з паспалітага рушэння, пачынаўся ад Дняпра дзе-небудзь на ўсход ад Гацькаўшчыны. Левы фланг скончваўся ў ніжнім цячэнні ручая Табора, на поўдзень ад сучаснай вёскі Свіракі. Мажліва, што фронт быў даўжэйшы і левы фланг выходзіў бліжэй да рэчкі Сляпчанкі (Іл.9). У канцы XVIII ст. рэчышча Таборы было іншым, чым зараз (параўн. Іл.4 і 9)[116]. Імаверна, што левае крыло Астрожскі завярнуў трохі назад, каб зрабіць флангавы манёўр вакол яго больш складаным, бо ні Табора, ні Сляпчанка, хутчэй за ўсё не былі істотнай перашкодай для варожай конніцы. У цэнтры і злева гетман паставіў найбольш баяздольныя аддзелы – найманую цяжкую кавалерыю і польскіх дабраахвотнікаў, таксама цяжкаўзброеных. Менш баяздольнае паспалітае рушэнне заняло самую бяспечную частку фронту, бо справа было надзейна прыкрытае Дняпром. На самым перадзе ў цэнтры стала пяхота.

На захад ад Свіракаў цяпер знаходзіцца невялікі лес (Іл.10). На мапе канца XVIII ст. бачым яго, а таксама яшчэ адзін кавалак лесу ля самай дарогі Ворша – Дуброўна (Іл.9). Імаверна, што ён стаяў там і пяцьсот год таму, але мог мець іншую канфігурацыю. Відаць, гэта і былі тыя лясы, адкуль "*многие желныри с пищалми*" знішчалі "*великого князя людей*"[117]. Туды Астрожскі паставіў частку пяхоты і гармат. Трэба адзначыць, што размяшчэнне засады паміж правым флангам і цэнтрам было больш выгодным, чым з самага правага краю, як у шэрагу польскіх прац[118]. З гэтай сярэдняй пазіцыі пяхота і

[116] На сучаснай мапе (Іл.4) ручай не падпісаны. На мапе генеральнага межавання (Іл.10) ён названы "*Ордаховка*".
[117] *ПСРЛ*. Т.13. Ч.1. С.22.
[118] Гл., напрыклад: *Orsza*.// Encyklopedia wojskowa. 1937. S.162. *Zarys dziejów wojskowości polskiej do roku 1864*. T.I. S.332.

артылерыя маглі аказаць падтрымку сваім у абодва бакі, а пешых жаўнераў можна было хутчэй перакінуць на левы фланг у разе патрэбы. Засада, у разе яе памяшчэння на правым краі, магла наогул застацца бяздзейснай, калі б непрыяцель не атакаваў на тым напрамку[119].

Як відаць, пазіцыя Астрожскага атрымалася даволі моцнай. Правы фланг быў прыкрыты з аднаго боку Дняпром, з іншага – лесам і схаванай там пяхотай ды гарматамі. Цэнтр таксама, відаць, быў часткова прыкрыты лесам, на ўскрайку якога стала асноўная маса пешых жаўнераў. Самым небяспечным было становішча левага флангу, таму Астрожскі адмыслова ўзмацніў яго: за пярэднім гуфам стаяў другі, а, можа, і трэці. Гэта давала магчымасць сваечасова рэагаваць на спробы непрыяцеля ажыццявіць флангавы манёўр. Хіба адзіным недахопам пазіцыі войска ВКЛ была Дуброўна ў далёкім тыле, занятая маскавітамі. У яе напрамку мог быць высунуты вартавы атрад для назірання за магчымымі дзеяннямі гарнізона[120].

Цяпер зірнем на становішча вачыма маскоўскага камандавання. Чаляднін, даведаўшыся пра пераправу Астрожскага, рушыў яму насустрач. Гетман перарэзаў яго камунікацыі, парушыў сувязь з найбліжэйшым замкам Дуброўнай і апанаваў адзіную дарогу на Смаленск. Гэта прымусіла Чаляднін тэрмінова дзейнічаць, і нічога не заставалася, як даць бой ворагу нават не ў самай выгоднай пазіцыі. Таму Астрожскі мог быць упэўнены, што маскавіты, якія, хутчэй за ўсё, мелі колькасную перавагу, будуць яго атакаваць.

Зыходзячы з дыспазіцыі літоўска-польскага войска цалкам чаканай з’яўляецца спроба непрыяцеля нанесці ўдар па неабароненым натуральнымі перашкодамі левым крыле і абысці яго[121]. Прыгадаем, што крыніцы кажуць пра парослую нізіну, схіл, па якім рухаліся маскавіты, здзяйсняючы флангавы манёўр[122]. Гаворка магла ісці пра даліну Таборы, берагі якой і зараз пакрытыя расліннасцю (Іл.11)[123]. С. Сарніцкі кажа, што

[119] А. Лобін таксама памяшчае артылерыйскую і пяхотную засаду паміж цэнтрам і правым флангам. Але робіць ён гэта на падставе летапіснага паведамлення пра гібель камандзіра перадавога палка князя І. І. Цёмкі-Растоўскага ад гарматнага стрэлу, гл.: Лобин А. *Битва под Оршей*. С.161. На маю думку, няма падстаў лічыць, што словы “*и убиша ис пушки в передовом полку воеводу князя Ивана Ивановича Темку Ростовского*” адносяцца да апісання агню артылерыі менавіта з засады. Акрамя таго, зусім не відавочна, што фраза “*а место пришло тесно*” апісвае становішча на ўчастку маскоўскага левага крыла. Хутчэй, яна адносіцца да ўсяго поля бою, на якім маскоўскім палкам было цесна, гл.: *ПСРЛ*. Т.8. С.258.

[120] Можна выказаць меркаванне, што маскавіты перасяклі Крапівенку значна ніжэй і падышлі да поля бою з поўдня. Тады і фронт войска ВКЛ мусіў быць павернуты на поўдзень. У такім разе левы край войска мог выходзіць бліжэй да рэчкі Сляпчанка ў раёне сяла Сляпцы (гл. Іл.9). Гэта не выключае магчымасці выкарыстання лесу пасярод Крапівенскага поля для засады. Правы фланг, які абапіраўся на Крапівенку, мог быць адсунуты трошкі назад, каб заатакаваўшы яго непрыяцель быў вымушаны рухацца ўздоўж лесу і патрапіць пад агонь пяхоты і артылерыі.

[121] На думку А. Лобіна, Булгакаў са сваім палком правай рукі самавольна атакаваў левае крыло непрыяцеля па іншых прычынах. Па-першае, Чаляднін паставіў войска надта блізка да варожых бамбардаў і яны маглі лёгка яго абстрэльваць. Па-другое, ратнікі Булгакава знаходзіліся пад агнём варожай пяхоты. Абедзве гэтыя акалічнасці спароджаныя памылковым прачытаннем крыніц. Фраза С. Гурскага “*quod bombardas non adhibuerint*” (“*тое, што [маскавіты] не выкарысталі гарматы*”) была перакладзеная як “*они (маскавиты – А. К.) стояли близко к бомбардам*”. А фраза С. Сарніцкага “*Naprzód z prawego boku Michaiło z ową 12000 wystąpił, strzały pierwsze wypuściwszy pierwej, bo jako Niemcy strzelbą w nieprzyjacieliu dziurę uczyniwszy, potem wewnątrz zawadzą, tak ci, co łuków używają, strzałami turbują konie i wojsko, dopier potkanie uczynić zwykli*” (“*Наперад з правага боку Міхайла з ягонымі 12000 выступіў, спачатку стрэлы выпусціўшы першы, бо, як немцы, стральбой у непрыяцеля дзюру зрабіўшы, потым туды заходзяць, так і тыя, што выкарыстоўваюць лукі, стрэламі не даюць спакою коням і войску, пакуль не ўчыняць сутычкі*”) была перакладзеная як “*Вначале с правого боку Михайло с его 12000 выступил, стрелы выпустил первый, потому как немцы стрельбой в неприятеля брешь сделали*”, гл.: Górski S. *Anno domini…* P.5. *Wypisy żródłowe*. S.142. Лобин А. *Битва под Оршей*. С.158.

[122] Decii L.J. *De Sigismundi regis…* P.77. Górski S. *Anno domini…* P.5. *Epistola Pusonis*. P.204. *Wypisy żródłowe*. S.141.

[123] У разе арыентацыі літоўска-польскага фронта на поўдзень гэта хутчэй была даліна Сляпчанкі.

зараснікі, у якіх хаваўся непрыяцель, "*цягнуліся аж ад самога Дняпра*"[124]. Гэта вельмі нагадвае парослыя хмызняком і малымі дрэвамі берагі ручая, які ўпадаў у Днепр.

Як відаць, поле бою адпаведна Л7 мае прыкметы, якія згадваюцца ў крыніцах: лес і парослую нізіну. Трэба, аднак, улічваць, што ландшафт пачатку XVI ст. мог адрозніваца ад стану на канец XVIII ст. і, тым болей, ад сучаснага.

Застаецца разгледзіць, як прапанаваная дыспазіцыя варожых армій стасуецца з паведамленнем С. Гурскага пра тое, што маскавіты падчас уцёкаў гінулі ў Крапівенцы "*за 4 мілі ад месца бітвы*" (прыблізна ў 6-ці кіламетрах)[125]. З першага погляду яна супярэчыць гэтым словам: пазіцыі войска Астрожскага аддзяляла ад Крапівенкі 2–3 кіламетры. Відавочца, які быў першакрыніцай інфармацыі, мог сапраўды бачыць целы маскавітаў у Крапівенцы на большай адлегласці. Мажліва, пэўная частка разгромленага войска кінулася ўцякаць не праз раку, якую не змагла пераадолець, а уздоўж яе ў паўднёвым накірунку. На адлегласці прыблізна ў "*4 мілі*" яны былі прыціснутыя да ракі кавалерыяй Астрожскага, дзе адбылося іх знішчэнне. З улікам таго, што С. Гурскі, як і іншыя лацінамоўныя аўтары, апавядае гісторыю з польскага боку, а палякі стаялі на левым фланзе, то гаворка магла ісці і пра вусце Крапівенкі. Нарэшце, "*вымярэнне*" адлегласці не магло быць дакладным, таму варта ставіцца да лічбы ў 4 мілі як да вельмі прыблізнай.

Такім чынам, Л1–6 маюць даволі істотныя недахопы, якія робяць кожную з гэтых версій даволі сумнеўнай. Л7 стасуецца ці, як найменей, не супярэчыць тым паведамленням крыніц, што заслугоўваюць даверу.

Аднак, прапанаваная рэканструкцыя не прэтэндуе на канчатковасць. Гэтая версія найбольш імавернага развіцця падзей, якая грунтуецца на паведамленнях крыніц і пэўных меркаваннях ваенна-тактычнага "*рацыяналізму*" таго часу. Не выключана, што адкрыццё новых звестак пра месца Аршанскай бітвы дазволіць унесці ў Л7 істотныя карэктывы. Важнае значэнне для дакладнай яе лакалізацыі мае рэканструкцыя ландшафта паўтысячагадовай даўніны. Ажыццявіць яе можна адно з дапамогай прыродазнаўчых метадаў, хоць магчымасці палеагеаграфіі таксама абмежаваныя. Канчатковаму вырашэнню праблемы можа і павінна садзейнічаць археалогія. Асобныя артэфакты і парэшткі забітых, знойдзеныя паміж Воршай і Дуброўнай, не могуць разглядацца як доказ на карысць той ці іншай лакалізацыі, нават калі яны будуць больш-менш дакладна датаваныя[126]. У канцы XV–XVI ст. праз гэтую мясцовасць неаднаразова праходзілі буйныя вайсковыя сілы з абодвух бакоў, тут адбываліся сутыкненні ў 1508 і 1564 г. Аднак настолькі маштабнай бітвы, як 8 верасня 1514 г., больш не было ніколі. Таму неабходнае сістэматычнае археалагічнае вывучэнне мясцовасці, хоць і яно далёка не заўсёды можа даць хуткія і недвухсэнсоўныя вынікі[127].

---

[124] Тут ён, відаць, цытуе іншую крыніцу, бо пераходзіць на лаціну: "*padoł albo vallis*", гл.: *Wypisy źródłowe*. S.141.
[125] Górski S. *Anno domini*… P.5.
[126] Аршанскім краязнаўцам Юрыем Копцікам былі адзначаны факты знаходак мясцовым насельніцтвам баявога рыштунку, які "*можа быць суаднесены з падзеямі XVI ст.*". Акрамя таго, ён зафіксаваў сведчанні жыхароў правага берага Крапівенкі пра тое, што іх продкі знаходзілі "*многа пабітых людзей*", калі аралі зямлю. Як апавядалі старажылы вёскі Гацькаўшчына, у 30-я г. XX ст. падчас чысткі рэчышча Дняпра насупраць вусця Крапіўны знаходзілі шмат зброі – сякеры, шаблі, мячы. Нічога падобнага жыхары мясцовасці паміж Крапівенкай і Воршай не паведамляюць, гл.: Копцік Ю. *Аршанская бітва і Аршанскі фэст: гісторыя*. Орша, 2007. С.5. Гл., таксама, яго артыкул у часопісе далей.
[127] Нягледзячы на шматгадовую працу гісторыкаў і археолагаў, спрэчкі наконт месца Кулікоўскай бітвы 1380 г. трываюць дагэтуль.

**Юры Копцік**
**(Ворша)**

# КАРЦІНА “БІТВА ПАД ВОРШАЙ” ЯК КРЫНІЦА ДА ПРАБЛЕМЫ ЛАКАЛІЗАЦЫІ АРШАНСКАЙ БІТВЫ.

Практычна ўсе даследчыкі, якія ў той ці іншай ступені вывучалі знакаміты цяпер твор невядомага аўтара, прытрымліваліся адной традыцыйнай трактоўкі: на карціне выява бітвы, якая разгортваецца на беразе Дняпра. Прычым карціна выяўляе практычна ўсе фазы бітвы: пераправу войск Астрожскага праз Дняпро, атаку маскоўскіх войск, артылерыйскую засаду і контратаку літоўска-польскіх войск. І ніякіх іншых трактовак заўважана практычна не было.

### Рэпартаж з месца падзеі?

Але перш чым разгледзець прапанаваную новую трактоўку карціны неабходна сказаць колькі слоў аб ёй самой. Найперш адносна датавання гэтага выдатнага дакумента падзеі. Першыя даследчыкі – Алвін Шульц, Якоб Каро, Станіслаў Хэрбст і Міхал Валіцкі – часам стварэння карціны “*Бітва пад Воршай*” (дарэчы, назва ўмоўная, бо мы не ведаем, як у сапраўднасці невядомы майстар назваў свой твор) асцярожна называюць час “*неўзабаве пасля бітвы*”[128]. С. Хэрбст і М. Валіцкі навогул схільныя канкрэтызаваць яе напісанне 1515 г., спасылаючыся на Ўладзіслава Пацеху, паводле каторага нейкая карціна гэтай бітвы ў той год была вывешаная ў кракаўскім францішканскім кляштары[129]. Ян Беластоцкі ў 1950-х г. звярнуў увагу на невыпадковае, паводле яго меркавання, падабенства выявы вялікай гарматы на пераправе на пярэднім плане разглядаемай карціны з выявай на вядомай гравюры А. Дзюрэра “*Вялікая гармата*”[130]. Пасля гэтага была працяглая дыскусія Я. Беластоцкага з З. Стэфаньскай аб тым, хто ў каго “*спісаў*” гармату – Дзюрэр у невядомага майстра ці наадварот? З. Жыгульскі ў 1990-х г. дадаў трэцюю версію: невядомы аўтар і Дзюрэр абодва “*спісалі*” гармату з нейкай невядомай ці страчанай цяпер крыніцы[131]. Мушу толькі заўважыць, што ніхто чамусьці не разглядаў яшчэ адную версію, а менавіта: карціна і дрэварыт маглі быць створаны абсалютна аўтаномна адная ад другога, бо бытаваўшая ў той час цяжкая зброя была ў Еўропе паўсюдна надта падобная. І калі прыглядзецца, дык можна заўважыць, што “*аршанская*” гармата і гармата Дзюрэра маюць пэўныя адрозненні ў дэкоры і прапорцыях, а ў Дзюрэра гармата яшчэ яўна меншага і памеру, і калібру, што заўважыў яшчэ З. Жыгульскі. На вока “*аршанская*” гармата мае калібр ніяк не менш 400 мм, хаця Тадэвуш Новак вызначае яе калібр у 200 мм, што таксама нямала[132]. Гэта сапраўдная картауна – пазнейшая версія бамбарды. І каб завяршыць з гарматамі нашай карціны, то можна сказаць, што ніякія гэта не фельдшлангі (г.зн. палявыя гарматы), як пра іх неаднаразова піша расійскі даследчык А. Лобін у сваёй манаграфіі, прысвечанай Аршанскай бітве[133]. Палявая артылерыя тады толькі-толькі пачала вылучацца ў асобны род узбраення. Да фельдшлангаў можна хіба што аднесці пару самых крайніх пішчаляў зверху ад асноўнай пазіцыі артылерыі, якія

[128] Schulz A. *Über ein Gemälde wahrscheinlich von Georg Preu (polnische Schlacht aus dem Anfange des 16. Jh.).*// Schlesiens Vorzeit in Bild und Schrift. Bd.III, 1877. S.180. Caro J. *Die Schlacht bei Orsza 1514 (nach dem grossen Bilde im Museum Schlesischer Altertümer).*// Schlesiens Vorzeit in Bild und Schrift. Bd.III, 1879. S.345–353. Herbst S., Walicki M. *Obraz bitwy pod Orsza*. S.33–68.
[129] Herbst S., Walicki M. *Obraz bitwy pod Orsza*. S.48, 51, 64.
[130] Białostocki J. *Zagadka “Bitwy pod Orsza”*. S.87.
[131] Stefańska Z. *Działo orszańskie*. S.359–366. Białostocki J. *Czy Dürer naśladował “Bitwę pod Orsza”?* S.276–281. Żygulski Z. jun. *“Bitwa pod Orsza” – struktura obrazu*.// Rocznik Historii Sztuki. S.91.
[132] Nowak T. *Uwagi o technice budowy mostów polowych w Polsce w XV–XVII w.*// Studia i Materiały do Historii Sztuki Wojennej. Warszawa, 1956. T.II. S.360.
[133] Лобин А. *Битва под Оршей*. С.136, 161.

стаяць некалькі далей, усе астатнія гарматы – гэта таксама ў асноўным картауны, хаця і некалькі меншага калібру чым тая, якую рука майстра заспела на пераправе. Каралеўскі сакратар С. Гурскі дык па традыцыі так і называе іх бамбардамі, распавядаючы пра пераправу праз Дняпро[134]. Ужыванне артылерыі ў палявой бітве (і надта ўдалае ўжыванне!) стала для таго часу навіной у вайсковай справе Еўропы, бо гарматамі тады карысталіся звычайна ці пры аблозе, ці пры абароне замкаў і крэпасцяў. І гэта яшчэ адное сведчанне ваеннага таленту гетмана князя Канстанціна Астрожскага. Хаця мы мусім прыгадаць і бітву на Ворскле 1399 г., дзе Вітаўт ужываў артылерыю (праўда, яна яму не дапамагла), і Грунвальдскую бітву 1410 г., дзе артылерыю ўжывалі крыжакі, і таксама безвынікова…

Але ў адрозненне ад нашай карціны гравюра Дзюрэра датаваная – яна створана ў 1518 г. І калі прыняць любую з дзвюх першых версій, то час стварэння шэдэўра батальнага жывапісу Еўропы XVI ст. можна звузіць да 1514–1520 г.

Найбольшыя сумненні выклікае вынік праведзенага ў час кансервацыі карціны ў 1990-я г. дэндрахраналагічнага аналізу дошак рамы карціны. Паводле яго, карціна не магла быць напісаная раней за 1530 г. і гэта толькі ніжняя мяжа. У сувязі з гэтым ёсць такое меркаванне: недасканаласць метаду ці не дала яўную памылку? Як вядома, з радыёвугляродным аналізам Турынскай плашчаніцы розныя лабараторыі далі розныя даты, некаторыя з даволі значным разбегам. У 1530-х г. не было ніякай пільнай неабходнасці ствараць такую аб’ёмную (232×162 см), працаёмкую, а значыцца і дарагую карціну бітвы 20-гадовай даўніны, калі і вайна ўжо даўно была завершана. Затое стварэнне карціны адразу пасля бітвы цалкам вытлумачальнае і актуальнае, і найбольш верагодны час яе напісання – 1515 г. Да таго ж даследаваліся толькі дошкі рамы карціны, на што амаль ніхто не звяртае ўвагі. А рама карціны магла быць выробленая значна пазней за самую карціну.

Многія даследчыкі сыходзяцца на тым, што невядомы майстар быў відавочцам бітвы – настолькі дасканала і падрабязна адлюстраваныя ўсе дэталі і асаблівасці ўзбраення, адзення і рыштунку воінаў і іх коней, настолькі эмацыйна перададзены фрагменты бітвы, яе напал і драматызм. Ёсць і скептыкі. Напрыклад, А. Болдыраў мяркуе, што аўтар дапусціў яўныя памылкі, намаляваўшы пешых воінаў з дзідамі ў цэнтры з бляхавымі металічнымі спадніцамі, што, паводле яго меркавання, проста быць не магло:

“*...няпраўдападобна выглядае, каб польскія капейшчыкі ішлі ў бой пад Оршай у дарагіх турнірных даспехах, а гусары наступалі, засцерагаючы свае галовы капелюшамі ў выглядзе цыліндра*”[135].

Таму А. Болдыраў ставіць пад сумненне рэпартажнасць гэтай карціны. Дарэчы, сам жа і сумняваецца ў сваёй слушнасці![136] Правільна сумняваецца. Невядомы аўтар выявіў на сваім шэдэўры такія дэталі рыштунку воінаў, якія да нас проста не дайшлі. Напрыклад, г.зв. ахоўныя “*крылы*” на абутку гусараў, што абаранялі толькі ступню воіна. Невядома гэтая дэталь рыштунку і паводле іншых выяўленчых крыніц XVI ст. Або атрад літоўскіх татараў на чале з мурзой уверсе карціны, пра ўдзел у бітве каторых не згадвае ніводная наратыўная крыніца. А сумненні ў актуальнасці металічных спадніц у цяжкаўзброеных пехацінцаў магчыма паходзяць у А. Болдырава ад недастатковага ведання ці неразумення тактыкі бою рэнесансавай пяхоты. Узброеныя цяжкімі двуручнымі дзідамі – рагацінамі – швейцарская пяхота і нямецкія ландскнехты, пастаўленыя ў шчыльныя шыхты, ва ўсю цяснілі цяжкую рыцарскую кавалерыю на палях бітваў па ўсёй Еўропе XV ст., часам наносячы ёй знішчальныя паразы. У Польскім каралеўстве, у адрозненне ад ВКЛ, гэтыя павевы з захаду даволі хутка былі ўспрыняты. Але з пачатку XVI ст. ўсё больш

---

[134] Górski S. *Anno domini*… P.4–6.
[135] Болдыраў А. *Візуальная справаздача з поля бітвы.*// Mówia wieki. Nr 4. 2014. S.61.
[136] Болдыраў А. *Візуальная справаздача з поля бітвы*. S.61.

прыкметнае месца побач з цяжкай пяхотай пачала займаць лёгкаўзброеная пяхота з агняпальнай ручной зброяй, якая імкліва развівалася. На карціне мы якраз і бачым унікальны момант спалучэння дзеянняў цяжкай пяхоты з рагацінамі ды лёгкай пяхоты з рушніцамі. Што ж мы можам разгледзець? Гэта цэнтральная сцэна карціны: артылерыйская пазіцыя патрапіла пад масаваную атаку кавалерыі маскавітаў у адказ на залп гармат. Атрад пяхоты выступіў на абарону пазіцыі артылерыі, бой разгараецца ўжо практычна сярод самых гармат. Стралкі пашыхтаваліся пад абаронай сцяны павезаў (вялікіх прамакутных шчытоў амаль у рост чалавека), адкуль вядуць абстрэл пярэдніх шэрагаў маскавітаў. А ланцуг цяжкаўзброенай пяхоты стаіць на перадавой лініі перад павезамі і з дапамогай рагацін і шпісаў адбівае спробы праціўніка прарвацца да вядучых агонь стралкоў. У двух бліжэйшых да нас пехацінцаў у іхным латным гарнітуры можна разгледзець пласцінчатыя ахоўныя спаднічкі, якія закрываюць верхнюю частку ног ваяроў да кален. У той перыяд цяжкаўзброеная пяхота, знаходзячыся на пярэдняй лініі бою і не маючы магчымасці карыстацца шчытамі ў сілу асаблівасцяў свайго ўзбраення, для дадатковай абароны забраных у латы ног ужывала пласціністую спадніцу на аснове кальчугі. Спадніцападобнае мужчынскае адзенне тады не было дзівосным у Еўропе: звярніце ўвагу на адзенне гарматнага камандзіра на мосце ля гарматы – на ім не сукенка, гэта шырокавядомы тады гарнітур гараджаніна ў Цэнтральнай і Заходняй Еўропе. А гэтак неўпадабаныя шаноўным аўтарам гусарскія брылі-цыліндры з’яўляліся традыцыйнай часткай рыштунку гусараў-рацаў па ўсёй Цэнтральнай Еўропе – ад Сербіі да ВКЛ. Такі капялюш абавязкова меў шырокі металічны пас, часта з трымальнікам для пёраў, які ахопліваў галаву гусара па ўсяму пярыметру. У дадатак такі галаўны ўбор мог яшчэ набівацца войлакам ці воўнай, якія разам з металічным пасам служылі добрай абаронай галавы гусара ў баі, а таксама ў непагадзь, зважаючы на шырокія палі капелюшоў. У час ваенных выправаў гэта было немалаважна. Што ж да “*дарагіх турнірных даспехаў*”, то гэта – суб’ектыўнае меркаванне аўтара. Парадна-турнірны рыштунак маглі дазволіць сабе толькі магнаты не апошняга дзясятка, а звычайныя рыцары ўжывалі адзін і той жа гарнітур і на вайне, і на турнірах. Няхай апаненты назавуць хаця б пяць цвёрдых адрозненняў турнірнага рыштунку ад баявога, каб гэтую пазіцыю можна было б разглядаць усур’ёз. Так што мусім далучыцца да пазіцыі тых даследчыкаў, якія мяркуюць: практычна ўсё ў карціне сведчыць аб яе рэпартажнасці.

Калі прыняць гэтае дапушчэнне, то непазбежна паўстае такое пытанне: навошта аўтару было чакаць не менш 16 гадоў, каб потым пісаць такі працаёмкі твор? Такія экспрэсіўныя рэчы пішуцца адразу, на свежых уражаннях. Таму сёння з ладнай доляй упэўненасці можна сцвярджаць: карціна была створаная неўзабаве па бітве, у бліжэйшыя год, максімум два. Апошняя чвэрць XV–першая палова XVI ст. – якраз разгар моды ў Еўропе на стварэнне батальных карцін: тады ж была напісаная карціна бітвы з татарамі пад Вішняўцом 1512 г. (яшчэ адная знакамітая перамога князя Канстанціна Астрожскага), якую аглядаў С. Сарніцкі ў 1570-х г.[137] І калі верыць апошняму, тая самая бітва была тэмай іншых карцін – на кракаўскім цэйхгаўзе і ў вавельскай катэдры. А тэма Аршанскай бітвы натхніла Антонія з Уроцлава на напісанне батальных фрызаў у вавельскім замку ў 1536 г. Батальная тэматыка пышна квітнела ў мастацтве нямецкага рэнесансу пачатку XVI ст. У гэтым шэрагу варта назваць такія творы, як “*Бітва нюрнбергскіх мяшчанаў з войскамі Казіміра Брандэнбургскага*” пэндзля г.зв. нюрнбергскага майстра 1505 г., “*Чэшская бітва*” невядомага майстра 1508 г., “*Бітва ландскнехтаў*” г.зв. паўднёва-нямецкага майстра 1514 г., яшчэ адна карціна на тэму “*Чэшскай бітвы*”, але пэндзля Ханса Верлінгера 1518 г., карціна бітвы пад Павіа Рупрэхта Хелера 1529 г. Далей густы батальнай моды зноў хіснуліся да антычных матываў, увасобіўшы ў мастацтве нямецкага рэнесансу такія падзеі, як “*Бітва Аляксандра Македонскага*” Альбрэхта Альтдорфера, “*Бітва пад Каннамі*” Ханса Бургкмаера (абедзве 1529 г.), нарэшце “*Бітва пад Зама*” Ёрга Брэў старэйшага таксама створаная ў акрэслены перыяд. На апошнім майстры варта

[137] Sarnicius S. *Annales Poloniae…*// Historica Polonica. Lipsicae, 1711. T.II. S.1204.

спыніцца асобна: яшчэ першыя даследчыкі нашай карціны ў XIX ст. А. Шульц і Я. Каро, угледзеўшы ў карціне руку майстра нямецкай школы, узялі на сябе смеласць прыпісаць яе аўтарства Ё. Брэў старэйшаму (1480–1527 г.), а замоўцам твору яны лічылі сакратара караля Жыгімонта Казіміравіча Ёста Дэцыюша. Тут трэба патлумачыць: у бітве пад Зама рымскі палкаводзец Сцыпіён Афрыканскі разбіў славутага военачальніка Ганібала з Карфагена, а гетман князь Канстанцін Астрожскі пасля аршанскай вікторыі з лёгкай рукі храніста Б. Вапоўскага і ватыканскага легата Я. Пізоні атрымаў прыдомак Сцыпіёна Рускага. У нямецкіх даследчыкаў былі на гэта некаторыя падставы, бо і стылістычна, і нават кампазіцыйна карціна Ё. Брэў старэйшага "*Бітва пад Зама*" нечым нагадвае "*Бітву пад Воршай*". Пазней выказваліся і іншыя гіпотэзы наконт мяркуемага аўтара…

Так што, як бачна, наша карціна не была нейкай унікальнай з'явай свайго часу, як і невыпадковая яе стылістычная сувязь з мастацкім рэнесансам нямецкай выяўленчай школы.



*Іл.12. Абоз войска ВКЛ. Фрагмент карціны "Бітва пад Воршай".*

**Што за рэчка?**

Практычна ніхто з даследчыкаў не ставіў пад сумненне тое, што рака на карціне – гэта Дняпро. А калі гэта не Дняпро? А што за рэчка тады выяўлена на карціне "*Бітва пад Воршай*"? М. Валіцкі першым яшчэ ў 1961 г. прапанаваў: на карціне не Дняпро, а ягоны прыток – Крапіўна[138]. Яго пункт погляду практычна ніхто не падтрымаў. А мы мусім з ім пагадзіцца. Якія аргуманты на карысць такой трактоўкі карціны? Што ж, давайце разгледзім.

---

[138] Walicki M. *Malarstwo polske. Gotyk, renesans, wczesny manieryzm*. Warszawa, 1961. S.334. Poz.179.

У гатычным мастацтве было прынята часта на адной батальнай карціне выяўляць розныя фазы бітвы: марш войскаў да поля бітвы, саму бітву і праслед разбітага ўдзельніка бітвы. Мастацтва Рэнесансу амаль адразу адмовілася ад такога падыходу да батальнага жанру. Мы бачым практычна фатаграфічную фіксацыю аднаго моманту бітвы. Адзіная дэталь, якая пярэчыць гэткаму падыходу да карціны – гэта сам князь Канстанцін Астрожскі, які тройчы выяўлены ў розных месцах карціны. Сумнявацца ў гэтым не дазваляе яго герб "*Астрог*" на прапорцы харужага вершніка побач з ім. Да гэтага выключэння хіба можна дадаць толькі постаць ужо згаданага намі гарматмістра, залацісты гарнітур з чырвоным капялюшам каторага цяжка зблытаць; яго бачым на мосце ля вялікай бамбарды і ля крайняй верхняй пары гармат, якія прэтэндуюць называцца фельдшлангамі. Безумоўна, гэта – партрэты рэальных асобаў і яшчэ адное яскравае сведчанне таго, што аўтар карціны быў сведкам бітвы. Згаданыя асобы настолькі яго ўразілі, што мастак выявіў іх некалькі разоў. Але можна аднесці гэтыя выключэнні і да рэха адыходзячых традыцый гатычнага мастацтва. Ва ўсім астатнім – гэта фіксацыя пэўнага моманту.



*Іл.13. Верхні левы кут карціны "Бітва пад Воршай".*

Цяпер звернем увагу на правы верхні куток карціны (Іл.12). Гэта абоз войскаў Астрожскага. І не проста абоз, а г.зв. вагенбург. Вазы пастаўлены ў кола ці прамакутнік, звычайна яшчэ перавязваліся паміж сабой ланцугом. Лічыцца, што гэты ўзор палявой фартыфікацыі прыдумалі чэхі ў час Гусіцкіх войнаў. Такі ўмацаваны лагер у стане адбіваць атакі шматкроць пераважаючых сіл праціўніка нявызначана доўгі час. І гэты ўмацаваны лагер гатовы да абароны: мы бачым двух пехацінцаў-стралкоў з рушніцамі, гатовых да бою. Побач стаіць цяжкаўзброены пехацінец у поўным рыштунку з рагацінай у руках. Лагічнае пытанне: калі гэта бераг Дняпра, то навошта рыхтаваць абоз да адбіцця атакі праціўніка? Вялікая рака не дазваляла рабіць такія манеўры вокаімгненна; мы памятаем, што князь Канстанцін Астрожскі перапраўляў свае войскі праз Дняпро цэлую ноч. А раз абоз пастаўлены ў вагенбург і знаходзіцца ў баявой гатоўнасці, дык гэта тады не Дняпро. На вока шырыня ракі на карціне – каля 10–15 метраў. А такая рака ўжо не з'яўляецца сур'ёзнай перашкодай да імгненнай атакі кавалерыі праціўніка. Рэчышча некалькі абмялелай сёння Крапіўны якраз ідэальна кладзецца на выяву ракі на карціне – яно каля 10 метраў. І ў такім разе падрыхтаваны да адбіцця атакі праціўніка абоз цалкам вытлумачальны.

С. Хэрбст і М. Валіцкі мяркуюць, што карціна была абрэзана злева і зверху каля 1/5 сваёй плошчы і цалкам была каля 4 метраў шырынёй[139]. Што ж, калі яна была ў арыгінале 4 метры шырынёй, дык тады страціла яўна нашмат больш, чым 1/5 плошчы. А што, калі яна абрэзана і з правага краю? Інакш тады цяжка вытлумачыць, чаму мастак пакінуў выяву толькі маленькай часткі абозу і войска на беразе, прычым постаці некаторых ваяроў сталіся проста абрэзанымі напалову. Так мастакі не робяць, ды й кампазіцыйная цэласнасць гэтай сцэны яўна парушана. І калі б наша карціна захавалася цалкам, то напэўна мы ўбачылі б увесь абоз князя Канстанціна Астрожскага і тую частку войск, што засталася "*за кадрам*".



*Іл.14. Пераправа праз Крапіўну. Фрагмент карціны "Бітва пад Воршай".*

Цяпер звернем увагу на верхні левы кут карціны. Нават уважлівы З. Жыгульскі нічога звышасаблівага ў ім не ўгледзеў (Іл.13). Між тым там можна бачыць нейкі вадацёк – рэчку ці ручай – праз які на самым абрэзе карціны ідзе ў атаку на маскавітаў атрад гусараў. Выразна праглядаюцца іх венгерскія тарчы. Глыбіня вадацёку супастаўная з рэчкай Крапіўнай; бачна, што вада даходзіць да грудзей стаячага ў ёй маскоўскага ратніка. Што атрымліваецца: гусары Канстанцінва Астрожскага ў глыбокім тыле маскоўскіх рацяў? Ніводная наратыўная крыніца нічога падобнага не прыводзіць. І што гэта за вадацёк? Мяркуючы па шырыні яўна не Дняпро. Але ж і не Крапіўна. Яна не такая звілістая рэчка, каб рабіць падобныя петлі. Калі была б не страчана тая частка карціны, то

[139] Herbst S., Walicki M. Obraz bitwy pod Orsza. S. 57–58.

мы пэўна ўбачылі б цэлыя масы войскаў Канстанціна Астрожскага. Гэта левае крыло гетмана, якое, паводле хронік, займалі палякі ў войску ВКЛ – Свярчоўскі і Сампаліньскі. Калі гэта так, то фронт бітвы кардынальна змяшчаецца з вертыкалі карціны ў гарызанталь. Тады атрымліваецца, што мы ў асноўным бачым той самы прарыў левага крыла маскоўскага войска, справакаваны спланаваным Канстанцінам Астрожскім адступленнем правага крыла сваіх войскаў, якое якраз і займала войска літвінаў на чале з Юрыем Радзівілам. Невыпадкова мы бачым цяжкаўзброенага вершніка-харужага на пераправе праз Крапіўну з радзівілаўскім гербам "*Трубы*" на прапорцы сваёй дзіды.



*Іл.15. Параненыя ваяры ВКЛ. Фрагмент карціны "Бітва пад Воршай".*

У тым, што на карціне выява менавіта Крапіўны, няма асаблівых сумненняў. Уважліва разгледзім групу з 4 пешых ваяроў, што перасякаюць рэчку (Іл.14). Вада на сярэдзіне ракі дасягае ім толькі да паса. Праз Дняпро такія пераходы проста немагчымы. Ад Воршы да Дуброўны на Дняпры мне вядомы толькі адзін такі брод, ды і тое ён адкрываецца толькі ў сярэдзіне лета пры адсутнасці дажджоў. Рыштунак у гэтых ваяроў яўна гусарскі: венгерскія касыя тарчы, дрэўцы з прапорцамі, шаблі. Але коней няма – яны забітыя ці параненыя і іх прыйшлося пакінуць на левым беразе Крапіўны. Двое з іх узнімаюць тарчы, захінаючыся ад варожых стрэлаў, у аднаго з іх няма ў руках дрэўца. У трох астатніх на дрэўцах няма наканечнікаў – яны абламаныя ці адсечаныя ў бітве. Двое другіх страцілі баявыя нагалоўі, у аднаго на галаве светлая шапачка, якую пад капялюш апранала частка гусараў на карціне. Другі, у чырвоным даламане барадаты гусар, наогул з непакрытай галавой. Вочы ў яго заплюшчаныя, тарча закінутая за спіну, ён міжвольна згінаецца. Праўдападобна ён паранены. Няма ніякіх сумненняў: гэтыя людзі толькі што пабылі ў баі, але, захопленыя агульным рухам, разам з усімі зноў вяртаюцца ў бітву, у запале бою яўна яшчэ не ўсведамляючы сваю непрыдатнасць там без коней.

Цяпер разгледзім іншую групу ваяроў побач (Іл.15). У часткі гусараў, што ўжо практычна перасеклі рэчку, на дрэўцах таксама адсутнічаюць наканечнікі і гэта не

памылка мастака. Прыгледзімся: на крупах іхных коней нейкія чырвоныя разводы. Гэта пацёкі крыві ад даўняй звычкі рыцараў выціраць скрываўленую зброю аб круп каня – важная дэталь, якую таксама не заўважыў або не ведаў як патлумачыць З. Жыгульскі. Яны таксама ўжо пабылі ў бітве, па камандзе адступілі праз Крапіўну, падставіўшы пад залп артылерыі з фланга перасьледаваўшага іх праціўніка і цяпер па камандзе сваіх палявых камандзіраў зноў вяртаюцца ў бітву. На правым беразе стаіць група з трубамі і літаўрамі, на сігнал каторай збіраюцца гусары і латнікі. Хто годны для працягу бітвы шыхтуюцца па роду кавалерыі, хто не – збіраюцца ззаду гатовага ўжо да бою атраду цяжкай кавалерыі. Тут мы бачым і групу латнікаў, з каторых толькі ў аднаго ёсць конь. Але прыгледзімся: галава каня апушчана долу, а на нагалоўніку каня збіты налобны шып, якія маюць практычна ўсе латныя коні. Верагодна гэты конь паранены, і таму ягоны гаспадар таксама ўжо непрыдатны без каня для працягу бітвы. Ён стаіць побач і размаўляе з такімі ж бясконнымі таварышамі. Усе яны знялі шлемы, адзін прылёг на сваё сядло, а некаторыя нават скідваюць латы ці выліваюць з іх ваду не скідваючы, лёгшы на зямлю. Такі выразны эпізод “*Вялікай бітвы*”.



*Іл.16. Атрад гусараў ВКЛ. Фрагмент карціны “Бітва пад Воршай”.*

Некалькі вышэй на беразе трое бясконных гусараў, якія ўжо перайшлі Крапіўну, займаюцца тым жа – выліваюць ваду з ботаў, не здымаючы іх. Перад імі шыхтуецца атрад гусараў, які амаль гатовы ўступіць у бой (Іл.16). Давайце ўважліва разгледзім і гэтую групу ваяроў. Гэта не казакі і не вершнікі, “*служачыя па-татарску*”, як інтэрпрэтуюць гэты атрад некаторыя даследчыкі. Гэта менавіта гусары. Але тактыка бою гусарскай харугвы палягала ў тым, што за пярэднім атакуючым шэрагам з лёгкімі дзідамі – дрэўцамі – і тарчамі следаваў шэраг гусараў з лукамі, які з-за спінаў пярэдняга шэрагу вёў інтэнсіўны абстрэл праціўніка. Гэта зафіксаваў невядомы майстар у шэрагу эпізодаў сваёй

карціны, дзе прысутнічаюць атакуючыя гусарскія харугвы. У нашага атрада гусараў з дрэўцамі і тарчамі значна меншая частка, яны канцэнтруюцца ў пярэдніх шэрагах. Прычым на дрэўцах таксама збольшага адсутнічаюць наканечнікі. Ззаду засталіся "*лішнія*" стралкі-лучнікі, адзін з іх дастае свой лук з налучча. Крупы іх коней таксама ўпрыгожваюць пацёкі варожай крыві, а сярод зброі апрача традыцыйных гусарскіх шабляў венгерскага кшталту можна разгледзець заткнутыя ззаду за паясы булавы і кісцень. Хто будзе сумнявацца, што гэты атрад ужо пабыў у баі?



*Іл.17. Рака Днепр на карціне "Бітва пад Воршай".*

**Карціна "*кладзецца*" на канкрэтную мясцовасць.**

Але вернемся да рэчак. На карціне прысутнічае таксама і выява Дняпра. Ён у самым нізе карціны (Іл.17). Гэта, зразумела, толькі частка Дняпра ля яго левага берага. Але глыбіні тут у параўнанні з Крапіўнай несувымерныя: мы бачым, як тут топяцца не толькі маскавіты, але і іх коні, скінутыя туды контратакай гусарскай харугвы праціўніка. Адзін з самых трагічных эпізодаў карціны. І калі прыняць гэтае прыпушчэнне, то тады ўсё становіцца на свае месцы: бітва разгортваецца на правым беразе Крапіўны пры самым яе вусці. Пераправа праз яе для кавалерыі і нават пяхоты не вымагае асаблівых праблемаў для Канстанціна Астрожскага, але для пераправы артылерыі ён вымушаны ўзвесці пантонны мост на бочках накшталт тых двух мастоў, што напярэдадні ўзводзіліся на Дняпры. Менавіта тут у старажытнасці была пераправа праз Крапіўну дарогі паміж Воршай і Дуброўнай, бо якраз тут найменшая стромкасць схілаў берагоў Крапіўны і найменшы перапад вышынь. Можна даць веры невядомаму мастаку ў тым, што бітва пачалася ў той час, калі яшчэ не ўся артылерыя і нават пяхота паспела пераправіцца і заняць свае пазіцыі ўздоўж правага берага рэчкі. Пераправу апошняй гарматы нам і паказаў невядомы майстар у той час, калі літаральна ў пары сотні метраў ад яе атакуюць пазіцыю гармат маскоўскія войскі.

Нарэшце звернем увагу на тапаграфію карціны. Уверсе з правага боку можна адзначыць значную ўзвышанасць, сапраўдную гару, якая ўзвышаецца над прылеглай мясцовасцю і берагам рэчкі. Пад ёй пара гусараў з дрэўцамі наперавес пераследуюць некалькіх маскавітаў, якія прарваліся да берага Крапіўны ў час атакі свайго левага крыла на баявыя парадкі літвінскага войска. На гэтай парослай лесам гары можна разгледзець нейкага дробнага палявога камандзіра маскавітаў, магчыма сотніка, у атачэнні некалькіх "*дзяцей баярскіх*" ці баявых халопаў, з якімі ён праводзіць нараду – што рабіць? Гэтыя – таксама з тых, хто стаўся адрэзаным ад сваіх у час контратакі праціўніка. Але нас цікавіць сама гэтая гара. Справа ў тым, што надта падобная гара ў сапраўднасці некалі існавала на правым беразе Крапіўны ў 4 сотнях метраў ад яе вусця. Яна была скапаная аршанскімі

дарожнікамі ў 1980-я г. на падсыпку новай дарогі ад вёскі Гацькаўшчына ўздоўж Дняпра да ляснога масіву Лугаўцы. Цяпер узгадаем той невядомы таямнічы вадацёк, што мы выявілі ў левым верхнім кутку карціны. Гэта безыменны ручай, таксама, як і Крапіўна, левы прыток Дняпра. Яго рэчышча добра захавалася ў кіламетры на ўсход ад Крапіўны пад невялікім вуглом да яе. Вось цяпер усё сыходзіцца, усё паддаецца тлумачэнню і пацвярджэнню. Дзеля гэтага разгледзім адзін з планаў Аршанскай бітвы, а кантрэтна план, апублікаваны ў 1878 г. расійскім даследчыкам М. Галіцыным[140] (Іл.8). Нас цікавіць не столькі сам план, занадта ідэалістычны, са спрэчным месцам пераправы Канстанціна Астрожскага праз Дняпро, але, як падаецца, найбольш блізкі з усіх да рэальных абставінаў Аршанскай бітвы. Цікавіць тапаграфія правага берага Крапіўны і левага берага Дняпра. План складаўся на грунце мапы гэтай мясцовасці XIX ст., калі тут яшчэ не была парушаная натуральная тапаграфія. На гэтым плане выдатна праглядаецца тая самая гара на правым беразе Крапіўны перад яе вусцем. Прасочваецца рэчышча таго самага безыменнага ручая, якое пад вуглом перасякае план, дзелячы яго напалам. Калі пераставіць пазіцыю гармат на гэтым плане з берага Дняпра на пазіцыю ўздоўж правага берага Крапіўны, размяшчэнне войск пасунуць уніз, а на левым беразе пазначыць размяшчэнне ўмацаванага вазамі абозу лагера войск Канстанціна Астрожскага, то тады план М. Галіцына збольшага можна разглядаць як план пачатковай фазы Аршанскай бітвы. Што самым парадаксальным чынам цяпер пацвярджае карціна невядомага майстра нямецкай школы “*Бітва пад Воршай*”.

[140] *Русская военная история. От Иоанна III до Петра I.* СПб., 1878. Т.2. План.

**Уладзімір Кананович**
**(Менск)**

# ВОБРАЗ БІТВЫ ПАД ВОРШАЙ 1514 г. У “НАТАТКАХ ПРА МАСКОВІЮ” БАРОНА ЖЫГІМОНТА ФОН ГЕРБЕРШТАЙНА.

Адной з найкаштоўнейшых крыніц па гісторыі Аршанскай бітвы 1514 г. несумненна з’яўляюцца “*Нататкі пра Масковію*” славутага аўстрыйскага дыпламата Жыгімонта Герберштайна. Апавяданне пра адную з найбуйнейшых бітваў пачатку XVI ст. падаецца ў творы з сапраўдным эпічным размахам, вылучаецца сваёй панарамнасцю і шырынёй погляду. Аршанская баталія 1514 г. цікавіла Герберштайна перадусім як колішняга вайскоўца, як чалавека, абазнанага ў ваеннай справе. Бо перад тым, як стаць прафесійным дыпламатам, ён з 1506 па 1514 г. знаходзіўся на вайсковай службе ў Габсбургаў. Герберштайн неаднаразова ўдзельнічаў у шматлікіх бітвах і сутычках падчас службы рымскаму каралю (з 1508 г. імператару Святой Рымскай Імперыі) Максіміліяну І Габсбургу. За мужнасць, абачлівасць і разважлівасць на полі брані малады чалавек з Крайны быў удастоены прысвячэння ў рыцары самым імператарам. Ваенную службу Герберштайн закончыў у 1514 г. у якасці камандзіра шцірыйскага кавалерыйскага палка[141]. Перад гэтым малады чалавек асабліва вылучыўся у знакамітай бітве блізу Марана каля Венецыі, дзе ён дзейнічаў у якасці харужага.

## Водгукі Аршанскай бітвы і ягелонская прапаганда ў Еўропе.

У момант Аршанскай бітвы Ж. Герберштайн знаходзіўся на імператарскім двары ў Інсбруку, куды ён прыехаў па выкліку самога імператара пасля непрацяглага хатняга адпачынку. На двары ён быў прыняты надзвычай ласкава. 26 верасня 1514 г. рыцары Ганс Апфальтрар і Ганс Вольф з Эмерсхофену прысвяцілі яго ў рыцары. Пасля Герберштайн быў прыняты на імператарскую службу, для чаго Максіміліян Габсбург выдаў адмысловы ліст. Згодна імператарскай пастановы, новы прыдворны павінен быў з’яўляцца па першаму выкліку на службу, маючы з сабой як мінімум траіх коней, за што мусіў атрымліваць штогод 300 рэйнскіх залатых. Пасля прыняцця на імператарскую службу Герберштайн вярнуўся дамоў, дзе знаходзіўся да пачатку снежня. 13 снежня 1514 г., пасля вяртання на двор Максіміліяна Габсбурга ў Інсбруку, ён быў прызначаны сябрам імператарскай прыдворнай Рады (“*Hofrat*”)[142]. Так пачалася яго бліскучая прыдворная кар’ера (Іл.18).

Першыя звесткі пра Аршанскую бітву маглі дасягнуць Ж. Герберштайна ўжо ў апошняй траціне верасня 1514 г. Адразу пасля перамогі на берагах рэчкі Крапіўна польскі кароль і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Стары (1506–1548 г.) разгарнуў буйную прапагандысцкую кампанію па ўслаўленні гэтай перамогі. У яе рамках гаспадар рассылаў па Еўропе шматлікія пасольствы з паведамленнем аб уласных поспехах на маскоўскім тэатры ваенных дзеянняў[143]. У ліку іншых адпаведнае пасольства было накіравана і да імператара Святой Рымскай Імперыі Максіміліяна Габсбурга. Апроч дыпламатычнай дэпешы імператару Жыгімонт Стары паслаў да рымскага папы Лявона X і захопленых у бітве вядомых маскоўскіх дваранаў у колькасці 14 чалавек. Маршрут пасольства быў наўмысна складзены так, каб ён праходзіў праз імператарскія валоданні, з мэтай атрымаць

[141] Герберштейн С. *Записки о Московии*. В 2 т. Под ред. А. Хорошкевич. М., 2008. Т.2. С.63–64.
[142] *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein 1486–1553*.// Fontes rerum austriacarum. Vol.I. Abteilung Scriptores. Hrsg. Th. G. von Karajan. Wien, 1855. S.81–82.
[143] Падрабязней пра прапагандысцкую кампанію Жыгімонта Старога па ўслаўленні Аршанскай перамогі гл.: Граля И. *Мотивы “оршанского триумфа” в ягеллонской пропаганде*.// Проблемы отечественной истории и культуры периода феодализма. М., 1992. С.46–50.

адпаведны прапагандысцкі эфект, прадугадваючы рэакцыю самога імператара на дзеянні Ягелона. Так яно і сталася. Калі каралеўскае пасольства на чале з Мікалаем Вольскім прaязджала праз Гале ў Саксоніі, то яно было там затрымана, а маскоўскія вязні вызваленыя і пазней адасланыя дамоў праз Любек і Інфлянты. Самому Мікалаю Вольскаму было дазволена свабодна вярнуцца дамоў[144]. Але прапагандысцкі эфект быў тым не менш дасягнуты. Па-сутнасці, увесь тагачасны хрысціянскі свет даведаўся аб сапраўднай ролі, якую адыграў імператар Максіміліян Габсбург у распальванні канфлікту паміж ВКЛ і Масквой. У той час, як папа Лявон Х заклікаў усіх хрысціянаў да аб’яднання перад пагрозай асманскай навалы, Максіміліян Габсбург па-сутнасці нацкоўваў аднаго хрысціянскага ўладара супраць другога.



*Іл.18. Герб роду Герберштайнаў, 1567 г.*

Тым часам у Еўропе разгортвалася магутная прапагандысцкая кампанія Ягелонаў па ўслаўленні ўласных ваенных поспехаў і магутнасці на Ўсходзе кантынента. Па Еўропе шырока распаўсюджваліся друкаваныя творы з апісаннем Аршанскай бітвы. Гэтая праца была даручана найбольш таленавітым храністам і гісторыкам. Так, вядомы польскі гісторык Б. Вапоўскі выдаў у 1515 г. “*Panegyris seu Carmen elegiacum in victoriam Sigismundi I Regis de Moschovis*”. Аршанскай перамозе прысвяціў свой уласны твор і тагачасны польскі дыпламат Ян Дантышак (“*De clade Moschorum*”). Быў надрукаваны таксама ліст Жыгімонта Старога да рымскага папы Лявона Х, які меў назву “*Epistola ad Leonem X pontificum maximum de Victoria contra haereticos et schismaticos Moscoviensis*”. Таксама з-пад пяра папскага нунцыя Я. Пізоні выйшла “*Epistola ad Joannem Coritium de conflictu Polonorum et Lituanorum cum Moscovitis*”. Пабачылі свет і асобныя нямецкамоўныя творы, прысвечаныя Аршанскай бітве, у тым ліку і “*Die Schlacht von der Kunig von Polen und mit den Moscoviter gescheen am Tag Marie Gepurt MCCCCXIIII*“. Усе гэтыя творы амаль без выключэння малявалі грандыёзны характар бітвы, у якой удзельнічала 80000 маскавітаў і 35000 польска-літоўскага рыцарства, і разам з тым прапагандавалі выключную перамогу польскага караля над сваім праціўнікам. Гэтыя вялікія лічбы ўдзельнікаў бітвы, а таксама і колькасць загінуўшых у адной бітве людзей (з

[144] Decius J.L. *De Sigismundi Regis...* S.XCI–XCII. *Hystorja dyplomacji polskiej*. Warszawa, 1982. T.I. S.384.

аднаго толькі маскоўскага боку ад 30 да 40 тыс. ваяроў)[145] мусілі зрабіць незабыўнае ўражанне на сучаснікаў, у тым ліку і на Ж. Герберштайна, якому як імператарскаму слузе і дыпламату былі вядомыя асобныя з твораў, якія ўслаўлялі перамогу польскага караля і вялікага князя літоўскага над вялікім князем маскоўскім. Ніводная сучасная бітва, пра якую чуў або ў якой удзельнічаў сам Герберштайн, не магла параўнацца па сваіх маштабах і колькасці ваяроў, якія бралі ў ёй удзел, з Аршанскай бітвай! Безумоўна, гэтая акалічнасць толькі падагравала інтарэс імператарскага слугі да гэтай выключнай бітвы.

Герберштайн упершыню пазнаёміўся з прадстаўнікамі дынастыі Ягелонаў улетку 1515 г. у Вене, куды на кангрэс еўрапейскіх манархаў прыехалі венгерскі і чэшскі кароль Уладзіслаў, яго сын і каралевіч Людвік, а таксама польскі кароль і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Стары[146]. Думаецца, што там, у Вене, Герберштайн мог атрымаць некаторыя дэталі адносна Аршанскай бітвы з вуснай палякаў і літвінаў, якія былі ўскоснымі сведкамі бітвы[147]. Таксама імператарскі слуга мусіў назіраць і дыхтоўную дэфіляду каралеўскай гусарыі з двухкаляровымі бела-чырвонымі харугвамі, за якімі следавалі маскавіты ў блакітнай вопратцы, на высокіх абцасах і ўзброеныя лукамі[148]. У тым жа самым годзе распачалася і ўласная дыпламатычная кар’ера Герберштайна. У канцы 1515 г. ён быў накіраваны да баварскага герцага Людвіка[149].

**Размова ў Вільні з Іванам Чаляднiным.**

Але самае адказнае даручэнне імператара здарылася ў самым канцы наступнага 1516 г., калі Ж. Герберштайн атрымаў накіраванне ў Масковію. 14 снежня 1516 г. імператарскі пасол адправіўся ў шлях (Іл.19). Праз два з паловай месяцы, 4 сакавіка 1517 г., пасольства прыбыла ў Вільню[150]. Сярод шматлікіх урачыстых прыёмаў і сустрэчаў у сталіцы ВКЛ была адна, якая істотна вылучалася ад астатніх. Гэта было спатканне з маскоўскім ваеначальнікам Іванам Чаляднiным і двума яго калегамі, якія былі ўзяты ў палон 8 верасня 1514 г. у часе бітвы пад Воршай. З тэксту аўтабіяграфіі Ж. Герберштайна вынікае, што сустрэча мусіла адбыцца па яго ўласнай просьбе:

“*Am Aindlefften ist mir vergundt worden zw den obersten des moscoviters, Jan Zeladin und zwayen anndern gefanngen, die am Achten Tag Septembris im 1514 bei Orsa niedergelegen unnd geschlagen worden, zugeen*”[151].
“*Перад ад’ездам мне было дазволена наведаць маскоўскіх ваеначальнікаў, Івана Чаляднiна і двух іншых, што ў дзень 8 верасня 1514 ля Воршы былі пераможаны і разбіты*”[152].

Цяжка сказаць, ці было яму раней вядома пра знаходжанне палонных маскоўскіх ваеначальнікаў у Вільні ці пра гэта імператарскі пасол даведаўся ўжо па прыездзе ў сталіцу ВКЛ. Але хутчэй за ўсё Ж. Герберштайн не меў паўнамоцтваў сустракацца з палоннымі маскоўскімі ваеначальнікамі і тым больш весці перамовы адносна іх лёсу, у адрозненні ад палоннага князя Міхала Глінскага, наконт якога ён вёз адмысловую імператарскую грамату. Невядома таксама, колькі доўжылася размова імператарскага

---

[145] Адносна лічбаў удзельнікаў бітвы ў панегірычных творах 1514–1515 г. гл.: Лобин А. *Битва под Оршей 1514 года в современной белорусской историографии...* С.35–38.
[146] *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. P.83.
[147] Пра Венскі кангрэс 1515 г., гл.: Kuspinjan J. *Dziennik zjazdu cesarza Maxymiliana i trzech krolów: węgierskiego, czeskiego i polskiego: Władyslawa, Ludwika i Zygmunta, w mieście Wiedniu dnia 17 lipca w roku po Chrystusie 1515 odbytego.*// Zbior pamiętników do dziejow polskich. Wyd. W. S. Broel-Plater. Warszawa, 1858. T.I. S.59–93.
[148] Kuspinjan J. *Dziennik zjazdu...* S.76–77.
[149] *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. P.85.
[150] *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. P.106.
[151] *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. P.113.
[152] Тут і далей пераклад аўтара.

пасла з Чаляднiным i яго калегамi. Вядома толькi, што ў ходзе размовы ён спрабаваў толькi ўсцешыць i падбадзёрыць палонных ("*sie zutrösten unnd anzusprechen*"), матывуючы гэты свой крок тым, што едзе да iх уладара ("*weill ich zw Irem Herrn gezogen*"). Улiчваючы, аднак, прыродную цiкавасць Герберштайна, ён не мог не запытаць кагосьцi з палонных, перадусiм Чаляднiна, якога ён называе па iменi ў адрозненнi ад яго калегаў, пра змест i ход бiтвы, якая мела такi шырокi розгалас ў Еўропе. Тым больш, што ў асобе Чаляднiна iмператарскi пасол меў непасрэднага ўдзельнiка бiтвы, прамую сведку той трагiчнай падзеi. I не скарыстацца такой магчымасцю з тым, каб скласцi ўласную карцiну бiтвы, Герберштайн, канешне, не мог. Нарэшце, памiж абодвума не iснавала сур'ёзнага моўнага бар'еру, бо Герберштайн як ураджэнец аўстрыйскай Крайны добра разумеў славянскую мову, а гэта несумненна аблягчала двухбаковую камунiкацыю. Калi ж Герберштайн развiтваўся з палоннымi маскоўскiмi военачальнiкамi ён пазычыў iм 20 залатых ("*Lihe Inen zwaintzig gulden*")[153].



*Iл.19. Жыгiмонт Герберштайн вандруе ў санях па Польшчы, ВКЛ i Масковii. Гравюра 1546 г.*

Няма, на жаль, сведчанняў наконт таго, цi сустракаўся Герберштайн з Чаляднiным або кiмсьцi з iншых палонных маскоўскiх ваяводаў у часе свайго другога пасольства ў Маскву ў 1526 г. Але ў сакавiку 1529 г., калi Герберштайн у трэцi раз наведаў Вiльню, дзе ён знаходзiўся па справе антытурэцкага хаўрусу, ён, вiдавочна, не меў часу сустрэцца са сваiмi старымi знаёмымi. Увогуле, аўстрыйскi пасол, апiсваючы ў сваёй аўтабiяграфii трэцюю паездку ў Вiльню, абмяжоўваецца на гэты раз выключна звесткамi геаграфiчнага характуру, нiчога не кажучы канкрэтна пра змест перамоваў з каралём i вялiкiм князем Жыгiмонтам Старым[154]. Вiдавочна, улiчваючы абмежаваны час перамоваў, у яго не было мажлiвасцi яшчэ раз сустрэцца з палонным маскоўскiм ваяводам. Тым больш, што Чаляднiн яшчэ ў 1519 г. быў пераведзены ў троцкi замак, дзе i знаходзiўся ўключна да сваёй смерцi, якая наступiла не пазней за 1538 г. Вiдавочна, што Герберштайн не мог пабачыць Чаляднiна ў часе свайго апошняга вiзiту ў ВКЛ у 1540 г.

[153] *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. P.113.
[154] *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. S.285–287.

**Герберштайн на полі бітвы.**

Ускосна версію пра тое, што падчас сустрэчы Герберштайна і Чалядніна ў Вільні магла ўздымацца аршанская тэматыка служыць той факт, што па дарозе з Масквы ўвосень 1517 г. (з Вільні ў Маскву ўвесну 1517 г. ён ехаў другой дарогай праз Полацк і Вялікі Ноўгарад) імператарскі пасол мусіў наведаць знакамітае поле бітвы. У нямецкамоўным выданні "*Нататак пра Масковію*" 1557 г. Герберштайн пісаў:

"*Von der Dobrowna gehn der Orsa sein vier meil. Datzwischen fleusst der Pach Cropiwna und nächner gegen der Orsa ist die Schlacht gehalten…*"[155].
"*Ад Дуброўна да Воршы 4 мілі. Паміж імі цячэ ручай Крапіўна і там, бліжэй да Воршы, і адбылася бітва...*".

У сваёй аўтабіяграфіі славуты дыпламат адзначыў:

"*Darnach zoch ich Acht Meil geen Dobrowna in Litten, unnd vier geen Orsa. Die baide liegen am Nieper. Zwischen den zwayen Fleggen ist die Schlacht, wie die Moscovitter erlegt sein, am Achten tag Septembris 1514. Jar. Gehallten*"[156].
"*Адтуль (ад Смаленска – У. К.) я ехаў 8 міляў да Дуброўна ў Літве, і затым 4 мілі да Воршы. Абодва [мястэчкі] ляжаць на Дняпры. Паміж імі і адбылася бітва, на восьмы дзень верасня 1514 года, у якой маскавіты былі пераможаны*".

Такім чынам, пасольскі шлях ляжаў блізу поля бітвы. Герберштайн, думаецца, не мог не скарыстацца такой унікальнай магчымасцю і не наведаць знакамітае поле бітвы. Таксама і ў 1526 г., калі пасол ехаў у Маскву і вяртаўся адтуль, ён мог наведаць славутае поле бітвы[157].

Агляд месца бітвы, як прызнаецца сам Герберштайн, зрабіў несумненна на яго незабыўнае ўражанне. Пазней, у нямецкамоўным выданні 1557 г., у раздзеле, прысвечаным харагрaфіі (апісанню мясцовасцяў) ВКЛ, імператарскі пасол адзначаў:

"*...zwischen Orsa und Dobrowna geschach die schlact, davon hievor geschrieben ist, in wenig Jarn erwuechs solch gross holtz, das niemand glauben möchte, das da sovil platz gewest wör, sovil volkghs mit jren hauffen sich da zusammen zuthuen*"[158].
"*...паміж Воршай і Дуброўнам адбылася бітва, аб якой паведамлялася раней; праз некаторы час там вырас такі вялізны лес, што цяжка паверыць, што тут было б дастаткова месца, каб такая колькасць люду і войска магла сысціся разам*"[159].

Па-першае, як вынікае з гэтага тэксту, Герберштайн быў здзіўлены, што ўсяго праз некалькі гадоў пасля падзеі поле самой бітвы паспела зарасці лесам. Адзначым, што пасол наведаў яго напрыканцы 1517 г., г.зн. усяго тры гады пасля самой бітвы. Па-другое, ён, відаць, засумняваўся ў сапраўдных маштабах бітвы, бо знайшоў поле недастаткова вялікім, каб на ім магла размясціцца такая вялізная колькасць народу і войску, якая прыводзілася ў прапагандысцкіх творах 1514–1515 г.

Стоячы на крапівенскім полі, Герберштайн, відаць, жыва прыгадваў словы палоннага маскоўскага ваяводы Чалядніна, калі той апавядаў яму пра бітву. Асабліва

---

155 *Sigismund von Herberstein. Rerum Moscoviticarum Commentarii. Synoptische Edition der lateinischen und der Deutschen Fassung letzter Hand: Basel 1556 und Wien 1557*. Unter der Leitung von Fr. Kämpfer. München, 2007. P.464.
156 *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. S.130–131.
157 *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.503, 507.
158 *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.336.
159 Відавочна, у гэтым месцы Герберштайн сумняваецца ў праўдзівасці афіцыйных лічбаў адносна ўдзельнікаў бітвы пад Воршай.

імператарскі пасол, мабыць, быў уражаны словамі Чаляднiна, што невялікая рэчка Крапіўна, якая цякла паміж Воршай і Дуброўнам, была настолькі запоўнена трупамі, што яе можна было перайсці пешшу. Пазней, у сваёй аўтабіяграфіі, апісваючы шлях у Маскву напрыканцы зімы 1526 г., імператарскі пасол адзначаў:

"*Von der Orssa sein vier meill ubersich nach dem Wasser geen Dobrowno. Dazwischen Rindt ain Pächel, genannt Copriwna (sic!). Alls die Schlacht im 1514 Jar, daselbst unnd nahenndt bey der Orssa, zwischen des Khunigs zw Polln unnd des Moscovitter beschehen, ist der Pach mit leichen erfüllt, das der lanng nit Rinnen hat mugen, wie man sagt*"[160].
"*Ад Воршы да Дуброўна 4 мілі водным шляхам. Паміж імі цячэ ручай Крапіўна. Калі ж тут, і бліжэй да Воршы, была бітва ў 1514 годзе паміж польскім каралём і маскавітамі, то гэты ручай быў запоўнены трупамі да такой ступені, што, як кажуць, ягоная плынь запынілася*".

Заключная фраза "*wie man sagt*" ("*як кажуць*") толькі падкрэслівае, што мы маем тут найхутчэй справу з непасрэдным сведчаннем, якое магло належаць аднаму з удзельнікаў бітвы. Цікава дадаць у гэтай сувязі, што, калі Герберштайн вяртаўся назад з Масквы напрыканцы лістапада 1526 г., то менавіта ў Дуброўне імператарскі пасол атрымаў вестку пра смерць венгерскага і чэшскага караля Людвіка Ягелона, які загінуў, ратуючыся ўцёкамі, ад асманаў на полі бітвы блізу Мохача 29 жніўня 1526 г.[161] Калі пасол прыбыў у Вільню, то там ён даведаўся, што новым чэшскім каралём стаў яго ўладар, кароль Фердынанд Габсбург[162].

**Герберштайн бярэцца за пяро.**

У наступныя гады пасля другога пасольства ў Маскву Герберштайн працягваў жыва цікавіцца адносінамі паміж ВКЛ і Вялікім княствам Маскоўскім. Нягледзячы на тое, што напрацягу 1522–1549 г. адбыўся толькі адзін ваенны канфлікт Вільні і Масквы, г.зв. Старадубаўская вайна (1534–1537 г.), адносіны паміж суседзямі вызначаліся абвостранымі тэрытарыяльнымі і тытулярнымі спрэчкамі. Пачынаючы ад 1547 г. актуальнай стала праблема прызнання ў ВКЛ і Польшчы царскага тытула маскоўскага ўладара. Як адзначае сучасная расійская даследчыца Ганна Харашкевіч, перамовы паміж ВКЛ і Масквой 1549, 1551 і 1556 г., пад час якіх праблема царскага тытула маскоўскага ўладара выйшла на першы план, супалі парадаксальным чынам з чарговымі выданнямі лацінамоўных тэкстаў *"Масковіі"* Герберштайна[163]. Няўдача перамоваў 1556 г., захоп Масквой Казані (1552 г.) і Астрахані (1556 г.), рост напружанасці ў балтыйскім рэгіёне наўпрост паказвалі, што адносна мірны перыяд у стасунках паміж Масквой і ВКЛ падыходзіць да заканчэння і ў найбліжэйшы час варта чакаць эскалацыі напружанасці ў дачыненнях паміж абодвума суседзямі. Таму Герберштайну прыйшлося ізноў узяцца за пяро і рыхтаваць нямецкую рэдакцыю 1557 г., дзе ён зрабіў дапоўнены агляд гісторыі ўзаемадачыненняў Масквы і ВКЛ. Парадаксальным чынам, выхад нямецкага выдання 1557 г. адбыўся ўсяго толькі за год да пачатку актыўных ваенных дзеянняў у Прыбалтыцы. Былы аўстрыйскі пасол, канешне, не мог ведаць, калі дакладна пачнецца вайна ва Ўсходняй Еўропе, але ён не мог не адчуваць пагрозлівага подыху новай вайны.

---

160 *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. S.270.
161 *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. S.275.
162 *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. S.276.
163 Хорошкевич А. *Польско-литовско-русские отношения в "Записках о Московии" Сигизмунда Герберштейна*.// Russland, Polen und Österreich in der frühen Neuzeit. Festschrift für Walter Leitsch zum 75. Geburtstag, Wiener Archiv für die Geschichte des Slawentums und Österreich. Veröffentlichungen des Instituts für Osteuropäische Geschichte der Universität Wien. Bd. XIX. Hrsg. von Ch. Augustinowicz, A. Kappeler, M. Demeter Peyfuss, I. Schwartz, M. Wakounig. Wien-Köln-Weimar, 2003. P.59.

У гісторыі літоўска-маскоўскіх дачыненняў, якая выйшла з-пад пяра Герберштайна, пытанні ваеннай гісторыі займалі адметнае месца[164]. Асабліваую ўвагу аўтар надаваў бітвам. Так, апавядаючы пра маскоўска-літоўскую вайну 1500–1503 г., Герберштайн даволі падрабязна, наколькі гэта дазвалялі яго крыніцы, спыняецца на бітве на Ведрашы 14 ліпеня 1500 г.[165] Але ва ўяўленні аўстрыйскага пасла, які, як і многія яго сучаснікі, знаходзіўся спярша пад моцным уздзеяннем ягелонскай прапаганды, бітва пад Воршай мусіла па сваім маштабе пераўзыходзіць бітву на Ведрашы. Адсюль і такая ўвага да гэтай падзеі з боку аўстрыйскага пасла.

Нягледзячы на тое, што пасля другой місіі ў Маскву Герберштайн быў моцна заняты на дыпламатычнай службе караля Фердынанда, ён знаходзіў тым не менш час для падрыхтоўкі і напісання свайго твору, які пазней атрымае назву "*Нататкі пра Масковію*". Але гэтыя дыпламатычныя місіі мелі падвойную карысць: пасол не толькі адстойваў інтарэсы свайго ўладара, і трэба адзначыць рабіў гэта вельмі і вельмі паспяхова, але мог і збіраць неабходны матэрыял для сваёй будучай працы. У гэтым плане, паездкі ў Польшчу і ВКЛ, дзе добра ведалі Масковію, былі асабліва карыснымі. Герберштайн наведваў Польшчу у 1529, 1530, 1531, 1539, 1540, 1545 г.[166] У ВКЛ ён бываў у 1529 і 1540 г.[167]. Таксама, неаднаразова прыходзілі паслы з Польшчы да яго ўладара. З некаторымі з іх Герберштайн падтрымліваў прыязныя адносіны і нават здолеў пасябраваць. Сярод іх былі перадусім кракаўскі кашталян Крыштаф Шыдлавецкі і кракаўскі ваявода Андрэй Тэнчыньскі.

У часе шматлікіх пасольстваў у розныя краіны Еўропы і Азіі Герберштайн працягваў пісаць сваю кнігу пра Масковію. Несумненна, ён не забыўся і на бітву пад Воршай. Маючы на гэты час сведчанні маскоўскага боку цяпер яму патрэбна было выслухаць супрацьлеглы бок, бок пераможцаў, каб скласці ўрэшце поўную карціну бітвы. Таму ён так актыўна імкнуўся сустрэцца з пераможцам Івана Чалядніна, найвышэйшым гетманам ВКЛ князем Канстанцінам Астрожскім. На вялікі жаль, іх шляхі так і не перасякліся ў той час, калі Ж. Герберштайн бываў ў ВКЛ, аб чым так шкадаваў колішні імператарскі пасол[168]. Нецяжка, канешне, здагадацца, аб чым у першую чаргу ён мусіў быў запытаць Астрожскага, калі б іх сустрэча ўсё ж такі адбылася[169]. Верагодна, мы мелі б тады зусім іншае апісанне бітвы пад Воршай, чым тое, якое маем зараз у славутай кнізе.

### Незвычайныя прыгоды рыцара Пярштынскага на берагах Барысфена.

Нягледзячы на тое**,** што Герберштайну не пашчасціла сустрэцца з найвышэйшым гетманам князем Канстанцінам Астрожскім, адным з герояў бітвы пад Воршай 1514 г., аўстрыйскаму паслу ў часе паездак у Польшчу ўдалося ўсё ж такі пазнаёміцца з людзьмі,

---

[164] Хорошкевич А. *Польско-литовско-русские отношения...* P.44.
[165] *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.58–59.
[166] *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.286, 287–288, 292–293, 294–295, 316, 322–323, 324–325, 326–327, 364–365.
[167] *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.286–287, 325–326.
[168] "*Ich bin so glückhsälig nit gewest, das ich den wie oft ich der zeit Er noch gelebt, in Litten gewest bin, hette mügen sehen*", гл.: *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.339.
[169] Пра тое, што князь Канстанцін Астрожскі быў настроены прыязна да Ж. Герберштайна, сведчыць і прысланы імператарскаму паслу, калі апошні ўзімку 1517–1518 г. праязджаў праз Польшчу, татарын-слуга. Аднойчы, калі пасольская світа праязджала па Маравіі, ён папярэдзіў моцным крыкам разбойны напад на пасольства, гл.: *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.470. Відавочна, што найвышэйшы гетман ВКЛ мусіў стала знаходзіцца ў гэты час на ўсходняй мяжы ВКЛ. У "*Хронiцы Літоўскай і Жамойцкай*" гаворыцца: "*Року 1517. Иоанн, великий князь московский, волости литовские украинские, от границы своей воевал, а краль Жигмонт против ему выправил Константина Острозского, гетмана литовского, з войском литовским и руским, а Яна Свирщевского, гетмана коронного, с полским, ческим и муравским жолнерством, о которых учувши, князь великий московский, зараз уступил з войском своим, памятуючи на Оршанскую поражку. А Константин, за ним гонячи, много люду его на разных месцах збил, и всю северскую землю огнем и мечем звоевал и вернулся до Литвы с користю*", гл: *ПСРЛ.* Т.35. С.106. Мажліва, што прысланы Герберштайну татарын быў захоплены ў палон падчас адной з сутычак на памежжы.

якія ўдзельнічалі ў ваеннай кампаніі 1514 г. або прынамсі былі яе сведкамі. Сярод іх былі: Станіслаў Тэнчыньскі[170], Пётр Кміта-Жабінскі[171], Марцін Збароўскі[172]. Ад гэтых і іншых дасведчаных асобаў, што бралі ўдзел у вайне на берагах Дняпра Герберштайн мог даведацца пра многія цікавыя дэталі бітвы пад Воршай.

У прыватнасці, у сваіх "*Нататках пра Масковію*" Ж. Герберштайн згадвае незвычайнае здарэнне, што адбылося з польскім рыцарам Пярштынскім ("*Pierstinski*") незадоўга да пераправы каралеўскага войска праз Дняпро 8 верасня 1514 г. Пра гэты выпадак пасол упершыню пачуў, калі ў студзені 1518 г., вяртаючыся з першага пасольства ў Маскву і праязджаючы міма Новага Корчына ў Польшчы, ён завітаў у госці да знатнага польскага шляхціца Марціна Звароўскага (Збароўскага)[173]. Гэты Марцін быў адным з трох братоў Збароўскіх, якія выставілі асобную харугву ў бітве пад Воршай у 1514 г.[174] Падчас сяброўскай размовы за сталом Збароўскі распавёў Герберштайну між іншым і пра дзіўны выпадак, які меў месца тады, калі кароль Жыгімонт Стары вёў баявыя дзеянні каля ракі Барысфен ("*quo tempore Sigismundus rex circa Borysthenem belligeraretur*"). Размова мусіла, безумоўна, ісці пра вераснёвую кампанію 1514 г. Выпадак гэты здарыўся з польскім дваранінам Пярштынскім, які, мажліва, ваяваў у складзе харугвы Збароўскіх на Крапівенскім полі. Дык вось, калі Пярштынскі ў цяжкім баявым рыштунку да самых каленаў дый яшчэ і на кані ("*graviorem armaturam equestrem indutum, sub ipsa usque genua*") заехаў у дняпроўскую ваду дзесьці паміж Смаленскам і Дуброўнам ("*inter Smolensko et Dobrovunam*"), то яго конь раптоўна ашалеў і аднёс рыцара на сярэдзіну ракі, дзе той і быў скінуты. У нямецкамоўным выданні 1557 г., Герберштайн дадае, што Пярштынскі такім спосабам хацеў верагодна напаіць каня ("*villeicht sein Pherdt zutrencken*")[175]. Так як Пярштынскі доўга не з'яўляўся з-пад вады, то ўсе на беразе палічылі яго патанулым. Але праз нейкі час рыцар выплыў і самастойна выйшаў на бераг, на здзіўленне самога караля і яго амаль трохтысячнага войска, якое стаяла на беразе ("*subito sub aquis in ripam egressun esse, ipso rege Sigismundo et eius exercitu tribus fere hominum millibus inspectantibus*")[176].

Герберштайн прызнаваўся ў сваіх нататках, што хаця Пярштынскі і быў чалавекам вартым даверу, але яго аповяд пра ўласнае цудоўнае збаўленне на водах Дняпра выклікаў у яго пэўны недавер. Але калі таго ж вечара ён у суправаджэнні Збароўскага, будучы запрошанымі на пір, які ў Новым Корчыне арганізаваў кракаўскі кашталян Крыштаф Шыдлавецкі, не ўстрымаўся і згадаў пра дзіўны выпадак, які адбыўся з Пярштынскім, то шматлікія госці і сам Пярштынскі, які быў там у ліку запрошаных, пацвердзілі рэальнасць усяго таго, што адбылося з гэтым польскім шляхціцам на дняпроўскіх водах пад час кампаніі 1514 г. Больш таго, сам Пярштынскі дадаў некалькі новых невядомых дагэтуль Герберштайну дэталяў пра сваё уласнае цудоўнае збавенне. У прыватнасці, ён паведаміў, што, будучы скінутым з каня, ён тройчы усплываў ("*dixit autem, quod equo excessus ter se extulerit supra aquas*"), але ніхто не прыйшоў яму на помач. Тады Пярштынскі, пасля таго як ён ізноў пагрузіўся пад ваду і дасягнуў дна, расплюшчыў вочы і пайшоў наўпрост па дну (?) у накірунку берага, падняўшы пры гэтым руку ўгору, як бы заклікаючы на дапамогу ("*itaque se oculos aperuisse, atque ita sublata altera manu esse progressum, ceu signo dato, ut ei subveniretur*")[177]. Зноў жа ў нямецкамоўным выданні 1557 г. Герберштайн

---

[170] *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. S.302.
[171] *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. S.327.
[172] *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. S.288.
[173] У аўтабіяграфіі Герберштайн згадвае Звораў (Збораў), які знаходзіўся паблізу Новага Корчына: "*Ain meill Enhalb der Newstat ist ain Sytz Schworow, davon die Edleuth haissen Sworowskhy*", гл.: *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. S.288.
[174] Лобин А. *К вопросу о составе и численности польско-литовской армии в битве под Оршей 1514 года.*// www. reenactor.ru/ARH/PDF/Lobin_06.pdf. С.12.
[175] *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.463.
[176] *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.467.
[177] *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.468.

дадае цікавыя падрабязнасці цудоўнага выратавання Пярштынскага. У асабістай размове (“*der mir gesagt*”) Пярштынскі сказаў Герберштайну, што ён тройчы захлынаўся (?), так што ён знік з поля зроку і яго палічылі за тапельца, але ён па дне здолеў усё ж такі выбрацца на бераг (“*der hat sich dreymal ubergeben, dan nimer gesehen worden unnd für todten geacht, der ist undter dem wasser zu dem gestatt khomen*”)[178]. Пры гэтым, удакладняе Герберштайн у сваёй аўтабіяграфіі, Пярштынскі здолеў разперазаць панцыр, а затым зняць з галавы і адкінуць шлем (“*Sein Pratspiss abgegürt, sich damit gegen dem wasser gesteurt, unnd sein haubtharnasch oder Schallern auffgegürt, von sich geworffen*”)[179], што дазволіла яму паспяхова дабрацца да берага. Пасол таксама прыводзіць словы, якія польскі рыцар сказаў яму на вячэры ў пана Шыдлавецкага:

“*Die Stiffl foll mit wasser warn Ime die beschwäristen*”[180].
“*Найбольш мяне абцяжарвалі шчіблеты, якія былі поўныя вады*”.

Пакінем на сумленні Пярштынскага і яго сяброў верагоднасць і праўдзівасць гэтай гісторыі. Важней канстатаваць, што аршанская кампанія 1514 г. усяго праз некалькі год пасля завяршэння спарадзіла мноства неверагодных паданняў і гісторый. Аповяд пра цудоўнае збаўленне рыцара Пярштынскага на водах Барысфену – адзін з прыкладаў падобных гісторый, якія, мажліва, узніклі на самым полі бітвы або неўзабаве пасля яе. Дарэчы, у тым жа 1518 г., калі Полацк быў абкладзены вялізным маскоўскім войскам, сярод абаронцаў горада, якімі кіраваў ваявода Альбрыхт Марцінавіч Гаштольд, нарадзілася паданне пра цудоўнае вызваленне горада пры пасярэдніцтве памерлага каралевіча Казіміра, які ўказаў гаспадарскаму войску броды на Дзвіне[181].

Самае галоўнае, што пра пераправу праз Дняпро ранкам 8 верасня 1514 г. Герберштайн мог пачуць ад непасрэдных удзельнікаў кампаніі, якіх ён мусіў сустрэць не толькі на вячэры ў Крыштафа Шыдлавецкага. Яны і павінны былі расказаць аўстрыйскаму паслу пра тое, як і ў якіх умовах мусіла адбывацца пераправа. Як, дарэчы, і пра прыблізную колькасць каралеўскага войска ў Аршанскай бітве. Канешне, тры тысячы вояроў Жыгімонта Старога, якія на беразе назіралі за тым, як Пярштынскі ўласнаручна змагаецца за жыццё, гэта, безумоўна, не ўсё каралеўскае войска, але толькі адная яго частка. Але і лічба 35000 гаспадарскага войска, як гаварылася вышэй, выклікала сумненні ў назіральнага і развážлівага Герберштайна. Ісціна магла быць дзесьці пасярэдзіне[182].

## Нараджэнне гісторыі бітвы.

Даследчыца творчасці і дзейнасці Герберштайна Крысціна Хараўэр мяркуе, што асноўная частка “*Масковіі*” грунтавалася на пісьмовай пасольскай справаздачы, якая была завершана неўзабаве пасля другога візіту імператарскага пасла ў Маскву, найхутчэй у 1528 г.[183] Думаецца, што першы раздзел кнігі быў у асноўным гатовы яшчэ да смерці Васіля III у 1533 г. На гэтую думку наводзіць, у прыватнасці, той факт, што ў лацінамоўным выданні 1549 г. ужыты выраз “*hic vero Basilius Ioannis*” (“*цяперашні Васіль Іванавіч*”)[184], што магло мець месца яшчэ пры жывым маскоўскім уладары. Аднак праца над раздзелам працягвалася і далей. Фрагмент тэксту пра акалічнасці смерці князя Міхала Львовіча Глінскага на маскоўскім двары быў унесены ўжо пасля смерці вялікага князя

[178] *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.463.
[179] *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. S.287–288.
[180] *Selbst-Biographie Siegmunds Freiherr zu Herberstein*. S.288.
[181] Pociecha W. *Gasztold Olbracht*.// PSB. Kraków, 1948–1958. T.VII. S.302.
[182] Лобин А. *К вопросу о составе и численности польско-литовской армии...* С.21.
[183] Harrauer Ch. *Die zeitgenössischen lateinischen Drucke der Moscovia Herbersteins und ihre Entstehungsgeschichte (Ein Beitrag zur Editionstechnik im 16. Jh.)*.// Humanistica Lovaniensia. Journal of Neo-Latin Studies. 1982. Vol.XXXI. S.144–145.
[184] *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.74.

Васіля Іванавіча, недзе паміж 1534 і 1537 г. Так што, да 1537 г. першы раздзел “*Нататак пра Масковію*”, як дарэчы і сам тэкст кнігі, мусіў быў быць ужо падрыхтаваны аўтарам[185]. Прайшло ўсяго 10 гадоў пасля апошняга пасольства Герберштайна ў Маскву і апошняга наведання поля бітвы паміж Дуброўнам і Воршай! Таксама прайшло ўжо 20 гадоў пасля размовы Герберштайна з Чаляднінам у Вільні. Думаецца, што ўражанні ад сустрэчы з палонным маскоўскім ваеначальнікам, змест размовы з апошнім, як і наведванне слыннага аршанскага поля не паспелі яшчэ сцерціся з памяці колішняга дыпламата, які да таго ж мусіў мець выдатную памяць[186].

Важна аднак мець на ўвазе, што паміж першым выданнем “*Масковіі*” ў 1549 г. (на лацінскай мове) і падарожжамі Герберштайна ў Маскву прайшло звыш дваццаці гадоў[187]. У выпадку ж аўтарскага нямецкамоўнага выдання 1557 г. гэты інтэрвал складаў роўна трыццаць гадоў! Ад часу ж Аршанскай бітвы мусіла мінуць найменш 35 гадоў (як у выпадку з лацінамоўным выданнем 1549 г.) або нават 43 гады, калі мець на ўвазе нямецкамоўнае выданне 1557 г. Тым не менш, Аршанская бітва 1514 г. усё яшчэ адносілася да падзей блізкага мінулага[188], тых гістарычных падзей, якія маглі быць яшчэ аднаўленыя на падставе прамых сведчанняў, абапіраючыся ў тым ліку і на аповяды іх непасрэдных удзельнікаў. Несумненна і тое, што на мяжы 40–50-х г. XVI ст. яшчэ мусілі жыць людзі, якія добра памяталі пра тое, што адбылося ў другой дэкадзе стагоддзя. Разам з тым, прыблізная лічба ў 40 год становіць пэўны крытычны парог, за якім удзельнікі і сведкі ранейшых падзей пакідаюць актыўнае прафесійнае жыццё і ўступаюць ў той век, у якім яны часта аддаюцца ўспамінам і ў іх з’уляецца жаданне перадаць нашчадкам усё тое, чаму яны былі сведкамі[189].

У 1549 г., калі выйшла ў свет першая лацінамоўнае выданне “*Масковіі*” Герберштайна, аўтару пераваліла ўжо за шасцьдзесят. У 1553 г. ён выйшаў за заслужаны адпачынак пасля доўгай і цяжкай дыпламатычнай службы, цягам якой здзейсніў 69 пасольстваў у розныя краіны, уключна з Асманскай імперыяй. На той час яму было ўжо 67 гадоў. Менавіта ў гэты час, калі ён спыніў актыўную дзейнасць, Герберштайн актывізуе выдавецкую дзейнасць і рыхтуе новыя рэдакцыі сваіх “*Нататак*”. Так паступова з’яўляюцца лацінамоўнае базельскае выданне 1556 г. і нямецкамоўнае венскае 1557 г. Апавядаючы пра колішнія падзеі, Герберштайн нярэдка абапіраецца ў тым ліку і на непасрэдных сведкаў тых падзей.

Гэтыя вусныя сведчанні як маскоўскіх ваяводаў, так і польскіх рыцараў, удзельнікаў кампаніі 1514 г., а таксама ўласныя аўтарскія назіранні і асобныя сучасныя прапагандысцкія творы, прысвечаныя бітве, думаецца, і ляглі ў аснову аповяду пра Аршанскую бітву ў “*Нататках*” Герберштайна. У аповядзе пра Аршанскую бітву, як, дарэчы, і паўсюль у сваім творы, аўтар следуе галоўнаму прынцыпу гуманістычнага гісторыяпісання, а менавіта **аб’ектыўнасці**, якая можа быць дасягнутая толькі шляхам адмовы ад уласнай заангажаванасці і праз апору на крытычны выбар крыніцаў. Што да крыніцаў, то іх даставернасць ляжыць на “*трох кітах*”, а менавіта на прачытаным (*lecta*), на пачутым (*audita*) і на пабачаным (*visa*)[190].

---

[185] Harrauer Ch. *Die zeitgenössischen lateinischen Drucke der Moscovia Herbersteins...* S.146.

[186] Пра якасці Жыгімонта Герберштайна як чалавека і дыпламата, гл.: Picard B. *Das Gesandtschaftswesen Ostmitteleuropas in der frühen Neuzeit. Beiträge zur Geschichte der Diplomatie in der erstem Hälfte des sechzehnten Jahrhunderts nach den Aufzeichnungen des Freiherrn Sigmund von Herberstein, in Wiener Archiv für Geschichte des Slawentums und Osteuropas*. Graz-Wien-Köln, 1967. Bd.6. P.26–29.

[187] Harrauer Ch. *Die zeitgenössischen lateinischen Drucke der Moscovia Herbersteins...* S.142.

[188] Пра тэрмін “*блізкае мінулае*”, як і “*далёкае мінулае*”, гл. падрабязней: Гене Б. *История и историческая культура средневекового Запада*. Пер. с франц. Е. Баевской и Э. Береговской. М., 2002. С.92–99.

[189] Пра крытычную лічбу ў 40 год у заходняй мемарыяльнай традыцыі гл. падрабязней: Assmann J. *Das kulturelle Gedächtnis. Schrift, Erinnerung und politische Identität in frühen Hochkulturen, 4. Auflage*. München, 2002. S.50–51.

[190] Harrauer Ch. *Sigmund von Herberstein als Humanist (Mit der Erstpublikation eines Briefes aus dem Jahr 1535 über die neuen astronomischen Erkenntnisse des Nicolaus Copernicus).//* 450 Jahre Sigmunds von Herbersteins

Герберштайн падае апісанне Аршанскай бітвы ў першым раздзеле “*Масковіі*”, у якім ён разглядае гісторыю Русі ад самых пачаткаў і да праўлення вялікага князя маскоўскага Васіля III (1505–1533 г.). Разнастайныя чыны гэтага маскоўскага ўладара займаюць асаблівае месца ў раздзеле[191]. Завяршаецца раздзел характарыстыкай ваенных акцый Васіля III, як на ўсходзе супраць татараў, у першую чаргу казанскіх, так і на захадзе, супраць ВКЛ. Апісанне Аршанскай бітвы 1514 г. падаецца ў кантэксце працяглага змагання маскоўскага кіраўніцтва за Смаленск, у барацьбе за які выключную ролю адыграў князь Міхал Львовіч Глінскі, колішні фаварыт вялікага князя літоўскага Аляксандра Казіміравіча, а пазней, пасля няўдалага паўстання супраць новага гаспадара Жыгімонта Старога і ўцёкаў у Масковію, уплывовага дарадцы вялікага князя маскоўскага Васіля III. Самое апісанне Аршанскай бітвы ў “*Нататках пра Масковію*” неразрыўна звязана з апісаннем гісторыі барацьбы за Смаленск, якую вёў Васіль III, абапіраючыся перадусім на ваенныя здольнасці і дыпламатычны талент Глінскага.

**Складовыя элементы вобразу бітвы пад Воршай у Герберштайна.**

Герберштайн пачынае аповяд пра бітву пад Воршай адразу пасля завяршэння апісання захопу Смаленска маскоўскім войскам. Аўтар паведамляе, што адразу пасля страты Смаленска, кароль і вялікі князь Жыгімонт Стары прыбыў у Барысаў, адкуль і накіраваў уласнае войска на чале з найвышэйшым гетманам ВКЛ Канстанцінам Астрожскім ў бок Воршы. Герберштайн далей паведамляе, што на супрацьлеглым беразе яго ўжо чакала вялізнае маскоўскае войска, якое налічвала прыблізна 80000 чалавек, у той час як колькасць каралеўскага не пераўзыходзіла 35000. Звесткі пра маршрут польскага караля, а таксама колькасныя суадносіны маскоўскага і літоўскага войскаў, былі несумненна запазычаныя Герберштайнам са шматлікіх прапагандысцкіх твораў, якія шырока цыркулявалі ў той час у Еўропе і ў якіх прыводзілася менавіта вышэйзгаданыя лічбы воінаў.

Але ўсё ж у апавяданні пра бітву пад Воршай найбольшую цікавасць выклікаюць асобныя дэталі, што адносіліся да пераправы гаспадарскага войска праз Дняпро. У прыватнасці, паведамляецца, што конніца пераправілася на супрацьлеглы бок ракі праз вузкі брод, а пяхота перайшла па плывучым мосце, пакрытаму тынам. Пра гэты спосаб пераправы гаспадарскага войска Герберштайн мог даведацца не толькі ад палонных маскоўскіх ваяводаў, старожа якіх мела мажлівасць назіраць за пераходам войска праціўніка праз Дняпро, але і ад асобных польскіх рыцараў, такіх як Пярштынскі, якія бралі ўдзел у кампаніі 1514 г.

Асаблівую цікавасць у апавяданні пра Аршанскую бітву выклікае размова, якая мела месца ў стане маскавітаў неўзабаве пасля пераправы гаспадарскага войска. У той час, як адныя маскоўскія военачальнікі раілі як найхутчэй ударыць па варожаму войску, якое толькі што пераправілася праз Дняпро, каб ушчэнт разбіць яго, ваявода Іван Андрэевіч Чаляднін прапанаваў пачакаць, пакуль не пераправяцца астатнія варожыя аддзелы, і толькі затым атакаваць праціўніка. Пры гэтым, Чаляднін выказваў упэўненасць, што яго войска настолькі вялікае і моцнае, што магло б без цяжкасці не толькі разбіць ворага, але і заваяваць ледзь не ўсё ВКЛ. Сцэна дыскусіі ў маскоўскім стане з’яўляецца, безумоўна, элементам літаратурнай рыторыкі. Адказ ваяводы Івана Чалядніна сваім калегам дадае драматызму і ўнутранай напружанасці ў апавяданне. Тым не менш, гэтая сцэна спрэчак паміж маскоўскімі ваеначальнікамі мела, несумненна, пад сабой рэальны грунт і

Rerum Moscoviticarum Commentarii 1549–1999. Jubiläumsvorträge, hrsg. von F. Kämpfer und R. Frötschner. Wiesbaden, 2002. S.14–15.

[191] Harrauer Ch. *Beobachtungen zu Darstellungsweise und Wahrheitsanspruch in der “Moscovia” Herbersteins.*// Landesbeschreibungen Mitteleuropas vom 15. bis 17. Jahrhunderts. Vorträge der 2. internationalen Tagung des “Slawenkomitees” im Herder-Institut Marburg a.d. Lahn 10–13. November 1980, hrsg. von Hans-Bernd Harder (=Schriften des Komitees der Bundesrepublik Deutschland zur Förderung der Slawischen Studien, hrsg. von Hans Rothe). Böhlau-Verlag Köln-Wien, 1983. S.193–194.

адлюстроўвала іх тактычныя разыходжанні напярэдадні бітвы. Пазней, ужо пад час самой бітвы, гэтыя тактычныя разыходжанні і асабістыя канфлікты маскоўскіх ваяводаў, мелі катастрафічныя наступствы для ўсяго маскоўскага войска. Звесткі пра спрэчкі ў маскоўскім стане Герберштайн мог атрымаць ад Івана Андрэевіча Чалядніна. Застаецца аднак пытанне, ці размаўляў імператарскі пасол з другім палонным маскоўскім ваяводам, Міхалам Булгакавым-Голіцам, а калі размаўляў, то якую інфармацыю ён мог атрымаць ад гэтага маскоўскага ваеначальніка. Так як Герберштайн нідзе не згадвае ў тэксце Булгакава па імені, то можна меркаваць на гэтай падставе, што паміж імі, калі і адбылася гаворка, то вельмі кароткая і, мяркуецца, не вельмі прыязная. У адрозненні ад размовы Герберштайна з Чалядніным, з якім імператарскі пасол здолеў, відавочна, знайсці агульную мову і на ўспамінах якога пабудаваў уласны тэкст пра бітву пад Воршай.

Звесткі ў тэксце пра асаблівасці размяшчэння баявых шыхтоў маскавітаў і літвінаў перад пачаткам бітвы Герберштайн мусіў атрымаць ад таго ж Чалядніна. Як, дарэчы, і пра саму ходу бітвы. Уяўляецца цікавай згадка пра выкарыстанне разнастайных музычных інструментаў у маскоўскім войску дзеля ўздыму баявога духу перад наступам ("*so liessen die Moscoviter aufblasen, und griffen die Littischen an*"). Гэтая інфармацыя Герберштайна пацвярджаецца некаторымі іншымі сучаснымі крыніцамі. Так, "*Хроніка Літоўская і Жамойцкая*" згадвае:

"*…а москва в трубы и бубны свои ударили, прапорцы и корогви свои бучне роспустивши, скочили на литву обсес*"[192].

Гукі маскоўскіх трубаў Герберштайн мог чуць на кангрэсе трох імператараў у Вене ў ліпені 1515 г., падчас урачыстай вайсковай дэфіляды ў аўстрыйскай сталіцы[193].

Не згадваецца ў тэксце пра канфлікт паміж Чалядніным і Булгакавым, які меў месца як перад самой бітвай, так і пад час яе[194]. Відавочна, Іван Чаляднін, на аповесці якога пабудаваў свой тэкст Герберштайн, палічыў за лепшае ў размове з імператарскім паслом не згадваць гэты момант бітвы, які ў адмоўным святле мог паказаць яго асобу. А з Булгакавым Герберштайн, як падаецца, не меў мажлівасці як след пагутарыць. Але, здаецца, Герберштайн, калі знаходзіўся ў Маскве, не мог не чуць пра разнагалоссі і канфлікт паміж маскоўскімі ваяводамі. Калі гэта так і было, то застаюцца не зусім зразумелыя матывы Герберштайна "*прыхарошыць*" паводзіны маскоўскіх ваяводаў на Крапівенскім полі. Мажліва, Герберштайн, які меў звычку правяраць і пераправяраць любую інфармацыю, якую ён атрымліваў, палічыў звесткі пра нязгоду маскоўскіх ваяводаў у ходе бітвы, недастаткова праверанай і надзейнай. Найхутчэй аднак, аўстрыйскі пасол проста не хацеў дыскрэдытаваць перад сучаснікамі і нашчадкамі Івана Андрэевіча Чалядніна, з якім у яго ўсталяваліся даверлівыя і прыязныя адносіны.

Вартым увагі з'яўляецца паведамленне Герберштайна пра наўмыснае адступленне літоўскага войска, з мэтай заманіць праціўніка ў пастку. Пра тактычныя хітрасці літвінаў падчас бітвы Герберштайн мог даведацца ад таго ж Чалядніна і, не выключана, некаторых іншых маскоўскіх палонных або нават удзельнікаў бітвы, якія здолелі ўцячы з поля бою. Цікава, што абсалютная большасць тагачасных крыніц, у тым ліку і вышэйзгаданая "*Хроніка Літоўская і Жамойцкая*", нічога не паведамляюць пра наўмыснае адступленне літвінаў.

Герберштайн падкрэслівае выключную ролю артылерыі ў разгроме маскоўскага войска. У прыватнасці, ён згадвае трапныя стрэлы літоўскіх артылерыстаў ў апошнія шыхты маскоўскага войска, якое насядала на літвінаў, што пасеяла паніку ў іх шэрагах і ў рэшце рэшт змусіла іх да адступлення, тым самым вырашыўшы зыход бітвы. "*Хроніка Літоўская і Жамойцкая*" згадвае толькі пераправу артылерыі праз Дняпро, але нічога не

[192] *ПСРЛ*. М., 1975. Т.32. С.105.
[193] Kuspinjan J. *Dziennik zjazdu*... S.80.
[194] *ПСРЛ*. Л., 1982. Т.37. С.53–54, 101.

паведамляе пра рашаючую ролю артылерыі ў самой бітве[195]. Пра дакладныя стрэлы літоўскіх артылерыстаў Герберштайн мог пачуць ад Чалядніна альбо ад маскоўскіх палонных, якія зведалі на сабе ўсю моц артылерыйскіх залпаў праціўніка.

Герберштайн пабудаваў уласны тэкст пра Аршанскую бітву не толькі на падставе вусных паведамленняў, сярод якіх звесткі, атрыманыя ад Івана Андрэевіча Чалядніна, маюць першаснае значэнне. Але ён абапіраўся таксама і на ўласныя назіранні. Назіральнасць і ўважлівасць лічыліся аднымі з галоўных рысаў асобы Герберштайна. Дакладнасць пасла праяўляецца асабліва тады, калі гаворка ў тэксце ідзе пра адлегласці паміж рознымі населенымі пунктамі і мясцовасцямі, якія знаходзіліся паблізу поля бітвы. Так, ён адзначае, што Ворша знаходзіцца на адлегласці 24 нямецкіх міляў ад Смаленска, а ад Воршы да Дуброўны – 4 мілі. Гэтыя вымярэнні, несумненна, былі зробленыя самым паслом і яго калегамі ў часе аднаго з падарожжаў у Масковію.

Не засталіся па-за ўвагай Герберштайна і адметнасці мясцовага ландшафта. Складанасць пераправы праз Дняпро Герберштайн меў мажлівасць ацаніць неаднойчы самастойна ў час пасольстваў у Масковію. Пад час вяртання дамоў у лістападзе 1517 г. у Герберштайна была цудоўная мажлівасць азнаёміцца з полем колішняй бітвы. Пасля таго, як пасол пакінуў Смаленск і перасёк мяжу, першым населенным пунктам на літоўскім баку, дзе ён спыніўся, была Дуброўна. У Дуброўне Герберштайн пражываў у адмысловай гасцініцы, маючы дастатковае харчаванне (“*die noturrft der Speiss war genueg verhanden, aber die Herberg war Lithisch*”)[196]. Дарэчы, як згадвае сам Герберштайн, ноччу ў дубровенскай гасцініцы здарыўся непрыемны выпадак. Імператарскі пасол вёз з сабой з Масквы некалькі жывых вавёрак і гарнастая, клетку з якімі ён паклаў на ноч пад уласны ложак. Але ноччу гарнастай загрыз трох вавёрак, пра што з расчараваннем распавядаў аўтар у сваіх “*Нататках пра Масковію*”[197]. Нарэшце, усякі раз, як Герберштайн праязджаў або спыняўся ў Дуброўне, ён мусіў згадваць дзіўны выпадак з польскім рыцарам Пярштынскім, пра які яму апавядалі многія людзі ў Польшчы[198].

Думаецца, што пад час побыту ў Дуброўне ў аўстрыйскага пасла было дастаткова часу, каб на ўласныя вочы пабачыць поле бітвы. Сам аповяд пра бітву, які Герберштайн прыводзіць у “*Нататках пра Масковію*”, дазваляе зрабіць выснову, што поле бітвы было яму знаёма. Так, аўтар асабліва падкрэслівае, што невялікая рэчка-ручай (“*Bach, pach*”) мае вельмі высокія і крутыя берагі, што прывяло да вялікіх стратаў сярод адступаўшых па яе берагах маскавітаў. Згадка ж ў тэксце, што ў рэчцы патанула столькі народу, што запаволілася яе плынь, мажліва, трэба лічыць элементам літаратурнай гіпербалізацыі, з мэтай падкрэсліць значнасць бітвы і панесеныя вялізныя страты сярод яе ўдзельнікаў. Нягледзячы, аднак, на ўнушальную перамогу каралеўскага войска ў бітве пад Воршай, а таксама вяртанне трох крэпасцяў блізу Смаленска, падсумоўвае Герберштайн ў сваім аповядзе, Жыгімонт Стары не дасягнуў жаданых вынікаў у кампанія 1514 г.:

“*Also hat der Khuonig ausserhalb der Schlacht und dreyer bevestigungen, so jenthalb Smolensco gelegen, mit dem Feldzug nichts verricht*”[199].
“*Такім чынам, кароль, акрамя [выйгранай] бітвы і [адваёвы] трох крэпасцей, што знаходзяцца па гэты бок ад Смаленска, нічога не дасягнуў у выніку кампаніі*”.

Трохі інакш піша пра бітву Герберштайн у лацінамоўным выданні 1556 г.:

“*Ex ea Victoria, praeter recuperate citra Smolenczko tria castra, Rex nihil reportaverat*”[200].

---

[195] *ПСРЛ*. Т.32. С.105.
[196] *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.463.
[197] *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.464.
[198] *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.463.
[199] *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.68.
[200] *Rerum Moscoviticarum Commentarii*. P.68.

“*Гэтая перамога, калі не лічыць адваёву трох замкаў па гэты бок Смаленска, нічога не прынесла каралю*”.

Ва ўсялякім выпадку, нягледзячы на тэкставыя адрозненні ў абодвух рэдакцыях, Герберштайн разумеў, што гэтая несумненная бліскучая перамога літоўска-польскай зброі на беразе Дняпра, не дала каралю Жыгімонту Старому тактычнай або стратэгічнай перавагі ў працяглай і цяжкай вайне з Масквой. Больш таго, як сведчыць аўтар, ініцыятыва па-ранейшаму належала маскавітам. Не выпадкова, Герберштайн адразу за апісаннем кампаніі 1514 г. пераходзіць да ваеннай кампаніі 1518 г., калі вялікае маскоўскае войска ажыццявіла спусташальны рэйд углыб ВКЛ. Нічога таксама не гаворыць аўтар і пра вялікую колькасць маскоўскіх палонных, захопленых у бітве, маўчыць ён і пра трыумфальны ўваход князя Канстанціна Астрожскага ў Вільню. У адрозненні ад польска-літоўскіх аўтараў, якія з пафасам і натхненнем сведчылі пра бітву, і для якіх Ворша стала з цягам часу прадметам вайсковай славы і саслоўнага гонару, Герберштайн апавядае пра гэтую важную падзею разважліва, безэмацыйна і нейтральна, не спрабуючы стаць на пазіцыю аднаго з двух варагуючых бакоў. Гэта быў погляд не проста іншаземца, немца перадусім, але і аратара габсбургскага *raison d’etre*. Нарэшце, гэта была пазіцыя гуманістычна адукаванага еўрапейца, для якога пазнанне прычынаў (causae) гістарычных падзей і з’яваў было важней за ўсё.

Трэба адзначыць, што “*Масковія*” Герберштайна наогул і апісанне бітвы пад Воршай у прыватнасці не адразу былі прыняты належным чынам у шляхецкім грамадстве ВКЛ і Польшчы. Рэцэпцыя “*Маскові*і” адбывалася надзвычай марудна з-за палітычных матываў[201]. Становішча пачало мяняцца толькі тады, калі выбухла Інфлянцкая вайна. Да росту папулярнасці “*Масковіі*” спрычыніліся між іншым і новыя рэдакцыі твора з іх выразным антымаскоўскім зместам. “*Масковія*” Герберштайна стала сапраўднай крыніцай для многіх тагачасных аўтараў. М. Стрыйкоўскі ў сваёй знакамітай “*Хронікі*”, калі апавядае пра Аршанскую баталію 1514 г., прыводзіць гутарку маскоўскага ваяводы Чаляднiна з іншымі маскоўскімі военачальнікамі пасля пераправы часткі каралеўскіх аддзелаў праз Дняпро[202]. Пра гэты эпізод перад пачаткам бітвы паведамляе і італьянскі летапісец Аляксандр Гваньіні[203]. З іншага боку, многія тагачасныя хронікі і летапісы ВКЛ, такія як, напрыклад, “*Хроніка Літоўская і Жамойцкая*”[204], прытрымліваюцца традыцыйна прапагандысцка-панегірычнага кірунку ў асвятленні бітвы пад Воршай 1514 г., цалкам ігнаруючы або нават не ведаючы пра Герберштайна і асобных аўтараў, якія знаходзіліся пад уплывам знакамітага аўстрыйскага пісьменніка.

**Тэкст:**

Hic victoriae elatus Basilius, exercitum sum continuo in Lithvuaniam progredi iubet: ipse vero in Smolenczko manet. Dein cum aliquot propinquiora catra et oppida deditione capta essent, tum primum Sigismundus rex Poloniae obsessis in Smolenczko, coacto exercitu auxilium, sed tardius, misit. Mox occupato Smolenczko, ubi Lithvuaniam versus Mosci exercitum ire animadvertit, ipse Borisovu iuxta fluvium beresina situm, advolat, atque inde exercitum suum Constantino Ostroskii duce dimittit. Qui cum attigisset Borysthenem, circa Orsam oppidum, quod a Smolenczko XXIIII miliaribus Germanicis distat, aderat tum iam exercitus Mosci circiter

---

201 Grala H. *Die Rezeption der “Rerum Moscoviticarum Commentarii” des Sigismund von Herberstein in Polen-Litauen in der 2. Hälfte des 16.*// Jahrhunderts, 450 Jahre Sigmunds von Herbersteins Rerum Moscoviticarum Commentarii 1549–1999. Jubiläumsvorträge, hrsg. von F. Kämpfer und R. Frötschner. Wiesbaden, 2002. S.317–326.
202 Stryjkowski M. *Kronika polska.* S.379.
203 Gwagnin A. *Kronika Sarmacjej Europskiej, w której się zamyka królestwo polskie ze wszystkimi państwy, xięstwy i prowincjami swemi: tudzież też Wielkie Xięstwo Litewskie, Ruskie, Żmudskie, Inflanckie, Moskiewskie, i część Tatarów*. Kraków, 1611. S.104.
204 *ПСРЛ*. Т.32. С.105–106.

octoginta millia : Lithvuanicus autem non excedebat trigintaQuinque milia hominum, adiunctis tamen aliquot bellicis tormentis : Constantinus mense Septembri die 8. anni 1514, strato ponte, peditem ultra Borysthenem, iuxta Orsam oppidum, transfert : equitatus autem angustum vadum sub ipso castro Orsae superat. Mox ubi dimidia pars exercitus Borysthenem transisset, nunciatur

Ioanni Andreae Czeladin, cui summa rerum a Mosco erat commissa, ut hanc exrcitus partem invaderet, contereretque. At ille respondit : Si partem hanc exercitum oppresserimus, superit altera pars, cui forte aliae iungi copiae possent, atque ita nobis maius periculum immineret, expectemus tantisper, dum totus exercitus transferatur : tantae enim sunt nostrae vires, ut sine dubio, nec magno labore, hunc exercitum aut opprimere, aut circumventum Moscovuiam usque, veluti iumenta agere possimus. Tandem, quod unicum restat, totam occupemus Lithuaniam. Interim appropinquabat exercitus Lithuanicus, Polonis et externo milite mixtus : et cum quattuor millibus passuum ab Orsa processisset, uteruque subsistit. Moscorum duae alae longius ab exercitu recesserant, ut hostem a tergo circumvenirent: acies autem instructa in medio stabat, subdictis quibusdam in fronte, qui hostem ad pugnam lacesserent. Ex adverso Lithuanua diversas copias, ordine longo collocabat, singuli etenim principatus, suae gentis copias, et ducem miserant. Atque ita singulis suus in acie dabatur locus. Tandem cohortibus in fronte constitutis, Mosci classicum canentes, primi in Lithuanos impetum faciunt. Illi haud timidi resistant, eosque repellunt. Quibus mox alii in auxilium missi, vicissim Lithvuanos in fugam convertunt, sic aliquoties utraque pars novis subsidiis aucta, alteram repellebat. Postremo maxima vi certatur. Lithvuani studio cedentes ad locum, ubi tormenta bellica collocaverant, ea in Moscos insequentes convertunt: extremamque aciem eorum in subsidiis arctius collocatam feriunt, turbant, dirimuntque. Hoc novo belli genere Mosci, qui primos duntaxat in acie cum hoste confligentes, in periculo esse putabant, terrentur: turbatique, primam aciem iamiam fusam putantes, fugam capesssunt. Quos Lithvuani conversi, omnibus copiis effusis insequuntur, fugant, caeduntque. Hanc caedem sola nox ac sylvae dirimerunt. Est inter Orsam et Dobrovunam (quae quatuor miliaribus Germanicisdistant) fluvius Cropivuna dictus : in cuius dubiis et altis ripis fugientes, tot Mosci submersi sunt, ut cursus fluminis impediretur. Capti sunt in eo conflictu omnes militiae preafecti et consiliarii: quorum praestantiores, Constantinus sequenti die lautissime accepit, dein ad Regem misit: qui per castra Lithvuaniaca sunt distributi.Ioannes Czeladin cum aliis duobus praecipuis ingravescentis iam aetatis ducibus, habebatur in ferries compedibus Vuilnae.

Auff solchen syg hat Basilius sein hör in Litten abgefertigt, Er ist in Smolensco belieben. Und wie die nun etliche Flecken und bevestigungen eingenummen, erst schickt Khünig Sigmund die rettung gegen Smolensco aber zu spat, so dann die Moscoviter fort in Litten ruckten, ist Khünig Sigmund mit seinem hör hintzt geen Borisow an dem Wasser Beresina geruckt, von dannen das hör undter Hertzog Constantin Ostroskhi obersten Haubtman gegen den feinden aussgevertigt. Alsi sy an den Nieper (Lateinisch Boristhenes) bey dem Flecken Orsa khamen, das ist 24 meil dasshalb Smolensco, auff jhener seytten des Niepers was des Moscoviters hör in 80000 (wie man sagt) starck, die Littischen sollen nit meer dann 35000 darneben etlichs Veldgeschütz gahabt haben, Hertzog Constantin hat sich am 8. tag Septembris im jar nach Christi geburt 1514 uber den Nieper gelassen, die Phärdt gar ain engen fuert gehabt yunegst an der Orssa, das Fuessvolck uber ein Pruck, die am wasser schwam mit hurten bedeckt, uberbracht. Die Moscoviter hetten jre leut, die sehen mochten, das nunmals als halber thail uberkhummen was, die eileten zu jrem öbristen Haubtman Iwan Czeladin, unnd zaigten jme solches an, vermainten es wäre zeit die Litten anzugreiffen. Er aber vermaint, obgleich der thail, so uberkhumen, erlegt wurde, der ubrige thail möchte ersetzt werden, und ain newen Khrieg machen, So die aber gar uberkhumen, waren sy so starck, das sy die all wie das Viech in die Mosqua tryben und das gantz Littner land damit einnemen wollten. In dem so nachnet das Littische hör, als 4000 schrit von Orsa, dargegen machten die Moscoviter zwo flüg ferrn hindan, von dem gweltigen hauffen, der meinung die Litten zu hinderziehen, auss dem gweltigen hauffen verordneten die Moscoviter etliche, die den Scharmützl anfiengen. Die Litten aber ordneten jre hauffen nach jegcliches art des Lands, wie sy im brauch haben, jn vor und nachzug, dann ain

jegliches Fürstenthumb schickte sein volck, So liessen die Moscoviter aufblasen, und griffen die Littischen an, die Litten hinwider, und wann dann der ain thail den andern jagte, hat jeder thail die seinigen ersetzt, Die Littischen haben mit vernunfft offt gewichen, denen die Moscoviter mit grosser begierd nachgevolgt, unnd als ain thail den andern hin und wider jagte, zu letst fliehen die Litten an das ort, do das geschütz in ainem gestreiss mit dem Fuessvolck als verporgen stuend, wie das Geschütz und das grösser zu hoch abgiengen, dermassen, das es nit an die nacheillenden, sunder an die hindersten antraff, dieselben wussten nit anderst, weil es nun an jenen war, es stüende umb die vorderisten ubl, mit dem hebe sich die flucht, denen die Litten mit allen hauffen nacheilet und wie der prauch ist, niderhaweten, wen sy bekhomen mochte, die zwo flüg, als sy die flucht sahen, namen auch jren abzug. Sölcher schlachten haben allein die nacht und wälder ain ende geben, das ist zwischen Orsa und Dobrowna, die vier meil vonainander liegen, beschehen, Entzwischen rindt ain Pach genannt Cropiwna, der hohe gestettn hat, daselbst seind vil erschlagen und ertruncken, also das der so vil im pach gelegen, das der wasser fluss gesperrt wardt, vast alle Haubt und Bevelchleut seind da gefangen, die ansechlichisten hat Hertzog Constantin das andern tags zu gast gehabt, und darnach zu dem Khünig geschickt, die seind darnach auf die Schlösser allenthalben aussgethailt und verwardt worden. Der oberste Iwan Tzeladin mit andern zwayen ansechlichen alten graben Fürsten, seind zu der Wilda in eysnen Ketten gehalten worden.

**Пераклад:**

Пасля гэтай перамогі (захопу Смаленска – У. К.) Васіль паслаў сваё войска, а сам застаўся ў Смаленску. Толькі пасля таго, як былі захопленыя бліжэйшыя (да Смаленска – У. К.) мясцовасці і ўмацаванні, кароль Жыгімонт паслаў дадатковыя сілы на дапамогу пад Смаленск, але было ўжо запозна. Калі ж маскавіты рушылі ўглыб Літвы, то кароль вырушыў са сваім войскам да Барысава на рацэ Бярэзіна; адтуль ён выслаў супраць ворага войска на чале з найвышэйшым гетманам князем Канстанцінам Астрожскім. Калі ж яны (Астрожскі з войскам – У. К.) падыйшлі да Дняпра (па-лацінску Барысфен) блізу мястэчка Ворша, у 24 мілях ад Смаленска, то на супрацьлеглым беразе Дняпра ўжо знаходзілася маскоўскае войска колькасцю 80 тысяч чалавек (як кажуць), у той час як літоўскае войска не пераўзыходзілася 35 тысяч, маючы пры гэтым некалькі палявых гарматаў. Князь Канстанцін перайшоў Дняпро 8 дня верасня 1514 па Нараджэнні Хрыстовым года; коней ён адправіў праз вузкі брод блізу Воршы, у той час як пяхота перапраўлялася па плывучым мосце, які быў пакрыты тынам. Маскоўская старожа палічыла, што ўсяго толькі адная частка войска перапраўлілася, і таму яна паспяшалася да свайго галоўнакамандуючага Івана Чалядзіна і паведаміла яму пра гэта, мяркуючы, што наступіў зручны час напасці на літвінаў. Але той запярэчыў, гаворачы, што нават калі тая частка войска, якая перапраўілася, і будзе знішчана, то ўсё роўна да тых, хто застанецца, прыйдзе дапамога і барацьба разгарыцца з новай сілай. Таму будзе лепш, прадоўжыў Чаляднін, калі мы трохі пачакаем, пакуль усе яны не пераправяцца, бо мы настолькі моцныя, што зможам іх гнаць як быдла да самой Масквы і тым самым заваяваць усю Літоўскую зямлю. Тым часам наблізілася літоўскае войска і спынілася ў прыблізна 4000 кроках ад Воршы; яму супрацьстаяла маскоўскае войска, два флангі якога адстаялі далёка ад галоўных сілаў, з тым разлікам, каб з тылу абыйсці літвінаў. Спераду галоўных сілаў знаходзіліся аддзелы, якія мусілі пачаць бітву. Літвіны ж упарадкавалі свае гуфы на свой манер, у адпаведнасці з уласным звычаем, з падзелам войска на пярэдні і задні шыхты: пры гэтым кожнае княства выстаўляла ўласнае войска. Такім чынам, маскавіты зайгралі (у свае трубы) і заатакавалі літвінаў, а тыя (заатакавалі) у сваю чаргу (маскавітаў). І калі адзін аддзел знішчаў (упалёўваў) другі, то кожны з іх тут жа аднаўляў уласныя страты. Літвіны ж разважліва адступалі, а маскавіты ўпарта следавалі за імі. І між тым, пакуль адзін аддзел знішчаў другі, літвіны адступілі урэшце да таго месца, дзе ў хмызняку была схаваная гармата і прытаіліся пехацінцы. Паколькі гэтая вялізная гармата страляла высока, да такой

ступені, што стрэлы траплялі не ў тых, хто насядаў у пярэдніх шэрагах, але у тых, хто знаходзіўся ў апошніх шыхтах. Але гэтыя (апошнія), думаючы, што ўжо іх справы такія ж дрэнныя, як і ў тых, хто знаходзіўся ў пярэдніх шыхтах, пусціліся наўцёкі. Літвіны ж з усімі сіламі пачалі пераслед іх, і згодна са звычаем, усякага, каго яны былі здольныя злавіць, тут жа забівалі. Два (маскоўскія) флангі, як толькі пабачылі на ўласныя вочы ўцёкі (сваіх галоўных сілаў), адразу распачалі адыход. Толькі ноч і лясы паклалі канец гэтай бітве, якая адбывалася паміж Воршай і Дуброўнам, што знаходзяцца адзін ад другога на адлегласці чатырох міляў. Паміж імі цячэ рэчка, якая называецца Крапіўна, якая мае вельмі высокі бераг. Там жа многія былі забітыя або патанулі, і так шмат іх (целаў забітых і патопленых) ляжала ў рэчцы, што яны запрудзілі яе цячэнне. Амаль усе ваеначальнікі і камандзіры былі ўзятыя ў палон, самых важных з якіх князь Канстанцін запрасіў наступнага дня да сябе, а затым адаслаў да караля. Пазней ўсе яны былі размешчаныя па многіх замках, дзе яны знаходзіліся пад строгай вартай. Самы галоўны з іх, Іван Чаляднін, разам з двумя іншымі самымі паважанымі і сівавалосымі князямі, утрымліваўся ў жалезных кайданах у Вільні.

*(пераклад са старанямецкай аўтара).*

**Аляксей Шаланда**
**(Менск)**

# ВЕКСІЛАЛАГІЧНЫЯ ПРАБЛЕМЫ БІТВЫ ПАД ВОРШАЙ 1514 г.: ПРАПОРЦЫ З КРЫЖАМ СВЯТОГА ЮРЫЯ.

Вексілалогія – спецыяльная гістарычная навука, якая займаецца вывучэннем сцягоў і іншых рэчаў падобнага кшталту. На тле дасягненняў у гэтай галіне нашых суседзеяў, дзе з'явіліся працы, прысвечаныя гісторыі сцягоў[205], у Беларусі гэты напрамак гісторычнай навукі пакуль знаходзіцца ў пачатковай стадыі вывучэння. Да здабыткаў айчыннай гістарыяграфіі трэба аднесці працы Анатоля Цітова[206], Івана Куркова і Аляксандра Басава[207], Андрэя Шулаева[208], Аляксея Шаланды[209]. Тым не меней, у іх працах праблема сцягоў войска ВКЛ у бітве пад Воршай 1514 г. закраналася мала.



*Іл.20. Прапорац з крыжам, 1514 г. Сучасная рэканструкцыя.*

Сярод шматлікіх вексілалагічных праблем аршанскай бітвы трэба вылучыць адную, якая мае не толькі навуковае, але таксама палітычнае і ідэалагічнае значэнне[210]. Маецца на ўвазе праблема атрыбуцыі сцяжка белага колеру з чырвоным крыжам (Іл.20), які густа прадстаўлены на знакамітым абразе "*Бітва пад Воршай*", што датуецца 20–30-мі г. XVI ст. і захоўваецца сёння ў Нацыянальным музеі ў Варшаве[211]. Некалькі словаў пра сам славуты абраз, які неаднойчы трапляў у поле зроку спецыялістаў[212]. Нягледзячы на розныя

[205] Ptak J. *Chorągiew w komunikacji społecznej w Polsce piastowskiej i jagiellońskiej*. Lublin, 2002. 467 s. Савчук Ю. *Одіссея козацьких прапорів*. Б.м., 2012. 144 с. Meilus E., Urmański A. *Lietuvių vėliavos maskvėnų nelaisvėje (1654–1655 m.).*// Ministri historiae: pagalbiniai istirijos mjkslai Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės tyrimuose: mokslinių straipsnių rinkinys, skirtas Edmundo Antano Rimšos 65-mečio sukakčiai. Vilnius, 2013. P.423–450.

[206] Цітоў А. *Сцяг, прапар, харугва..* // Беларуская мінуўшчына. Мн., 1994. № 2. С.33–35.

[207] Басаў А., Куркоў І. *Сцягі Беларусі ўчора і сёння*. Мн.: Полымя, 1994. 34 с.

[208] Шулаеў А. *Вексілалагічная спадчына Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага як крыніца даследавання беларуска-літоўскіх дачыненняў.*// Европа: новое соседство 2008. Мат-лы Междунар. науч. конф. студентов и аспирантов (17–18 мая 2008 г., Вильнюс). Вильнюс: ЕГУ, 2009. С.27–37. Шулаеў А. *Вексілалагічная нематэрыяльная спадчына роду Радзівілаў – рэсурс для навукова-даследчай музейнай рэканструкцыі.*// Нясвіжскі палац Радзівілаў: гісторыя, новыя даследаванні. Вопыт стварэння палацавых музейных экспазіцый. Мат-лы 1-й Міжнар. навук.-практ. канф. (20 кастрычніка 2009 г., Нясвіж). Нясвіж, 2010. С.297–301.

[209] Шаланда А. *"Banderia Lithwanorum et Ruthenorum". Да праблемы сімволікі харугваў войска ВКЛ у бітве пад Грунвальдам у 1410 г.*// Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы (да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы). Мн.: УП "Рыфтур", 2010. С.39–49. Шаланда А. *Харугвы войска Вялікага княства Літоўскага ў бітве пад Грунвальдам 1410 г.: спроба рэканструкцыі сімволікі.*// Вялікае княства Літоўскае і яго суседзі ў XIV–XV ст.: саперніцтва, супрацоўніцтва, урокі: Да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы: Мат-лы Міжнар. навук. канф. (8–9 ліпеня 2010 г., Горадня). Мн.: Беларуская навука, 2011. С.76–91.

[210] Рассадин С. *Истоки государственной символики Беларуси*. Мн.: Беларусь, 2014. С.71–74.

[211] *Muzeum Narodowy w Warszawie*. Nr MP24765.

[212] Herbst S., Walicki M. *Obraz bitwy pod Orszą*. S.33–68. Białostocki. J. *Zagadka "Bitwy pod Orszą"*. S.80–99. *Wypisy żródłowe...* S.134–143. Stefańska Z. *Działo "orszańskie"*. S.359–366. Białostocki. J. *Czy Dürer naśladował "Bitwę pod Orszą"?* S.276–281. Herbst S. *Potrzeba historii czyli o polskim stylu życia*. S.273–295. Żygulski Z. jun. "*Bitwa pod Orszą*" *– struktura obrazu.*// Rocznik Historii Sztuki. S.85–132.

крытычныя заўвагі польскіх і расійскіх даследчыкаў[213], а таксама на скепсіс некаторых айчынных гісторыкаў (А. Казакоў), карціна, тым не меней, лічыцца іканаграфічнай крыніцай вартай даверу[214]. У нашым выпадку, гэта значыць, што змешчаныя на ёй сцягі войска ВКЛ былі знаёмыя мастаку з аўтопсіі і ён дакладна адлюстраваў іх выгляд па стану на першую чвэрць XVI ст. Наяўнасць на ёй белых сцяжкоў з чырвоным крыжам дазваляе сцвярджаць, што яны ўжываліся ў войску ВКЛ пад час Аршанскай бітвы 1514 г. Але які сэнс быў закладзены ў выяве на іх? Каму належалі сцяжкі? Якую функцыю яны выконвалі?



*Іл.21. Бела-чырвона-белыя прапорцы, 1514 г. Фрагмент карціны "Бітва пад Воршай".*

Перш чым шукаць адказы на пастаўленыя пытанні трэба вызначыць характар згаданых сцяжкоў і якое месца яны займалі ў харугвеннай сістэме войска ВКЛ. Трэба адзначыць, што сярод даследчыкаў няма згоды нават у тэрміналогіі. Польскі даследчык З. Жыгульскі малодшы называў іх "*прапорцамі*"[215]. Услед за ім пайшоў Юры Бохан[216]. А. Цітоў як сінонім прапорцу (у яго ў форме "*прапарэц*") прапаноўваў тэрміны "*знак*" ("*значык*") ці "*флюгер*"[217]. Менавіта на апошнім варыянце настойваюць А. Басаў і І. Куркоў[218]. Малады даследчык А. Шулаеў увогуле памылкова называе іх "*вымпеламі*"[219]. На нашу думку, у дадзеным пытанні варта абапірацца на тагачасную тэрміналогію, а таму больш падстаў для таго, каб называць сцяжкі прапорцамі[220].

Няма таксама адназначнага адказу на пытанне каму належалі гэтыя прапорцы. З пачатку 90-х г. XX ст. у айчыннай публіцыстычнай літаратуры прапагандаваўся тэзіс, што гэта былі сцяжкі "*беларускіх*" ваяроў, а іх колеры паслужылі прататыпам беларускага нацыянальнага бела-чырвона-белага сцяга[221]. Падобнае меркаванне было ў свой час

---

[213] Лобин А. *Битва под Оршей*. С.135.
[214] Гл., напрыклад: Бохан Ю. *Зброя Вялікага княства Літоўскага 1385–1576*. Мн.: Беларусь, 2003. С.35, 57, 58. Bołdyrew A. *The changes of offensive armament of the Polish mercenary infantry in the first part of the 16th century and their influence on the tactics of the unit*.// Wratislavia antiqua. Studia z dziejów Wrocławia. Wrocław, 2013. P.223.
[215] Żygulski Z. jun. "*Bitwa pod Orszą*" *– struktura obrazu*.// Rocznik Historii Sztuki. S.88.
[216] Бохан Ю. *Зброя Вялікага княства Літоўскага 1385–1576*. С.38.
[217] Цітоў А. *Сцяг, прапар, харугва...* С.34, 35.
[218] Басаў А., Куркоў І. *Сцягі Беларусі ўчора і сёння*. С.6.
[219] Гл. далей у часопісе яго артыкул.
[220] Сагановіч Г. *Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI–XVII ст*. Мн.: Навука і тэхніка, 1994. С.10.
[221] Ткачоў А. *Нацыянальныя сімвалы: народ і гісторыя*.// З гісторыяй на "*Вы*": Публіцыстычныя артыкулы. Уклад. У. Арлоў. Мн.: Мастацкая літаратура, 1991. С.340. Вячорка В. *"Кроў лягла чырвонай паласой...". Да*

адкінута А. Басавым і І. Курковым, якія адносілі яго, тым не меней, да “*беларуска-літоўскіх*” атрадаў[222]. У сваю чаргу, Сяргей Рассадзін імкнуўся даказаць недатычнасць згаданых вексілалагічных помнікаў да войска ВКЛ. На яго думку, яны належалі або польскім рыцарам Войцеха Сампалінскага, або найманым венгерскім гусарам[223]. У апошнім выпадку ён спаслаўся на З. Жыгульскага, але ў працы польскага даследчыка няма дакладнай вексілалагічнай атрыбутацыі, а гаворыцца проста пра прапорцы вершнікаў-гусараў ды яшчэ і пад пытальнікам[224]. Трэба адзначыць, што З. Жыгульскі ўвогуле мала звяртаў увагі на сцягі, толькі адзначыў іх месцапалажэнне на карціне і даў кароткія апісанні: “*гетманскі прапорац*”, “*прапорцы вершнікаў*”, “*прапорац Радзівілаў*”, “*чырвоная харугва*” (двойчы), “*зялёная (так!) харугва*”, “*харугва з Белым Арлом*” і “*блакітная літоўская харугва*”[225]. У палемічным запале С. Рассадзін увогуле адмаўляе існаванне бела-чырвона-белых сцяжкоў на абразе, бо:

*“О каких-либо бело-красных-белых флажках у З. Жигульского не упоминается”*[226].



*Іл.22. Вялікі земскі харужы ВКЛ (Добка Юр’евіч Скіландовіч?), 1514 г.*
*Фрагмент карціны “Бітва пад Воршай”.*

Але на самой карціне яны ёсць, аж цэлых 7 штук, акурат каля польскай харугвы з выявай белага арла (Іл.21). Мы далёкія ад думкі звязваць іх з пазнейшым нацыянальным

---

*гісторыі беларускіх нацыянальных колераў*.// З гісторыяй на “*Вы*”: Публіцыстычныя артыкулы. Уклад. У. Арлоў. Мн.: Мастацкая літаратура, 1991. С.358–359. Ткачоў М. *Паходня. Кніга публіцыстыкі*. Рэд.-склад. С. Самуэль. Мн.: БелЭн., 1994. С.85.

[222] Басаў А., Куркоў І. *Сцягі Беларусі ўчора і сёння*. С.6.

[223] Рассадин С. *Истоки государственной символики Беларуси*. С.73–74.

[224] Żygulski Z. jun. “*Bitwa pod Orszą*” *– struktura obrazu*.// Rocznik Historii Sztuki. S.88.

[225] Żygulski Z. jun. “*Bitwa pod Orszą*” *– struktura obrazu*.// Rocznik Historii Sztuki. S.88, 90, 93, 94.

[226] Рассадин С. *Истоки государственной символики Беларуси*. С.74.

беларускім сцягам, пра што ніжэй. Верагодна, згаданыя бела-чырвона-белыя прапорцы былі вынікам неўважлівасці мастака, які забыўся дамаляваць на іх крыжы. З другога боку, нельга адкідваць магчымасць разнастайнасці колеравых спалучэнняў на сцяжках конніцы войска ВКЛ, а таму варта яшчэ раз звярнуцца да першакрыніцы.

На першы погляд можа падацца, што невядомы мастак выкарыстаў згаданы сімвал без якой-небудзь сістэмы, толькі з мэтай вылучэння вояроў ВКЛ у агульным хаосе бітвы. Сапраўды, сцяжкі відаць на коп'ях як лёгкай конніцы, так і закаванай ў латы, а таксама нават у целаахоўнікаў гетмана ВКЛ князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага. Але пры больш уважлівым разглядзе можна ўбачыць дакладную трохступенчатую харугвенную сістэму войска ВКЛ: 1) харугвы гуфаў (3 чырвоныя, з іх адная з выявай белага арла, 1 блакітная[227]); 2) уласныя сцягі-банэры гетманаў ВКЛ – найвышэйшага – князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага і палявога ці дворнага – Юрыя Мікалаевіча Радзівіла, гарадзенскага старосты[228] і 3) прапорцы на коп'ях цяжкай і лёгкай конніцы ВКЛ.



*Іл.23. Герб з крыжам Святога Юрыя ў "Stemmata Polonica", да 1555 г.*

Першыя дзве катэгорыі мы пакідаем па-за ўвагай. Адзначым толькі, што даследчыкі, якія займаліся праблемай складу, колькасці і структуры войска ВКЛ ніяк не выкарыстоўвалі згаданыя вексілалагічныя матэрыялы[229]. Напрыклад, А. Лобін размяшчае польскія "*гуфы*" войска ВКЛ у бітве пад Воршай паводле трактата Яна Тарноўскага і катэгарычна заўяўляе:

"*Нет никаких оснований считать, что на Оршанском поле польский контингент строился как-то по-другому*"[230].

Аднак, сярод харугваў на абразе відаць толькі адная польская – з белым арлом, вакол якога перавіта ў люстраным адбіцці літара-ініцыял імя Жыгімонта Старога "*S*", у той час як безвыяўная блакітная яўна адпавядала гетманскай харугве ВКЛ. З іншых двух безвыяўных чырвоных – адная несумненна адносілася да так званага "*земскага*" войска

---

227 З. Жыгульскі фіксуе яшчэ адную блакітную "*літоўскую*" харугву над татарскім атрадам, гл.: Żygulski Z. jun. "*Bitwa pod Orszą" – struktura obrazu.*// Rocznik Historii Sztuki. S.94. Нам яе на даступных рэпрадукцыях карціны разглядзець не ўдалося.

228 Пра гетманскія ўрады гл.: *Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku. Spisy*. Oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba. Kórnik, 1994. S.40–41, 45.

229 Гл., напрыклад, Бохан Ю. *Зброя Вялікага княства Літоўскага 1385–1576*. С.62–72.

230 Лобин А. *Битва под Оршей*. С.148.

ВКЛ, бо яе, як заўважыў З. Жыгульскі, трымаў “*літоўскі харужы*”[231] (Іл.22). Верагодна, ён ідэнтычны з Добкам Юр’евічам Скіландовічам – вялікім земскім харужым ВКЛ у 1514–1522 г.[232] Іншымі словамі, ён трымаў земскую ці вялікую харугву ВКЛ. Другая безвыяўная чырвоная – над закаванымі ў латы вершнікамі – была надворнай харугвай польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога. Нягледзячы на тое, што ёй камандаваў Войцех Сампалінскі[233], а склад яе ў этнічным плане быў пярэсты, ёсць падставы аднесці яе да войска ВКЛ. На гэта ўказвае не толькі адсутнасць польскага белага арла на плахце самой харугвы[234].

Адметная ад каroннай свая надворная харугва, як вайсковая адзінка, вядома ў войску ВКЛ у складзе вялікакняжацкага гуфу яшчэ з часоў Грунвальдскай бітвы 1410 г.[235] З утварэннем замест яго гетманскага гуфу недзе ў канцы XV–пачатку XVI ст. яна ўвайшла ў яго склад. Па меншай меры так было ў 30-я г. XVI ст.[236] Дзіўным чынам гэта супадае з мяркуемым часам стварэння самой карціны “*Бітва пад Воршай*” – 20–30-я г. XVI ст. На нашую думку, такі збег па часу невыпадковы. Мяркуем, што безвыяўная чырвоная харугва на карціне належала надворным фармаванням Жыгімонта Старога як вялікага князя літоўскага.

Але вернемся да белых прапорцаў з чырвонымі крыжамі. Усе даследчыкі салідарныя ў тым, што падобная іканаграфія адносілася да культу Святога Юрыя (Георгія) – заступніка еўрапейскага рыцарства[237]. Ю. Бохан, напрыклад, называе яго крыжам Святога Юрыя[238]. Адпаведна, харугва з такім крыжам называлася сцягам Святога Юрыя, пад якім у войску ВКЛ з часоў Вітаўта збіраўся гуф гасцей і наёмнікаў, праўда, выглядаў ён інакш: на чырвоным полі срэбны крыж[239]. Аднак, колеры на сцягах маглі люстэркава мяняцца[240]. У крыніцах, звязаных з Аршанскай бітвай згадваецца нейкі “*гуф знатный і благородный*”, у які А. Лобін запісаў польскіх рыцараў-дабраахвотнікаў на чале з Янам Тарноўскім[241]. Здавалася, што мастак меў на ўвазе менавіта яго. Праблема, аднак, у тым, што на карціне няма сцяга Святога Юрыя, а ёсць толькі прапорцы на коп’ях, а таму іх сувязь непасрэдна са згаданым гуфам праблематычная. У сваю чаргу, шырокі раскід сцяжкоў з крыжамі па панараме бітвы ўвогуле не дазваляе прыпісаць іх да нейкага аднаго падраздзялення войска ВКЛ.

Такім чынам, атрыманая выснова супярэчыць думцы А. Басава і І. Куркова, што сцяжкі з крыжам Святога Юрыя служылі для абазначэння прыналежнасці асабовага складу да нейкага канкрэтнага падраздзялення, а менавіта “*беларуска-літоўскіх*” атрадаў[242]. А. Цітоў таксама звяртаў увагу на распазнаўчую функцыю прапорцаў ці знакаў і адносіў іх да дробных вайсковых аддзелаў[243]. Але на карціне іх колькасць дамінуючая.

Прывядзем яшчэ думку Ю. Бохана аб псіхалагічным уздзеянні сцяжкоў:

---

231 Żygulski Z. jun. “*Bitwa pod Orszą*” *– struktura obrazu.*// Rocznik Historii Sztuki. S.93.

232 *Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku*. S.27.

233 Лобин А. *К вопросу о численности...* С.31.

234 Паводле апісання пахавання Жыгімонта Старога ў 1548 г. Марцінам Бельскім сярод сцягоў, якія ён бачыў, была каронная надворная харугва з арлом: “*Na chorągwi nadworney był Orzeł z roszerzonemi skrzydły z złotą strefą*”, гл.: Bielski M. *Kronika wszystkiego świata*, Kraków, 1551. List 294. Цытаванае тут апісанне добра атрыбутуе харугву з белым арлом на карціне – гэта была каронная надворная харугва.

235 Шаланда А. *Харугвы войска Вялікага княства Літоўскага...* С.85.

236 *Расійская нацыянальная бібліятэка*. Аддзел рукапісаў. Аўтографы Дуброўскага. № 124. Арк.17–18.

237 Басаў А., Куркоў І. *Сцягі Беларусі ўчора і сёння*. С.6.

238 Бохан Ю. *Наёмнае войска ў Вялікім княстве Літоўскім у XV–XVI ст.* Мн.: Інстытут гісторыі НАН Беларусі, 2004. С.80, 86.

239 Шаланда А. *Харугвы войска Вялікага княства Літоўскага...* С.89.

240 Piech Z. *Monety, pieczęcie i herby w systemie symboli władzy Jagiellonów*. Warszawa, 2003. S.248–249.

241 Лобин А. *Битва под Оршей*. С.120–121, 148. Лобин А. *К вопросу о численности...* С.30.

242 Басаў А., Куркоў І. *Сцягі Беларусі ўчора і сёння*. С.6.

243 Цітоў А. *Сцяг, прапар, харугва...* С.34.

“*Абавязковым атрыбутам дрэва (кап’я – А. Ш.) з’яўляўся сцяжок – “прапорац”. На ім маглі змяшчацца рыцарскія геральдычныя знакі. Акрамя таго, падчас атакі прапорцы на апушчаных коп’ях шамацелі і тым самым палохалі варожых коней*”[244].

У іншай сваёй працы ён аднёс “*лёгкае кап’ё з прапорцам, на якім змешчаны крыж Святога Юрыя*” да абавязковай экіпіроўкі “*гусара венгерскага тыпу пачатку XVI ст.*”[245]. З гэтага вынікае, што “*па-гусарску*” маглі быць узброены, як непасрэдна венгры, так і сербы, палякі, літвіны ці русіны. Аднак, як ужо згадвалася, пад сцяжкамі з крыжамі на карціне намаляваны і вершнікі ў латах, а таму прыпісваць выяву крыжа Святога Юрыя толькі венграм, як гэта робіць С. Рассадзін[246], ня варта.

Усё гэта дазваляе меркаваць, што невядомы мастак закладваў нейкі іншы сэнс у намаляваную ім сімволіку. На нашу думку, ключом для яго расшыфроўкі можа быць інфармацыя, на якую даследчыкі не звярнулі належнай ўвагі. У 1518 г. у аршаку Боны Сфорца ў Польшчу прыехаў паэт Дамінік Спінэці, які, на думку польскага даследчыка Адама Дароўскага, пад псеўданімам Партэнапэвус Суавіюс напісаў вершаваны твор “*Viaggio della Serenissima Bona*”. У ім ён падрабязна апісаў падарожжа Боны, будучай жонкі польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога, у Польшчу, яе каранацыю і вяселле, а таксама пакінуў шмат дэталяў пры апісанні сваёй новай радзімы. Цікава, што ад ВКЛ ва ўрачыстасцях прымалі два прадстаўнікі – герой бітвы пад Воршай “*русін*” князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі і “*літвін*” Юры Іванавіч Іллініч, берасцейскі староста. Апошні, паводле розшукаў Сяргея Рыбчонка, таксама прымаў удзел у “*Вялікай бітве*”[247]. Далей пішучы пра першую сустрэчу Жыгімонта з Бонай, італьянскі паэт згадвае гаспадарскіх дваранаў пад харугвай Святога Юрыя:

“*Około króla było dwustu zbrojnych*
*W białych z daleka święcących ubraniach*
*W ponczochach, kurtach, ładnie przystrojeni*
*Piastują chorągiew Świętego Jerzego (Haveano di San Giorgio una bandera)*
*Trzymają kopię, rusznice, halbardy*
*Niejeden zaś błyszczy od zlotych łańcuchów*”[248].

Публікатар і перакладчык вершу А. Дароўскі засумняваўся ў дакладнасці аўтара, што да сцягу Жыгімонта Старога, а таму ў спецыяльнай спасылцы адзначыў: “*Можа Пагоня літоўская*”[249]. Але наўрад ці італьянец мог так памыліцца, бо сцяг Святога Юрыя ў Заходняй Еўропе быў добра вядомы пераважна ў выглядзе геральдычнага крыжа (белага на чырвоным, або чырвонага на белым). Менавіта такі герб: у срэбным полі чырвоны крыж знаходзіцца ў так званай “*літоўскай частцы*” гербоўніка “*Stemmata Polonica*”, які датуецца сярэдзінай XVI ст. Герб там не падпісаны (Іл.23). Публікатар гербоўніка Галена Палячкоўна назвала яго “*гербам Брацлаўшчыны*”, які быў ўтвораны на ўзор валынскага герба, але не была цалкам пераканана ў гэтым[250]. На нашу думку, упэўнена можна сцвярджаць толькі тое, што герб з чырвоным крыжам у срэбным полі быў цесна звязаны з

[244] Бохан Ю. *Зброя Вялікага княства Літоўскага 1385–1576*. С.38.
[245] Бохан Ю. *Наёмнае войска ў Вялікім княстве Літоўскім*. С.80.
[246] Рассадин С. *Истоки государственной символики Беларуси*. С.74.
[247] *Род Іллінічаў у вялікім княстве Літоўскім у XV–XVI ст.: радавод, гербы, уладанні*. У друку.
[248] Darowski A. *Bona Sforca*. Rzym, 1904. S.169.
[249] Darowski A. *Bona Sforca*. S.169. Спасылка 1.
[250] *Stemmata Polonica. Rękopis nr 1114 Klejnotów Długosza w Bibliotece Arsenału w Paryżu*. Wyd. H.Polaczkówna.// Prace Sekcji Historii Sztuki i Kultury Tow. Naukowego we Lwowie. Lwów, 1929. T.I. S.77.

асобай Жыгімонта Старога і належаў менавіта яму[251]. Іншымі словамі, ён уваходзіў у комплекс гаспадарскай сімволікі і геральдыкі.

У сувязі з гэтым, выкажам меркаванне, што адсутнасць манарха на полі бою пад Воршай прадвызначала і адсутнасць яго харугвы Святога Юрыя, якая засталася пры ім. Разам з тым, белыя прапорцы з чырвонымі крыжамі ў войску ВКЛ на думку ананімнага мастака павінны былі сімвалічна ўказваць на сапраўдных пераможцаў маскавітаў у бітве 8 верасня 1514 г. – польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога і нябеснага патрона рыцарства – Святога Юрыя. Цалкам магчыма, што выява апошняга (разам са Святым Станіславам?) была змешчана на страчаных частках карціны.

Такім чынам, звязаная з культам Святога Юрыя выява чырвонага крыжа апелявала да хрысціянскіх пачуццяў і рыцарскіх цнотаў гледачоў, адначасова выконваючы на карціне функцыю ідэнтыфікацыі воінаў з войска ВКЛ, незалежна ад іх этнічнага паходжання ці тыпу ўзбраення. У сваю чаргу, прыналежнасць крыжа Святога Юрыя да польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога з аднаго боку працавала на прэстыж яго асабіста, яго войска і дзяржавы, з другога, калі ўлічыць час стварэння абраза, а таксама амаль перманентныя войны і памежныя сутычкі з Масковіяй, заклікала жадаючых прыняць удзел у шэрагах пераможнай арміі згаданага манарха. Можна пагадзіцца з думкай некаторых даследчыкаў, што карціна ствaралася не толькі з мэтай захаваць у памяці нашчадкаў векапомную перамогу і яе герояў, але мела пэўны прапагандысцкі і ідэалагічны падтэкст.

[251] Англійскі даследчык геральдыкі беларускага першадрукара Францыска Скарыны Гай Пікарда памылкова ўбачыў сцяг Святога Юрыя нават на гравюры ў “*Бібліі Рускай*”:, гл.: Шаланда А. *Гербы і геральдычныя выявы на гравюрах “Бібліі Рускай” Францыска Скарыны.*// Герольд Litherland. Горадня, 2002. № 3–4. С.128.

**Андрэй Шулаеў**
**(Менск)**

# ПРАБЛЕМА РЭКАНСТРУКЦЫІ ВЕКСІЛАЛАГІЧНАЙ СІСТЭМЫ ВКЛ У КАНЦЫ XV–ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVI СТ. І БІТВА ПАД ВОРШАЙ.

Праблема рэканструкцыі вексілалагічнай сістэмы ВКЛ першай паловы XVI ст. сёння надзвычай актуальная для разумення айчыннай вексілалогіі гэтага перыяду і культурна-палітычных працэсаў таго часу, але яна значна ўскладняецца тым, што не захаваліся аўтэнтычныя сцягавыя палотнішчы. Таксама варта адзначыць, што абсалютная большасць гістарычных прац ды амаль усе выяўленчыя крыніцы, якія могуць нам дазволіць рэканструяваць вексілалагічную спадчыну ВКЛ, датуюцца другой паловай XVI ст.

## Аналіз наяўных крыніц.

*1. Карціна "Бітва пад Воршай" і праблематыка кавалерыйскага вымпела войска ВКЛ.*

Найбольш падрабязнай, а таму каштоўнай іканаграфічнай крыніцай з вексілалагічнымі аб'ектамі ВКЛ з пачатку XVI ст. з'яўляецца не раз ужо згаданая карціна, прысвечаная Аршанскай бітве 1514 г.[252] Яна ўяўляе сабой паліхромны алейны і тэмперны роспіс на аснове з дубовых дошак агульным памерам 165×262 см. Абраз напісаны невядомым мастаком пасля 1524–1530 г. На ёй сумяшчаюцца ў адзінай кампазіцыі розныя па часе элементы і падзеі славутай бітвы, а менавіта: аршанскі замак, пераправа войска ВКЛ праз раку па пантонным мосце, сутычка з маскоўскім войскам, патапленне маскавітаў у рацэ Крапіўне, іх пераслед і паланенне. На чале войска ВКЛ у трох сцэнах паказаны вялікі гетман князь Канстанцін Астрожскі, які вядзе ў атаку, кіруе пераправай і накіроўвае артылерыю, што вырашыла ходу бітвы. Трэба адзначыць партрэтнае падабенства князя з іншымі яго прыжыццёвымі партрэтамі. Аўтар выявіў дасціпнасць у перадачы дэталяў, што толькі дадае каштоўнасці карціне.

З вексілалагічных аб'ектаў ВКЛ на карціне маюцца тры вялікія харугвы, паказаныя вобразна, дзве з якіх чырвонага і адная блакітнага колеру. Апроч вялікіх, на карціне паказаны: чырвоны штандар вайсковага аддзелу са срэбным польскім арлом у залатой кароне; гербавая простакутная чырвоная харугаўка з гербам роду Астрожскіх (паказаная тройчы, побач з асобай вялікага гетмана); гербавая простакутная чырвоная харугаўка з гербам "*Трубы*"; каля 150 трохкутных срэбных вымпелаў з чырвоным крыжом (з іх выдзяляюцца сем сцяжкоў у цэнтры карціны, на якіх заміж чырвонага крыжа маецца чырвоная гарызантальнай паласа, застаецца пытаннем, ці тое была памылка мастака ці асобны від сцяжкоў) (Іл.24). Таксама польскім даследчыкам З. Жыгульскім выказвалася меркаванне, што на карціне паказаны край блакітнага палотнішча пры татарскай кавалерыі ў верхняй частца карціны[253], але гэтая версія патрабуе яшчэ дадатковага даследавання. На карціне таксама паказаны чатыры харугвы маскоўскага войска, прычым наяўнасць на выявах дэталяў дазваляе меркаваць, што мастак асабіста іх бачыў (найхутчэй, сярод трафеяў).

Усе палотнішчы вексілалагічных аб'ектаў ня маюць махры, аднолькава прымацаваныя да непафарбаваных дрэўкаў дзідаў – найхутчэй, з непрышыўным запасам у колерах палотнішча на цвіках. Асноўныя палотнішчы карціны паказаныя вобразна хутчэй

[252] *Muzeum Narodowy w Warszawie*. Nr MP24765.
[253] Żygulski Z. jun. "*Bitwa pod Orszą*" – *struktura obrazu*.// Rocznik Historii Sztuki. S.94.

з прычыны таго, што былі добра вядомыя аўтару і таму не ўспрымаліся ім як неабходныя для спецыяльнай прамалёўкі, штандар жа з польскім арлом, які, дарэчы, значна саступае па памерах іншым паказаным харугвам, наадварот прамаляваны каб падкрэсліць прысутнасць сярод войска ВКЛ польскага вайсковага аддзелу; гербавая харугаўка князя Канстанціна Астрожскага служыць арыенцірам для апазнання асобы вялікага гетмана ў розныя моманты баталіі, харугаўка з гербам “*Трубы*”, верагодна, паказвае на асобу Юрыя Радзівіла, які кіраваў гуфам правай рукі (паводле іншых крыніцаў – гуфам левай рукі) у славутай баталіі, можна таксама меркаваць, што ён быў адным з фундатараў напісання карціны.




*Іл.25. Харугва ВКЛ паводле С. Сарніцкага. Перамалёўка аўтара.*

Найбольшую ж цікавасць уяўляюць прадстаўленыя ў вялікай колькасці і абсалютна аднатыповыя рыцарскія харугаўкі-вымпелы. Апошнія цікавыя найперш праз сваё поўнае падабенства, прытым, што іх нясе пераважная большасць ваяроў як цяжкай, так і лёгкай кавалерыі. Думаецца, што менавіта такая харугаўка была ў той час адной з адметнасцяў кавалерыі ВКЛ. У беларускай гістарыяграфіі прынятая тэза аб паходжанні будучага беларускага нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга ад паказаных на карціне харугавак. Прытым, сярод расійскіх даследчыкаў выказвалася меркаванне, быццам такія вымпелы – “*традыцыйна польскія*”, хоць ніводнага доказу на існаванне такой традыцыі прыведзена не было[254]. Цяжка пагадзіцца таксама з думкай пра семантычнае значэнне харугавак з крыжам толькі як сімвала хрысціянскага войска, бо ў бітве пад Воршай якраз сышліся два хрысціянскія войскі. Трэцяй важнай характарыстыкай, якая датычыць згаданых вымпелаў ёсць тое, што яны цалкам адпавядаюць геральдычным колерам дзяржаўнага герба ВКЛ – “*Пагоні*”.

Можна казаць, што ў выпадку з вышэйапісаным вымпелам мы маем геральдычнае выяўленне сцяга Святога Юрыя, з якім звязваюць асобу вершніка на дзяржаўным герба

---

[254] Маем на ўвазе расійскага гісторыка А. Лобіна. З яго працамі атрымалася цікавая рэч – іх змест часам істотна адрозніваецца. Напрыклад, гл.: http://zapadrus.su/zaprus/istbl/380--1514-.html. Лобин А. *К вопросу о составе и численности польско-литовской армии в битве под Оршей 1514 г.* Доступ: 02.07.2011 г. 16:40. Цытата: “*Хоругвь польских гусар в битве при Орше, 1514. С картины в Национальном музее в Варшаве. Отчетливо видно польское знамя и традиционные значки польских гусар на пиках в виде белого треугольника с красным крестом. Эти значки по одной из версий белорусской националистической мифологии и были первым изображением белорусского “национального” флага (на то она и мифологии, чтобы возникало много вопросов)*”. Параўнай: Лобин А. *К вопросу о численности и составе польско-литовской армии в битве под Оршей в 1514 г.*// Праблемы інтэграцыі і інкарпарацыі ў развіцці Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў перыяд ранняга Новага часу: Мат-лы міжнар. навук. канферэнцыі (Мінск, 15–17 кастрычніка 2009 г.). Мн.: БІП-С ПЛЮС, 2010. С.18. Цытаты пра сцяжкі “*польскіх гусараў*” тут няма.

ВКЛ, але пытанне пераемнасці паміж вымпелам ВКЛ з бітвы пад Воршай 1514 г. і беларускім нацыянальным сцягам XX ст. мае разглядацца ў якасці асобнай праблематыкі.

*2. Малюнак з рукапіснага трактату Станіслава Сарніцкага.*

Малюнак уяўляе сабой манахромную выяву на простакутным аркушы паперы з подпісам: "*IX. V ORSEI BITWA ANNO DOMINI WRZESNIA*" (Іл.1). Перад намі ілюстрацыя з выявай тактычнай пабудовы войскаў ВКЛ і Вялікага княства Маскоўскага перад бітваю пад Воршай з пазначанымі пры дапамозе лацінскіх літараў найважнейшымі дэталямі (на жаль, адшукаць тэкст подпісаў да малюнка аўтару пакуль не ўдалося). Малюнак меўся стаць ілюстрацыяй да трактата С. Сарніцкага па гісторыі вайсковай стратэгіі, які, аднак, ня быў надрукаваны і захаваўся адно ў выглядзе рукапісу. Рукапіс захоўваецца ў бібліятэцы каралеўскага палаца ў Вілянаве пад Варшавай, ад чаго атрымаў назву "*Вілянаўскі кодэкс*" ("*Kodeks Wilanowski*")[255].

Кампазіцыя малюнка рэпрэзентуе для нас план Крапівенскага поля, дзе адбылася бітва, абмежаванага з левага боку гарамі (падпісана "*Guri*"), з правага – ракой Дняпром (падпісана "*Niepr*", "*Boristenes fluvius*") з пантонным мостам ("*K*") у накірунку Воршы (падпісана "*Orsz...*").

Угары малюнка схематычна прамаляванае маскоўскае войска, падзеленае на тры гуфы: гуф правай рукі ("*A*". "*Micailo*" (верагодна, гуф князя Міхаіла Булгакава-Голіцы), цэнтральны гуф ("*C*", "*Knias*" (верагодна, Іван Чаляднін), гуф левай рукі ("*B*"). У тыле маскоўскага войска паказаная стаўка ваяводы і абоз ("*oboz moskiewski*"), а таксама рэзэрв ("*E*").

Здолу малюнка схематычна паказанае войска ВКЛ, падзеленае на тры гуфы: гуф правай рукі ("*G*", "*Vugor*"), цэнтральны гуф ("*F*"), гуф левай рукі ("*G*"). У тыле войска паказаны рэзерв ("*H*"), а ад гуфа правай рукі збоку леса на беразе ракі паказаная групіроўка флангавай атакі ("*D*"), якая ў выніку і нанесла фатальны для маскавітаў удар падчас бітвы. Таксама непадалёк ад пантоннага моста паказаны яшчэ адзін атрад (подпіс на ім расчытаць пакуль, на жаль, не атрымалася) – гэта інжынерны атрад пад камандаваннем мяшчаніна Яна Башты, пакінуты з мэтаю аховы моста. Цікавым тут ёсць тое, што найміты-венгры на схеме паказаныя ў гуфе правай рукі, што карэлюецца з паведамленнямі ў шэрагу польскіх крыніцаў[256].

З вексілалагічных аб’ектаў ВКЛ маецца выява сцяга (падпісана "*Litewski*") угары малюнка (Іл.25). Ён уяўляе сабой простакутнае з дзвюма касіцамі палотнішча ў прапорцыях 1:5, прымацаванае да дрэўка гусарскай дзіды з распісным яблыкам і баявым наканечнікам. На касіцах палотнішча маюцца кутасы, а самое яно прымацавана да дрэўка пры дапамозе чатырох петляў. На палотнішчы выяўлены герб ВКЛ "*Пагоня*", але ў цікавым варыянце: вершнік лёгкай кавалерыі без ваярскага рыштунку, скача ў правы геральдычны бок, правай рукой трымае вупраж, а левай – пугу, да пояса прывешаная шабля ў похвах.

Сцяг з малюнка С. Сарніцкага, як найхутчэй, з’яўляецца харугваю аднаго з вайсковых аддзелаў земскага войска (паспалітага рушання) ВКЛ, цяжка казаць, наколькі дакладна малюнак узнаўляе выгляд харугвы з бітвы пад Воршай, бо трактат С. Сарніцкага быў створаны ўжо пасля слаўнай падзеі. Але цалкам магчыма, што аўтар мог бачыць і перамаляваць менавіта харугву з пачатку XVI ст., бо, для прыкладу, харугвы земскага войска, створаныя ў другой палове XVI ст. былі ва ўжытку прынамсі да канца XVIII ст., а частка з іх захоўваецца і па сёння. Таксама нельга не заўважыць, што харугвы паспалітага рушання другой паловы XVI ст. аздабляліся выявай "*Пагоні*" ў стандартызаваным выглядзе – з мячом і тарчай, а гэта моцна кантрастуе з нестандартным вершнікам на харугве з "*Вілянаўскага кодэксу*".

---

[255] Zarębska T. *Początki polskiego piśmiennictwa urbanistycznego*. Warszawa, Łódź, 1986. S.263.
[256] *Zarys dziejów wojskowości...* T.I. S.332.

*3. Гравюра з твору Анджэя Крыцкага.*

Гравюра з твору Анджэя Крыцкага (Andrzej Krzycki) 1515 г.[257] рэпрэзентуе адразу некалькі момантаў бітвы пад Воршай: пераправу войска ВКЛ праз Днепр і саму бітву, а па над ёю на воблаку паказаны, верагодна, Святыя Станіслаў і Казімір (Іл.26).



*Іл.26. Гравюра з твору Анджэя Крыцкага.*

З вексілалагічных аб'ектаў на гравюры маюцца дзве выявы сцягоў: харугва з шасціканцовым крыжом па-над войскам ВКЛ падчас пераправы (і такі ж шасціканцовы крыж на тарчы ваяра), а таксама харугва з дзвюма касіцамі з польскім арлом падчас бітвы. Прычым, калі польскі арол на харугве можа тлумачыцца жаданнем аўтара падкрэсліць "*польскасць*" войска ВКЛ, ці жаданнем адзначыць унёсак польскай надворнай харугвы ў перамогу над маскавітамі, дык харугва з шасціканцовым крыжам, а тым больш побач з аналагічнаю выяваю на шчыце, з'яўляецца надзвычай цікаваю. З улікам таго, што гравюра была створана ўсяго праз год пасля славутай падзеі, а А. Крыцкі быў сакратаром Жыгімонта Старога і, адпаведна, прысутнічаў на зборы войска за некалькі дзён перад бітваю пад Барысавам, можам сцвярджаць, што аўтар сам непасрэдна бачыў харугвы войска ВКЛ перыяду бітвы пад Воршай і паказаў адную з іх на гравюры.

*4. Гравюра з бітвай пад Воршай з "Кронікі" Яўхіма Бельскага і праблема рэканструкцыі харугвы гетмана ВКЛ.*

Гравюра ўяўляе сабой ілюстрацыю з кнігі Яўхіма Бельскага "*Kronika polska*" у выглядзе манахромнага дрэварыту[258]. На гравюры паказаны адразу некалькі этапаў бітвы:

[257] Друждж П. *Бітва пад Оршай 1514 года*. Уклейка 6 паміж с.136 і 137.

пераправа войска ВКЛ праз Днепр па пантонным мосце, пачатак бітвы, удар флангавай групіроўкі, узброенай гарматамі (Іл.27).

З вексілалагічных аб’ектаў звяртаюць увагу на сябе тры харугвы ў войску ВКЛ на пярэднім плане: дзве з іх маюць на сабе польскага арла, што, відавочна, тлумачыцца жаданнем аўтара падкрэсліць “*польскасць*” войска ВКЛ і лагічна выцякае з назвы “*Кронікі*”, а трэцяя мае на сабе выяву каталіцкага святога ў біскупскай мітры з посахам у руцэ. У другой палове XVI ст. менавіта такая выява Святога Станіслава была змешчана на рэверсе палотнішча харугвы вялікага гетмана ВКЛ[259].



*Іл.27. Гравюра з “Кронікі” Яўхіма Бельскага.*

Ізноў тут перад намі паўстае пытанне: ці аўтар “*Кронікі*” змясціў на гравюры тагачасны (на 1514 г.) выгляд харугвы вялікага гетмана ці, магчыма, самая гетманская харугва па рэформе 1565–1566 г., што праводзілася Жыгімонтам Аўгустам з мэтай уніфікацыі вексілалагічнай сістэмы земскага войска ВКЛ, захавала на сабе старую кампазіцыю. На другі варыянт ускосна можа паказваць намаляванае на карціне бітвы пад Воршай, прааналізаваным вышэй, вялікае блакітнае палотнішча. Праўда, на ім не відаць ніякай выявы. У канцы XVI–пачатку XVII ст. выява Святога Станіслава на гетманскай харугве ВКЛ стала абавязковай (Іл.28–29).

**Праблема рэканструкцыі асабістых харугваў і харугавак.**

Мы падыходзім да наступнай праблемы – рэканструкцыі сцягоў так званых асабістых харугваў, прыведзеных на бітву пад Воршай буйнымі землеўладальнікамі.

---

[258] *Kronika polska Marcina Bielskiego. Nowo przez Ioach. Bielskiego syna iego wydana. Cum Gratia Priuilegio S.R.M*. Kraków, 1597. Ks.III. Fol.526.
[259] Цітоў А. *Наш сімвал – Пагоня. Шлях праз стагоддзі*. Мн.: Полымя, 1993. С.26–28.

Адразу трэба адзначыць, што сёння практычна немагчыма прасачыць імёны ўсіх шэраговых удзельнікаў той падзеі, бо ў рэестрах і іншых дакументах фіксаваліся адно кіраўнікі харугваў ды колькасць ваяроў, якіх тыя прывялі. Таксама адзначым, што трэба адрозніваць асабістую харугаўку, якая пазначала на полі пэўнага чалавека, ад асабістай харугвы, якая пазначала на полі вайсковую адзінку, бо ўласнік такой адзінкі пад сваёй харугаўкай мог і не ўваходзіць у апошнюю, а быць, напрыклад, пры гетмане.



*Іл.30. Гравюра з "Бібліі Рускай" Францішка Скарыны, 1517 г.*

Паводле расійскага даследчыка А. Лобіна, склад войска ВКЛ быў наступным:

1. Гуф левай рукі ("*Гуф знатны*") на чале з Янам Тарноўскім (складаўся з асабістых харугваў і польскай надворнай харугвы): надворная харугва на чале з Войцехам Сампалінскім; харугвы асабістыя: Яна Пілецкага, Мікалая Вольскага, Мышкоўскіх, Вастрарогаў, Зарэмбоўскіх, Чарнкоўскіх, Слупецкіх, Яна і Станіслава Тэнчыньскіх, Пятра і Станіслава Кмітаў, Яна, Пятра, Марціна Збароўскіх, княжны Аляксандравай, княжны Слуцкай, мітрапаліта Іосіфа І Солтана, князёў Свірскіх, князёў Гедройцкіх, князя Фёдара Чартарыйскага, князя Юрыя Дубровіцкага, Юрыя Зяновіча, князя Фёдара Заслаўскага.

2. Гуф цэнтральны на чале з Янам Свірчэўскім (складаўся з харугваў, найманых паводле рашэння Пётрыкоўскага сойма): кавалерыйскія харугвы Яна Свірчэўскага, старосты лукомскага, Сліжыцкага, Гунборка (Гамборка), Баратынскага (2 харугвы), Хрэшчаноўскага, Гінка, Далузскага, Сецыкноўскага, Цэтрыца, Лушчоўскага, Каспара Мацеёўскага, Міколы Гнаенскага, Казміроўскага, Дамброўскага, Вяльжынскага, Бісіцкага, Глямбоўскага, Русецкага; пяхотныя харугвы: пад камандаваннем Бабалецкага, Шторца, Іскры, Шымкі Кульгавага, Сухадольскага, Зэбрыдоўскага, Сівохі, Чыстоўскага, Пятроўскага, Пераменьскага, Кржыкоўскага, Барунецкага, Бістрэгеўскага Вочкі, Рапаты, Бернарда.

3. Гуф правай рукі на чале з Юрыем Радзівілам складаўся з харугваў земскага войска (паспалітага рушання): харугвы Віленскага, Троцкага ваяводстваў, Жамойцкай і Валынскай зямлі, Гарадзенскага, Ковенскага, Берасцейскага, Уладзімірскага,

Наваградскага, Камянецкага, Менскага паветаў, Дарагічынскага і Бельскага паветаў з Падляшскага ваяводства, з Пінскага княства[260].

Рэканструкцыя харугваў і харугавак мае мець дзве ступені: рэканструкцыі формы і агульнай кампазіцыі палотнішчаў; рэканструкцыя геральдычнага складніку палотнішчаў. Для рэканструкцыі першых на пачатак XVI ст. маем багата выяўленчых крыніцаў, сярод якіх: гравюры за аўтарствам Станіслава Самастрэльніка (Stanisław Samostrzelnik) з ілюстраванай кнігі "*Liber Genesos ilustris Familiae Shidlovicae*", што прысвечана роду Шыдлавецкіх і датуецца 1511–1514 г.[261], а таксама гравюра з "*Бібліі Рускай*" Францішка Скарыны "*Людие Ізраилевы с полки своими около храму божия*", якая датуецца 1517 г.[262] (Іл.30).

На вышэйпералічаных выявах мы бачым практычна аднолькавыя палотнішчы: трохкутныя па форме, з акантоўкаю ("*Біблія Руская*") ці без яе ("*Liber Genesos*"), з гербамі ў крыжы (частка палотнішча ля дрэўка), намаляванымі непасрэдна на палотнішчы ("*Біблія Руская*") ці на тарчы і ў вянку ("*Liber Genesos*").

Вельмі цікава, што Францішак Скарына змясціў на гравюры ня тыя сцягі, што былі апісаныя ў Святым пісанні, але сучасныя для яго, прычым мы можам знайсці там як гербы самога друкара, гэтак і сцяг з гербам Астрожскіх, "*Трубы*" Радзівілаў, сцяг з каралеўскай каронай (магла пазначаць каралеўскую надворную харугву) і інш. Можна меркаваць, што падзеі славутай бітвы наўпрост ці ўскосна наклалі адбітак на вексілалагічную кампазіцыю гравюры ў "*Бібліі Рускай*", а можа нават і зашыфраваныя ў ёй[263].

Для рэканструкцыі геральдычнага складніку кіраўнікоў харугваў войска ВКЛ пакуль недастаткова звестак. Толькі некаторыя харугаўкі (князя Канстанціна Астрожскага, Юрыя Радзівіла, Яна Свірчэўскага і харугвы Яна Тарноўскага) можна прывязаць да пэўных асобаў, бо першыя дзве дэтальна (з гербамі "*Астрог*" і "*Трубы*" адпаведна) намаляваныя на карціне з бітвай, а два апошнія (з гербамі "*Трубы*" і "*Ляліва*" адпаведна) лёгка рэканструяваць, бо тое былі досыць вядомыя асобы, як і іх гербы (Іл.31).

**Заключэнне.**

А што з маскоўскімі сцягамі? Як пісаў славуты пісьменнік ВКЛ Міхалон Літвін (Michalonis Litvani) у сваёй кнізе "*Аб норавах татараў, літоўцаў і маскавітаў*":

"*І калі ў 1529 годзе ўся Вільня згарэла дашчэнту, […] Тут у саборнай царкве блажэннага Станіслава, крытай свінцом з залачонымі вярхамі, […] разам са шматлікімі залатымі, срэбнымі сасудамі згарэла і каля трохсот старажытных сцягоў, здабытых у перамогах над раксаланамі, масквіцянамі, алеманамі і іншымі народамі. Пасля перамогі над масквіцянамі пры Воршы ў дзень Раства Дзевы Марыі, 8 верасня 1514 г., калі забітых ды ўзятых у палон было восемдзесят тысячаў, да гэтых сцягоў былі дададзеныя яшчэ 12*"[264].

Самыя розныя бакі знакамітай Аршанскай бітвы, як важнай падзеі ў айчыннай гісторыі, адным з якіх ёсць вексілалагічная спадчына войск ВКЛ і Вялікага княства Маскоўскага, што ў ёй удзельнічалі, з'яўляюцца важнай спадчынай для пабудовы сваёй дзяржавы, асэнсавання свайго гістарычнага мінулага. Разам з тым, мы стаім зараз толькі ў пачатку вывучэння гэтай складанай праблематыкі.

---

[260] Лобин А. *К вопросу о численности...* С.22–31.
[261] *Liber Genesos ilustris Familiae Shidlovicae*.// http://hailetravel.blogspot.com/2007/08/a-knight-tale.html. Дата доступа: 20.05.2014 г.
[262] *Біблія. Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Францыскам Скарынаю ў 1517–1519 гадах*. Мн.: БелСЭ, 1990. Т.1. С.453.
[263] Шаланда А. *Гербы і геральдычныя выявы на гравюрах "Бібліі Рускай" Францыска Скарыны*. С.122–132.
[264] Литвин М. *О нравах татар, литовцев и москвитян*. М.: Изд-во МГУ, 1994. С.96.

**Альбіна Семянчук**
**(Горадня)**

# ДЗВЕ “ПАХВАЛЫ” ПЯРА ДЭАДАТУСА СЕПТЭНІЮСА.

*Во имя Божее, станся, амин(ь).*
*Ку вечной памяти и речи, все што ся деет под часом*
*сходит с памяти людское посполу с часом*
*и может прийти в знаймост(ь) потом будучих,*
*небудетли заховати на пис(ь)ме.*

Земскі прывілей
Казіміра Ягелончыка 1447 г.
з кодэкса Дзялыньскага.

У дадзеным артыкуле будуць у параўнальным аспекце разгледжаны два цікавыя помнікі пісьменства ВКЛ пачатку XVI ст. “*Пахвала караля Жыгімонта*” і “*Панегірык Гаштольду*”, якія былі змешчаны разам з некаторымі рукапісамі I Статута ВКЛ 1529 г. Апошні, напісаны на старабеларускай і перакладзены на лацінскую і польскую мовы, захаваўся ў сямі спісах – Дзялыньскага, Замойскіх, Фірлейскім, Лаўрэнцеўскім, Пулаўскім, Альшэўскім, Слуцкім і Вострабрамскім[265]. Яны захаваліся ў кодэксах разнастайнага зместу.

Спіс Дзялыньскага з’яўляецца найбольш аўтэнтычным, напісаны каліграфічным почыркам (так званым беларускім курсівам), таму яго тэкст пакладзены ў аснову акадэмічнага выдання I Статута[266]. Спіс Дзялыньскага ўяўляе сабой канвалют, дзе акрамя самога тэксту Статута змешчаны: “*Пахвала караля Жыгімонта*”, земскі прывілей Казіміра Ягелончыка 1447 г., прывілей жыдам 1388 г. і яго пацверджанне ў 1507 г., а таксама выпіскі з пратаколаў шасці соймаў ВКЛ 1544, 1547, 1551, 1554, 1559 і 1563 г.[267] “*Пахвала караля Жыгімонта*” ў якасці прадмовы змешчана таксама ў іншых рукапісах I Статута ВКЛ – Замойскім, Альшэўскім, Пулаўскім і Лаўрэнцеўскім. Гэты твор, відаць, быў данінай удзячнасці Жыгімонту Старому, эпоха панавання якога азнаменавалася прыняццем I Статута ВКЛ. Сучаснікі высока цанілі законатворчую дзейнасць Жыгімонта Казіміравіча.

Другі цікавячы нас помнік – “*Панегірык Гаштольду*” – знаходзіцца толькі ў адным з вядомых спісаў I Статута – Лаўрэнцеўскім. Гэты спіс перапісаны ў 1531 г. ў Кракаве пісарам Лаўрэнціем з Понечы для каралевы Боны[268]. Гэта адзіны спіс, дзе ўказаны аўтар, месца і дата напісання[269]. Лаўрэнцеўскі спіс упершыню даследавалі літоўскія гісторыкі С. Лазутка і Э. Гудавічус у 1976 г.[270] Ён адрозніваецца тым, што тут, акрамя “*Пахвалы караля Жыгімонта*” (далей – ПЖ), прывілея Казіміра 1447 г., прывілеяў жыдам, знаходзіцца “*Пахвала Гаштольда*” (далей – ПГ), якой няма ані ў водным іншым спісе. Знайшоўшыя гэты спіс літоўскія аўтары назвалі яе “*Панегірыкам*”, хаця мы падзяляем меркаванне Ежы Ахманьскага, які лічыў, што прынцыпова гэты твор не адрозніваецца ад аналагічных “*Пахвалаў*” – Вітаўта, Канстанціна Астрожскага, караля Жыгімонта[271], таму яго таксама можна назваць “*Пахвалой*”.

---

[265] Лазутка С., Валиконите И., Гудавичус Э. *Первый Литовский Статут (1529 г.)*. Вильнюс, 2004. С.71.
[266] *Первый Литовский Статут. Факсимиле Дзялыньского, Лаврентьевского и Ольшевского списков*. Вильнюс, 1985. Т.1. Ч.2. С.8.
[267] Лазутка С., Валиконите И., Гудавичус Э. *Первый Литовский Статут…* С.72.
[268] Лазутка С., Валиконите И., Гудавичус Э. *Первый Литовский Статут…* С.97.
[269] Лазутка С., Валиконите И., Гудавичус Э. *Первый Литовский Статут…* С.72.
[270] Лазутка С., Валиконите И., Гудавичус Э. *Первый Литовский Статут …* С.91–92. Lazutka S., Gudavicius E. *Deodato Septenijaus Gostautu “Panegirika”*.// Lietuvos Istorijos Metrastis. 1976 metai. Vilnius, 1977. P.81–89.
[271] Ochmański J. *Deodatus Septennius – zagadkowy autor “Pochwały” Olbrachta Gasztołda z około 1529 roku*.// Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica VI. 1994. Poznań ,1995. S.77.

Жанр “*Пахвалы*” для літаратуры ВКЛ не быў новы: вядомы “*Пахвала вялікага князя Вітаўта*”[272], “*Пахвала Канстанціна Астрожскага*”[273]. Яны павінны былі захаваць у памяці народаў ВКЛ мужныя ўчынкі сваіх герояў, а таксама падзеі нядаўняй гісторыі, каб не забыліся і давалі прыклад наступным пакаленням. Як літаратурны жанр “*Пахвала*” мела літургічнае паходжанне і было прама звязана з так званай *memoria* – гістарычнай памяццю. Так, мітрапаліт Грыгоры Цамблак напрыканцы жыцця (між 1416 і 1419 г.) напісаў “*Похвальное слово Св. Димитрию*”[274]. “*Слово*” было шырока распаўсюджана ва ўсходнеславянскай рукапіснай традыцыі XV–XVII ст. За ўзор браўся “*enkomion*” Ксенафонта[275].



Ego Deodatus Septemmus Notarius
Magnifici domini Alberti Martinidis
Gastoldt heredis de Geranovny Murata
Palatini Vilnensis Cancellarii Magniduca
tus Lithuanie Capitanei Bvelscen et Mo
zirensis Ex mandato eius clemencie domi
ni mei clementissimi Scripsi Iura hec et
attendens bonam et virtuosam conservatio
nem predecessorum domini mei clemētis
et eius clemencie circa principes huius do
minii Magnos duces Lithuanie et erga
totum cōmune bonum terrestre hoc ma
nifesto Reverendis in deo patribus Episco
pis prelatis et Magnificis Ducellis et ba
ronibus consiliariis et Generosis Boiaris
Nobilitati et toti milicie Magniducatus
Lithuanie Prout est bene notum vestre cle
mencie q ad optionem et ad frequentes pre
ces omnium vestre clemencie dominorum
Consiliariorum et eciam ducellorum et do
micellorum et boiarorum nobilitatis et to
cius milicie Magniducatus Lithuanie
et imperpetuonem collorum contra hostes
sue clemencie principis dignatus est eius
clemencia princeps ex singulari gracia et
liberalitate sua hinc dominio suo Magno

*Іл.32. Пачатак ПГ.*

Аўтарства ПЖ звычайна прыпісваецца Войцеху (Альбрыхту) Гаштольду, славутаму віленскаму ваяводзе, канцлеру ВКЛ, на падставе слоў з самой ПЖ:

“*Пра тое я Войцах Кгаштолт, дзедзіч з Мураваных Кгеранойн, ваявода віленскі і канцлер Вялікага княства Літоўскага, справядліва ўчынкі вялікага караля Жыгімонта і вялікага князя Літоўскага пана нашага дзедзічнага выпісаў*”[276].

---

[272] *Супрасльский, Уваровский, Академический, Красинского, Рачинского, Евреиновский, Ольшевский список. Западнорусские летописи.*// ПСРЛ. Т.27. М., 2008. С.64–67, 102–105, 136–139, 176–178, 333–335, 394–396, 458–461.

[273] *Волынская краткая летопись.*// ПСРЛ. Т.35: Летописи белорусско-литовские. М., 1980. С.125.

[274] Па словах мітрапаліта Макарыя (Булгакава): “*тихо и спокойно... и более походит на житие, нежели на церковное поучение*”.// История Русской Церкви. Кн.3. С.505–506.

[275] Kromer M. *Mowa na pogrzebie Zygmunta I oraz O pochodzeniu i o dziejach Polaków księgi XXIX i XXX.* Wstęp, przekład i opracowanie J. Starnawski. Olsztyn, 1982. S.XXII.

[276] *Zbiór praw litewskich od roku 1389 do roku 1520 tudzież rozprawy sejmowe o tychże prawach od roku 1544 do roku 1563.* Poznań, 1841. S.94–95.

Аднак у свой час С. Лазутка і Э. Гудавічус выказалі думку, якую падтрымаў і развіў Е. Ахманьскі, што сапраўдным аўтарам ПЖ мог быць не сам Альбрыхт Гаштольд, а яго пісар Багдан Міхайлавіч Сямашка[277]. Падштурхнула іх да гэтай думкі параўнанне ПЖ з прадмовай да лацінскага перакладу І Статута ВКЛ у 1531 г., які С. Лазутка з Э. Гудавічусам назвалі "*Панегірык Гаштольдаў*".

ПГ у Лаўрэнцеўскім спісе пачынаецца словамі:

"*Ego Deodatus Septennius notarius magnifici Alberti Martinidis Gastolth heredis de Geranoyny Murata Palatini Vilnensis Cancellary Magni ducatus Lithuanie Capitanei Byelscen et Mozirensis ex mandato eius clemencie domini mei clementissimi scripsi iura hec*"[278] (Іл.32).

Што азначае, што Дэадатус Септэніюс запісаў гэтыя правы (Статут – А. С.) па загадзе свайго пана Альбрыхта Марцінавіча Гаштольда, "*дзедзіча на Мураваных Геранёнах*". Гэта значыць, што можна асцярожна меркаваць – вышэй названы Дэадатус мог быць суаўтарам І Статута 1529 г. і належаць да інтэлектуальнай эліты ВКЛ свайго часу.

На пачатку ПГ змешчана інвакацыя да біскупаў, прапатаў, княжатаў і паноў радных, баяраў, шляхты і ўсяго рыцарства (*toti milicie*) ВКЛ, па чыей просьбе вялікі князь Жыгімонт згадзіўся даць ім хрысціянскія правы і загадаў яго пану (А. М. Гаштольду – А. С.) у якасці канцлера сабраць іх і запісаць. Што той і зрабіў. Гэты вялікі ўчынак паслужыў нагодай успомніць славутых продкаў Альбрыхта Марцінавіча. Яго дзед, Ян Гаштаўт, віленскі ваявода, быў ўпраўляючым (*administrator*) у часы каралевіча Казіміра. Ён вярнуў Смаленск і Бранск і ўратаваў жыццё самому Казіміру, калі змоўшчыкі хацелі забіць яго падчас палявання. Бацька яго пана, Марцін Гаштольд, ваявода троцкі, заслужыў вялікую пашану ў свайго гаспадара, калі трымаў ад яго імя Кіеў, бараніў межы ад татараў аж да Тавані. У якасці троцкага ваяводы, будучы хворым не шкадаваў здароўся і выконваў свае абавязкі на роўні з іншымі панамі. Сам Альбрыхт Гаштольд, калі памёр бацька, быў яшчэ малы, але заслужыў павагу караля Аляксандра і сённяшняга гаспадара караля Жыгімонта. Будучы ваяводам у Наваградку, абараніў замак ад 90 тыс. татараў, а потым, трымаючы Полацк, часта пераследваў ворага і спаліў Лукі, парамогшы маскоўскага князя Пятра… Потым пад Чаркасамі стрымаў 100 тыс. татараў і ў тым самым годзе (1518 г.) з Божай дапамогай, без ніякіх стратаў абараніў ад маскавітаў Полацк, забіўшы 8 тыс. ворагаў, а 90 знатных узяў у палон. За гэта быў узведзены на віленскае ваяводства і стаў канцлерам. У якасці віленскага ваяводы паспяшаў на сустрач татарам, якіх дашчэнту разграміў 40 міль за Кіевам. Скончваецца ПГ заклікам да Бога аб здароўі і ласцы для свайго пана.

Як даказалі С. Лазутка і Э. Гудавічус, залугі продкаў Альбрыхта Гаштольда і яго самога ў ПГ "*злёгку*" перабольшаны[279]. Яны параўналі дадзеныя ПГ з "*Хронікай Быхаўца*" і "*Мемарыялам*" Альбрыхта Гаштольда да каралевы Боны 1525 г., у якім ён сам прызнаецца, што ў 1518 г. пад Полацкам разбіў 5 тыс. маскавітаў, а не 8 тыс., як падае аўтар ПГ[280]. Лічбы пераможаных татараў пад Наваградкам і Чаркасамі таксама перабольшаныя ў дзесяткі разоў. Дэадатуса Септэніюса гэта, аднак, не бянтэжыла, паколькі яго асноўнай мэтай было ўзвысіць свайго пана ў вачах каралевы Боны, для якой быў зроблены лацінскі пераклад І Статута ВКЛ.

Е. Ахманьскі даволі пераканаўча даказаў, што пісар Альбрыхта Гаштольда – Багдан Міхайлавіч Сямашка – мог быць гэтым Дэадатусам Септэніюсам, імя якога пераклаў з беларускай мовы на лацінскую той самы Лаўрэнці (Ваўжынец) з Понечы, які перапісаў І Статут ВКЛ па-лацінску ў 1531 г. у Кракаве. Гэтае меркаванне шаноўнага польскага гісторыка, як і ў выпадку з Венцлавам Мікалаевічам (Міхалонам Літвінам, аўтарам

[277] Ochmański J. *Deodatus Septennius – zagadkowy autor...* S.77–82.
[278] Лазутка С., Валиконите И., Гудавичус Э. *Первый Литовский Статут…* С.425.
[279] Lazutka S., Gudavicius E. *Deodato Septenijaus…* P.81–89.
[280] *Acta Tomiciana*. Kraków, 1924–1925. T.VII. S.265. Ochmański J. *Deodatus Septennius…* S.80.

“*Трактата аб норавах татараў…*”), ужо стала агульнапрынятым сярод даследчыкаў[281]. Хаця С. Лазутка і Э. Гудавічус лічаць, што Дэадатус Септэніюс сам пераклаў Статут на лацінскую мову[282], у тым ліку і сваё імя. Аднак наўрад ці Багдан Сямашка не ведаў этымалогіі свайго прозвішча, скарачэння ад Сямёна, і свядома назваўся Септэніюсам – ад лічбы “*сем*”. Нагадаем, што традыцыя перакладаць прозвішчы на лацінскую мову існавала ў часы гуманізму і рэнесансу ў ВКЛ. Напрыклад, Аўгустын Ратундус (Мялецкі) пераклаў аснову свойго прозвішча (пол. “*mieleć*” – лац. “*rotare*”). Некаторыя проста надавалі лацінізаваныя канчаткі да прозвішча (*Krzycki – Cricius*, *Stryjkowski – Strycovius*).

На сённяшні дзень пытанне, хто з’яўляўся аўтарам лацінскага перакладу І Статута ВКЛ застаецца адкрытым. Польскія гісторыкі схільныя шукаць яго ў асяроддзі кракаўскіх праўнікаў[283], літоўскія, як ужо было сказана, лічаць перакладчыкам Дэадатуса Септэніюса.

У большасці спісаў І Статута ВКЛ знаходзіцца наступны цікавячы нас помнік пісьменства пачатку XVI ст. – ПЖ. Яго ўпершыню апублікаваў Тытус Дзялыньскі ў 1841 г. у “*Зборы літоўскіх законаў ад 1389 да 1529 года*”[284]. Як і ПГ, ПЖ у крыніцазнаўчым плане выходзіць далёка за рамкі прадмовы да юрыдычнага дакумента. Яна ўносіць шмат новых нюансаў у даследаванні не толькі генеалагічнага характару, але ў вывучэнне праблем культурнай памяці, *memoriae*, гісторыі ідэй. Як ужо было сказана, ПЖ (глядзі дадатак) змешчана ў так званым кодэксе Дзялыньскага, дзе пасля яе ідзе земскі прывілей Казіміра Ягелончыка, а таксама жыдоўскія прывілеі. Пачатак ПЖ сведчыць, што напісана яна была да І Статута ВКЛ 1529 г., які ў сваіх агульных рысах быў падрыхтаваны і прыняты ўжо на Віленскім сойме ў 1522 г.[285] Але, як паказалі даследаванні літоўскіх гісторыкаў, да стварэння першай версіі Статута прычыніўся заяцты вораг Гаштольда – Мікалай Мікалаевіч Радзівіл, віленскі ваявода і канцлер ВКЛ, а таксама ягоны брат Ян, выдатны праўнік, земскі маршалак. Радзівілы абвінавацілі Гаштольда ў падтрымцы мяцежа князя Міхала Глінскага і дабіліся пазбаўлення яго маёмасці і ўсіх пасадаў. Хаця Альбрыхту Марцінавічу ўдалося апраўдацца і нават заняць высокія пасады, варожасць паміж Радзівіламі і Гаштольдамі не сціхала. Пасля смерці М. М. Радзівіла ў студзені 1522 г. Гаштольд ужо на пасадзе канцлера спрабаваў ачарніць нябошчыка і ўзвысіць свае заслугі. Гэта назіраецца ва ўзгаданым “*Мемарыяле*” Гаштольда каралеве Боне 1525 г. і ў абодвух “*Пахвалах*”[286].

Пачынаецца ПЖ наступнымі словамі:

“*Гэтыя правы дадзены Вялікаму княству Літоўскаму асвечаным і найяснейшым князем вялікім Жыгімонтам, каралём польскім і вялікім князем Літоўскім, Рускім, Прускім, Жамойцкім, Мазавецкім і іншых панам і дзедзічам. Калі паны польскія караля Казіміра празвалі Вялікім Казімірам*[287] *з тае прычыны, што ён збудаваў некалькі местаў і замкаў мураваных у Польшчы, тады, канешне, большыя ўчынкі караля Жыгімонта, які вялікага Казіміра пераўзыйшоў не толькі ў будаванні, але ў іншых вялікіх і славутых рэчах. Перш за ўсё ў абароне Рэчы Паспалітай…*”.

Далей на першым месцы ўзгадваецца славутая перамога пад Воршай, а потым тры перамогі над татарамі пад Клецкам, Лапушнам і за Кіевам.

Славутай Аршанскай вікторыі 8 верасня 1514 г. прысвечаны толькі некалькі словаў, якія паўтараюць агульна вядомые звесткі, што пад Воршай было разбіта 80-

[281] Варонін В. *“Пахвала караля Жыгімонта” Войцеха (Альбрэхта) Гаштаўта і выданне Першага Статута Вялікага Княства Літоўскага*.// Pirmasis Lietuvos Statutas ir epocha. Straipsniu rinkinys. Vilnius, 2005. P.22.
[282] Лазутка С., Валиконите И., Гудавичус Э. *Первый Литовский Статут…* С.61, 251.
[283] Bardach J. *Statuty Wielkiego Księstwa Litewskiego – pomniki prawa doby Odrodzenia*.// Kwartalnik Historyczny. Warszawa, 1974. Nr 4. S.756–757. Ochmański J. *Deodatus Septennius...* S.80–81.
[284] *Zbiór praw litewskich od roku 1389 do roku 1520*. S.92–95.
[285] Лазутка С., Валиконите И., Гудавичус Э. *Первый Литовский Статут…* С.58.
[286] Лазутка С., Валиконите И., Гудавичус Э. *Первый Литовский Статут…* С.57.
[287] Казімір III, польскі кароль у 1333–1370 г.

тысячнае маскоўскае войска і захоплены ў палон яго знатныя правадыры. Не ўзгадаць гэтай вялікай падзеі Гаштольд не мог, але і за многа не было сэнсу гаварыць, бо розгалас пра аршанскую перамогу быў і так шырокі[288]. Наступныя ваенные перамогі Жыгімонта былі Гаштольдам у значнай ступені сфальсіфікаваны. Напрыклад, як падкрэслівае Васіль Варонін, бітва пад Клецкам 5 жніўня 1506 г. увогуле адбывалася яшчэ ў часы панавання Аляксандра[289].

Інфармацыю аб бітве пад Лапушнам знаходзім у спісе Рачынскага:

"*Того ж року (1512 – А. С.) Литва и Поляцы войско Татарское на Лопушне побили, над Литвою был гэтманом князь Костентин Остр(о)зский, а надъ Поляками Миколай Каменецкий, тамъ пишуть Татаровъ збитых двадцать чотыры тисячы от малого воиска Польского и Литовского, бо яко пишуть кроиникаре, иж Польского и Литовского воиска большеи не было толко шесть тисячеи где значна ласка Божя была кгдыж шеснадцать тисячеи вязневъ отгромили, и корысти великие коней Татарских около десети тисячей взяли: по которой битве цар Перекопъский с королем згоды потребовалъ, и для упэвненья покою сына своего Дзалалъдына до Литвы в закладе дал, который сын его в Литве борздо вмеръ за чымъ тэжъ и покои с Татары не долго трвалъ*"[290].

Гэтая славутая бітва, якую М. Стрыйкоўскі апісаў вершамі[291], як і Аршанскую, адбылася 28 красавіка 1512 г. Большасць тагачасных гісторыкаў называюць лічбу загінуўшых татар – 25000, хаця, як паказана вышэй, агучвалася лічба ў 24 тыс.

Трэцяя бітва, узгаданая ў ПЖ – "*за Кіевам у сарака мілях, сорак тысяч татар на галаву пабіў*" (Жыгімонт І – А. С.). Гаворка вядзецца пра перамогу войска ВКЛ на рацэ Альшанцы 27 студзеня 1527 г. – "*часу непагоднага, зімнага, не ваеннага*". Крыніцы ўзгадваюць 24000 пабітых на пляцы татараў і 80000 адбітага палону "*абодвух палоў*"[292]. Дэадатус Септэніюс, жадаючы ўзвялічыць удзел свайго пана ў дадзенай бітве, у ПГ узгадвае:

"*de curia domini mei ducelli et dominicelli quintenti equites*"[293].
"*пяцьсот конных княжатаў і панятаў з двара майго пана*".

Нарэшце на прыканцы ПЖ Гаштольд прыпісвае Жыгімонту Старому заслугу, што той:

"*...хітрага валечніка, а моцнага ваяводу валошскага, каторы праз хітрасць сваю шматкроць турка і цара паракопскага і іншых многіх каралёў паражаў... пад свой голд падбіў*".

Можна пагадзіцца з меркаваннем В. Вароніна, што Гаштольд абагульняе паняцце "*валошскага гаспадара*", надзяляючы тагачаснага Багдана III рысамі ягонага бацькі Стэфана III Вялікага, з якім на самой справе каралі польскія і вялікія князі літоўскія мелі шматлікія клопаты[294] і толькі ў панаванне Жыгімонта Старога яны былі залагоджаны.

М. Кромэр у сваёй бліскучай прамове на пахаванні Жыгімонта Старога, напісанай прыблізна па той самай схеме, што і ПЖ, толькі значна больш шырока, пісаў:

[288] Семянчук А. *Бітва пад Оршай як "фігура памяці"*.// Беларускі гістарычны зборнік. Беласток, 2013. С.73–98.
[289] Варонін В. *"Пахвала караля Жыгімонта"*... С.26.
[290] *Западнорусские летописи*.// ПСРЛ. М., 2008. Т.27. С.346.
[291] Stryjkowski M. *Kronika polska.* S.365–371.
[292] Stryjkowski M. *Kronika polska.* S.394.
[293] Лазутка С., Валиконите И., Гудавичус Э. *Первый Литовский Статут*... С.431.
[294] Варонін В. *"Пахвала караля Жыгімонта"*... С.28–29.

"*Той самы кароль не толькі шчасцем, але таксама хуткасцю дзеянняў перамог малдаванаў, упэўненых у сваіх фартэлях і падступнасці, падбухтораных паразай, якую мы атрымалі на Букавіне ў часы караля Яна Ольбрахта*…"[295].

Да вайсковых заслугаў Жыгімонта Старога ў абароне "*recziprospolitoje*" Гаштольд адносіць:

"*не меньш славуты ўчынак… калі містра прускага, аблуднага законніка, каторы завецца законнікам, а жадных абычаеў законных не захоўвае, звальчыў і звыцежыў*".

В. Воронін у сваім грунтоўным артыкуле аб "*Пахвале караля Жыгімонта*" гэтую фразу трактуе як перамогу ў вайне Польшчы з Тэўтонскім Ордэнам 1519–1521 г., якая была на самой справе для палякаў значнай саступкай на карысць Ордэна[296]. Затое, як лічыць даследчык, Гаштольд "*не захацеў*" напісаць пра "***hołd pruski***", секулярызацыю Ордэна і васальную прысягу герцага Альбрыхта 10 красавіка 1525 г. В. Варонін лічыць, што:

"*прычыну гэтага трэба шукаць, напэўна, у нейкай асаблівай пазіцыі кіраўнічых колаў ВКЛ і па гэтым пытанні*"[297].

Гэты факт гісторык адносіць да "*заслуг Жыгімонта, аб якіх Гаштаўт мог напісаць, але па пэўных прычынах не зрабіў гэтага*"[298]. Сюды ж ён адносіць і адное з галоўных дасягненняў праўлення Жыгімонта Старога – далучэнне Мазовіі да Каралеўства Польскага, якое быццам бы Альбрыхт Гаштольд не палічыў патрэбным адзначыць у ПЖ, таму што паны-рада ВКЛ займалі па гэтым пытанні сваю пазіцыю, адрозную ад поглядаў кіраўнікоў Кароны. У сувязі з гэтым, Гаштольд пісаў пра тыя справы Жыгімонта Старога, якія прынеслі рэальную карысць менавіта ВКЛ, а не Кароне.

На наш погляд пры ўсёй складанасці ўзаемаадносінаў ВКЛ і Кароны па гэтых прынцыповых пытаннях прычына незмяшчэння вышэй названых падзей у ПЖ была больш простая: яны яшчэ не адбыліся, калі твор быў напісаны. Аб гэтым цмяна ўказваў Т. Дзялыньскі ў канцы публікацыі ПЖ у 1841 г. Ён меркаваў, што апошняя пісалася на працягу некалькі гадоў, а калі была скончана – невядома. Па-другое, літоўскія даследчыкі С. Лазутка і Э Гудавічус, хаця і не займаліся спецыяльна самой ПЖ, пішуць, што Статут быў у прынцыпе завершаны Радзівіламі і прыняты на Віленскім сойме 1522 г. Альбрыхту Гаштольду, каб прынізіць ролю Радзівілаў у гэтым грандыёзным праекце і ўзвысіць уласную асобу, трэба было прадпрыняць тэрміновыя захады: хаця б напісаць гэтую невялікую ПЖ. Думаецца, яна была гатовая або да Віленскага сойма на пачатку 1524 г., або да Берасцейскага сойма ў канцы таго ж 1524 г., дзе былі прадстаўлены ўжо новыя рэдакцыі Статута[299].

Па законах жанра "*Пахвалы*" Гаштольд не мусіў быць дакладным рэгістратарам падзей, але павінен быў у найлепшым выглядзе прадставіць дасягненні свайго гаспадара. Вядома, ён карыстаўся прыёмам абагульнення, таму фразы набывалі не канкрэтна-гістарычны сэнс, але абагульнена-панегірычны. У такім ключы была напісана і значна больш аб'ёмная прамова М. Кромэра на пахаванні Жыгімонта Старога, які памёр 1 красавіка 1548 г. Вялікі польскі храніст пісаў між іншым:

[295] Kromer M. *Mowa na pogrzebie Zygmunta I...* S.119–120.
[296] Kromer M. *Mowa na pogrzebie Zygmunta I...* S.119–120.
[297] Варонін В. *"Пахвала караля Жыгімонта"*... С.28–29.
[298] Тамсама.
[299] Лазутка С., Валиконите И., Гудавичус Э. Первый Литовский Статут… С. 59–60.

“*...нашага Жыгімонта прыхільны лёс суправаджаў ад пачатку аж да канца. Ваяваў з магутнымі маскавітамі, з дзікімі татарамі, з заўзятымі малдаванамі, з мужнымі немцамі, нарэшце з туркамі, грознымі пераможцамі. У вялікіх бітвах перамагаў моцныя іх войскі і прымушаў іх уцякаць. Перамагаў ворагаў альбо нішчачы іх, альбо выціскаючы іх з іхных абозаў, альбо спусташаючы іх уладанні*”[300].

На падставе герменеўтычнага аналізу абодвух “*Пахвалаў*” мы, на жаль, не можам пераканаўча даказаць, што ў іх адзін і той жа аўтар. Але падабенства прыёмаў і аргументацыі дазваляе зрабіць папярэднія высновы, што аўтар ПГ Дэадатус Септэніюс (Багдан Сямашка) мог быць таксама аўтарам ПЖ, прынамсі вельмі шчыльна супрацоўнічаў з Альбрыхтам Гаштольдам, ад імя якога яна напісана, будучы яго асабістым пісарам.

**Тэкст.**

[S. 92]

Zygmunt Stary.
Pochwala krola Zygmunta. U 2 wersijach pa starabielarusku z kodexa Dzialynskaha i pa lacinie z kodexa parycka-pulawskaha.

Pochwała korola Zikhimonta i welikoho kniazia Litowskoho, Ruskoho, Pruskoho, Zomojtskoho, Mazoweckoho i inych pana i dedicza.

Sija prawa sut’ dany welikomu kniazstwu Litowskomu czerez osweconoje i najasnejszoje kniaże welikoho Zikhimonta korola Polskoho i welikoho kniazia Litowskoho, Ruskoho, Pruskoho, Zomojtskoho, Mazoweckoho i inych pana i dedica. Jestli panowe Polskije, korola Kazimera prozwali welikim Kazimerom; dla toje pricziny, iż on zbodował nekolho mest i zamkow murowanych w Polszczi: owszem tohdy bolszije wczinki sut’ korola Zikhimonta, kotoryj welikoho Kazimira prewysził, ne tolko w budowaniu, ale i u wynszich welikich, a sławutnych reczach. To jest na perwej w oborone *reczipospolitoje*, prez nelutowanie pracy i rozumu swojeho wysokoho. *Jakož naperwej mocnoho neprijatela w ludeczh i w bohactwie, kniazia welikoho Moskowskoho, pod Orszoju na hołuwu poraził: hde osmdesiat tisiacz ludej z storony Moskowskoho zostalo na placu; i rada jeho wsia priszła, i w wezenije jemu* (вылучана – А. С.). Ktomu czerez ludi swoi okrutnoho walecznika Tatarina, trikrot’ znamenitie na hołowu poraził: perwej nod Kleckom, kotorych zostało na placu dwanadcat tysiaczej; druhij raz na Łopusznom, piat’ i dwadcat’ tisiaczej Tatar zabitych zostało na placu; a za Kijewom w soroku milach, sorok tisiaczej Tatar na hołowu pobił: kotoryje prichodili w panstwo jeho miłosti czasu nepohodliwoho, zimneho, ne wojennoho, czerez rostropnost’ i sprawu jeho miłosti, i czerez hetmana, i panow rad jeho miłosti, tak daleko za Kijewom w soroku milach, hde nikoli wojsko z welikoho kniazstwa Litowskoho ne choživało, za fortunoju jeho miłosti, sut’ porażony, za tyjden pered hromnicami. I ktomu chitroho walecznika, a mocnoho wojewodu Wołoskoho, kotoryj czerez chitrost swoju, mnoho krot’ Turka, i cara Perekopskoho, i inych wele korolew porażał: a wedże, czerez wysokuju sprawu i rozum welikoho korola Zikhimonta i welikoho kniazia Litowskoho, kotorohož Wołoskoho on na hołowu poraził, i radu jeho poimał, i tak jeho zwiteżił, i s nim weczistyj pokoj uczinił, i pod hołd swoj jeho podbił. Jakož mnoho korolew Polskich o to stojali, aby mohli wojewodu Wołoskoho pod hołd i posłuszenstwo swoje podbiti, ale nikhdy ne mohli, odno tot weliki korol Zikhimont i welikij kniaz Litowskij. I też ne mnejszij a sławutnyj wczinok wczinił, khdyż mistra Pruskoho obludnoho zakonnika, kotoryj zowetsia zakonnikom, a żadnych obyczajew zakonnych nechowajet’, zwalcził (s.94) i zwyteżił. A dla toje pricziny, nechaj hożdyj uzrit’ w brojniki, iż bolszije sut’ wczinki i sławnejszeje welikoho korola

[300] Kromer M. Mowa na pogrzebie Zygmunta I... S. 119–120.

Zikhimonta, a niżli welikoho Kazimera. Jestli na onyj czas, panowe Polskije jakom perwej pomenił, dla budowania nazwali korola Kazimera welikim Kazimerom: tohdy owszem, wy panowe Polskije, i też my panowe Litowskije, majem zwati welikim Zikhimontom za jeho wczynki, kotoryje sut' desiat' krot' bolszije wczinki welikoho korola Zikhimonta, niżli welikoho Kazimera. I też my Litwa, ne małuju sławu i czest' dawamy, welikomu korolu Władisławu i welikomu kniaziu Witowtu dla ich wekikich też wczinkow, kotoryje czinim, a wedże, meżi wsimi inimi, nawyszej pokładamy, iż welikoje kniażenie Litowskoje, s pohanstwa nawernuli ku were chrestianskoj. Ale wodle pisma swetoho chrestianskoho, wera bez uczinkow, mertwa jest': a preto, aczkolwe dali nam weru chrestianskuju, ale wczinkow chrestianskich nas byli ne nauczili, praw nam ne dali, czim bychmosia meli sprawowati, jako sia chrestiane sprawujut. Proto, tot jasnyj korol welikij Zikhimont i welikij kniaz Litowskij, zrownał sia jest wczinkom, s perwszim sławnym dedom swoim, welikim korolem Władisławom, i stryjem swoim, welikim kniaziem Witowtom. Jako oni sławutnyje koroli, nas nauczili weri chrestianskoj, tak też tot sławutynyj, jasnyj korol, nas nawcził sprawedliwosti cziniti. Proto ja Wojtech Khasztołt dedicz zmurowanych

[S. 95]

Kheranoju, wojewoda wilenskij i kancler welikoho kniazstwa Litowskoho, khdym sprawedliwe wczinki welikoho korola Zikhimonta i welikoho kniazia Litowskoho pana naszoho dedicznoho wypisał, kotory, iż jeszcze wyszczij i bolszij wczinki kotoryje jeho miłost' za szczastliwoje panowanie swoje czinił i cziniti budet'. Kotoryjeż wczinki istorije i khrachwowe szirej w krojnikach opisujut', lecz na tot czas, szto sia dotyczet' ktomu pisaniu tych dosyt'.

**Фёдар Чарняўскі**
**(Менск)**

# СМАЛЕНСКІ НАМЕСНІК ЮРЫ АНДРЭЕВІЧ САЛАГУБ – АБАРОНЦА ЎСХОДНІХ МЕЖАЎ ВКЛ У КАНЦЫ XV–ПАЧАТКУ XVI ст.

У апошнія часы ў нашым гарамадстве праяўляецца ўсё большая цікавасць да падзей мінулага і штогод мы даведваемся аб асабістасцях, якія на ранніх этапах існавання ВКЛ аказалі немалы ўплыў на станаўленне дзяржавы і ахвяравалі сваё жыццё дзеля захавання яе незалежнасці. Гісторыкі ўважліва вывучаюць іх жыццё і даводзяць да ведама зацікаўленнай часткі нашага грамадства звесткі аб гэтых асобах, подзвігамі якіх можна ганарыцца і сёння. Нягледзячы на гэта, застаецца яшчэ шмат людзей, якія таксама ўдзельнічалі ў вызначальных гістарычных падзеях мінулага, але на іх гісторыкі не звяртаюць увагу, або падаюць іх жыццё ў негатыўнай афарбоўцы. Гэтыя постаці, па нейкіх незалежных ад іх прычынах, нават цаной свайго жыцця, не змаглі дабіцца поспеху ў выкананні пастаўленных перад імі задач. Яны былі зняслаўлены пасля смерці і гэтыя адносіны да іх памяці, у многіх выпадках неапраўдана, захоўваюцца нават сёння. На нашу думку, неабходна заўсёды звяртацца да нашага мінулага дзеля таго, каб яшчэ раз ацаніць яго і пастарацца не пакінуць па-за нашай ўвагай забытых намі продкаў.

Да ліку такіх забытых асобаў, належыць Юры Андрэевіч Салагуб, які двойчы кіраваў абаронай Смаленска: з пачатку 1503 і да студзеня 1507 г. у якасьці каралеўскага намесніка, а потым, у сярэдзіне 1514 г., атрымаў прывілей на пасаду смаленскага ваяводы[301]. Лёс яго трагічны – ён быў пакараны смерцю каралём Жыгімонтам Старым за тое, што здаў маскоўскаму войску пасля некалькіх дзён аблогі Смаленск – асноўную цвердзь ВКЛ на ўсходзе.

Юры Андрэевіч Салагуб у пачатку XVI ст., на час атрымання прывілея на смаленскае намесніцтва, меў за плячыма шмат гадоў жыцця. Не выключана, што ён нарадзіўся да 1460 г. У такім выпадку Юры дасягнуў сталасці каля 1470 г. і прыняў удзел у падзеях, якія разгарнуліся ў апошняй траціне XV ст. на маскоўска-літоўскім памежжы пасля пачатку экспансіі Маскоўскай дзяржавы на захад.

На нашу думку, ён паходзіў са смаленскай шляхты і яго спадчынныя землі знаходзіліся на ўсходзе Смаленскага ваяводства. Па меншай меры, сыны Юрыя ў прывілеях Жыгімонта Старога менаваліся смаленскімі зямянамі. Не захавалася згадак пра бацькоў смаленскага намесніка. Ёсць звесткі пра яго сястру Гальшку і братоў Багдана і Мікалая[302]. Багдан памёр да 1500 г., а Мікалай абараняў Смаленск пад час маскоўска-літоўскай вайны 1500–1503 г. У 1506 г. Мікалай Андрэевіч Салагуб у войску ВКЛ на чале з князем Міхалам Глінскім удзельнічаў у пераможнай бітве з татарскімі загонамі пад Клецкам. Згадкі пра яго далейшы лёс нам не сустракаліся.

Аб гадах маладосці будучага намесніка смаленскага ў гістарычных крыніцах звестак не захавалася. Напэўна, пачатак жыццёвага шляху Юрыя Салагуба, які паходзіў з дробнай, служылай шляхты, не адрозніваўся ад пачатку жыцця іншых яго суродзічаў. Маладыя людзі са шляхецкіх сямей з дзяцінства рыхтаваліся да вайсковай службы, а пасля дасягнення сталасці, прыходзілі ў войска ўжо добра падрыхтаванымі ваярамі.

У гістарычных крыніцах згадваецца аб знаходжанні ў 1488 г. Юрыя Салагуба пры літоўскім двары Казімера Ягелончыка ў якасьці гаспадарскага дваранiна[303]. На нашу думку, ён стаў гаспадарскім дваранінам ужо пасля шлюбу з княгіняй Людмілай Петкаўнай Свірскай, якая паходзіла з літоўскай знаці, на гэты час ужо спавядаўшай каталіцтва. Князь

[301] Wilamowski M. *Sollohub Jerzy z Iwieńca.*// PSB. Warszawa, Kraków, 2000–2001. T.XL. S.318.
[302] Wilamowski M. *Sollohub Jerzy z Iwieńca*. S.318.
[303] Wilamowski M. *Sollohub Jerzy z Iwieńca*. S.318.

Петка Раманавіч Свірскі служыў князям Слуцкім і за сваю верную службу атрымаў у ваколіцах Слуцка і Менска вялікія зямельныя наданні, якія потым перайшлі ў спадчыну яго сямі сынам і шасці дочкам. Не выключана, што ў валоданне нашчадкаў Юрыя Андрэевіча і Людмілы Петкаўны Салагубаў трапіла частка такіх вялікіх валоданняў, як Ясені, Сырмеж, Свір, Варняны, Тракінішкі і Бесяды[304]. У лік уладанняў Салагубаў уваходзілі і землі ў ваколіцах Івянца ў Менскім павеце. Магчыма, гэтыя землі былі выслужаны яшчэ яго бацькам Андрэем Салагубам або самым Юрыем і яго братам Багданам. У 1500 г. кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык пацвердзіў будучаму смаленскаму намесніку запіс, зроблены ў тэстаменце нябожчыка Багдана, на атрыманне ў валоданне земляў у яго частцы Івянца, а таксама ў Целякове, Грэбенях, Кіеўцах, Кабылічах, Павідзішках і Косічах[305].

На нашу думку, Юры Салагуб ужо з маладых гадоў прымаў удзел у вайсковых аперацыях па абароне зямель Смаленшчыны. Несумненна, што ён, пачаўшы службу ў войску шэраговым ваяром, праз некаторы час праявіў свае выдатныя якасці камандзіра і яшчэ да прызначэння на пасаду намесніка, узначальваў харугвы смаленскай шляхты. Яго імя, як аднаго з найбольш паспяховых арганізатараў супраціву наступу Масквы на землі Смаленшчыны, яшчэ да 1500 г. было добра вядома маскоўскім уладам. Нездарама ў 1501 г. паслы вялікага князя маскоўскага пасля прыезду ў ВКЛ “*ветліва*” спрабавалі даведацца, ці сапраўды загінуў у бітве на рацэ Вядроша Салагуб[306].

Харугва, у якой ён служыў, павінна была абараняць вёскі ваяводства ад нападу ахвотнікаў да чужога дабра. Ваяры былі ў пастаяннай баявой гатоўнасці і пры паведамленнях аб з’яўленні чужынцаў выступалі ў паход. Улады ВКЛ, адказныя за абарону смаленска-маскоўскага памежжа, мелі добрую сістэму выведкі, якая дапамагала арганізоўваць сустрэчу праціўніка ў выгодных месцах. Былі выпадкі, калі літоўскія харугвы спазняліся сваечасова паспець на выратаванне жыхароў памежных паселішчаў ад нападу. Тады прыходзілася даганяць рабаўнікоў і адбіваць палонных, пакуль яны не аказваліся пад аховай маскоўскіх войскаў. Аказвалі дапамогу жыхарам Смаленшчыны ў абароне і харугвы памежных паветаў ВКЛ. Вядома аб удзеле ў паходзе на землі Маскоўскага княства віцебскай шляхты.

Той колькасці ваяроў, якую магла выставіць смаленская шляхта, не было дастаткова, каб быць пастаянна гатовымі да дзейнага адпору войскам, якія маскоўскія ўлады трымалі на маскоўска-літоўскім памежжы. Колькасна маскоўскія сілы, якія знаходзіліся ў памежных гарадах, значна пераўзыходзілі вайсковыя адзінкі, якія ўлады ВКЛ выкарыстоўвалі для абароны смаленскага памежжа.

Беларускі гісторык В. Цёмушаў даследаваў прычыны супрацьстаяння паміж дзвюма дзяржавамі і развіццё памежных адносін ВКЛ з Масквой у другой палове XV ст.[307] Пачынаючы з 1470 г. уладары Маскоўскага княства, якія лічылі сябе спадчыннікамі былых кіеўскіх князёў, пачалі дабівацца далучэння памежных земляў ВКЛ, называючы іх “*спадчынай сваіх продкаў Рурыкавічаў*”, ды ўстанаўлення мяжы паміж дзвюмя краінамі па рацэ Бярэзіна[308]. Маскоўскае княства пастаянна трымала на мяжы ВКЛ і Маскоўскага княства рэгулярнае войска, якое крок за крокам перасоўвала мяжу паміж краінамі ўсё далей і далей на захад. У гістарычных крыніцах занатаваны звесткі аб шматлікіх нападах маскоўскіх вайсковых атрадаў на гарады Смаленшчыны. Пасля кожнага такога паходу зямлі Смаленшчыны, якія траплялі ў зону ваенных дзеянняў, пустошыліся, а захопленныя людзі выводзіліся ў палон. Свой унёсак у заваяванне смаленскіх земляў рабілі і

---

304 Wolff J. *Kniaziowe litewsko-ruscy od konca czternastego wieku*. Warszawa. 1895. S.505–508.
305 Wilamowski M. *Sollohub Jerzy z Iwieńca*. S.318.
306 *Памятники дипломатических сношений древней России с державав иностранными, по Высочайшему повелению изданные Императорским Русским Историческим Обществом*. СПб., 1882. С.382.
307 Цёмушаў В. *“Вайна пад час міру”. Першая памежная вайна ВКЛ з Масквою (1486–1494 г.)*.// Беларускі гістарычны агляд. Мн., 2008. Т.15. Сш.1–2 (28–29). С.5–47.
308 Варонін В. *Рака Бярэзіна як мяжа паміж “Руссю” і “Літвой”*.// Беларускі гістарычны агляд. Мн., 2006. Т.13. Сш.2 (25). С.177–197.

уладальнікі зямель у Маскоўскім памежжы. Прыватныя вайсковыя атрады штогод выводзілі ў палон жыхароў Смаленшчыны, а іх дамы і пабудовы знішчалі. На запыты літоўскіх дыпламатаў аб прычынах захопу ўсё новых і новых валасцей ВКЛ вялікі князь маскоўскі і яго слугі адказвалі, што:

"*...Ино мы не ведаемъ которые бы кривды отъ насъ королю делаются. А земель и водъ вотчины королевы за собою не держимъ. З Божьею волею держим земли и воды свою отчину, а того не слышимъ нигде где бы наши люди почили королевымъ людемъ лихо чынити*"[309].

Супрацьстаянне паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам у канцы XV ст. рэдка прымала характар сапраўднай вайны. Некаторыя расійскія гісторыкі (Аляксандр Зімін) называлі стан адносін паміж імі ў гэты перыяд "*дзіўнай вайной*"[310]. Негледзячы на тое, што раней заключаныя дамовы аб міры не касаваліся, ваенныя напады і грабяжы памежных сёлаў і гарадоў Смаленскага ваяводства ажыццяўляліся войскамі Маскоўскага княства на працягу ўсёй апошняй трэці XV ст. Зразумела, што нармальнае жыццё ў такіх умовах было немагчымае. Кожную раніцу селянін, выходзячы на працу на свае палеткі, не мог спадзявацца на вяртанне дамоў. Такія абставіны жыцця не садзейнічалі павялічэнню колькасьці насельнікаў Смаленшчыны і павялічэнню яе вайсковага патэнцыялу. У змаганні з наступам маскоўскіх войскаў пастаянна патрабавалася дзейная дапамога войска ВКЛ. Вынесці на працягу многіх гадоў бясконцыя ваенныя напады і рабаванне маглі не ўсе жыхары Смаленшчыны. Многія князі, якія валодалі землямі на смаленскім памежжы, пад націскам маскоўскіх войскаў прымалі прысягу на вернасць больш моцнаму гаспадару. Аднак знаходзіліся людзі, якія на працягу ўсяго часу супрацьстаяння аказвалі супраціў захопнікам. Да іх ліку мы адносім і Юрыя Салагуба.

Не трэба думаць, што ў памежжы шчыравалі толькі маскоўскія людзі. І на тэрыторыю Маскоўскага княства з ВКЛ хадзілі з помстай початы князёў Масальскіх, Крошынскіх, Вяземскіх, Мязецкіх і многіх іншых, якія валодалі землямі ў неспакойных землях Смаленскага ваяводства. Але прыходзіцца прызнаць, што напады маскоўскіх войск і памежных жыхароў з маскоўскага боку не сустракалі сваечасовай рэакцыі з боку ўладаў ВКЛ. Літоўскае войска збіралася на паспалітае рушэнне толькі праз значны час пасля пераходу мяжы войскамі праціўніка. Войска, якое пры жыцці Альгерда, Кейстута і Вітаўта, уражвала назіральнікаў хуткасцю сваіх дзеянняў і толькі за кошт гэтага выйгравала нямала бітваў, да пачатку XV ст. страціла многія свае якасці. Пасля 1430 г. арыстакратыя ў ВКЛ дыктавала кожнаму кандыдату на вялікакняжацкі сталец свае ўмовы і толькі пасля прыняцця іх згаджалася на абранне яго вялікім князем літоўскім. Пасля кожнага абрання паўнамоцтвы вялікага князя на вядзенне дзяржаўнай палітыкі станавіліся ўсё больш і больш мізэрнымі. Для збору паспалітага рушэння было патрэбна атрымаць згоду Паноў Рады. Вялікаму князю забаранялася мець у сваім распараджэнні найманае войска. У 1497 г. Аляксандр, вялікі князь літоўскі, згодна з сакрэтнай дамовай са сваім братам Янам Альбрыхтам, польскім каралём, без згоды літоўскіх паноў накіраваўся з войскам у Валахію дзеля пакарання валашскага гаспадара Стэфана[311]. Але войска адмовілася перайсці мяжу і запатрабавала вяртання дамоў. З вялікай неахвотай згаджалася шляхта на ўвядзенне пабораў, якія павінны былі забяспечыць войска неабходным рыштункам і дазволіць вялікаму князю наняць патрэбную колькасць наймітаў. У выніку, у канцы XVIII ст. народ, які не хацеў карміць сваю армію, стаў карміць чужую.

Да цяперашняга часу ідуць спрэчкі гісторыкаў, калі Юры Салагуб атрымаў прывілей вялікага князя літоўскага Аляксандра на смаленскае намесніцтва. Юзаф Вольф

---

[309] *Памятники дипломатических сношений древней России...* С.382.
[310] Цёмушаў В. *"Вайна пад час міру"*. С.12.
[311] *Беларускія летапісы і хронікі*. Мн.: Беларускі кнігазбор, 1997. С.152–153.

лічыў, што прызначэнне адбылося да жніўня 1503 г.[312] Сваю прысягу гаспадару Юры Салагуб падпісаў яшчэ 9 красавіка, 6 індыкта. Не выключана, што каралеўскі прывілей быў падпісаны яшчэ ў студзені 1503 г. Для канчатковага вырашэння гэтага пытання неабходна звярнуць увагу на час выканання абавязкаў смаленскага намесніка Станіславам Кішкай, які быў папярэднікам Юрыя Салагуба на гэтай пасадзе.

Вядома, што пасля смерці Мікалая Іванавіча Іллініча, верагодна ў канцы 1499 г., кароль Аляксандр Казіміравіч прызначыў смаленскім намеснікам Станіслава Пятрашкавіча (Пятровіча) Кішку. Гэта быў вопытны дыпламат, які неаднаразова, выконваючы даручэнні вялікага князя літоўскага, наведваў Маскву, спрабуючы выключыць магчымасць вайны. Да вядзення працяглай вайны з Маскоўскай дзяржавай ВКЛ не было гатова. Нам вельмі мала што вядома пра жыццё і дзейнасць Станіслава Кішкі. Ды і свае абавязкі намесніка смаленскага ён выконваў непрацяглы час[313].

Спадзяванні Аляксандра на ўстанаўленне добрых адносінаў з суседам не спраўдзіліся, а намаганні Станіслава Кішкі аказаліся марнымі. Вялікі князь маскоўскі Іван III Васільевіч і яго бліжэйшае атачэнне рэальна ацэнвалі свае магчымасці заваявання прылеглых да маскоўскіх земляў тэрыторый княства і здольнасці літоўскага боку на супраціў. У канцы XV ст. Вялікае княства Маскоўскае завяршыла падрыхтоўку свайго войска для развязвання новай вайны з ВКЛ.

Фактычна вайна пачалася ў 1499 г. Вялікі князь маскоўскі Іван III Васільевіч заручыўся падтрымкай крымскага хана Менглі Гірэя і валашскага гаспадара і паслаў Якава Захар’іна з вялікім войскам на заваёву зямель вакол Бранска і Северскай зямлі[314]. Адначасова на службу да маскоўскага князя перайшлі князі Мажайскія і Шэмячычы са сваімі людзьмі і землямі. На службу да маскоўскага князя прыехаў таксама князь Сямён Іванавіч Бельскі. Аднак аб спробах аблогі ў 1499 г. маскоўскім войскам Смаленска звестак не захавалася.

У красавіку 1500 г. Станіслаў Кішка, у якасці смаленскага намесніка, прыбывае ў Маскву з мірнымі прапановамі вялікага князя літоўскага, які ўпершыню звярнуўся да Івана III як да “*государя всея Руси*”[315]. Але і на гэты раз яго пасольства не прынесла міру ВКЛ. Летам таго ж 1500 г. вялікае маскоўскае войска на чале з Якавам Захар’іным, руйнуючы ўсё на сваім шляху, уварвалася на тэрыторыю ВКЛ. Яно захапіла Бранск, Пуціўль, Мцэнск, Сярпейск, Старадуб, Гомель і некаторыя іншыя гарады памежжа[316]. Групоўка маскоўскага войска, якая ўзначальвалася Юрыем Захар’іным, накіравалася да Смаленска. Аб спробах штурму горада сведчанняў не захавалася. На нашу думку, войска Юрыя Захар’іна цалкам знішчыла ўсе гарадскія пасады, якія знаходзіліся перад мурамі Смаленскага замку. Тыя жыхары Смаленшчыны, якія не паспелі трапіць за сцены крэпасці, або не схаваліся ў лясах, былі выведзены ў Масковію. Несумненна, што Юры Салагуб, які ўзначальваў смаленскія харугвы, у гэты час ставіў адпор захопнікам. Улічваючы колькасць маскоўскіх войскаў, якая ўварвалася ў межы Смаленскага ваяводства, можна зрабіць дапушчэнне, што ён вымушаны быў весці вайну партызанскімі метадамі.

Рашаючая бітва паміж нешматлікімі літоўскімі войскамі і маскоўскімі палкамі адбылася 14 ліпеня 1500 г. на рацэ Вядрошы. У бітву стала не ўсё войска ВКЛ, а толькі невялікая яго частка якую паспеў сабраць князь Канстанцін Астрожскі, гетман ВКЛ. Акрамя павятовых харугваў з Воршы, Мсціслаўля і Віцебска да Астрожскага далучыліся і конныя харугвы смаленскай шляхты, якія ўзначаліў смаленскі намеснік. На нашу думку, Астрожскі далучыў да свайго войска толькі меншую частку смаленскай шляхты, якая з

[312] Wolff J. *Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego 1386–1795*. Kraków, 1885. S.51.
[313] *Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. Ziemia Smoleńska i województwo Smoleńskie XIV–XVIII wiek*. Pod red. A.Rachuby. Oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba, P.Romaniuk. Warszawa, 2003. T.IV. S.51.
[314] *Беларускія летапісы і хронікі*. С.152–153.
[315] Сагановіч Г. *Вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500–1503*.// Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Т.2. С.186.
[316] Сагановіч Г. *Вайна Маскоўскай дзяржавы...* С.186.

пачатку ваенных дзеянняў выступіла на абарону межаў краіны. Большая ж частка шляхты Смаленскага ваяводства, пасля падыхода князя Канстанціна Астрожскага да Смаленска і зняцця Юрыем Захар'іным аблогі, павінна была зачыніцца за мурамі крэпасці дзеля яе абароны. Юры Андрэевіч Салагуб, як каралеўскі ротмістр, далучыўся да атрада князя Канстанціна Астрожскага, гетмана ВКЛ і прыняў удзел у гэтай, нешчаслівай для літоўскага войска, бітве.

Як паведамляе ананімны аўтар "*Хронікі Быхаўца*" рашэнне аб уступленні ў бітву невялікага літоўскага войска, якое згодна з гістарычнымі хронікамі налічвала каля 4 тыс. вершнікаў, было прынята без уліку звестак аб сапраўднай колькасці маскоўскага войска[317]. Згодна з даследаваннем Генадзя Сагановіча на крывавым полі бітвы засталася ўся літоўская армія. Князь Канстанцін Астрожскі, гетман ВКЛ, разам з бліжэйшымі паплечнікамі трапіў у палон. Удалося выратавацца Станіславу Кішку, разам з чатырма ротмістрамі і некалькімі сотнямі ваяроў[318]. Юры Салагуб таксама цудам выратаваўся ад пагібелі. У 1501 г. вялікі князь маскоўскі паслаў у ВКЛ з лістамі Міхала Карасцелёва, даверанага чалавека Якава Захар'іна. Яму загадалі: "*вежливо пытати на Литве, кого со знатных людей забили*" у бітве на Вядрошы. У гэтым выпадку Івана III цікавіў лёс найбольш вядомых у Маскве смаленскіх ваяроў: Шчаснага, Салагуба і Дрожчы[319].

Кароль Аляксандр стараўся прыкласці ўсе магчымыя намаганні для спынення ваеннага супрацьстаяння з Масквой. Улічваючы цяжкія абставіны, якія склаліся для ВКЛ у пачатку XVI ст., не можа дзівіць колькасць паслоў з ВКЛ, якія наведвалі Маскву ў пошуках мірнага вырашэння канфлікту. Не выключана, што адначасова са Станіславам Кішкай у Маскву накіраваўся і Ян Юр'евіч Забярэзінскі, гаспадарскі маршалак, ваявода троцкі. Асоба ваяводы троцкага была добра вядома ў асяродзі вялікага князя маскоўскага. Яшчэ ў пачатку 90-х гадоў XV ст. ён спрычыніўся да шлюбу Аляксандра Казімеравіча з Аленай, дачкой вялікага князя маскоўскага.

Да 13 студзеня 1501 г. з пасланнем караля польскага і вялікага князя літоўскага адпраўляецца ў Маскву і Багдан Івашанцавіч[320]. З асаблівым лістом, з 9 і па 23 студзеня 1501 г., у Маскве знаходзіўся пасол Уладзіслава Казіміравіча, чэшскага караля, які прапаноўваў свае паслугі ў прымірэнні дзвюх дзяржаў. Адначасова з чэшскім паслом у Маскве знаходзілася літоўскае пасольства, якое ўзначальваў Кішка, пазначаны як намеснік смаленскі. У склад пасольства ўваходзіў таксама гаспадарскі пісар Фёдар Грыгоравіч (Святоша). Асноўнай задачай паслоў на гэты раз было дабіцца выдачы з Масквы ў ВКЛ здрадніка князя Сямёна Іванавіча Бельскага[321]. У адносінах паміж дзвюма дзяржавамі пачалі адчувацца нейкія зрухі да лепшага.

Паслам ВКЛ пасля 13 лютага 1501 г. дазволілі сустрэцца з палоннымі – князем Канстанцінам Астрожскім, намеснікам бранскім Станіславам Барташэвічам, намеснікам наваградскім Літаворам Храбтовічам, Мікалаем Юр'евым сынам Глябовічам, былым полацкім намеснікам, Грыгорыем Станіслававічам Осцікам, гаспадарскім маршалкам, намеснікам мерацкім і анікштынскім і Мікалаем Зяноў'евічам, якія трапілі ў палон падчас ваенных дзеянняў у сярэдзіне 1500 г. і пасля бітвы каля ракі Вядрошы[322].

На нашу думку, ўвесь час знаходжання на пасадзе смаленскага намесніка Станіслаў Кішка займаўся ўстанаўленнем мірных адносінаў з маскоўскім вялікім князем. Таму амаль кожны год ён накіроўваўся вялікім князем літоўскім Аляксандрам у Маскву. Зразумела, што пры такіх абставінах выконваць абавязкі смаленскага намесніка і клапаціцца аб павышэнні абароназдольнасці замку і яго гарнізона Станіслаў Кішка не меў дастаткова

---

[317] *Беларускія летапісы і хронікі*. С.154.

[318] Сагановіч Г. *Бітва на Вядрошы 1500*.// Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Т.2. С.45.

[319] *Памятники дипломатических сношений древней России...* С.382.

[320] *Сборник Императорского русского исторического общества. Памятники дипломатических сношений древней России с державами иностранными. Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-литовским государством*. СПб., 1882. Т.35. С.307. № 66.

[321] *Памятники дипломатических сношений древней России...* С.301.

[322] *Памятники дипломатических сношений древней России...* С.322.

часу. Не выключана, што сапраўдным кіраўніком абароны Смаленска ў гэты час быў Юры Салагуб, які ўзначальваў у якасці ротмістра смаленскія харугвы войска ВКЛ. Інакш цяжка растлумачыць, чаму менавіта яго прызначылі намеснікам у Смаленск.

У жніўні 1502 г. сын вялікага князя маскоўскага Дзмітры Іванавіч Жылка з вялікім войскам асадзіў Смаленск і паспрабаваў узяць яго штурмам[323]. Абставіны гэтай вайны малавядомы і звесткі пра яе ход і вынікі не захаваліся. Вялікі князь маскоўскі Іван III даслаў 27 жніўня 1502 г. ліст да свайго сына Дзмітра пад Смаленск, у якім пісаў, каб той са сваімі "*ратными людьми здабывал бы Смоленск*". Пад Смаленск накіроўваўся з казанскай раццю старэйшы сын вялікага князя маскоўскага Васіль, у будучым князь маскоўскі Васіль III Іванавіч. Дзмітры беспаспяхова стаяў пад Смаленскам і толькі з надыходам зімы адышоў у межы сваёй краіны. І на гэты раз ад Смаленскага ваяводства былі адарваны яшчэ некалькі валасцей і яе памеры зменшыліся. Як вынікае з лістоў вялікага князя маскоўскага, адступаючыя войскі Дзмітрыя Іванавіча Жылкі замацавалі за Масквой воласць Ельненскую, Ветлічы, Руду і Шчуч'е[324].

У сувязі з тым, што былы гетман ВКЛ Канстанцін Астрожскі знаходзіўся ў маскоўскім палоне кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аляксандр пасля канчатковага зняцця аблогі са Смаленска надаў намесніку смаленскаму Станіславу Кішку прывілей на пасаду гетмана ВКЛ. Апошні, дзякуючы ўдзелу ў пасольствах у Маскву, быў рэдкім госцем у горадзе і пасля атрымання прывілея пакінуў яго назаўсёды. Аднак, як намеснік смаленскі, ён згадваецца апошні раз у жніўні 1503 г.[325]

У тым жа 1503 г. Станіслаў Кішка ўпамінаецца ўжо ў якасьці гетмана ВКЛ[326]. Відавочна, што ён замяшчаў палоненага князя Канстанціна Астрожскага. У пачатку лета гэтага года крымскія татары нечакана напалі на паўднёвыя воласці ВКЛ. Станіслаў Кішка ўзначаліў невялікія літоўскія атрады і разам з князем Сямёнам Міхайлавічам Слуцкім, Альбрыхтам Гаштольдам і Юрыем Няміровічам дагнаў татарскія загоны за Прыпяццю і нагалаву разбіў напастнікаў. Пераможцы вярнуліся дамоў, вызваліўшы з палону вялікую колькасць жыхароў.

На вакантнае месца намесніка ў Смаленск Аляксандр Казіміравіч у ліпені 1503 г. прызначыў вопытнага ваяра Юрыя Салагуба[327], які ўжо паспеў атрымаць вядомасць аб сваіх здольнасцях не толькі ў ВКЛ, але і ў Маскве. Ён атрымаў Смаленск у сваё намесніцтва ў вельмі цяжкі для горада перыяд. За час ваенных дзеянняў, якія вяліся пасля 1490 г. паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам, Масква цалкам захапіла ўсе памежныя літоўскія замкі, якія забяспечвалі бяспеку Смаленска ад нечаканага нападу. Такая вялікая крэпасць не магла доўга і паспяхова абараняцца, страціўшы амаль усе замкі, якія прыкрывалі яе з боку ворага. Калі раней літоўская мяжа праходзіла непадалёку ад Масквы, то цяпер мяжа наблізілася да Смаленска і час падыхода войскаў праціўніка да горада значна скараціўся.

Смаленск адыгрываў вельмі важную ролю ў абароне ўнутраных раёнаў ВКЛ. У крэпасці не толькі размяшчаліся аддзелы войска ВКЛ, але і захоўвалася вялікая колькасць ваеннага рыштунку, неабходнага для абароны. Землі ў ваколіцах горада надаваліся асобам, здольным у выпадку неабходнасці ўзяць у рукі зброю і стаць на абарону горада. На нашу думку, ўмацаванні Смаленска дазвалялі гораду забяспечваць абарону на працягу значнага часу вялікай колькасці ваяроў і навакольных насельнікаў. Нам не сустракаліся сведчанні аб выгнанні пры аблозе Смаленскага замку мясцовых мірных жыхароў па прычыне недахопу сродкаў для іх харчавання.

[323] *Памятники дипломатических сношений древней России...* С.332–335.
[324] *Памятники дипломатических сношений древней России...* С.483.
[325] *Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. Ziemia Smoleńska...* S.51.
[326] *Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku*. S.41. *Беларускія летапісы і хронікі*. С.159–160.
[327] *Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. Ziemia Smoleńska...* S.51.

Абавязкі Юрыя Салагуба на пасадзе смаленскага намесніка былі значна шырэйшыя, чым гэта было характэрна ў больш пазнейшы перыяд для ваяводаў у ВКЛ. Ён абавязаны быў не толькі пастаянна кіраваць дзеяннямі аддзелаў літоўскага войска на Смаленшчыне, але і займацца ўсімі бакамі жыцця Смаленскага ваяводства.

Звесткі пра Юрыя Салагуба ў крыніцах знікаюць у пачатку 1507 г. Апошняя згадка пра смаленскага намесніка адносіцца да 6 студзеня таго ж 1507 г.[328] Кароль загадаў знайсці 5 службаў людзей у Дубровенскім тракце Смаленскага ваяводства для княгіні Апрані Пятровай Мязецкай. Землі князёў Мязецкіх адышлі да Масквы і княгіня біла чалом каралю аб наданні новых уладанняў для выжывання. Улічваючы тое, што ў ВКЛ пасады надаваліся да "*жывата*" (да смерці), або да часу атрымання новай, больш высокай пасады, для нас, на сённяшні дзень, з'яўляюцца незразумелымі прычыны адыхода Юрыя Салагуба са сваёй пасады. Ю. Вольф меркаваў нават аб яго смерці ў 1507 г.[329] Аднак ён памыляўся. На нашу думку, Жыгімонт Стары недзе яшчэ ў канцы 1506 г. фармальна адхіліў Юрыя Салагуба ад пасады, але пакінуў яго ў Смаленску.

Прычынай адхілення, на нашу думку, быў вайсковы паход смаленскага намесніка ў канцы 1506 г. на акупаваныя Масквой землі Ветліцкай воласці, а таксама ў Шчуч'е і Руды. Улады ВКЛ маўкліва прызналі страту гэтых зямель. Аднак Юры Салагуб не пагадзіўся з іх стратай. У дыпламатычнай перапісцы Жыгімонта Старога з вялікім князем маскоўскім ёсць згадкі, што смаленскі намеснік па-ранейшаму лічыў гэтыя землі прыналежнымі да ВКЛ[330]. Таму, выбраўшы час ён з харугвамі смаленскай шляхты наведаў захопленные воласці, нададзеныя вялікім князем маскоўскім князю Сямёну Бельскаму, які яшчэ ў пачатку стагоддзя перайшоў на службу Маскоўскай дзяржаве[331]. Вынікі гэтага набегу былі паспяховымі. Юры Салагуб вывеў вялікі палон і захапіў шмат маёмасці. Магчыма, гэта быў набег у адказ. У тым самым 1506 г. Жыгімонт Стары неаднойчы скардзіўся вялікаму князю маскоўскаму на тыя шкоды і грабяжы, якія чыняць смаленскім людзям у памежжы "*памешчыкі дарагабужскія*"[332].

10 ліпеня 1507 г. вялікі князь маскоўскі Васіль III Іванавіч перадаў літоўскім паслам Багдану Сапежычу, пісару, Яну Мікалаевічу, каралеўскаму маршалку і Пятру Аляхновічу, кухмістру ліст да Жыгімонта Старога, у якім выказаў сваю скаргу "*на многія крыўды ад людзей Вялікага княства Літоўскага*"[333]. Значная частка ліста маскоўскага ўладара была прысвечана дзеянням смаленскага намесніка ў адносінах да людзей са Пскова і зямель былых літоўскіх валасцей Ветліцкай, Руды і Шчуч'я.

Аб сваім незадавальненні дзейнасцю смаленскага намесніка на памежжы вялікі князь маскоўскі даводзіў Жыгімонту Старому і праз сваіх паслоў М. Маклакова ў 1504 г. і І. Рахманіна ў 1505 г.[334] Магчыма, вялікі князь маскоўскі абумовіў заключэнне трывалага міру на літоўска-маскоўскай мяжы адкліканнем ваяўнічага ваяра з яго пасады. На нашу думку, менавіта паспяховыя дзеянні смаленскага намесніка па абароне Смаленшчыны і яго набег на землі, якія былі некалькі гадоў назад страчаны для ВКЛ, былі асноўнай прычынай адклікання Юрыя Салагуба з пасады. Жыгімонт Стары нядаўна заняў пасаду вялікага князя літоўскага і яму патрабаваўся некаторы час мірнага сужыцця з Вялікім княствам Маскоўскім дзеля ўмацавання сваёй улады.

Адкліканне з пасады Юрыя Салагуба не выратавала ВКЛ ад новай вайны. Яна пачалася ў красавіку 1507 г. і доўжылася да кастрычніка 1508 г. Спачатку намеснікам смаленскім Жыгімонт Стары прызначыў Юрыя Іванавіча Зяновіча, які ў крыніцах

---

[328] *Lietuwos Metrika*. Vilnius, 1995. Kn.8 (1499–1514). P.184. *Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. Ziemia Smoleńska...* S.51.
[329] Wolff J. *Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego*. S.51.
[330] *Lietuwos Metrika*. Vilnius, 1995. Kn.8 (1499–1514). P.49.
[331] *Lietuwos Metrika*. Vilnius, 1995. Kn.8 (1499–1514). P.66.
[332] *Lietuwos Metrika*. Vilnius, 1995. Kn.8 (1499–1514). P.66.
[333] *Lietuwos Metrika*. Vilnius, 1995. Kn.8 (1499–1514). P.66.
[334] Wilamowski M. *Sollohub Jerzy z Iwieńca*. S.318.

упершыню згадваецца на пасадзе 22 лютага 1507 г.[335] Аднак ён, на нашу думку, не змог прыступіць да выканання сваіх новых абавязкаў. Яшчэ ў канцы 1506 г. яго накіравалі разам з Яцкам Ратамскім у Крым для правядзення перамоў з Менглі Гіреем, ханам Крымскага ханства, аб сумесных дзеяннях у барацьбе з Маскоўскай дзяржавай. У 1507–1508 г. Юры Зяновіч часцей наведваў Крым, чым горад, у які яго прызначылі намеснікам. Да 30 верасня 1508 г. кароль прызначае ваяводам смаленскім Юрыя Глябовіча[336]. Ён таксама, як і Зяновіч быў толькі намінальным кіраўніком Смаленска і большую частку часу выканання абавязкаў смаленскага ваяводы знаходзіўся ў Вільні. Адзначана яго адсутнасць у Смаленску на працягу першай паловы 1514 г. Ён знаходзіўся пераважна ў Вільні і ў складзе паноў-рады займаўся вырашэннем дзяржаўных пытанняў яшчэ 6 мая 1514 г.[337] Юры Глябовіч меў ужо шмат гадоў за плячыма і праз некалькі гадоў пасля падзення Смаленска сышоў з гэтага свету.

Падрыхтоўка Маскоўскай дзяржавай вялікага войска для правядзення ў чэрвені–ліпені 1514 г. новай аблогі горада вялася з пачатку года і не магла быць таямніцай для ўладаў ВКЛ. Знаходжанне Юрыя Глябовіча ў Вільні пад час небяспекі для Смаленска можна патлумачыць толькі тым, што Жыгімонт Стары захаваў за Юрыем Андрэевічам Салагубам абавязкі па кіраўніцтву абаронай Смаленска. Ужо 9 красавіка 6 індыкта ён прынёс прысягу аб выкананні абавязкаў намесніка караля ў Смаленску. Нам не сустракаліся аналагічныя прысягі намеснікаў, якіх кароль накіроўваў у гарады Княства. На нашу думку, прыняцце прысягі абумоўлівалася выключна цяжкімі абставінамі ў якіх апынуліся ўсходнія тэрыторыі ВКЛ. Юры Андрэевіч Салагуб абяцаў шчыра выконваць свае абавязкі ў памежным горадзе:

“*Я буду верна і справядліва служыць і замак смаленскі ўзяў і яго да горла майго бараніць буду і нікому не паддамся*”[338].

Нягледзячы на тое, што паведамленні аб знаходжанні Юрыя Салагуба ў Смаленску датычацца толькі 1503–пачатку 1507 г. і сярэдзіны 1514 г., мы лічым, што ўвесь гэты час, пачынаючы з моманту свайго прызначэння на пасаду смаленскага намесніка і да падзення крэпасці, ён узначальваў абарону крэпасці і навакольных мясцінаў.

Ігар Царык у сваім даследаванні аб прычынах і наступствах барацьбы за Смаленск паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам, прыводзіць словы Жыгімонта Старога, якія даюць дастатковае ўяўленне аб магчымасці крэпасці вытрымаць любую аблогу:

“*Магутная яна (крэпасць) дзякуючы самой рацэ (Дняпру), балотам, а таксама чалавечаму майстэрству, дзякуючы байніцам з дубовых брусаў, складзеных зрубам у выглядзе чатырохкутнікаў, набітых глінай знутры і звонку, каменнай сцяне. Акружана яна рвом і такім высокім валам, што ледзь бачны верх гмахаў, а самі ўмацаванні не могуць быць разбіты ні стрэламі з гармат, ні таранамі, ды і не падрыцца пад іх, не разваліць і не спаліць пры дапамозе мін, агню ці серы*”[339].

На цяперашні час не вызначана колькі разоў у канцы XV–пачатку XVI ст. маскоўскія войскі спрабавалі ўзяць горад. Па нашых, вельмі прыблізных падліках, пачынаючы з 1500 г. маскоўскія войскі не менш чым восем разоў падступалі пад яго сцены і бралі ў аблогу. Маскоўскія войскі хадзілі на ВКЛ у 1500, 1502, 1503, 1507, 1508, 1512, 1513 і 1514 г. У лютым 1503 г. Іван ІІІ у чарговы раз паслаў у межы ВКЛ войска, якое працягвала тую ж справу, якой яны займаліся на працягу ўсяго мінулага года. Ізноў

[335] *Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. Ziemia Smoleńska...* S.51.
[336] *Lietuwos Metrika*. Vilnius, 1995. Kn.8 (1499–1514). P.287.
[337] *Lietuwos Metrika*. Vilnius, 2009. Kn.9 (1511–1518). P.286.
[338] *НГАБ у Менску*. КМФ-18. Воп.1. Спр.7. Арк.506.
[339] Царык І. *Смаленск паміж Літвой і Масквой*.// Беларускі гістарычны часопіс. Мн., 2001. № 1. С.41–45.

гарэлі хаты і палонныя ішлі на чужыну. У выніку заключанага 2 красавіка 1503 г. шасцігадовага перамір'я Масква атрымала вялікую частку тэрыторыі ВКЛ з гарадамі: Белая, Бранск, Веліж, Папова Гара, Сярпейск, Хоцім, Радагошч, Мцэнск, Масальск, Мезецк, Мглін, Невель, Любуцк, Серанск, Рыльск, Трубчэўск, Дрокаў, Дарагабуж, Любуцк і некаторыя інш.[340] У лістападзе 1507 г. маскоўскія войскі ізноў увайшлі на тэрыторыю ВКЛ і пачалі пустошыць усходнія землі дзяржавы. Гісторыкам вядома аб аблозе Мсціслаўля і Крычава. Зразумела, што на захад пайшлі ў асноўным дапаможныя аддзелы маскоўскага войска. Асноўная частка яго ж накіравалася да Смаленска і ізноў паспрабавала захапіць горад. На нашу думку, толькі наступленне халадоў прымусіла маскоўскія палкі адступіць на сваю тэрыторыю. Пасля пачатку ў лютым 1508 г. паўстання князя Міхала Глінскага войскі вялікага князя маскоўскага Васіля ІІІ Іванавіча на чале з Астафеем Дашкевічам падышлі да Дняпра, але не перайшлі яго і не падтрымалі намаганні Глінскага захапіць Менск, Слуцк і некаторыя іншыя гарады ВКЛ. Ізноў маскоўскае войска не абмінула Смаленск і шчыльна ўзяла горад у аблогу.

ВКЛ у пачатку другога дзесяцігоддзя XVI ст. было знясілена войнамі на два франты: на краіну з 1505 г. штогод учынялі набегі загоны крымскага хана. Да пачатку другога дзясяцігоддзя XVI ст. краіна яшчэ не ліквідавала наступствы мяцежа князя Міхала Глінскага. Калі да набегаў крымчакоў мелі некаторы уплыў уладары Маскоўскага княства, якія пабухторвалі хана, то віна за мяцеж князя Міхала Глінскага, на нашу думку, цалкам ляжыць на самым Жыгімонце Старым і літоўскай магнатэрыі.

Трохгадовае перамір'е паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам з 1508 па 1512 г. было выкарыстана праціўнікамі па рознаму. Найбольш падрыхтаваным і гатовым да вядзення вялікай і працяглай вайны ізноў аказалася Вялікае княства Маскоўскае. Яго кіраўніцтва змагло зрабіць вывады з мінулага досведу і лепей падрыхтавала сваё войска. У той жа час літоўскае кіраўніцтва не зрабіла належных вывадаў з крывавых войнаў. Мэты, якія ставілі перад сабой вялікія князі маскоўскія, не былі цалкам дасягнуты падчас войнаў, якія вяліся з 1500 па 1508 г. Стаяла пытанне аб выбары дагоднага часу для чарговай спробы па захопу зямель. На пачатак вайны Маскоўскага княства з ВКЛ, а менавіта ў 1512 г., аказалі ўплыў некалькі абставінаў. Галоўную ролю сярод іх адыграў нечаканы напад крымскіх войскаў на паўднёвыя межы Маскоўскай дзяржавы і падзеі, звязаныя з апошнім гадамі жыцця і смерцю польскай каралевы і вялікай княгіні Алены, сястры вялікага князя маскоўскага.

Войскі крымскага хана Менглі Гірэя, якія ўзначальвалі яго сыны, ў чарговы раз паспрабавалі нанесці ўдар па паўднёвым землям Вялікага княства Маскоўскага. На нашу думку, маскоўскія межы на поўдні ахоўваліся значна лепей, чым паўднёвая мяжа ВКЛ. Нягледзячы на нечаканасць нападу татарскія загоны не змаглі прарвацца да Масквы. З вялікімі намаганнямі і стратай сілаў маскоўскія ўладары змаглі спыніць набег. Самае галоўнае заключалася ў тым, што не ўдалося захаваць у таямніцы ролю Жыгімонта Старога ў арганізацыі гэтага нападу. На кароткі час ён змог устанавіць прыязныя адносіны з уладарамі Крыма і патаемна дабіўся іх згоды на ўдар у плечы маскоўскім войскам. Улады Маскоўскага княства даведаліся ад крымчакоў аб тым, хто быў ініцыятарам гэтага набега.

У дадатак у Маскву прышлі звесткі аб арышце Алены, жонкі памерлага караля польскага і вялікага князя літоўскага Аляксандра. Па нейкіх прычынах Алена выехала ў Браслаў, які знаходзіўся непадалёку ад мяжы ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай. Падазраючы яе ў патаемных перамовах з братам, літвіны, якія былі прыстаўлены Жыгімонтам Старым для нагляду за гэтай, вельмі небяспечнай для яго жанчынай, а менавіта Грыгоры Осцік, ваявода троцкі, які разам з князем Канстанцінам Астрожскім некалькі гадоў знаходзіўся ў маскоўскім палоне, Мікалай Мікалаевіч Радзівіл, ваявода віленскі і Войцех Клочка перахапілі яе ў дарозе. Спачатку яе прывезлі ў Трокі, а потым у іншае месца, якое забяспечвала лепшыя магчымасці для аховы[341]. Усё гэта паслужыла апошняй кропляй,

[340] Сагановіч Г. *Вайна Маскоўскай дзяржавы...* С.186.
[341] *Памятники дипломатических сношений древней России...* С.497–499.

якая прымусіла ўладара Маскоўскага княства да адмовы ў 1512 г. ад выканання мірнай дамовы. Праз некаторы час пасля арышту Алена памерла, як небезпадстаўна падазравалі ў Маскве, ад атруты.

У лістападзе 1512 г. на Смаленск вырушылі з усходу палкі лепшых маскоўскіх военачальнікаў: І. Рэпніна-Абаленскага, І Чэлядніна, В. Адоеўскага і С. Курбскага[342]. Асноўная іх частка канцэнтравалася у ваколіцах Вялікіх Лукаў. Ім было загадана ўзяць крэпасць у аблогу, знішчыць паселішчы ў ваколіцах горада і рухацца далей на захад у накірунку Воршы. Неабходна было забяспечыць войскі, якія былі вызначаны для правядзення аблогі Смаленска, ад нечаканага ўдара харугваў войска ВКЛ. Асноўныя сілы маскоўскіх войскаў, мэтай якіх было здабыццё Смаленска, па чале з Васілём ІІІ выйшлі з Масквы толькі 19 снежня гэтага ж года. У пачатку студзеня 1513 г. 60 тыс. ваяроў, узмоцненныя артылерыяй, якая складалася са 140 гарматаў падышла да муроў Смаленска. Аблога працягвалася каля шасці тыдняў і нанесла гораду пашкоджанні, якія абаронцы не змаглі ліквідаваць да пачатку наступнай аблогі.

Уладар Маскоўскага княства і яго ваяводы разлічвалі ў асноўным на ўздзеянне гарматнага агню на абаронцаў горада і не падрыхтаваліся да доўгага вядзення аблогі ў зімніх умовах. Страціўшы каля 2000 ваяроў маскоўскае войска адышло ў свае межы. Аб дзеяннях войска ВКЛ у гэты час нам невядома.

Летам 1513 г. маскоўскія войскі ізноў уварваліся ў межы ВКЛ. На гэты раз становішча было яшчэ больш цяжкім. У чэрвені таго ж 1513 г. маскоўскія войскі падышлі да Смаленска. Пачатак гэтай кампаніі адзначыўся некалькімі нязначнымі поспехамі войска ВКЛ. Смаленскі гарнізон, які ўзначальваў Юры Салагуб, падчас вылазкі за муры крэпасці, прымусіў адступіць раць маскоўскага ваяводы І. Рэпніна. Каля Воршы князь Канстанцін Астрожскі з некалькімі харугвамі спыніў прасоўванне дапаможных атрадаў маскоўскага войска, якія спяшаліся на дамогу ваяводам, што атачылі Смаленск. Аднак гэтыя перамогі, дасягнутыя невялікімі сіламі над нязначнымі вайсковымі адзінкамі войск Масквы, не маглі стварыць умовы для выгнання праціўніка за межы краіны.

Што ж датычыцца перамогі князя Канстанціна Астрожскага, то і ў гэтым выпадку ёсць пацвярджэні таго, што ВКЛ не падрыхтавалася да дзейнага адпору заваёўнікам. У распараджэнні гетмана было толькі некалькі павятовых харугваў. Паспалітае рушэнне толькі пачало збірацца ў вызначаным месцы і патрэбен быў час, каб яно магло адыграць рашаючую ролю ў змаганні з ворагам.

Толькі ў кастрычніку 1513 г. авангард літоўска-польскага войска, якое з вялікімі цяжкасцямі ўдалося сабраць Жыгімонту Старому, з’явіўся ў раёне баявых дзеянняў. Не ўступаючы ў бітву, маскоўскія аддзелы, якія займаліся аблогай Полацка і Смаленска, або пустошылі ўсходнія паветы ВКЛ адышлі з тэрыторыі нашай дзяржавы. Надыходзіла зіма, падчас якой і літоўскае і маскоўскае войскі не ваявалі, а адыходзілі на зімовыя кватэры. Вайсковыя дзеянні ў зімні перыяд абмяжоўваліся набегамі невялікіх, атрадаў вершнікаў.

Новы паход Васіль ІІІ пачаў 8 чэрвеня 1514 г. Ва ўсходніх паветах ВКЛ значных вайсковых сіл традыцыйна не аказалася. Значна зменшыўся і вайсковы патэнцыял Смаленскай крэпасці. За шэсць месяцаў, якія прайшлі пасля зняцця аблогі, Юры Салагуб не змог аднавіць усе разбураныя ў 1512 і 1513 г. умацаванні крэпасці. У ваколіцах горада не аказалася дастатковай працоўнай сілы, якая была неабходна для хуткага і якаснага аднаўлення пашкоджанных муроў крэпасці. Яе гарнізон не меў у сваім распараджэнні дастатковай колькасці правіянту і фуражу. Ды і колькасць абаронцаў паменшылася. Горад абаранялі ад ворага сілы шляхецкага апалчэння. Большая частка шляхты кінула сваю маёмасць і з’ехала на захад, а многія былыя абаронцы горада не адгукнуліся на заклік Юрыя Салагуба і палічылі за лепшае схавацца ў лясах. Тыя ж ваяры, якія знаходзіліся на сценах Смаленскага замку і ў выпадку аблогі павінны былі абараняць яго, бачылі сваю нешматлікасць і адчувалі нядольнасць да працяглай абароны.

---

[342] Сагановіч Г. *Вайна Маскоўскай дзяржавы...* С.187.

Горад узялі ў аблогу 15 ліпеня, а праз 11 дзён пачаўся яго абстрэл з гарматаў. Хапіла толькі тры дні гарматнага абстрэлу, каб умацаванні горада, якія былі наспех адрамантаваны, пачалі разбурацца. Ратуючы жыхароў, смаленскі епіскап Варсанофі выйшаў за муры горада і стаў прасіць вялікага князя маскоўскага аб спыненні баявых дзеянняў. Васіль ІІІ не пагадзіўся на спыненне абстрэлу горада. Патрэбнай дапамогі ад сваіх войскаў падданыя Жыгімонта Старога на Смаленшчыне не атрымалі і 31 ліпеня 1514 г. Смаленск вымушаны быў капітуляваць[343]. 1 жніўня маскоўская армія ўступіла ў пераможаны горад. Невялікая частка абаронцаў Смаленска не згадзілася прыняць прысягу на падданства вялікаму князю маскоўскаму і была адпушчана Васілём ІІІ у ВКЛ. Як і ў мінулыя гады літоўска-польскае войска было гатова да бітвы з ворагам толькі у пачатку верасня 1514 г. На той час маскоўскае войска ўжо стаяла каля Бярэзіны.

Беларускі гісторык Анатоль Грыцкевіч лічыць, што толькі дзякуючы намаганням князя Міхала Глінскага, які падкупіў некаторых кіраўнікоў абаронцаў Смаленска, горад вымушаны быў адчыніць брамы[344]. Ваеначальнікі, якія згадзіліся на прапановы Глінскага, рэальна ацэньвалі стан спраў і прышлі да адзінай слушнай высновы аб немагчымасці працягваць далей абарону. Князь Міхал Глінскі мог удзельнічаць у перамовах з абаронцамі Смаленска толькі як пасярэднік. Аб адсутнасці здрадніцтва сярод абаронцаў горада сведчаць падзеі, якія адбыліся пасля спынення ваенных дзеянняў. Вялікая колькасць насельнікаў Смаленшчыны была выселена ва ўнутраныя раёны Маскоўскай дзяржавы, а некаторыя адметныя асобы былі пакараны смерцю за спробу пры падыходзе літоўска-польскіх палкоў здаць ім горад.

Здаецца, што і Юры Салагуб быў згодзен скласці зброю, інакш ён павінен быў нават з пагрозай для свайго жыцця паспрабаваць перашкодзіць здрадніцкім намерам сваіх падначаленых. Яму з невялікай колькасцю абаронцаў дазволілі выйсці з горада. За невыкананне загаду і прысягі аб утрыманні горада яму пагражала верная смерць. Верагодна яго дзеці знаходзіліся ў ВКЛ і маглі таксама пацярпець ад абвінавачванняў у здрадзе. На нашу думку, Жыгімонт Стары, які прысудзіў Юрыя Салагуба да пакарання смерцю, спрабаваў такім чынам уздзейнічаць на іншых сваіх наместнікаў, якія маглі апынуцца ў аналагічных абставінах. Не выключана, што гаспадар, якога ў ВКЛ абвінавачвалі ў няздольнасці аказаць дзейсную дапамогу абложанаму Смаленску, вырашыў частку сваёй адказнасці перакласці на Салагуба.

Значная частка адказнасці за страту Смаленска павінна быць ускладзена на самога Жыгімонта Старога. Ён, высока ацэньваючы моц муроў Смаленска, не ўлічыў магчымасць нанясення маскоўскімі войскамі крэпасці катастрафічных разбурэнняў. Таму і падрыхтоўка да новай аблогі Смаленскага замка кіраўніцтвам ВКЛ не вялася ў патрэбным аб'ёме. На нашу думку, жыхары горада не маглі самастойна аднавіць муры замку, якія моцна пацярпелі за часы мінулых наступаў маскоўскага войска.

Як лічыць Г. Сагановіч асноўнай прычынай той лёгкасці, з якой маскоўскія войскі дабіваліся сваіх мэтаў у вайне з ВКЛ у 1512–1514 г. у многім тлумачыцца наяўнасцю саюза паміж Масквой і еўрапейскімі краінамі[345]. У другой палове XV ст. Ягелоны змаглі перасварыцца з усімі сваімі еўрапейскімі саюзнікамі. Максіміліян I, імператар Святой Рымскай Імперыі, уступіў у саюз з Васілём III, маскоўскім князем і не перашкаджаў яму атрымліваць зброю і ваяроў з заходніх краінаў[346]. Дзякуючы намаганням Максіміліяна I у Маскву прыехала некалькі вядомых італьянцаў, добра дасведчаных у справе аблогі замкаў. Ён жа праслаў на дапамогу свайму саюзніку аддзелы пяхоты з гарматамі. Асноўнай прычынай далучэння Максіміліяна I да саюза з Масквой былі невырашаныя памежныя пытанні з Ягелонамі. Уладзіслаў, кароль чэшскі, родны брат Жыгімонта Старога, прэтэндаваў на ўключэнне ў склад сваяго каралеўства зямель Венгрыі. На

[343] Сагановіч Г. *Вайна Маскоўскай дзяржавы...* С.187.
[344] Грыцкевіч А. *Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г.*// Спадчына. 1992. № 6. С.2–11.
[345] Сагановіч Г. *Вайна Маскоўскай дзяржавы...* С.187.
[346] Царык І. *Смаленск паміж Літвой і Масквой*. С.41-45.

дапамогу каралю чэшскаму адпраўляліся ў далёкую Венгрыю польскія войскі, у склад якіх уваходзілі і харугвы з ВКЛ. У дадатак, яшчэ у канцы мінулага XV ст. сыны Казіміра, караля польскага і вялікага князя літоўскага, Ян Альбрыхт, Уладзіслаў і Аляксандр, прадпрымалі высілкі для каранавання свайго брата Жыгімонта на трон Святой Рымскай Імперыі.

Супраць Жыгімонта Старога склалася ваенная кааліцыя, у якую ўваходзіла пяць еўрапейскіх дзяржаваў[347]. Саюзнікі нават вырашылі пытанне аб падзеле польскіх і літоўскіх земляў. Аўстрыйскі эрцгерцаг Максіміліян І павінен быў атрымаць частку тэрыторыі Польшчы, а Васіль ІІІ – землі ВКЛ. Да саюза далучыліся крыжакі, дацкі кароль, курфюрсты саксонскі і брандэнбургскі, а таксама валашскі гаспадар. Тэўтонскія рыцары былі пакрыўджаны ўмовамі Торуньскага міру 1466 г. Для аховы межаў з Інфлянтамі Жыгімонту Старому прыйшлося адцягнуць з усходняга фронту значную частку сваіх харугваў.

Сыны Юрыя Салагуба, на нашу думку, нарадзіліся каля 1470 і дасягнулі сталасці да 1490 г. У 1510 г. у матэрыялах Метрыкі ВКЛ яны згадваюцца сярод смаленскіх ваяроў, якія ў ліку вязняў "*у Маскве сядзелі*". Гэта былі старэйшыя сыны смаленскага намесніка – Мікалай і Войцех[348]. С. Рыбчонак выказаў думку, што смаленскія ваяры, якія атрымлівалі наданні Жыгімонта Старога ў 1509–1510 г., трапілі ў маскоўскі палон пасля бітвы на Вядрошы ў 1500 г. Згадка аб тым, што Юры Салагуб прывёў на поле бітвы ў складзе смаленскай харугвы і сваіх сыноў, патрабуе дакументальнага пацверджання. Несумненна, што большая частка вязняў, якія вярнуліся дамоў у 1507–1510 г. трапіла ў палон пасля той нешчаслівай для літоўскай зброі бітвы.

Вельмі мала захавалася звестак аб сям'і кіраўніка абароны Смаленска. На сённяшні дзень нам вядома пра трох сыноў Юрыя Андрэевіча Салагуба: Мікалая, Войцеха і Станіслава. Яны ў 1509–1510 г. знаходзіліся на вайсковай гаспадарскай службе. 18 лютага 1509 г. Мікалай Юр'евіч Салагубовіч згодна з дазволам караля меў права на атрыманне 20 копаў з він бельскіх[349]. Праз некаторы час, 8 сакавіка 1510 г., кароль загадаў выдаць адправу тым смаленскім зямянам, якія былі ў маскоўскім палоне. Мікалаю і яго брату Войцеху Салагубовічам належала атрымаць са скарбу па 15 копаў літоўскіх грошаў кожнаму[350].

Унукі Юрыя Салагуба, Юры, сын Мікалая, і Павел, сын Войцеха, дасягнулі сталасці да 1527 г. Гэта сведчыць аб тым, што яны маглі нарадзіцца не пазней, чым у 1509 г. Акрамя сыноў у Юрыя Салагуба магла быць і дачка. Сямён Канстанцінавіч Жаба, нябожчык на верасень 1558 г., купіў некалі ў Андрэя Войцехавіча Насілоўскага і яго жонкі Салагубаўны зямлю[351]. Не выключана, што шлюб Андрэя і Салагубаўны адбыўся да 1528 г. У 1528 г. Андрэй Насілоўскі ставіў у войска ВКЛ шэсць коннікаў[352].

Жыгімонт Стары, які пакараў смерцю свайго смаленскага намесніка, тым не менш забяспечыў яго сыноў землямі ў Жамойці замест тых, якія адышлі да Маскоўскага княства. У 1528 г. Мікалай, Войцех і Станіслаў Юр'евічы Салагубы ставілі на попіс войска ВКЛ 17 коннікаў, што сведчыла аб знаходжанні ў іх карыстанні каля 130 службаў падданых[353]. Пры больш уважлівым прачытанні матэрыялаў попісу войска ВКЛ у 1528 г. аказалася, што 17 вершнікаў браты ставілі толькі з яшчэ непадзеленых бацькоўскіх і матчыных маёнткаў. У той жа час маёмасць, якая знаходзілася ў вобласці гаспадарскіх

---

347 Сагановіч Г. *Вайна Маскоўскай дзяржавы...* С.187.
348 *Lietuwos Metrika*. Vilnius, 1995. Kn.8 (1499–1514). P.420.
349 *Lietuwos Metrika*. Vilnius, 1995. Kn.8 (1499–1514). P.407.
350 *Lietuwos Metrika*. Vilnius, 1995. Kn.8 (1499–1514). P.420.
351 *НГАБ у Менску*. КМФ-18. Воп.1. Спр.40. Арк.307.
352 *Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кн.523. Кн. Публічных спраў 1*. Мн., 2003. С.54. Пра род Насілоўскіх гл.: Сліж Н. *Саковічы-Насілоўскія: ад уплывовага да шараговага роду (XV–XVI ст.)*.// ARCHE. Менск, 2014. № 6 (127). С.41–58.
353 *Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией для разбора древних актов*. Вильна, 1897. Т.XXIV. С.38.

двароў Вялёна і Кернава, была ў асабістай уласнасці братоў. Войцех Салагубовіч з сваіх асабістых уладанняў ставіў яшчэ 8 коннікаў. Станіслаў і яго пляменнік Юры Мікалаевіч Салагубы з зямель гаспадарскага Вялёнскага двара ставілі ў войска па 2 вершнікі. Яшчэ 2 "*каня*" выстаўляў Юры Мікалаевіч Салагуб з уласных зямель, якімі валодаў у Кернаўскай воласці. Мікалай Юр'евіч Салагуб са сваіх зямель ставіў 9 коннікаў, а яшчэ 7 выстаўляў разам з братам Станіславам[354]. Агульная колькасць конных ваяроў, што выстаўлялі браты і іх дзеці ў войска ВКЛ, складала 45 чалавек. Усяго ў распараджэнні спадчыннікаў смаленскага намесніка павінна было знаходзіцца каля 360 службаў. Засталіся ў валоданні сыноў смаленскага намесніка і землі ў Івянцы. У 1524 г. яны заснавалі ў мястэчку каталіцкі касцёл[355]. На забеспячэнне касцёла Мікалай, Войцех і Станіслаў Салагубы выдзелілі некалькі службаў сваіх людзей. У канцы стагоддзя нашчадкі Юрыя Салагуба паспрабавалі аспрэчыць наданні продкаў касцёлу, але беспаспяхова[356].

Такім чынам, факты жыцця і дзейнасці Юрыя Андрэевіча Салагуба гавораць, што гэта быў даволі неардынарны чалавек, які шмат зрабіў для абароны усходніх межаў ВКЛ. На нашу думку, ён незаслужана трапіў у гаспадарскую няласку, а таму сёння трэба вярнуць з забыцця яго добрае імя.

---

[354] *Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года*. С.51, 71, 161.

[355] Wilamowski M. *Sollohub Jerzy z Iwieńca*. S.318.

[356] *НГАБ у Менску*. КМФ-18. Воп.1. Спр.292. Арк.104 адв.

**Віктар Белазаровіч**
**(Горадня)**

# АСВЯТЛЕННЕ АРШАНСКАЙ БІТВЫ 1514 г. У ШКОЛЬНЫХ ДАПАМОЖНІКАХ БЕЛАРУСІ.

У 2014 г. спаўняецца 500 гадоў знакамітай бітве пад Воршай. Гэта падзея стала адным з сімвалаў беларускай гісторыі. У свой час ён павінен быў садзейнічаць пераадоленню "*комплекса гістарычнай ахвяры*", даць пазітыўны зарад грамадскай свядомасці. На наш погляд, Аршанская бітва стала складовым элементам нацыянальнай гістарычнай міфалогіі. "*Аршанскі міф*" павінен быў задаволіць пэўныя духоўныя патрэбы грамадства пры "*слабасці*" афіцыйнай гістарыяграфіі. Таму яго ўзнікненне на этапе пасля аднаўлення суверэнітэту краіны неабходна разглядаць у кантэксце фармавання беларускай гістарыяграфічнай канцэпцыі. Распрацоўка нацыянальнай гісторыі цесна звязана са стварэннем нацыянальных міфаў, якія павінны аддзяляць адзін этнас ад другога.

Як правіла, гістарычны міф грунтуецца на сапраўдных фактах, пацверджаных гістарычнымі крыніцамі, але ўціснутых у пэўныя архетыпы. Факты выконваюць ролю сімвалаў, якім аддаюць перавагу ў дадзеным грамадстве. Так нараджаецца традыцыя, што ўплывае на механізм чалавечых дзеянняў і перажыванняў, вызначае погляды на сучасную рэчаіснасць. Гістарычны міф павінен задаволіць патрэбы развіцця дзяржавы і нацыі[357].

Гераізацыя бітвы пад Воршай пачалася з "*Кароткай гісторыі Беларусі*" В. Ластоўскага, выдадзенай у 1910 г. Для аматара гісторыі і адначасова лідэра беларускага нацыянальнага руху сражэнне адбылося "*на берагах рэк Дняпра і Крапіўны*". Гетман ВКЛ князь Канстанцін Астрожскі, маючы 35 тыс. войска, перамог 80-тысячную маскоўскую армію. В. Ластоўскі адзначыў, што: "*30 тысяч трупаў заслалі ўсё поле паміж Оршай і Дорогобужэм*", а Астрожскі, "*шчыры староньнік праваславія*", пабудаваў храм у Вільні[358].

Першы падручнік па гісторыі Беларусі напісаў гісторык, выхаванец Дэрпцкага універсітэту, прафесар Усевалад Ігнатоўскі. "*Кароткі нарыс гісторыі Беларусі*" выдаваўся чатыры разы – з 1919 па 1926 г. – і быў прызначаны для вучнёўскай моладзі БССР. Для У. Ігнатоўскага войны паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай мелі "*імперыялістычны*" характар. Прычым агрэсія зыходзіла ад "*маскоўскіх гаспадароў*", якія лічылі, "*што Беларусь ёсць іх вотчына*". Аўтар паўтарыў тэзісы В. Ластоўскага аб удвая меншай колькасці войскаў Канстанціна Астрожскага[359].

У 30-я г. XX ст. са зменай палітычнай сітуацыі ў СССР адбываюцца радыкальныя змены ў гістарычнай навуцы – усталёўваецца манаполія марксісцка-ленінскай метадалогіі. Пачынаецца "*эпоха гісторыі СССР*". Ва ўмовах панавання таталітарнай ідэалогіі фарміруецца адзіная канцэпцыя гісторыі савецкай краіны. Нацыянальныя гісторыі, у тым ліку гісторыю Беларусі, неабходна было ўпісаць у агульную схему гістарычнага развіцця Савецкага Саюза. Дзеля гэтага ў 1948 г. Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ і Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР падрыхтавалі "*Тэзісы аб асноўных пытаннях гісторыі БССР*". Гэты дакумент замацаваў у гістарыяграфіі скажонае адлюстраванне ўзаемаадносін Маскоўскай дзяржавы і ВКЛ, Расіі і Рэчы Паспалітай. Войны паміж імі трактаваліся як вызваленчыя для беларускага народа, які, нібыта, спрадвечна імкнуўся да ўз'яднання з

---

[357] Грыцкевіч В. *Гісторыя і міфы.*// http://knihi.com/Valancin_Hryckievic/Historyja_i_mify.html. Дата доступу: 04.06.2014 г.

[358] Ластоўскі В. *Кароткая гісторыя Беларусі*. Мн., 1993. С.39.

[359] Ігнатоўскі У. *Кароткі нарыс гісторыі Беларусі*. Мн., 1991. Выд.5. С.96. Маркава А. *Школьная аснова выхавання нацыянальнай самасвядомасці ў БССР. Пытанне нацыянальнай ідэнтычнасці ў падручніках 20-х г. XX ст.*// Беларускі гістарычны агляд. Мн., 2010. Сш.1–2 (32–33). Т.17. С.175.

“*братнім рускім народам*”[360]. Таму ў падручніках па гісторыі БССР тэма войнаў паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ не разглядалася.

Абвяшчэнне сувярэннай Рэспублікі Беларусь паставіла перад гісторыкамі задачу фармавання нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі, праўда ўжо на новай метадалагічнай аснове. У першай палове 90-х г. XX ст. супрацоўнікі Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі распрацавалі беларускую канцэпцыю айчыннай гісторыі. Яе праект “*Аб нацыянальнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі*” быў прадстаўлены ў 1993 г. доктарам гістарычных навук Міхаілам Бічом[361]. Канцэпцыя прадугледжвала дэпартызацыю і дэідэалагізацыю гісторыі, выкарыстанне плюралістычнай метадалогіі, прыярытэт прынцыпа аб’ектыўнасці і гуманістычных каштоўнасцяў. Упершыню айчынная гісторыя, напісаная на падставе нацыянальна-дзяржаўных пазіцый, была прадстаўлена ў “*Нарысах гісторыі Беларусі*” (1994–1995 г.), падрыхтаваных аўтарскім калектывам пад кіраўніцтвам акадэміка Міхаіла Касцюка[362].

На аснове праекта была распрацавана новая структура гістарычнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь. З 1993/1994 навучальнага года ў пачатковай школе ўвялі курс “*Мая Радзіма – Беларусь*”, у базавай і сярэдняй школах – курс “*Гісторыя Беларусі*” са старажытных часоў па сучаснасць. У вышэйшай школе замест курса “*Гісторыя КПСС*” для ўсіх студэнтаў быў уведзены курс “*Гісторыя Беларусі*”.

Каб запоўніць інфармацыйны вакуум, для выкладчыкаў ВНУ, настаўнікаў, студэнтаў, школьнікаў і проста аматараў гісторыі выйшлі навукова-папулярныя выданні, напрыклад, “*150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі*”. Аўтары ў даступнай для чытачоў форме імкнуліся даць кароткія звесткі па асноўных аспектах гісторыі Беларусі. Аршанская бітва была прадстаўлена Іванам Саверчанкам і Зміцерам Санько ў адказе на 37-е пытанне “*Хто такі Кастусь Астрожскі?*”.

Аўтары адзначылі, што Канстанцін Іванавіч Астрожскі – адзін з “*самых славутых герояў беларускай гісторыі, вялікі абаронца Айчыны*”, які атрымаў 63 перамогі над крымскімі татарамі і маскоўскімі заваёўнікамі:

“*Асабліва слаўнай была перамога над амаль утрая большым маскоўскім войскам на рэчцы Крапіўне пад Воршай 8 верасня 1514 года. Удалым манеўрам вывеўшы маскоўцаў пад знішчальны агонь артылерыі, К. Астрожскі вымусіў іх ратавацца ўцёкамі*”.

Тут жа была прыведзена старадаўняя песня:

“*Масква стала наракаці,*
*Места Воршу пакідаці;*
*А як з Воршы ўцякалі*
*Рэчку невялічку праклінали:*
*Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,*
*Як наша слава тутака прапала;*
*Бадай ты высыхала да сканчэння свету*
*Што нашай славанькі ўжо нету.*
*Слава Воршы ўжо нягорша.*
*Слаўся, пан Астрожскі!*”.

Таксама аўтары адзначылі наступствы гэтай перамогі:

[360] Белазаровіч В. *Гістарыяграфія гісторыі Беларусі: дапаможнік.* Гродна: ГрДУ, 2006. С.239–240.
[361] Біч М. *Аб нацыянальнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь.*// Беларускі гістарычны часопіс. Мн., 1993. № 1. С.15–24.
[362] *Нарысы гісторыі Беларусі.* Мн.: Беларусь, 1994. Ч.1. *Нарысы гісторыі Беларусі.* Мн.: Беларусь, 1995. Ч.2.

“*Астрожскі фактычна ўратаваў краіну ад чужога панавання”, “Аршанская бітва ўвайшла ў эўрапейскія хрэстаматыі з ваеннай гісторыі як узор удалай тактыкі змагання з намнога перасяжнымі сіламі ворага, як прыклад вырашальнага ўплыву таленту і майстэрства вайсковага начальніка на вынік баталіі*”[363].

Падобная трактоўка бітвы пад Воршай плаўна перайшла ў школьныя дапаможнікі па гісторыі Беларусі. Так званае “*першае пакаленне*” дапаможнікаў выйшла ў 1993 г. у аўтарскай рэдакцыі. Кандыдат гістарычных навук Павел Лойка ў параграфе “*Абарона незалежнасці*” (дапаможнік для 7-га класа) вылучыў пункт “*Слава Воршы ўжо не горша*”. Магчыма ўпершыню у беларускай гістарыяграфіі аўтар апісаў ход бітвы на рацэ Крапіўне пад Воршай 8 верасня 1514 г. Але высновы не адзначаліся навуковай навізной: аўтар паўтарыў тэзіс аб нераўназначнасці сілаў (30 тыс. – ВКЛ, 80 тыс. – Маскоўская дзяржава), колькасць загінуўшых (толькі маскоўскіх ратнікаў) акрэсліў лічбаю ад 30 да 40 тыс., слушна выказаў захапленне ваенным талентам Канстанціна Астрожскага[364].

У жніўня 1995 г. была створана Дзяржаўная камісія па падрыхтоўцы і выданню падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па сацыяльна-гуманітарнаму цыклу. Пад кіраўніцтвам камісіі было падрыхтавана “*другое пакаленне*” дапаможнікаў па гісторыі Беларусі (5–11 класы), якія былі выдадзены ў 1997–1998 г. Дапаможнік для 7-га класа ізноў падрыхтаваў П. Лойка. Навуковым рэдактарам выступіў доктар гістарычных навук Георгі Галенчанка. У 21-м параграфе “*Адносіны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай і Крымам*” Аршанская бітва адзначана невялікай па аб’ёму інфармацыяй – вытрымкамі з папярэдняга выдання. Аўтар прыбраў тэкст, які раскрываў ход сражэння, але склаў яго схему і размясціў ілюстрацыю – фрагмент карціны “*Бітва пад Воршай*”[365].

Відавочна, што ў 1990-я г. бітва пад Воршай стала нацыянальным сімвалам – формай патрыятычнага ўздзеяння на падрастаючае пакаленне беларускага грамадства. Напрыклад, у 1994 г. выйшла больш за 40 публікацый па тэме. Як адзначыў кандыдат гістарычных навук Г. Сагановіч:

“*у першай палове 90-х гг. пра Аршанскую бітву ў Беларусі пісалі непараўнальна больш, чым пра якую іншую падзею даўняй гісторыі краіны*”[366].

Неабходна звярнуць увагу і на грамадска-палітычны рэзананс ад асвятлення гэтай падзеі. Для значнай часткі беларускага грамадства дата 8 верасня стала і застаецца “*Днём беларускай вайсковай славы*”. Але палітычны курс кіраўніцтва нашай дзяржавы і імкненне да больш узважаных адзнак мінулага прымусілі аўтараў падручнікаў па айчыннай гісторыі рабіць нейтральныя адзнакі аршанскіх падзей і іх месца ў “*памежных войнах*” першай паловы XVI ст.

У 2009 г. выйшаў вучэбны дапаможнік па гісторыі Беларусі для 7-га класа агульнаадукацыйнай школы пад рэдакцыяй доктара гістарычных навук, прафесара, знаўцы ваеннай гісторыі Ю. Бохана. Ён жа разам з доктарам гістарычных навук, прафесарам Георгіем Штыхавым і кандыдатам педагагічных навук Марынай Красновай склаў аўтарскі калектыў. Бітва пад Воршай разглядалася імі ў кантэксце вайны 1512–1522 г. Аўтары адзначылі, што пасля авалодання Васілём III Смаленскам склаўся “*самы*

---

363 Саверчанка І. *150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі*.// http://knihi.com/Ivan_Saviercanka/50_pytanniau_i_adkazau_z_historyi_Bielarusi.html#chapter37. Дата доступу: 05.06.2014 г.

364 Лойка П. *Гісторыя Беларусі: Вучэбны дапаможнік для 7-га класа сярэдняй школы*. Мн.: Народная асвета, 1993. С.21–22.

365 *Гісторыя Беларусі XVI–XVIII ст.: Вучэбны дапаможнік для 7-га класа агульнаадукацыйнай школы з беларускай і рускай мовамі навучання*. Пад рэд. Г. Я. Галенчанкі. Мн.: Народная асвета, 2000. Выд.2. С.21–25.

366 Сагановіч Г. *Аршанская бітва 1514 г. канфлікт гістарыяграфій і ідэнтычнасцяў*.// http://bk.baj.by/lekcyji/historyja/sahanovicz_01.htm. Дата доступу: 07.06.2014 г.

*небяспечны момант для ВКЛ*’, абумоўлены праектам падзелу Княства і Польшчы паміж Маскоўскай дзяржавай і Германіяй. Толькі перамога князя Канстанціна Астрожскага пад Воршай вымусіла германскага імператара адмовіцца ад саюза з Масквой[367].

Магчыма, падобная трактоўка Аршанскай бітвы – найбольш аптымальны варыянт яе прадстаўлення грамадскасці ва ўмовах недастатковай навуковай распрацоўкі гэтай праблемы. Парадаксальна, але ў беларускай гістарыяграфіі адсутнічае грунтоўнае манаграфічнае даследаванне, прысвечанае як “*памежным войнам*”, так і непасрэдна бітве пад Воршай. Чаго нельга сказаць аб польскай і расійскай гістарычнай навуцы. Напрыклад, у 2011 г. была выдадзена манаграфія кандыдата гістарычных навук А. Лобіна[368]. Расійскі аўтар паставіў пад сумненне дадзеныя нарратыўных крыніц аб колькасці войскаў, якія прымалі ўдзел у баталіі, колькасці загінуўшых. Ён не пагадзіўся з думкай беларускіх даследчыкаў аб вырашальнай ролі Аршанскай бітвы ў кампаніі 1512–1522 г. Для А. Лобіна распад антыягелонскай кааліцыі ў Еўропе таксама не быў звязаны з падзеямі 1514 г. Манаграфічнага адказу беларускіх гісторыкаў пакуль няма.

Існуюць і іншыя праблемы. Па-ранейшаму спрэчнай застаецца трактоўка карціны “*Бітва пад Воршай*”, выява якой прыводзіцца ў школьных дапаможніках 1998 і 2009 г. Яна выстаўлена ў галерэі Нацыянальнага музея ў Варшаве. Аўтар карціны невядомы, але існуюць думкі, што ім мог быць нямецкі мастак Ханс Крэл старэйшы (памёр у 1586 г.), Юрген Брэў малодшы ці нехта з атачэння Лукаса Кранаха малодшага. Таксама лічылася, што аўтар сам прымаў удзел у бітве пад Воршай, таму дакладна перадаў дэталі падзеі. Аналіз дошак карціны (намалявана алеем на дошках) сведчыць аб 20–30-х г. XVI ст. як аб даце яе стварэння. Разам з тым, на думку кандыдата гістарычных навук А. Казакова, многія намаляваныя на карціне жаўнеры – не ў баявым адзенні, а ў парадным. У сувязі з гэтым, ён паставіў пытанне: наколькі абраз можа быць крыніцай, вартай даверу?[369] Акрамя гэтага, на яго думку, патрабуе ўдакладнення лакалізацыя месца правядзення Аршанскай бітвы[370]. У выніку, можна сцвярджаць пра неабходнасць далейшага даследавання падзеі, якая адбылася 8 верасня 1514 г.

Падсумоўваючы трэба прызнаць, што сёння школьнікам будзе цяжка даць глыбокую характарыстыку бітве пад Воршай. Ды і не толькі ім, бо нават у вучэбна-метадычным дапаможніку для настаўнікаў мы не знойдзем падрабязнай інфармацыі, прысвечанай Аршанскай бітве[371]. У сувязі з гэтым, яе асвятленне ў школьнай вучэбнай літаратуры яўна не адпавядае значэнню падзеі. Разам з тым, памежныя войны першай паловы XVI ст. у гісторыі Беларусі патрабуюць сур’ёзнага навуковага даследавання. Гэта дазволіць школьнікам, студэнтам і ў цэлым грамадству сфармаваць аб’ектыўнае меркаванне аб характары ўзаемаадносін паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай, а таксама месцы Беларусі ў міжнародных працэсах першай паловы XVI ст.

---

[367] *История Беларуси: вторая половина XIII–первая половина XVI в.: учебное пособие для 7-го класса общеобразовательных учреждений с русским языком обучения*. Под ред. Ю. Н. Бохана. Мн.: Народная асвета, 2009. С.93.

[368] Лобин А. *Битва под Оршей 8 сентября 1514 года*. СПб., 2011.

[369] Барэль А. *Бітва пад Оршай – бліскучая перамога, ад якой нельга адмаўляцца*.// http://eurobelarus.info/news/society/2014/06/01/b-tva-pad-orshay-bl-skuchaya-peramoga-ad-yakoy-nel-ga-adma-lyatstsa.html. Дата доступу: 04.06.2014 г.

[370] Гл. яго артыкул вышэй.

[371] Краснова М., Бохан Ю. *Гісторыя Беларусі ў 7 класе. Вучэбна-метадычны дапаможнік для настаўнікаў*. Мн.: Адукацыя і выхаванне, 2011.

**Сяргей Рыбчонак**
**(Менск)**

# ПОПІС ШЛЯХТЫ АРШАНСКАГА ПАВЕТА 30 ВЕРАСНЯ 1765 г.

Пoпісы паспалітага рушэння шляхты (у XVIII ст. звычайна называліся кампутамі) дастаткова добра вядомы ў гісторыі ВКЛ. Шляхецкае рушэнне доўгі час заставалася асновай войска ВКЛ, бо адным з галоўных абавязкаў шляхты была паводле Статутаў земская абарона (абарона Айчыны). Пад час войнаў сярэдзіны XVII ст. стала відавочна слабая баяздольнасць шляхецкага рушэння. Аднак гэты інстытут, тым не менш, праіснаваў да падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст., дапаўняючы пры неабходнасці рэгулярныя войскі[372]. Права абавязвала шляхту асабіста прысутнічаць на попісах, таму кампуты добра прадстаўляюць даследчыкам як рэгіянальную колькасць асобаў гэтага стану (іншы раз з пазначэннем зямельнага маёнтка), так і яго персанальны склад. Па гэтай жа прычыне вывучэнне попісаў шляхты з'яўляецца сёння вельмі актуальным для даследавання пытанняў шляхецкай генеалогіі. Публікуемы "*Попіс*" вельмі блізкі па часе стварэння да вядомага "*Аршанскага гербоўніка*", у якім былі прадстаўлены вывады шляхецтва ў Аршанскім земскім правінцыйным судзе за 1773–1776 г.[373] Хаця трэба адзначыць пакуль яўную малалікасць даследаванняў па генеалогіі шляхты згаданага рэгіёна[374].

У цэлым кампуты з'яўляюцца важнымі крыніцамі для вывучэння гісторыі войска ВКЛ і шляхецкага саслоўя ў XVI–XVIII ст. Гісторыкі ўжо звярталіся да даследавання гэтых дакументаў. Адной з першых публікацый кампутаў стала выданне ў 1874 г. попіса шляхецкага рушэння Гарадзенскага павета за 1765 г.[375] Другі кампут – Полацкага ваяводства за 1765 г. – апублікаваў Рышард Мяніцкі ў 1936 г.[376] Гэта быў даволі вядомы гісторык, асобе якога нядаўна ў Польшчы прысвяцілі адмысловы зборнік артыкулаў[377]. Ён дапоўніў сваю публікацыю кароткай, але добрай прадмовай па гісторыі правядзення попісаў шляхецкага рушэння ў ВКЛ[378]. З яе бачна, між іншым, што попісы 1765 г. былі складзены на падставе рашэння канвакацыйнага сойма ў Варшаве 1764 г. На тым сойме было пастаноўлена праводзіць такія попісы рэгулярна (кожныя 2 гады) і прынята кароткая інструкцыя іх правядзення[379].

З працы Р. Мяніцкага бачна, што ён падрыхтаваў сваю публікацыю на падставе арыгіналу Полацкага кампута, бо попіс складаўся пад час рушэння ў полі. Арыгінал, як ён сам засведчыў, уяўляў сабой сшытак з 42-х старонак. Зразумела, што Аршанскі кампут таксама быў створаны як асобны арыгінальны спіс. Невядома, аднак, ці ён захаваўся і існуе сёння. Копія Аршанскага кампута неўзабаве пасля стварэння крыніцы (ужо 4 кастрычніка 1765 г.) была ўнесена ў актавую кнігу Аршанскага земскага суда, якая захавалася сёння ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Менску[380].

---

[372] Сагановіч Г. *Паспалітае рушэнне.*// Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Мн.: БелЭн, 2006. Т.2. С.405–406.
[373] *Оршанский гербовник.*// Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в Центральном архиве в Витебске: в 32 вып. Под ред. Д. Довгялло. Витебск, 1890. Вып.28. Ч.2. С.1–159.
[374] Дзядзенка З. *Аршанская шляхта*. Мн., 1996. Яцкевіч З. *Малы гербоўнік халопеніцкай шляхты*. Мн: Беларускі кнігазбор, 1999.
[375] *АВАК*. Вильна, 1874. T.VII. C.393–425.
[376] Mienicki R. *Rejestr popisowy województwa połockiego z dn. 30.IX.1765 r.*// Ateneum Wileńskie. Wilno, 1936. R.11. S.303–343.
[377] *Ryszard Mienicki (1886–1956). Archiwista i historyk*. Pod red. W. Chorążyczewskiego i R. Degena. Toruń, 2009.
[378] Mienicki R. *Rejestr popisowy województwa połockiego...* S.303–310.
[379] *Volumina legum*. Petersburg, 1860. T.VII. S.40, 89.
[380] *НГАБ у Менску*. Ф.1775. Воп.1. Спр.2. Арк.285–294 адв. Інструкцыя правядзення попісаў рушэння прадугледжвала абавязковую актыкацыю кампута.

Каб скончыць гаворку аб існаванні магчымых копій, дадамо, што пасля актыкацыі Аршанскага кампута ў згаданай актавай кнізе Аршанскага суда былі зроблены як мінімум чатыры допісы, з якіх бачна аб выдачы яго копій пазней. На жаль, ніякіх датаў у крыніцы няма. Можна толькі меркаваць, што першая копія Аршанскага кампута была выдадзена адразу пасля актыкацыі: пра гэта, мяркуем, сведчыць фраза: "*выпіс выдадзены*" ("*wypis wydan*"), і ён напісаны тым жа почаркам, што і тэкст апошніх старонак самой актыкацыі. Астатнія копіі былі выдадзены, лічым, пазней. Па чарзе: 2) "*экстракт выдадзены*" ("*Widymus wydan*"), 3) "*Item Widymus wydany*" ("*Той жа выпіс выдадзены*") і 4) "*widymus JwJP. Kochowskiemu, Generałowi Ross[yjskiemu]...*"[381] ("*відымус ясна вяльможнаму пану Кахоўскаму, генералу расійскаму*"…).

Што датычыць менавіта апошняй копіі, то Міхаіл Васільевіч Кахоўскі (1734–1800 г.) быў магілёўскім губернатарам і кіраўніком Магілёўскага намесніцтва ў з 28 мая 1772– па 6 чэрвеня 1778 г.[382] Аб сучасным існаванні згаданых копій сказаць нешта канкрэтнае не можам, бо не маем аб гэтым ніякіх звестак.

Некалькі слоў для характарыстыкі ўласна крыніцы. Аршанскі кампут напісаны на польскай мове XVIII ст. з выкарыстаннем пэўных устойлівых лацінскіх выразаў пераважна юрыдычнага зместу, характэрных для тагачаснага судаводства (часта на так званай "*барбарскай*" латыні). Пры ўпісанні копіі ў актавую кнігу на крыніцы была прастаўлена асобная пастаронкавая нумарацыя (з 1-й да 20-й). Зразумела, пасля камплектавання кнігі ці, дакладней, пасля яе праверкі, якая была ўчынена адмысловай урадавай камісіяй ў 1830-х г., у крыніцы з'явілася агульная для ўсёй кнігі нумарацыя па аркушах (уласна кампут змешчаны на арк. 285–294 адв.). У дадзенай публікацыі падаем абедзве пагінацыі. Ніякіх пераносаў слоў у крыніцы не адзначана, таму ў гэтых месцах прастаўляем пры неабходнасці знак пераносу (-).

У цэлым крыніца напісана добра чытаемым почаркам. Колер атраманту – чорны. Напачатку тэкст ідзе вельмі шчыльны (не менш 40 радкоў на старонку і 40 літар з прабеламі ў радку, вышыня малых літар да 2 мм), бліжэй да канца крыніцы почарк становіцца больш расцягнутым (30 радкоў і да 20 літар у радку, вышыня літар да 4 мм). Тым не менш, мяркуем, увесь тэкст копіі напісаны адной рукой (трэба меркаваць, тагачасным пісарам Аршанскага суда). Есць пару плямаў, але нечытаемых месцаў практычна няма. Колькі слоў у крыніцы напісаны па праўленаму, некаторыя асобы пазначаны крэскай, крыжыкам, падкрэсленнем, знакам NB (*nota bene*), што абавязкова адзначаем. Часта ў крыніцы падкрэслены месцы з пачаткам апісання асобных харугваў ці парафій. Невідавочна, аднак, каб гэтыя адзнакі былі ў арыгінале попіса. Магчыма, іх паставілі пазней, скажам, пры выдачы копій з актавай кнігі (напрыклад, на арк. 286 адв. касым крыжыкам адзначаны трое Шкультэцкіх). Усе падкрэсленні ў крыніцы захоўваем у публікацыі, усе лацінскія выразы – адзначаем курсівам з перакладам у спасылках.

Больш праблем атрымалася са скаротамі. Усе скароты, ужытыя ў крыніцы, можна ўмоўна падзяліць на 3 групы. З іх: 1) скароты, якія адзначаюць сацыяльны статус асобы. Яны ўжо дастаткова вядомы гісторыкам. Гэта: JKMć. = Jego Królewska Miłość, JOXć. = Jaśnie Oswiecony Xięć, jm. = jego miłość (jegomość), Jgmć Pan, jmp., jp. = jego miłość (jegomość) pan, WJPan, wjp. = wielmożny jego miłość (jegomość) pan, jw.jp. = jaśnie wielmożny jego miłość (jegomość) pan і іншыя. Гэтыя скароты ў публікацыі не раскрываем; 2) скароты пасадаў і ўрадаў. З імі больш складанасцяў. У крыніцы сустракаюцца тыповыя скароты кшталту czeszn. = czesznik, horodn. = horodniczy і інш. Справа ў тым, што не заўсёды зразумела, аб кім ідзе гаворка, бо з такім скаротам мог быць запісаны як самураднік (звычайна бацька), так і яго сын (адпаведна czesznikowicz, horodniczycz і г.д.). З дадатковай атрыбуцыяй падобных скаротаў прасцей (grod. = grodzki, ziem. = ziemski і інш.). Па гэтай прычыне для ўдакладнення асобаў ураднікаў былі выкарыстаны даступныя

---

[381] Напісаны 4 літары ("*cero*"), сэнс якіх неясны.

[382] *Полное собрание законов Российской империи*. СПб., 1830. Собрание 1-ое. Т.XIX. № 13808. С.507, № 13888. С.602. Анішчанка Я. *Беларусь у часы Кацярыны II (1772–1796)*. Мн.: Веды, 1998. С.95.

нам дадатковыя крыніцы, адпаведна ў неўдакладненых выпадках скарот раскрываўся з пытальнікам (напрыклад, czesznikowicz?); 3) адміністрацыйна-тэрытарыяльныя скароты кшталту WXLitt. = Wielkie Xięstwo Litewskie, Pttu (Pow., Ptt.) Orszan. = Powiatu Orszańskiego (апошнія два скароты сустракаюцца ў крыніцы вельмі часта, таму іх толькі тут раскрываем). Іншыя падобныя скароты найчасцей прывязана да згаданых пасадаў і ўрадаў і цалкам раскрываюцца.

Таксама зроблена разбіўка тэкста на абзацы, прастаўлены патрэбныя знакі пунктуацыі, кожны ўдзельнік попіса пісаны з новага радка, па ўзору Р. Мяніцкага. На завяршэнне ўступнай часткі адзначым, што ў падрыхтоўцы публікацыі ўкладальнік максімальна прытрымліваўся нядаўна створаных адпаведных "*Метадычных рэкамендацый…*"[383], з улікам таго, што канцы радкоў пазначаем касой крэскай (/), а канцы аркушоў – двума (//). Таксама выказваем вялікую ўдзячнасць доктару габілітаванаму Анджэю Рахубе з Варшавы і кандыдату гістарычных навук Алесю Жлутку з Менску за дапамогу ў падрыхтоўцы крыніцы да публікацыі.

[1[384] / 285[385]] /

Akt Regestru Popisowego Przeswietnego P[owia]tu Orszan[skiego] /[386]

Roku Tysiąc Siedemset Szes(ć)dziesiąt Piątego, miesiąca oktobra Czwartego Dnia. /[387]

Przed nami Antonim Hlebickim Józofowiczem, Prezyden/tem, Adamem Bartoszewiczem, Idzym Kazimierzem Kurczem, / Józefem Zambrzyckim, Sędziami, y Hieronimem Szemiothem, / Pisarzem, Urzędnikami Ziemskimi Pttu Orszan. na Rokach / Ziemskich Święto Michalskich Zasiadaiącymi, *per Constitu-/tionem novellae legis*[388] Naznaczonymi, *Comparendo Perso-/naliter*[389] Patron Jgmć Pan Gierwazy Załęski, Budown[iczy] Mo-/zyrski[390], Rejestr Generalnego Popisu przeswietnego Pttu Orszan. / *nomine*[391] wjp. Jerzego Gaworka Galinskiego, Chorążego Generalne-/go Powiatu Orszanskiego w Roku teraznieyszym Tysiąc Sie-/demset Szes(ć)dziesiąt Piątym m[iesią]ca Sebtembra Trzydzies-/tego Dnia Czyniony, przez Jgmć Pana Jozefa Krukowicza, / Czeszn[ikowicza][392] Wendenskiego, Pisarza Woyskowego Popisow Pttu / Orszan., oddany, *ad akta*[393] podał, Ktory Podając do / Akt Prosił nas, Sądu, ażeby Pomieniony Rejestr Po-/pisowy ze wszelką w nim inserowaną rzeczą był do Xiąg / Ziem[skich] Spraw Wieczystych Pttu Orszan. przyjęty y wpisany. / Jakoż My, Sąd, ony przyjowszy wpisać w Xięgi *de Verbo* / *ad Verbum*[394] pozwolili, Którego *tenor sequitur estque ta-/lis*[395].

---

[383] *Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі польскамоўных дакументаў па гісторыі Беларусі XVI–першай паловы XIX ст*. Склад. А. Шаланда. Мн.: БелНДІДАС, 2012. 47 с.
[384] Пачатковая пагінацыя пры актыкацыі. Размешчана зверху аркуша пасярэдзіне.
[385] Пазнейшая архіўная пагінацыя. Размешчана зверху аркуша на правым полі (маргінэзе), на адвароце аркуша – злева.
[386] Далей незапоўненая частка старонкі перакрэсленая.
[387] Далей незапоўненая частка старонкі перакрэсленая.
[388] З лацінскай мовы: "*па ўхваленні новаабвешчанага закона*".
[389] З лацінскай: "*станавіўся асабіста*".
[390] Анішчанка Я. *Збор твораў у 6-ці т. Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ пры Станіславе Панятоўскім: Спісы на рус. мове*. Мн.: В. Хурсік, 2008. Т.4. С.191.
[391] З лацінскай: "*іменем (ад імя)*".
[392] Вядомы Ян Круковіч, чашнік вендэнскі ў 1730 г., гл.: *Urzędnicy inflanccy XVI–XVIII wieku. Spisy*. Oprac. K. Mikulski, A. Rachuba. Kórnik, 1994. S.87. Магчыма, Юзаф – гэта сын Яна.
[393] З лацінскай: "*да актаў (актыкацыі)*".
[394] З лацінскай: "*ад слова да слова*".
[395] З лацінскай: "*працяг далей ёсць такі*".

Popis Generalny przeswietnego Pttu Orszan., / tak *ad mentem*[396] praw dawnych WXLit., jakoteż Kon-/stytucyi *novellae legis*[397] Seymu Konwokacyinego Ty-/siąc Siedemset Szes(ć)dziesiąt Czwartego Roku usta-/nowioney *praevijs innotestencijs*[398] ode mnie Jerzego / Kazimerza Gaworka Galinskiego, Chorązego Generalnego //

[2 / 285v]

Pttu Orszan. w Czasie y Mieyscu za miastem JKMć / Orszą wyznaczonym *ad obloquentiam*[399] Przepisow Prawa / *Circa numerosum*[400] tegoż Pttu Orszan. *congressum in apparato* / *bellico*[401] Roku terazn[ieyszym] Tysiąc Siedemset Szes(ć)dziesiąt Piątym / m[iesią]ca Sebtembra Trzydziestego Dnia Czyniony.

Chorągiew / Przeswietnego Pttu Orszan. Powiatowa.

WJPan Jerzy / Goworek Galinski, Chorąży generalny Pttu Orszan.
Wjp. / Ignacy Prawdzic Arciszewski, porucznik Pttu Orszan. /
Wjp. Franciszek z Olszyna Buczyński, Chorązy Pttu Orszan. /
Wjp. Jan Kukiewicz, Sędzia Woyskowy Pttu Orszan. /
Wjp. Józef Korwin Krukowicz, Pisarz Woyskowy Pttu Orszan. /
Wjp. Stanisław Komar, Dworzanin JKMć, Regent Woysko-/wy Pttu Orszan. /
Kompania.
Jaśnie Wielm[ożny] JP. Miko-/łay Sabba Chrapowicki, Marszałek Pttu Orszan., Regi-/mentarz Dywizyi Białoruskiey, Starosta Pilwiski. /
Wjp. Marcin Ratomski, Podkomorzy Pttu Orszanskiego / *absens ob suas legalitates*[402].
Jw.JPan Jan Hlebicki Jozofo-/wicz, Starosta Sądowy Pttu Orszan.
Wjp. Antoni Hlebic-/ki Jozofowicz, Sędzia Ziemski y Prezydent Pttu Orszan. /
Wjp. Adam Bartoszewicz, Sędzia Ziemski Pttu Orszan. /
Wjp. Jdzy Kurcz, Sędzia Ziemski Pttu Orszan.[403]
Wjp. Jozef / Zambrzycki, Sędzia Ziemski Pttu Orszanskiego[404].
Wjp. Hie-/ronim Szemioth, Pisarz Ziemski Pttu Orszanskiego. /
Wjp. Tadeusz Wasilewski, Woyski Pttu Orszan.[405]
Wjp. Franci-/szek Pereswiet Sołtan, Podstarości Sądowy Pttu Rze-/ c(z)yckiego.
Wjp. Michał Kroger, Sędzia Grodzki Pttu Orszan. /
Wjp. Jgnacy Jakowicki, Sędzia Grodzki Pttu Orszan. /
Wjp. Alexander Slezanowski, Sędzia Grodzki Pttu Orszan.[406] /
Wjp. Felix Wołkowicki, Pisarz Grodzki Pttu Orszan.
Wjp. / Paweł Bartoszewicz, Podczaszy Pttu Orszan., *legalitter absens*[407].
Wjp. Ta-/deusz Wołczek, Czeszn[ik] Pttu Orszanskiego[408].

---

[396] З лацінскай: "*згодна з сэнсам (духам)*".
[397] З лацінскай: "*новаабвешчанага закона*".
[398] З лацінскай: "*папярэднімі абвяшчэннямі*".
[399] З лацінскай: "*згодна з сэнсам*".
[400] З лацінскай: "*пры шматлікім*".
[401] З лацінскай: "*зборы ў ваенным рыштунку*".
[402] З лацінскай (павінна быць "*absuas*"): "*адсутнічае з паважных прычын*".
[403] Вывад шляхецтва роду Курчаў гербу "*Радван*" (?) за 1773 г. змешчаны ў "*Аршанскім гербоўніку*", гл.: *Оршанский гербовник*. С.72.
[404] Вывад шляхецтва роду Замбржыцкіх гербу "*Касцеша*" за 1773 г. змешчаны ў "*Аршанскім гербоўніку*", гл.: *Оршанский гербовник*. С.154).
[405] Ёсць вывады шляхецтва родаў Васілеўскіх гербу "*Астоя*" і "*Астоя зменeная*" за 1774 г., змешчаныя ў "*Аршанскім гербоўніку*", гл.: *Оршанский гербовник*. С.144–146.
[406] Часцей "*Śleżanowski*", гл.: Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.426.
[407] Напісана над радком, з лацінскай: "*адсутнічае з паважных прычын*".

Wielmożny[409] / wjp. Franciszek Wasilewski, Horodn[iczy] Pttu Orszan.[410] *ab-/ se[ns]*[411].
[Wjp.][412] Alexander Korsak, Skarbnik Pttu Orszan. /
Wjp. [Onufry][413] Stabrowski, Łowczy Powiatu Orszan. /
Wjp. Jan Wasilewski, Miecznik Pttu Orszanskiego. /
Wjp. Stanisław Kukiewicz, Koniuszy Pttu Orszan., / *absens ob infirmitatem*[414]
WjPan Waleryan Zubow-/ski, Oboźny Pttu Orszan.
Wjp. Jgnacy Sakowicz, Strazn[ik] / Pttu Orszan.[415]
Wjp. Tadeusz z Olszyn(a) Buczynski, Krayczy / Pttu Orszan.
Jasnie Wjp. Leon Szemioth, Budown[iczy] Pttu / Orszan. y Sędzia Tr[ybuna]łu Gł[ównego] WXLit.[416]
Jasnie Wjp. Fabian / Kaszyc, Sędzia Tr[ybuna]łu Gł[ównego] WXLit., Starosta Smo-/rzecki[417].
Wjp. Mikołay z Zawierza Stetkiewicz, Chorązyc //

[3[418] / 286]

Petyhorski.
Wjp. Marcin Czechowski, Rotm[istrz] Orszan.[419]
Wjp. /[420]Alexander Now(o)konski, Straznik Oszmianski[421].
Wjp. Jozef / Swiacki, Sędzia pograniczny Pttu Orszan.
Wjp. Antoni / Bork, Sędzia pograniczny Pttu Orszan.[422]
Wjp. Floryan / Kurowski, Łowczy W[ojewódz]twa Mscisław[skiego][423].
Wjp. Jerzy Stankie-/wicz, Starosta Swirydowski.
Wjp. Jozef z Szłodzieniewa / Lewkowicz, St[aros]ta Kodeniecki.
Wjp. Jgnacy Goniprowski, / Skarbn[ikowicz?] X[ięs]twa Zmuydzkiego[424].
Wjp. Franciszek Gutowski, / Obozny Pinski[425].
Wjp. Benedykt Sipayłło, Skarbn[ik] W[ojewódz]twa / Połockiego[426].
Wjp. Kazimierz Sypayło, Czeszn[ikowicz] Orszanski. /

---

408 Згодна з "*Аршанскім гербоўнікам*" Тадэвуш Волчак, чашнік аршанскі, гербу "*Палукоз*" рабіў вывад шляхецтва ў 1773 г., гл.: *Оршанский гербовник*. С.150.
409 Слова напісана па сцёртаму.
410 Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.85.
411 Апошнія дзве літары заплямлены атрамантам, з лацінскай: "*адсутнічае*".
412 Скарот заплямлены атрамантам.
413 Імя не чытаецца, бо заплямлена атрамантам. Гэта, пэўна, Ануфры Стаброўскі, гл.: Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.434.
414 З лацінскай: "*адсутнічае з-за хваробы*".
415 Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.403.
416 Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.499. *Deputaci Trybunału Głównego Wielkiego Księstwa Litewskiego (1697–1794). Spis*. Pod red. A. Rachuby. Oprac. A. Rachuba, P. Romaniuk. Warszawa, 2004. S.285.
417 *Deputaci Trybunału Głównego Wielkiego Księstwa Litewskiego (1697–1794)*. S.283–284.
418 Пагінацыя папраўлена: перакрэслена лічба 2, напісаная лічба 3.
419 Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.491. *Deputaci Trybunału Głównego Wielkiego Księstwa Litewskiego (1697–1794)*. S.365.
420 Адзначана касым крыжыкам (X) на маргінэзе.
421 *Urzędnicy WKL. Województwo Wileńskie XIV–XVIII wiek*. Oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba, P. Romaniuk. Warszawa, 2004. S.307. Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.322. Можна меркаваць, што яго нашчадкі з прозвішчам, прачытаным памылкова як Навагоньскі ("*Nowohoński*") гербу "*Бялыня*" запісаны ў "*Аршанскім гербоўніку*", бо рабілі вывад шляхецтва ў 1774 г., гл.: *Оршанский гербовник*. С.90.
422 Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.54, 56.
423 Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.263.
424 *Urzędnicy WKL. Województwo Trockie XIV–XVIII wiek*. Oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba, P. Romaniuk, A. Haratym. Warszawa, 2009. S.586.
425 Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.154. Вывад шляхецтва роду Гутоўскіх гербу "*Цёлак*" за 1773 г. змешчаны ў "*Аршанскім гербоўніку*", гл.: *Оршанский гербовник*. С.45.
426 Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.418.

Wjp. Gabryel Skiryat, Podstoli Wiłkomirski[427].
Wjp. Ka-/zimierz Mikosza, Czeszn[ikowicz] Orszan.
Wjp. Franciszek z Chłu-/sowa Chłusowicz, podczaszy Smolen[ski][428].
Wjp. Dominik / Pis(z)czałło, Kapitan Woysk WXLit.
Wjp. Paweł z Chłuso-/wa Chłusowicz, Czeszn[ikowicz?] Woł[kowyski].
Wjp. Dominik Bielski, / Woyt Czausowski.
Wjp. Jozefatt Nowacki, St[aros]ta Zahoran-/ski.
Wjp. Michał Nowacki, Star[ościc] Zahoranski.
Wjp. / Ludwik Nowacki, Star[ościc] Zahoranski[429].
Wjp. Mikołay / Zborzenski, Mieczn[ikowicz] Orszan.
Wjp. Kazimierz Białkowski, / Czeszn[ik] Wiłkomir[ski][430].
Wjp. Jan Bartoszewicz, Łowczyc / Orszan.
Wjp. Jgnacy Krzywobłocki, Łowczyc Oszmian[ski]. /
Wjp. Jgnacy Suszczewski, Podczaszy Smolen[ski][431].
Wjp. Marcin / Walicki, Towarzysz Petyhorski Buławy W[ielkiey] WXLit. /
Wjp. Piotr Woropay, Regent Ziemski Orszanski[432].
Wjp. Sta-/nisław Staniewicz.
Jgmć Pan Hrehory Bielski.
Wjp. / Franciszek Ślaski, kommisarz dóbr JOX[iążę]cia Jgmć / Woiewody Ruskiego[433].
Wjp. Antoni Chreptowicz, Ko-/niuszy Nowogrodzki y Kommisarz dobr jwjp. Mar-/szałka W[ielkiego] WXLit.[434]
Wjp. Andrzey Jaguczanski, Skar[bnik] / Smolen[ski][435].
Wjp. Władysław Boguszewski, Skarbn[ikowicz?] Wiłko-/mir[ski][436].
Wjp. Tadeusz Zubowski, Porucznik JKMć.
Wjp. August / Nowacki, St[aros]ta wyzgrodzki.
Wjp. Ignacy Bo[guszew]ski[437], / Reient Ziem[ski] Pttu Orszan.
Wjp. Jan Stankiewicz / Łabowski, Strażn[ikowicz?] Starodubow[ski][438].
Wjp. Ludwik Gutta-/kowski, Kapitan JKMć.
Wjp. Alexander Zaręba, Kapi-/tan JKMć[439].
Wjp. Antoni Dusiacki Rudonina[440], Pod-/czaszy Brasław[ski], Poruczn[ik] JKMć.
Wjp. Jozef Staniszewski, / Pułkownik JKMć.
Wjp. Mikołay Łaniewski Wołk, / Pułkown[ik] JKMć.
Wjp. Michał Łepkowski, Stoln[ik] Smo-/len[ski], Towarzysz Petyhorski[441].
Wjp. Franciszek Kaminski. /

---

[427] *Urzędnicy WKL. Województwo Wileńskie XIV–XVIII wiek*. S.471.
[428] *Urzędnicy WKL. Ziemia Smoleńska i województwo Smoleńskie. XIV–XVIII wiek*. S.135.
[429] Гл. таксама: Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.321.
[430] *Urzędnicy WKL. Województwo Wileńskie XIV–XVIII wiek*. S.417.
[431] *Urzędnicy WKL. Ziemia Smoleńska i województwo Smoleńskie. XIV–XVIII wiek*. S.136.
[432] Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.116.
[433] Аляксандр Аўгуст Чартарыйскі, ваявода рускі ў 1731–1782 г., гл.: *Urzędnicy Województwa Ruskiego XIV–XVIII wieku (ziemie Halicka, Lwowska, Przemyska, Sanocka). Spisy*. Oprac. K. Przyboś. Kórnik, 1987. S.163.
[434] Ігнаці Агінскі, маршалак вялікі ВКЛ у 1750–1768 г., гл.: *Urzędnicy centralni i dostoynicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku. Spisy*. Oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba. Kórnik, 1994. S.75.
[435] *Urzędnicy WKL. Ziemia Smoleńska i województwo Smoleńskie. XIV–XVIII wiek*. S.178.
[436] *Urzędnicy WKL. Województwo Wileńskie XIV–XVIII wiek*. S.488.
[437] Сярэдзіна прозвішча заплямлена атрамантам. Але гэта дакладна Багушэўскі, гл.: Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.50.
[438] *Urzędnicy WKL. Ziemia Smoleńska i województwo Smoleńskie. XIV–XVIII wiek*. S.326.
[439] Ёсць вывад шляхецтва роду Зарэмбаў гербу "*Зарэмба*" за 1773 г., змешчаны ў "*Аршанскім гербоўніку*", гл.: *Оршанский гербовник*. С.155.
[440] Павінна быць "*Rudomina*". Урад пазначаны недакладна, Антоні, пэўна, быў падчашычам, гл.: *Urzędnicy WKL. Województwo Wileńskie XIV–XVIII wiek*. S.556.
[441] *Urzędnicy WKL. Ziemia Smoleńska i województwo Smoleńskie. XIV–XVIII wiek*. S.198.

Wjp. Jozef Złotogurski, Gbernator dobr JO. X[ięż]nej //

[4[442] / 286v]

Sanguszkowey, Marszałkowey W[ielkiej] WXLit[443].
Wjp. Kazi-/mierz Złotogurski, Bunczuczny Pttu Orszan.
Jp. Piotr / Bryndza.
Jp. Dzierozynski.
Wjp. Antoni Malkowski, Jnsty-/gator Pttu Orszan.
Wjp. Mikołay Malkowski, Towarzysz / Petyhorski.
Wjp. Alexander Łaparewicz, Straz[nik] Smolen[ski][444]. /
Kapelia z pałkierzem i Pocztów dwanascie z kapra-/lem.
Jp. Dawid Bayraszawski, Chorązy Nadworny Pocz-/tow z dobr possyduiących w Powiecie Orszan. jw.jp. Ogin-/skiego, Marszałka W[ielkiego] WXLit., prezentowało się dwadzies-/cie Cztery.
Wjp. Adam Skorobohaty, Straz[nik] Orszanski[445]. /

Chorągiew wjp. Alexandra Hołowczyca[446], rotmi-/strza Pierwszego powiatu Orszan., parafiy Orszan[skiej] / a Łukomskiey, za Ordynansem wjp. Chorązego Pttu Or[szanskiego].
Wjp. Alexander Jan Hołowczyc, Rotm[istrz] Pttu Orszan. /
Wjp. Jozaffat z Zawierza Stetkiewicz, Porucznik tegoz / Znaku.
Wjp. Michał Zdroiewski, Chorązy tegoz Znaku. /
Kompania.
Wjp. Mikołay Stetkiewicz za Ordynan-/sem w Assystencyi Chorągwi P[owia]towey.
Wjp. Fabian Ka-/szyc, St[aros]ta Smorecki za ordynansem pod Chorągwią / P[owia]tową.
Wjp. Tadeusz Szemioth, Horodn[iczyc?] Orszan. za ordy-/nansem pod Chorągwią P[owia]tową.
Wjp. Tomasz Szkul-/tecki[447], Skarbnik Grodzienski.
Wjp. Kazimierz Chlu-/dzinski, Reient Grodzki Orszan.
Jp. Jan Buc(z)ynski. /
Jp. Franciszek Zakrzewski, Strażn[ik?] Orszan.[448]
Jp. Jan Zu-/bowski, Obozn[ic] Orszan.
Jp. Leon Szkultecki, Horodn[iczyc] Orszan.[449] /
Jp. Jozefat Nowacki, St[aros]ta Wyzgrodzki.
Wjp. Jgnacy / Gordziałkowski, Skarbn[ik] Min[ski][450].
Wjp. Franciszek Zambrzyc-/ki, Stoln[ikowicz] Orszan.
Jp. Władysław Mohuczy.
Jp. Tadeusz / Mikosza, Czeszn[ikowicz?] Orszan.
Jp. Kazimierz Szkultecki[451], / Horodn[iczyc] Orszan.
Jp. Jan Chludzinski.
Jp. Mikołay Wila-/mowicz.

---

442 Пагінацыя папраўлена: наверх лічбы 3 надпісана лічба 4.
443 Удава Паўла Караля Сангушкі, маршалка вялікага ВКЛ, які памёр у 1750 г., гл.: *Urzędnicy centralni i dostoynicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku*. S.75.
444 *Urzędnicy WKL. Ziemia Smoleńska i województwo Smoleńskie. XIV–XVIII wiek*. S.212.
445 Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.424.
446 Вывад шляхецтва роду Галоўчыцаў гербу "*Калюмна*" за 1773 г. змешчаны ў "*Аршанскім гербоўніку*", гл.: *Оршанский гербовник*. С.49–50.
447 Адзначана касым крыжыкам (X) на маргінэзе, гл.: *Urzędnicy WKL. Województwo Trockie XIV–XVIII wiek*. S.331.
448 Вывад шляхецтва роду Закржэўскіх гербу "*Памян*" за 1773 г. змешчаны ў "*Аршанскім гербоўніку*", гл.: *Оршанский гербовник*. С.152.
449 Адзначана касым крыжыкам (X) на маргінэзе.
450 Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.141.
451 Адзначана касым крыжыкам (X) на маргінэзе.

Jp. Stanisław / Daszkiewicz.
Jp. Franciszek / Daszkiewicz.
Jp. Kazimerz / Nowodworski.
Jp. Ludwik / Łaiewski[699].
Jp. Jan Kostryca. /
Jp. Adam Abakanowicz.
J/[700]p. Michał Sawicki.
J/p. Hrehory Hlinski.
Jp. Hreho-/ry Chouratowicz[701].
Jp. Jan Konstanty Bono-/dzowicz.
Jp. Piotr Pomorski. /
Jp. Aleksander Zarnowski[702]. /
Jp. Stanisław Jasinski.
Jp. Woyciech Pioro, Jmieniem / Pana swego wjp. / Olszewskiego, skarbnika Pinskiego.
J/p. Heliasz Mielieszko.
Jp. Karol Piorowicz[703].
Jp. Łukasz / Stankiewicz.
Jp. Jan Wier-/ciński.
Jp. Jozef Zubowski. /
Jp. Jakub Filipowicz.
J[704]/p. Jan Panykiewicz.
J/p. Piotr Maximowicz.
Jp. / [705]Antoni Szenciłło[706].
Jp. Leon Bykow-/ski.
Jp. Paweł Bykowski. /
Jp. Piotr Bykowski.
J/p. Pan Benedykt Kowzan. /
Jp. Bazyli Nowicki.
J/p. Jan Karkowski.
J/p. Antoni Kolenda.
Wj/p. Konstanty Ungier, Komornik //

[16[707] / 292v]

Lidzki[708].
Wjp. Jerzy Bielewicz, komany[709] Eko-/nomiy Mohylow[skiej].
Jp. Jan Karacz[ewski] / [710]Wołk.
Jm. Jan Sawicki.
J/p. Mateusz Hrynkiewicz.
Jp. / Jerzy Chociatowski.
Jm. Jakub / Chociatowski.

---

699 Пэўна, "*Łajewski*".
700 Адзначана крэскай на маргінэзе.
701 Часцей "*Chowratowicz*".
702 Пэўна, "*Żarnowski*".
703 Магчыма, "*Piórowicz*".
704 Адзначана крыжыкам (+) на маргінэзе.
705 Адзначана "*NB*" на маргінэзе.
706 Пэўна, тое ж "*Szęciłło*".
707 Пагінацыя папраўлена: перакрэслена лічба 15, напісана лічба 16.
708 Анішчанка Я. *Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ...* С.468.
709 "*Nad "n" abrewiacja – wyraz niejasny*" (заўвага А. Рахубы). Магчыма, так пісар скараціў слова "*komenderowany*".
710 Адзначана крэскай на маргінэзе.

Jp. Gierwazy Cho-/ciatowski.
Jp. Bazyli Chocia-/towski.
Jp. Michał Rodzie-/wicz.
Jp. Kazimierz Haury-/łowicz[711].
Jp. Samuel S(z)czyre-/wicz.
Jp. Tomasz Romanowski. /
Jp. Jakub Kuczborski.
J/p. Bazyli Grodzki.
Jm. Hre-/hory Hałkowski.
Jp. Eliasz Soko-/łowski.
Jp. Piotr Słuczanowski.
Jp. / Andrzey Słuczanowski.
Jm. Jan Bro-/[712]niecki.
Jp. Jozef Sawicki.
J/p. Tadeusz Michałowski.
J/p. Michał Makaszewicz.
Jm. Leon / Abakanowicz.
Jp. Tomasz / [713]Sawicki.
Jp. Jan Podwin-/ski.
Jp. Jan Wi[e]liczkiewicz. /
Jp. Jozef Niedzwiedzki.
J/m. Piotr Lewkiewicz.
Jp. / Mikołay Matusewicz.
Jp. / Franciszek Hałkowski.
Jp. / Kazimierz Kostryca.
Jp. / Karol Tindgrynd.
Jp. Ba-/zyli Czempinski.
Jp. / Jerzy Wankowicz[714].
Jp. / Michał Baranowski[715].
J/p. Adam Kostryca.
J/p. Jan Zaleski.
Jp. Symo(n) //

[17[716] / 293]

Grzybowski.
Jp. Jan Burski.
J/p. Symon Hrynkiewicz.
J/m. Jan Dziakonski[717].
Jchmośc Pa-[718]/nowie Hrehory [i] Hrehory Saprykowie. /
Jp. Bartłomiey Mę-/czynski[719].
Jp. Mikołay Szysz-/ko.
Jp. Marcin Sasy-/nowicz.

---

711 Часцей “Hawryłowicz”.
712 Адзначана крэскай на маргінэзе.
713 Адзначана крэскай на маргінэзе.
714 Часцей “Wańkowicz”.
715 Вывад шляхецтва роду Бараноўскіх гербу “Астоя” за 1774 г. змешчаны ў “Аршанскім гербоўніку”, гл.: Оршанский гербовник. С. 7–8.
716 Пагінацыя папраўлена: перакрэслена лічба 16, напісана лічба 17.
717 Часцей “Dziakoński”.
718 Адзначана NB на маргінэзе.
719 Часцей “Męczyński”.

Jp. Hrehory Rut-/kowski.
Jm. Ludwik Macie-/iewicz.
Jp. Maciey Pu-/ninski[720].
Jp. Alexander / Czarnaszewicz.
Jp. Tomasz Pogorzel-/ski.
Jp. Mikołay Punin-/ski.
Jp. Jozef Stankie-/wicz.
Jp. Pan Paweł Ciechan. /
Jp. Alexander Bałtry-/mowicz.
Jp. Alexander / Rokicki.
Jp. Jakub / Dybowski[721].
Jp. Be-/nedykt Kowzan.
Jp. / Hrehory Hałkowski.
J/[722]p. Maciey Gintowtt.
J/p. Zacharyasz Bar-/dowski.
Jp. Marcin / Mirski.
Jp. Bazyli / Sieniawski.
Jp. Jan / [723]Sawicki.
Jp. Domi-/nik Donat[724].
Jp. Ja-/kub Siergantt.
Jp. Marcin Maciejew[ski]. //

[18[725] / 293v]

Jp. Jerzy Korobiec.
Jp. Jozef Korobiec.
J/m. Jerzy Nieczecki.
J/p. Maciey Krukowski.
J/p. Filip Krukowski.
J/p. Dominik Rossalski.
J/p. Marcin Bezobrazy[726]. /
Jp. Kasper Czapliński.
Jm. Jo-/zef Tarczewski.
Jp. / Gabryel Rusiecki.
Jm. Kazi-/[727]mierz Onoszko.
Jm. Sylwester / Hrudzina.
Jp. Jan / Monkiewicz.
Jp. [728]Franciszek / Niedzwiedzki[729].
J/p. Dominik Lenkie-/wicz.
Jp. Jakub / Zdanowicz.
Jp. Maciey Korytko.

---

[720] Часцей "*Puniński*". Ёсць вывад шляхецтва роду Пунінскіх гербу "*Кульпа*" за 1773 г. змешчаны ў "*Аршанскім гербоўніку*", гл.: *Оршанский гербовник*. С.114.
[721] Вывад шляхецтва роду Дыбоўскіх гербу "*Налуч*" за 1773 г. змешчаны ў "*Аршанскім гербоўніку*", гл.: *Оршанский гербовник*. С.39.
[722] Адзначана касым крыжыкам (X) на маргінэзе.
[723] Адзначана крэскай на маргінэзе.
[724] Слова напісана па праўленаму. У крыніцы неразборліва, мажліва "*Dołnar*", "*Dołnat*".
[725] Пагінацыя папраўлена: лічба 18 напісана паверх лічбы 17.
[726] Пэўна, "*Bezobrazow*".
[727] Адзначана крыжыкам (+) на маргінэзе.
[728] Адзначана NB на маргінэзе.
[729] Пэўна, "*Niedźwiedzki*".

Jp. Ja-/rosław Panfiłowicz.
Jp. Bazyli Pan-/fiłowicz.
Jp. Michał / [730]Nied[ź]wiedzki.
Jp. Jozef / [731]Nied[ź]wiedzki.
Jm. Jan [732]Nied[ź]wiedzki[733].
Jm. Jan [734] / Nied[ź]wiedzki.
Jp. / Franciszek Czaplinski.
J/p. Jan Filemonowicz[735]. /
Jp. Symon Mitkiewicz.
J/p. Michał Łoyko.
Jp. Franciszek / Rętkowski.
Jp. Adam Ogilba.
Jp. Ma-/teusz Kołonyski[736].
Jp. Felicyan / Osowiecki.
Jp. Andrzeн Bogu //

[19[737] / 294]

szewski.
Jp. Łukian Borodzic(z).
Jp. Hila-/ry Petkiewicz.
Jp. Stanisław Zylinski[738]. /
Jp. Antoni Borodzicz.
Jchmć Panowie Ludwik / y Adam Borodziczowie.
Jp. Kazimierz Czyhir. /
Jp. Adam Zarycki[739].
Jp. Jozef Kabitowicz, / Sierzant JKMć.
Jp. Antoni Broniewski. /
Jp. Stefan Ciechan.
Jp. Jan Broniecki.
Jp. / Andrzej Jachimowicz.
Jp. Jan Dombrowski. /
Jp. Jan Uścinowicz.
Jp. Franciszek Wasz-/kiewicz.
Jp. Kazimierz Zahorski.
J/p. Swiątecki, Komor[nik] Wilen[ski] na / usłudze Skar[bnika] JKMć Ekonomiy Mohylow[skiej][740]. /
Jp. Mikołay Łosicki Malkowski.
Jp. Jan / Janowski.
Jp. Michał z Chłussowa Chłu-/sowicz, Poruczn[ikowicz] Pttu Orszan.
Jp. Fran/ciszek z Chłussowa Chłusowicz, Porucz-/nik Orszan.

---

730 Адзначана NB на маргінэзе.
731 Адзначана крэскай на маргінэзе.
732 Адзначана крэскай на маргінэзе.
733 Вывад шляхецтва роду Нядзведзкіх гербу "*Харугва*" за 1773 г. змешчаны ў "*Аршанскім гербоўніку*", гл.: *Оршанский гербовник*. С.88.
734 Адзначана крэскай на маргінэзе.
735 Пэўна, часцей "*Filimonowicz (Chilimonowicz?)*".
736 Магчыма, слушней "*Kołomyski*".
737 Пагінацыя папраўлена: лічба 19 напісана наверх лічбы 18.
738 Пэўна, "*Żyliński*".
739 Мажліва, "*Zarzecki*".
740 Адзначана на маргінэзе адмысловым знакам.

Kapelliy Konney Tręba-/czow dwoch, Pałkierz z Kotłami Jeden / y Pocztow Koni osiem.

U tego *Regestru Popisowego*[741] Przeswięt-/nego Ptttu Orszan. przy wyciśnioney na / Białej Massie Pieczęci Podpisy rąk / JWW., WJPP. Urzędnikow temi wyra-/zają się Słowy: Ten Regestr przez / [742]Wjp. Chorązego Spisany *ad te-/norem*[743] Konstytucyi Konwokacyiney / popisuyącey się Braci Naszej Jako / Marszałek Pttu Orszan. podpisany / Authoryzuyę: Mikołay Sabba Chra-/powicki, Marszałek Pttu Orzan., / Reymętarz D[ywizyi] B[iałoruskiej], *m[anum] p[ropria]*[744].
Jerzy Kazimierz / Goworek Galinski, Chorązy Gene-/ralny Pttu Orszan., *m[anum] pr[opria]*. //

[20 / 294v.]

Antoni Hlebicki Jozofowicz, Sędzia y / Prezydent Sądow Ziem[skich] Pttu Orszan./
Adam Bartoszewicz, Sędzia Ziem[ski] Pttu / Orszan.
Jdzy K[azi]m[ie]rz Kurcz, Sędzia Ziem[ski] / Pttu Orszan.
Jozef Zambrzycki, Sędzia / Ziem[ski] Pttu Orszan.
Hieronim Szemioth, / Pisarz Ziem[ski] Pttu Orszan.
Tadeusz Wa-/silewski, Woyski Pttu Orszan.
Anzelm / Kurcz, Podstoli Pttu Orszan.
Waleryan / z Wereząb Zubowski, Obozny Pttu Orszan. /
Leon Szemioth, Budowniczy [i] Deputat / Tryb[una]łu Gł[ówne]go WXLit. Pttu Orszan.
Mi-/chał Kroger, Sędzia Grodz[ki] Pttu Orszan. /
Jgnacy Jakowicki, Sędzia Grodzki Orszan. /
Alexander Slezanowski, Sędzia Grodzki / Orszan.
Felix Wołkowicki, Pisarz Grodz[ki] / Orszan.
Ktory to takowy Regestr Popisow / Przeswietnego Pttu Orszan. Za podaniem / Onego Przez wyż wyrażonego Patrona / do Akt Jest do Xiąg Ziem[skich] Spraw / Wieczystych Pttu Orszan. Przyjęty y / Wpisany. *Wypis wydan*[745]. /

Widymus wydan. /
Item Widymus wydan. /
Widymus JWJP. Kochowskiemu, Generałowi / Ross[yjskiemu] /
*cero*[746]. //

[741] Гэтыя словы напісаны над радком.
[742] Адзначана касым крыжыкам (X) на маргінэзе.
[743] З лацінскай: “*згодна з прадпісаннем (зместам)*”.
[744] З лацінскай: “*рукай уласнай*“.
[745] Дапісана пазней на радку, але не відавочна, каб тым жа почаркам.
[746] У крыніцы незразумела, можа памылкова.

**Ульяновський Василь.**
*Князь Василь-Костянтин Острозький:*
*історичний портрет у галереї предків та нащадків.*
Київ: ВД “*Простір*”, 2012. 1370 с.: 40 іл.

Думка напісаць рэцэнзію альбо прынамсі анатацыю на кнігу знакамітага ўкраінскага гісторыка Васіля Ульяноўскага з’явілася адразу ж, калі аўтар з вялікай прыязню пакінуў свае шчырыя пажаданні на падараваным нам у Кіеве ў лістападзе 2012 г. асобніку. Аднак зрабіць гэта хутка не ўдалося, паколькі ўкладзеная ў даследаванне вялікая праца патрабуе пэўнага часу на грунтоўнае яе асэнсаванне. Справа ў тым, што кніга Васіля Ульяноўскага вартая асобнай “*манаграфічнай рэцэнзіі*", таму нам падалося больш слушным зрабіць кароткае прадстаўленне яе беларускаму чытачу, улічваючы тое, што выданне не патрапіць у вялікай колькасці ў навуковыя бібліятэкі нашай краіны.

Даследаванне прысвечана знакавай постаці ў гісторыі Рэчы Паспалітай – кіеўскаму ваяводзе і валынскаму маршалку Васілю Канстанціну Канстанцінавічу Астрожскаму (1526–1608 г.). Але ў рэчаіснасці асоба магната – гэта толькі своеасаблівы фон, які дазваляе аўтару даць панарамны зрэз жыцця Украіны, Вялікага княства Літоўскага і Польскага Каралеўства ў XV–XVII ст. Праца ёсць вынікам падсумавання ўсёй сутнаснай гістарыяграфіі пытання, крыніцавай базы і, адначасова, адэкватным украінскім адказам на ўсе ранейшыя спробы абагульніць звесткі пра жыццядзейнасць магната. Звышсціплым выглядае прызнанне аўтара, што яго кніга мае мець толькі “*прамежкавую значнасць у даследаванні Астрагіяны*”. Наўрад ці ў бліжэйшы час ва Украіне альбо дзе-небудзь яшчэ народзіцца “*цэлы калектыў узорных фахоўцаў*”, які будзе ў стане замяніць адну светлую галаву Васіля Ульяноўскага. Без перабольшання кнігу варта лічыць адной з галоўных падзей не толькі ўкраінскай гістарыяграфіі, але і ўсёй гуманітарнай навукі апошніх гадоў. Адзначыць можна і тое, што манаграфія з’яўляецца адначасна “*дапаможнікам па спецкурсу*” і можна толькі пазайздросціць студэнтам, якія вывучаюць і будуць вывучаць мінулае з яе дапамогай.




Кніга ўкраінскага гісторыка можа быць падзеленая на дзве часткі. У першую трэба вынесці раздзелы, прысвечаныя генеалогіі Астрожскіх, а таксама “*манаграфію ў манаграфіі*” (памерам больш за 10% ад усёй кнігі) пра жыццё і дзейнасць бацькі Васіля – Канстанціна Іванавіча, знакамітага гетмана ВКЛ. Разам з гістарыяграфічна-крыніцазнаўчым уступам, гэтая частка абдымае больш за 300 старонак. Другая частка даследавання, памерам каля 1000 старонак, закранае розныя аспекты жыцця князя Васіля Канстанціна Астрожскага. Талент украінскага гісторыка дазволіў аб’яднаць і выкарыстаць вялікую колькаць мадэляў даследавання: ад гісторыі дзяцінства да культуры спачыну. Для айчыннай беларускай гістарыяграфіі праца Васіля Ульяноўскага з’яўляецца своеасаблівым папрокам. Феадальная культура, вывучэнне і рэканструкцыя якой набыла пэўную папулярнасць у Беларусі, дагэтуль зводзіцца толькі да апісання побытавых умоваў жыцця, розных забаваў, накшталт паляванняў і рыцарскіх спаборніцтваў. Пакідаючы ў баку палітычныя аспекты жыцця пануючага стану, яго гаспадарчую дзейнасць, звернем увагу на тое, што звычайна выпадае з увагі нашых гісторыкаў, а менавіта, на “*інтэлектуальна-культурную сферу*”, ролю “*рэлігіі і царквы ў прыватным і публічным жыцці*”, стаўленне да смерці ў “*фізічным і духоўным вымярэнні*”. Тое, што звычайна пакідаецца па-за ўвагай

айчыннымі даследчыкамі, несумненна, дамінуе ў структуры кнігі Васіля Ульяноўскага: на асвятленне гэтых аспектаў аўтар аддаў 500 старонак.

Усебаковасць даследавання Васіля Ульяноўскага стварае не толькі сам тэкст, але і ілюстратыўнае суправаджэнне кнігі. Старонкі манаграфіі шчодра аздобленыя разнастайнымі ілюстрацыямі, якія ўтвараюць візуальны фон эпохі князёў Астрожскіх. Тут можна сустрэць не толькі ўкраінскія сюжэты, але і добра вядомыя беларусам (Гальшаны і Слуцк, Скарына і Цяпінскі).

У сілу вышэйназваных прычынаў, а таксама тэматычнай скіраванасці гэтага нумара нашага часопіса, спынімся толькі на адным фрагменце манаграфіі, які з'яўляецца прынцыпова цікавым для беларускага чытача, а менавіта – на асвятленні ў кнізе падзей 8 верасня 1514 г. Адразу адзначым, што аўтар вылучыў нават спецыяльны пункт "*Пір і Аннібал": князь воїн і полководець*", дзе поўнавартасна характаразуе вайсковую дзейнасць гетмана.

Падзеі Аршанскай бітвы займаюць некалькі старонак кнігі (С.190–197), акрамя гэтага сярод ілюстрацый змешчана карціна "*Бітва пад Воршай 1514 г.*" і яе асобныя фрагменты (С.III–IV).

Апісанне бітвы 8 верасня 1514 г. аўтар пачаў з пераказу Валынскага летапісу, які дэкларуе ўласна ўкраінскі погляд. Характарыстыка даецца праз успрыманне перамогі пад Воршай самым летапісцам, які апісвае яе як праяву Божай ласкі ў адносінах да князя Канстанціна Астрожскага. Для кантрасту пасля пафаснай карціны перамогі, якая была намаляваная ў Валынскім летапісе, Васіль Ульяноўскі прапаноўвае звярнуць ўвагу на апісанне бітвы ў іншых летапісах – Рачынскага і Еўраінаўскім, дзе гетман не быў галоўным персанажам. Тут ён заўважае, што складальнікі гэтых летапісаў паказваюць гетмана простым выканаўцам волі манарха, а слава гетмана губляецца ў дасягненнях войска і караля. Такім чынам, украінскі гісторык вылучыў дзве лініі адзнакі ролі князя Канстанціна Астрожскага ў Аршанскай бітве: панегірычную і рэалістычную. Панегірычны накірунак, на яго думку, быў развіты ў першага гісторыка ВКЛ – М. Стрыйкоўскага, які намаляваў "*уяўны партрэт героя*", а вось у працах каралеўскага сакратара Ё. Дэцыя і ваякі А. Гваньіні гетман не быў у цэнтры апісання бітвы.

Праз больш падрабязную "*расейскую версію*" у кнізе схематычна перадаецца хада бітвы. Звяртаецца ўвага на найноўшыя даследаванні А. Лобіна адносна колькасці арміі Жыгімонта Старога. Заўважае ўкраінскі гісторык і выразную памылку свайго расійскага калегі, якую той зрабіў пры аспісанні расстаноўкі сіл літоўска-польскай арміі на Аршанскім полі.

Сярод крыніцаў, якімі карыстаўся аўтар для свайго прадстаўлення бітвы пад Воршай, значную частку складаюць даследаванні беларускіх гісторыкаў (Л. Акіншэвіча, А. Грыцкевіча, Г. Сагановіча, В. Вароніна). Адчуваецца імпанаванне аўтару беларускай нацыянальнай трактоўкі падзей пад Воршай. Не забыўся ўкраінскі гісторык нагадаць пра ўслаўленне князя Астрожскага ў народнай творчасці, праўда, без акцэнтавання на тым, што зроблена гэта было беларусамі! Унутраныя супярэчнасці ў інтэрпрэтацыі падзей Аршанскай бітвы, якія маюць месца ў Беларусі не ўніклі ад украінскага гісторыка, які слушна называе "*нязграбным кур'ёзам*" спробы ідэалагізаваных адзнак бітвы.

Але якія б адзнакі ролі князя Астрожскага не паўсталі ў гістарыяграфіі, аўтар звярнуў ўвагу на аб'ектыўныя акалічнасці. Жыгімонт "*літаральна абсыпаў Астрожскага прывілеямі. Толькі 20 снежня 1514 г. у Вільні ён выдаў ажно тры*". Такая шчодрасць не была выпадковай і сведчыла пра рэальную адзнаку заслугаў гетмана ў перамозе над ворагам.

Калі бітву пад Воршай у выкладанні Васіля Ульяноўскага ўзяць за пэўны ўкраінскі стандарт, то можна заўважыць наступнае. У адрозненні ад беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі, якая 8 верасня 1514 г. схільна ацэньваць як дзень "*вайсковай славы*" на нацыянальным і на дзяржаўным узроўнях, для украінцаў гэта хутчэй своеасаблівая "*персанальная*" перамога, дзе галоўную ролю адыграў геній гетмана. Для ўкраінцаў культ

князёў Астрожскіх, у тым ліку Канстанціна Іванавіча, без сумненняў, мае больш вызначальную ролю, чым для беларусаў.

Працу ўкраінскага гісторыка іначай, як тытанічнай, назваць не выпадае. Моц нацыі яскрава выяўляецца ў дасягненнях яе інтэлектуальнай эліты. Пан Васіль Ульяноўскі здзейсніў вельмі паказальны навуковы чын: даў украінцам падставы ганарыцца не толькі за продкаў, але і за сучаснікаў. Нарэшце, улічваючы маштабы постаці Васіля Канстанціна Астрожскага ў гісторыі Рэчы Паспалітай XVI–XVII ст. складана нават уявіць сур'ёзныя штудыі, дзе не спатрэбіліся б назіранні паважанага пана Васіля.

*Віталь Галубовіч (Горадня).*

## Целеш Вячка.

*Адсюль наш род, тут мой прычал.*
Мн.: Кнігазбор, 2013. 220 с.

На сённяшні час кнігі пра ўласныя радаводы перасталі быць рэдкасцю, як гэта было яшчэ гадоў дваццаць назад. І хаця большасць беларусаў мае ў сваіх радаводах сялянскія карані, ўвага да сямейнага мінулага стала расце. Інтарэс менавіта да такой гістарычнай літаратуры мае свае тлумачэнні. Публічнае раскрыццё "*белых*" і "*цёмных*" плямаў гісторыі, якое назіраецца апошнія дзесяцігоддзі, надала смеласці кожнаму аматару мінуўшчыны казаць пра тыя ці іншыя акалічнасці лёсаў сваіх сямейнікаў. Хаваць сямейнае паходжанне ці дачыненне да супярэчлівых падзей гісторыі ўжо не прыходзіцца. Калі ў 2001 г. грамадскае аб'яднанне "*Дыярыюш*" абвесціла ў "*Нашай Ніве*" конкурс "*Мой радавод: лёс сям'і ў XX стагоддзі*", то сам змест такой прапановы на той час выглядаў навіною і чапляў адчуваннем сапраўдных адкрыццяў. І такія адкрыцці на мікраўзроўні, часам бачныя толькі самым шукальнікам сямейнай гісторыі, сапраўды рабіліся.




Цяперашні чытач можа знайсці розныя прыклады ўвагі да сваіх продкаў, занатаваныя на старонках успамінаў, праектных даследаванняў, нарысаў. Са старонак даўно напісаных Янам Булгакам успамінаў "*Край дзіцячых гадоў*", што нядаўна пабачылі свет намаганнямі Тамары Вяршыдскай, мы вучымся бачыць і памятаць мясціны свайго дзяцінства і тых, хто вакол нас ад пачатку жыцця – нашых бацькоў.

Зараз беларусы атрымалі яшчэ адзін узор ушанавання сямейнай мінуўшчыны. Гэта генеалагічнае даследаванне знакамітага беларускага мастака Вячкі Целеша. Грунтоўнае, ёмістае выданне ўбачыла свет ў менскім выдавецтве "*Кнігазбор*". Што знойдзе чытач на яго старонках, з бясконцай колькасцю розных чужых імёнаў, прозвішчаў, згадак ступеняў сваяцтва? Вялікая чужая сям'я, чужыя радасці, турботы і драмы, перакручанасць лёсаў людзей, дэталёва апісаныя асобныя эпізоды жыццёвага шляху таго ці іншага сваяка – усё гэта можа стварыць вельмі абмежаваную аўдыторыю чытачоў. Але думаецца, што будучыня ў гэтай кнігі іншая. Першы аргумент такой высновы – сам аўтар. На старонках яго кнігі не проста сямейны летапіс разгалінаваны на 27 гісторый, дзе кожная адпавядае пэўнай галінцы радаводу. Гэта летапіс, дзе ёсць месца жыццяпісу самога мастака. Па вялікім рахунку, кожны, хто будзе чытаць гэтую кнігу, будзе чытаць гісторыю Вячкі Целеша. Праз новыя факты яго жыцця і жыцця яго блізкага атачэння, мы даведваемся пра чараду падзей і пра той асяродак, ў якім фармавалася асоба майстра. Паколькі звесткі,

змешчаныя ў кнізе, па-большасці унікальныя, то мы можам казаць пра гэтую кнігу, як пра каштоўную крыніцу аб жыцці і творчасці Вячкі Целеша, які воляй лёсу апынуўся ў Рызе, але не толькі не парваў сувязь з Беларуссю, хутчэй наадварот, увесь час ствараў, арганізоўваў, фармаваў гэтыя сувязі ўсёй сваёй працай.

У 2003 г. нам пашчасціла пазнаёміцца з аўтарам кнігі, як раз у перыяд, калі Вячка Целеш збіраў у Нацыянальным гістарычным архіве ў Горадні архіўныя звесткі пра сваю родную веску Краснае (Краснае Сяло). Таму не выпадкова, што ў кнізе шмат архіўных спасылак.

Нельга не згадаць той факт, што Вячка Целеш славуты калекцыянер і аўтар вядомых, неаднаразова перавыдадзеных кніг пра беларускія гарады на старых паштоўках. Таму прыкладаў умення зацікавіць словам, прывабіць фактам на старонках чарговай кнігі яму не займаць. Кніга Вячкі Целеша мае адмысловую метадалогію, якія грунтуецца на спалучэнні як генеалагічных метадаў даследавання, так і ўласна гістарычных, скіраваных на высвятленне і адлюстраванне мінуўшчыны краю. У структуры кнігі вылучаны асобны раздзел, які знаёміць чытача з прадумовамі самога даследавання, асноўнымі крыніцамі і тымі задачамі, якія ставіў перад сабою даследчык. Гэтая частка кнігі па-свойму вельмі важная, бо дазваляе ўбачыць, што можа падштурхнуць да вывучэння ўласнай гісторыі. Асобнае месца ў кнізе займае раздзел "*Маё прозвішча*". Тут можна пазнаёміцца з рознымі версіямі паходжання прозвішча "*Целеш*".

Аўтар спрабуе пачаць гісторыю сваёй роднай вёскі Краснае з сівой старажытнасці. Выкладзеная на дваццаці двух старонках гісторыя Краснага-Краснасельскага робіць аўтара летапісцам гэтага населенага пункту. Падкрэсліваючы ролю сваіх вядомых папярэднікаў – Зыгмунта Глогера, Міхала Федароўскага, Георгія Пеха, Міхася Чарняўскага, Валерыя Шаблюка, якія ўнеслі сваю лепту ў вывучэнне Краснасельскага краю – Вячка Целеш аб'ядноўвае знойдзеныя ім звесткі ў паслядоўнае гістарычнае апавяданне. Гэтая частка кнігі вельмі патрэбная як панарама для сямейнай гісторыі.

Звяртае на сябе ўвагу асноўны раздзел кнігі – радаводны. Аўтар слушна заўважыў пра складанасць даследавання сялянскай сямейнай гісторыі, якой амаль няма на старонках архіўных дакументаў. Вячка Целеш здолеў, па-магчымасці, пераадолець гэтую праблему цераз руплівы пошук самых розных звестак, злучыўшы на старонках сваёй кнігі 302 асобы з роду Целешаў.

Самая сакральная частка радаводу "*Целешы Дзякоўскія – 1*". "*Мая галінка радаводу*" – з асобым пачуццём адзначыў у назве гэтага раздзелу аўтар. У гэтым раздзеле вельмі шмат інфармацыі пра самога Вячаслава Міхайлавіча, яго дзядуляў і бабуляў, бацькоў. Пры чытанні сямейнай гісторыі Целешаў неаднаразова сутыкаешся з каментарамі даследчыка адносна крокаў самога пошуку: вось ледзь не знайшоў помнік прадзеду, у наступны момант – адкрыў для сябе (!) факт другога шлюбу дзеда. Пагодзімся, што такія адкрыцці могуць чакаць кожнага, хто паглыбіцца ў гісторыю сваіх бліжэйшых сваякоў. Што казаць пра сваяцтва больш дальняе. Гісторыя асобных прадстаўнікоў "*сваёй*" галіны радаводу дазваляе Вячку Целешу аднаўляць цэлыя старонкі жыцця не толькі канкрэтных людзей, але адпаведных гістарычных працэсаў і падзей. Насычаныя фактамі радаводныя апісанні Вячкі Целеша будуць запатрабаваныя пры даследаванні гісторыі Першай Сусветнай вайны, рэвалюцыі, жыцця пад польскай уладай у міжваенны перыяд, падзей Другой Сусветнай вайны, паваеннага жыцця, у тым ліку дзейнасці беларускага культурнага асяродка ў Рызе.

Уласнае жыццё мастака адлюстроўвае яго шлях да мастацтва. Сярод розных рэфлексій і ўспамінаў не можа не прывабіць гісторыя знаходжання новага вымаўлення імя мастака. Адзначым жаданне аўтара занатаваць тыя моманты жыцця, якія паспрыялі яго нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Пашчасціла Вячку сустрэцца з Уладзімірам Караткевічам, Яўгенам Кулікам, Уладзімірам Арловым. Кожная такая сустрэча – як паварот у жыцці. Пазней, ужо славуты мастак, педагог і грамадскі дзеяч, Вячка Целеш

зрабіў свой дом у Рызе своеасаблівымі “*пенатамі*”, куды заходзілі вядомыя беларусы, каб пакінуць у “*Кнізе гасцей*” свае аўтографы.

Лёсы сваякоў, апісаныя Вячкай Целешам, вельмі розныя, але знаходзячы тыя ці іншыя факты, аўтар падкрэслена звяртае ўвагу на такія прыклады, што звязваюць яго дальніх і блізкіх сваякоў з беларускім нацыянальным рухам. Такая ўвага зразумелая, бо сам аўтар – вядомы грамадскі дзеяч беларусаў Латвіі. Мы можам пазнаёміцца з фактамі жыцця дзядзькі Уладзіміра Антонавіча Целеша. Перэпетыі жыцця зрабілі беларуса Уладзіміра Целеша вязьнем сталінскага ГУЛАГу, вайскоўцам арміі генерала Андэрса, удзельнікам бітвы пад Монтэ-Касіна, сябрам Рады БНР, актывістам у суполцы беларусаў Канады. Сустрэча з дзядзькам Уладзімірам, па словах самога Вячкі Целеша, сталася для яго:

“*адкрыццём іншага вольнага жыцця, развеяла міфы, якім частавала дома камуністычная прапаганда*”.

Апавядаючы пра радавод, Вячка Целеш абавязкова пры нагодзе згадвае пра беларускія нацыянальныя рысы сваіх сваякоў. “*Нашы продкі былі уніятамі*” – з асаблівым сэнсам падкрэслівае мастак. Ён жа ўспамінае словы свайго брата Вікенція пра навучанне ў польскай школе ў канцы 30-х г. ХХ ст:

“*Якая ўвага з боку польскай улады была да вучняў, што запісываліся палякамі, каталікамі: у школе на перапынках ім бесплатна давалі гарбату і булачкі, а беларускім праваслаўным дзецям такой радасці не было*”.

Вячка Целеш па-сапраўднаму радуецца, калі атрымлівае ад пляменніка Барыса ліст, напісаны па-беларуску, альбо калі апавядае пра Сяргея Целеша Канцавога, які пасля цэлага жыцця ў польскім асяродку “*захаваў паэтычную душу, душу патрыёта-беларуса*”, у якога засталася “*любоў да роднай мовы, да зямлі беларускай, да Краснага Сяла*”. Такая адметнасць Вячкавых даследаванняў можа быць узорнай.

Аглядаючы ўвесь тэкст кнігі Вячкі Целеша, разумееш, што знаёмішся не проста з вялікай беларускай сям’ёй, з родам Целешаў, раскіданым па вялікай колькасці краін, краёў і мясцінаў, але скрозь складзеныя аўтарам біяграмы, як бы з-за кулісаў назіраеш за чалавечымі радасцямі, турботамі, жахамі і надзеямі. Гэта і ёсць самое жыццё. Вячка Целеш, не ставячы перад сабою такую задачу, праз лёсы сваёй сям’і паказаў гісторыю беларусаў у ХХ стагоддзі.

*Віталь Карнялюк (Горадня).*

## Рассадин Сергей Евгеньевич.

*Истоки государственной символики Беларуси.*
Мн.: Беларусь, 2014. 112 с.

Як вынікае з анатацыі да рэцэнзаванай кнігі, беларускі гісторык і археолаг, “*специалист по вопросам геральдики*” Сяргей Рассадзін прысвяціў сваю працу высвятленню гістарычных каранёў галоўных беларускіх дзяржаўных сімвалаў – герба і сцяга. Аднак, ва ўступе сам аўтар сфармуляваў сваю задачу інакш:

“*не “создавать мифы”,* а, наадварот, па магчымасці разбурыць ужо сфабрыкаваныя і *“поднять вопрос происхождения государственных герба и флага Беларуси до уровня бесспорной исторической достоверности*” (с.5).

Тым самым, ужо ад самага пачатку С. Рассадзін задаў сваёй кнізе востры публіцыстычны характар, прысвяціўшы яе не столькі праблемам геральдыкі і вексілалогіі

(у кнізе – “*векиллологии*”), колькі змаганню, як піша аўтар, з праявамі нацызму (так!), а таксама з яго духоўным субратам – нацыяналізмам (с.5). Па праўдзе, пасля такой заявы кніга наўрад ці заслугоўвае нейкай рэцэнзіі, але фармат “*навуковае выданне*” прымусіў нас дачытаць тэкст С. Рассадзіна да канца.

Адзначым, што прадчуванні нас не падманулі. Мэтай змагання вызначана ўся структура кнігі. Яна складаецца з уступа (замест уводзінаў), які мае назву-заклік “*Поднять вопрос до уровня достоверности*” (так!), трох главаў па тры параграфа ў першых двух і чатыры – у трэцяй, заключэння. Назвы главаў і параграфаў не фармулююць у сабе ніякіх навуковых праблем, а носяць або чыста літаратурны (напрыклад, Глава 1, § 1: “*От века мамонтова начиная́сь...*”), або публіцыстычны характар (Глава 2, § 2: “*Чья кровь там легла полосой?*”, § 2: “*БНР: “Погоня”, сбившаяся с дороги*” і г.д.).




Што датычыць зместу раздзелаў і параграфаў кнігі, то ў ім прасочваецца поўнае ігнараванне гісторыкам С. Рассадзіным усіх метадаў і прынцыпаў гістарычнага даследавання. Выкарыстоўваючы адвольныя аналогіі аўтар знаходзіць вытокі сучаснай дзяржаўнай сімволікі Беларусі ўжо ў верхнім палеаліце, або, як сцвярджае археолаг, у “*мамантавай*” эпосе:

“*...как оказалось, также с мамонтом связано начало как белорусской национальной, так и белорусской государственной символики”, “Итак, древнейший элемент символики Беларуси (ромбавы арнамент – А. Ш.) восходит, безусловно, ещё к верхнепалеолитической, или мамонтовой, эпохе*” (с.6, 9).

Адкінуўшы ўсе даследаванні па беларускай арнаментыцы айчынных навукоўцаў[747] (у аўтарскіх спасылках іх няма), С. Рассадзін на падставе адабраных ім артэфактаў з розных эпох, культур і цывілізацый з ходу “*расшыфроўвае*” “*беларускі сцягавы арнамент*” як саюз Сонца і Зямлі (с.15, 18). У § 3 главы 1 “*Цвета вечной жизни и праведной чистоты*” добра відаць механізм “*аргументацыі*” С. Рассадзіна. Невядома па якой прычыне апраўдываючы спалучэнне чырвонага і зялёнага колераў на сучасным Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь, аўтар знаходзіць “*аналогіі*” то ў гербе Радашковічаў (1792 г.), то ў сцягу Партугаліі. Відаць, у выбары патрэбнай версіі кожны з чытачоў павінен вызначыцца сам. Адначасова С. Рассадзін аспрэчвае, паводле яго ўласных слоў, “*бессэнсоўную*” “*мадагаскарскую*” версію, пра якую ён даведаўся ...з нейкага рэпартажа ад 02.11.2208 г. (так!) (с.23). Навошта ён гэта робіць – можна толькі здагадвацца. Мяркуем, усе гэтыя прыклады “*аргументацыі*” патрэбныя былі таму, што аўтар імкнуўся нейкім чынам знайсці “*старажытнасць*” там, дзе яе няма. Аднак усім

[747] Фадзеева В. *Арнамент.*// Этнаграфія Беларусі. Мн.: БелСЭ, 1989. С.35–36. Фадзеева В. *Беларуская народная вышыўка*. Мн.: Навука і тэхніка, 1991. 199 с. Кацар М. *Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка*. Мн.: БелЭн., 1996. 208 с. Лабачэўская В. *Повязь часоў – беларускі ручнік*. Мн.: Беларусь, 2002. Выд. 1-е. 238 с.; 2009. Выд. 2-е. 302 с. Жабінская М. *Адбітак хрысціянскага сімвала ў арнаменце беларусаў (па матэрыялах Гродзенскага рэгіёну).*// Культура Гродзенскага рэгіёну: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа: Зб. навук. пр. Адк. рэд. А. Пяткевіч. Гродна: ГрДУ, 2003. С.253–256. Агеева Л. *Народный орнамент как исторический феномен (рунические знаки в белорусском традиционном ткачестве).*// XXI век: актуальные проблемы исторической науки. Мат-лы Междунар. научной конф., повящённой 70-летию ист. фак. БГУ (Минск, 15–16 апреля 2004 г.). Редкол.: В. Сидорцов и др. Мн.: БГУ, 2004. С.104–105. *Арнаменты Падняпроўя*. Аўтар тэксту Г. Нячаева і інш. Мн.: Беларуская навука, 2004. 606 с. і інш.

добра вядома, што арнаментаваны чырвона-зялёны сцяг БССР з’явіўся ў 1951 г.[748], а сучасны Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь у сваіх колеравых характарыстыках існуе толькі з 1995 г.[749] Вось і ўся гісторыя.

У іншым месцы – у справе доказу пераемнасці сцягоў БССР і Рэспублікі Беларусь пасля рэферэндуму 14 мая 1995 г. – аўтар дарма спасылаецца на яшчэ адную “*аналогію*” – прыклад сцягоў былых югаслаўскіх рэспублік Харватыі і Славеніі. Вядома, што ў аснову іх дзяржаўных сцягоў пакладзеныя ў розных спалучэннях як раз нацыянальныя колеры: белы, сіні і чырвоны. Менавіта гэтым і тлумачыцца пераемнасць сцягоў у іх пасля развалу СФРЮ. Таму казаць аб нейкім “*еўрапейскім вопыце захавання пераемнасці*” (с.24) у нашым выпадку не прыходзіцца. Нацыянальнымі колерамі беларусаў з’яўляюцца белы і чырвоны, пра што сведчыць не раз згаданы тут народны арнамент, але ён як раз пасля рэферэндуму змяніўся – на сцягу БССР быў белы на чырвоным, а на сучасным сцягу Рэспублікі Беларусь – чырвоны на белым. Калі аўтарам першага варыянта з’яўлялася беларуская сялянка-ткачыха Матрона Маркевіч[750], то другога – Леанід Сініцын[751], які адвольна памяняў колеры, як кажуць, на “*ліхі бок*”. А вось нязменныя чырвоны і зялёны колеры сцягу БССР няслі ў савецкую эпоху зусім іншую сэнсавую нагрузку, пра якую аўтар сціпла напісаў:

“*...очевидно некорректным было бы считать его исключительно цветом революционным*” (с.18–19).

А чаму ўласна? У нашай краіне дзень Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі з’яўляецца дзяржаўным святам, а таму пісаць пра чырвоны колер сцягу БССР, як пра колер “*вечнага жыцця*” Ісуса Хрыста, а не рэвалюцыі[752] – гэта, як слушна адзначыў сам аўтар ва ўступе, “*подгонка происхождения символики под собственные политические взгляды*” (с.4). У сваю чаргу, пра зялёны колер беларускіх лясоў і балотаў на сцягу БССР[753] наўрад ці ў савецкі час думалі як пра сімвал “*праведнага жыцця*” (с.20). Але нават калі пагадзіцца з такой дзіўнай аўтарскай інтэрпрэтацыяй, то паўстаюць пытанні: калі на сцягу БССР чырвоны быў колерам рэвалюцыі, то якім чынам на сцягу Рэспублікі Беларусь ён змяніў сваё значэнне? Дзе ж тут пераемнасць? Але аўтар не зважаючы на такія “*дробязі*” ўпэўнена піша:

“*...Государственный флаг Белорусской ССР был воспроизведён, в своей основе, Республикой Беларусь, полноправной её правопреемницей, в том числе и на международной арене*” (с.24).

Сумніўнай з’яўляецца і здагадка С. Рассадзіна аб нейкім уплыве сцяга Рэспублікі Беларусь на сцягі Казахстана і Туркменістана. Наўрад ці казахаў і туркменаў можа пераканаць аўтарскі прыём:

“*...если только взглянуть..., то можно по крайней мере предположить...*” (с.25).

---

748 Басаў А., Куркоў І. *Сцягі Беларусі ўчора і сёння*. С.24.
749 *Указ Президента Республики Беларусь от 7 июня 1995 года № 214 “Об утверждении Положения о Государственном флаге Республики Беларусь”*, гл.: http: // old. bankzakonov. Com / obsch / razdel192 / time7 / lavz6913.htm.
750 Басаў А., Куркоў І. *Сцягі Беларусі ўчора і сёння*. С.24. *Герб и флаг Белорусской державы*. Мн.: Полымя, 1997. С.17.
751 Навумчык С. *Сем гадоў Адраджэння, альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988–1995)*. Варшава, Прага, 2006. С.127.
752 *Герб и флаг Белорусской державы*. С.14–15.
753 *Герб и флаг Белорусской державы*. С.15–16.

Прэтэнзіі на навуковасць мае глава 2 “*Символ средневековый*”, але і тут чытача чакае расчараванне, бо зноў назіраецца дамінаванне публіцыстыкі. У § 1 “*Ярилин curieux*” аўтар прызнаецца ў сваёй павазе да герба “*Пагоня*” (с.26), але, відаць, толькі для таго, каб далей разграміць “*Ярилову*” версію яго паходжання, якую ён адшукаў у тэксце светлай памяці В. Ластоўскага. Пры гэтым С. Рассадзін выдатна разумее яе “*чисто литературно-художественный характер*” (с.28), але ўпарта шукае “*аргументы*”, каб яе аспрэчыць. Атрымалася сапраўды “*потешно и смешно*” (с.32), але якое гэта мае дачыненне да гістарычнай навукі?

§ 2 главы 2 “*Всадник с княжеской печати*” чамусьці ізноў пачынаецца з нападак на нябожчыка В. Ластоўскага, які, па словах С. Рассадзіна “*узбагаціў*” літоўскую і беларускую геральдыку ўвядзеннем у навуковае абарачэнне так званай “*пячаткі Міндоўга*” (с.33). Аднак, адмыслоўцу ад геральдыкі трэба было б ведаць, што па-першае, у навуковы зварот згаданую “*пячатку Міндоўга*” увёў не В. Ластоўскі, а літоўскі гісторык і нацыянальны дзеяч (па тэрміналогіі С. Рассадзіна відавочны “*нацыяналіст*”) Іонас Басанавічус[754]. Па-другое, яшчэ ў 1930 г. польскім даследчыкам Мар’янам Гумоўскім была даказана яе фальшывасць[755], што, зрэшты, добра вядома і самому аўтару з кнігі А. Цітова (с.34). Дык навошта было агарод гарадзіць?

Далей тэкст параграфа толькі ўзмацняе ўражанне аб тым, што аўтар не валодае гістарыяграфіяй па тэме. Таму дапускае грубейшыя памылкі. Пералічым толькі некаторыя, вядомыя ўсім, факты:

1) Юры Львовіч, кароль Русі не карыстаўся, як думае С. Рассадзін, гербам “*Пагоня*”, а львом, які падымаўся на скалу. Таму галіцкі ўплыў на фармаванне “*Пагоні*” выглядае вельмі праблематычна (с.37);

2) Нарымонт Глеб Гедымінавіч княжыў у Полацку, насуперак перакананню С. Рассадзіна (с.37–38), прынамсі, у 1338 г.;

3) з выбудаванай С. Рассадзіным “*наўгародскай версіі*” паходжання “*Пагоні*” (с.39, 41) відавочна выпадае “*конная пячатка*” вялікага князя полацкага Лугвеня Сямёна Альгердавіча 1379 г.;

4) меркаванне вядомага літоўскага геральдыста Э. Рымшы аб “*нярускім*” паходжанні падвойнага крыжа Ягайлы (с.51) не раскрывае і не тлумачыць генезіс гэтай “*дынастычнай эмблемы*”, а таму застаецца толькі меркаваннем, якое ўзводзіцца С. Рассадзіным у ранг бяспрэчнага факту (с.55). Яшчэ можна зразумець літоўца Э. Рымшу, які баіцца ўсяго “*рускага*”, як чорт ладана, але чаму аўтар так любіць літоўскіх “*нацыяналістаў*” і не любіць беларускіх? Пры гэтым сам ён прапаноўвае некалькі іншых, у тым ліку і вельмі арыгінальных, версій генезісу падвойнага крыжа ў гербе Ягайлы (с.54–55);

5) назву герба “*Пагоня*” С. Рассадзін выводзіць з польскай мовы, спасылаючыся зноў на меркаванне Э. Рымшы, што яе ў 1551 г. увёў польскі храніст Марцін Бельскі (с.55). Наколькі можна зразумець, Э. Рымша для С. Рассадзіна – бяспрэчны аўтарытэт. Не маем нічога супраць гэтага. Але, калі б ён парупіўся праверыць літоўскага даследчыка, то ўбачыў бы, што М. Бельскі не ведаў назву герба ВКЛ[756]. Так што назва “*Пагоня*” – самая што ні на ёсць беларуская. Па меншай меры ў такой форме яна фіксуецца ў дакументах з 1562 г. (а значыць з’явілася раней), а вось літоўская назва “*Vyčiс*” – сапраўды калька з польскай мовы і замацавалася ў літоўскай гістарыяграфіі толькі ў XIX–XX ст.

У цэлым, на падставе нядбайна адабраных фактаў і меркаванняў, як правіла замежных спецыялістаў (свае – або адсутнічаюць, або спрэс “*нацыяналісты*”), аўтар імкнуўся не столькі даследаваць вытокі “*Пагоні*” і яе сувязь з беларускімі землямі ВКЛ,

---

754 Бассанович И. *Печати короля Миндовна и вел. князя Кейстута*. Вильна, 1913. 8 с.

755 Gumowski M. *Pieczęcie książąt litewskich.*// Ateneum Wileńskie. Wilno, 1930. R.VII. Z.3–4. S.707.

756 Bielski M. *Kronika wszytkyego swyata na ssesc wyekow Monarchie czterzy rozdzielona s kosmographią nową y z rozmaitemi krolestwy tak pogańskimi zydowskyemi yako y krzessciańskyemi s Sybillami y proroctwy ich po Polsku pisana s figurami...* Kraków, 1551. S.294.

колькі давесці думку аб тым, што яна была і ёсць чужая Беларускаму народу (с.55). Менавіта гэтаму служыць надуманая паляміка аўтара з ...Уладзімірам Караткевічам, Міхасём Ткачовым, Міхасём Белямуком. Першы, як вядома, быў пісьменнікам, другі напісаў па беларускай нацыянальнай сімволіцы на хвалі Адраджэння 90-х г. XX ст. чыста публіцыстычны артыкул, а высновы апошняга не такія ўжо і фантастычныя, як лічыць С. Рассадзін. Прынамсі, сувязь літоўскай і полацкай княжацкіх дынастый (уяўная або праўдзівая) прасочваецца па беларуска-літоўскіх летапісах XVI ст. (вось яна – гістарычная памяць, пра адсутнасць якой катэгарычна піша аўтар) і патрабуе сур'ёзнага навуковага вывучэння перш, чым яе аспрэчыць. Выглядае на тое, што герб "*Пагоня*" аказаўся чужым толькі С. Рассадзіну, а яго апеляцыі да народу выглядаюць неяк дзіўна.

Цікава чытаецца толькі § 3 главы 3 "*Vitys літоўскі*", які ўяўляе сабой дапрацаваны артыкул аўтара, апублікаваны ў 1994 г.[757] Праўда, па-літоўску правільна будзе "*Vytis*", але, калі змагаешся, якая розніца? Гэта – адзіная частка кнігі С. Рассадзіна, якую можна аднесці да навуковага тэксту. Праўда, і тут канцэпцыя кнігі прывяла аўтара да высновы, што адсутнасць падкоў у каня "*Пагоні*" у Дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь узору 1991–1995 г. сведчыць аб чужасці яго Беларускаму народу (с.65–66). С. Рассадзін з захапленнем піша пра працу міжваеннай літоўскай геральдычнай камісіі і не шкадуе крытычных стрэлаў у адрас прадстаўнікоў аналагічнай айчыннай камісіі, якія, на яго думку, не разумелі, што стваралі.

Маніфестацыяй ідэй С. Рассадзіна з'яўляецца глава 3 "*Символы новейшей и современной эпохи*". Змест яе чатырох параграфаў не вытрымлівае ніякай навуковай крытыкі, бо ўяўляе сабой публіцыстычны тэкст, дзе аўтар, сярод іншага, сур'езна палемізуе са ...складальнікам дзіцячай кніжкі (с.69–70). У сваім запале давесці "*нестаражытнасць*" бела-чырвона-белага сцяга, які з'явіўся ўсё ж раней за сцяг БССР, аўтар не грэбуе прыёмамі з арсенала прапагандыста. Тут і цытаты, вынятыя з кантэксту і якія не адносяцца да сутнасці пытання (с.77–78, 81–82, 99–100), і спроба змяшаць нацыянальную сімволіку з нацысцкай праз адмыслова падабраны ілюстрацыйны шэраг, для таго, каб у чытача выклікаць патрэбную негатыўную асацыяцыю (с.83, 100), і жаданне абгрунтаваць чырвоны колер сцяга БССР ...мініяцюрай з Радзівілаўскага летапісу (с.89–90), а вянок у сучасным Дзяржаўным гербе Беларусі – вянкамі – не, не ў гербах БССР – а ў гербах губерняў Расійскай імперыі, некаторых сучасных дзяржаў і нават на манеце ...рымскага імператара (с.104). Сярод ўсяго гэтага ў заслугу аўтара можна залічыць хіба што публікацыю адшуканых ім пячатак Літбела (с.95).

У наіўнай спробе "*рэабілітаваць*" камуністычную чырвоную зорку, якая ў гісторыі замазалася крывёю нашмат больш, чым беларускія нацыянальныя сімвалы, С. Рассадзін сцвярджае, што яна (так!) выкарыстоўвалася ў шляхецкім гербе "*Пяцірог*" некалькімі родамі Беларусі (с.106), што не адпавядае рэчаіснасці. У гербоўніку Каспара Нясецкага, на які спасылаецца аўтар, да яго былі прыпісаны: Бакаінскія, Кунеўскія, Ела Малінскія і Мармілы. Усе яны паходзілі з Украіны (Валынь і Брацлаўскае ваяводства), а не з Беларусі, а таму такі аўтарскі "*аргумент*" прыцягнуты за вушы. Не кажучы ўжо пра тое, што паходжанне гербавай выявы "*Пяцірога*" і чырвонай зоркі абсалютна адрознае і сам аўтар добра ведае гэта (с.106).

У заключэнні С. Рассадзін падводзіць чытача да сваіх арыгінальных высноў, у прыватнасці, што:

"*Уже в эпоху первобытности в местной среде восточноевропейских палеолитических охотников на мамонта зарождается ромбический орнамент*" (с.110).

Аўтар нават не заўважыў, як зрабіў гэтых паляўнічых на маманта продкамі сучасных беларусаў. Такі этнагенэз – сапраўды новае слова ў навуцы. Засталося пачакаць

[757] Рассадзін С. *"Віціс" літоўскі.*// Беларуская мінуўшчына. Мн., 1994. № 1. С.10–14.

толькі прызнання калегаў. Але нешта падказвае, што наўрад ці яны пагодзяцца з "*аргументамі*" шаноўнага аўтара.

Сучаснае "*хрысціянскае*" (?) спалучэнне чырвонага і зялёнага колераў на сцягу Рэспублікі Беларусь, на думку С. Рассадзіна, сфармавалася яшчэ ў часы ...Рымскай імперыі (с.110). Дзіўнай і нечаканай з'яўляецца выснова аўтара, што менавіта ад бела-чырвона-белага сцяга, распрацаванага "*нацыяналістам*" Кляўдыем Дуж-Душэўскім:

"*...началось формирование третьей хронологической группы, завершившееся уже в самом конце того же XX в. возникновением нынешнего Государственного герба Республики Беларусь*" (с.110).

Што хацеў аўтар гэтым сказаць – можна толькі здагадвацца. Разам з тым, уводзячы тэрмін "*групповая символика националистов*" (с.111) С. Рассадзіну трэба было б патлумачыць, што ён насамрэч разумее пад паняццямі беларуская "*нацыянальная*" і "*дзяржаўная сімволіка*" (с.6), бо ў нашым выпадку гэта не адное і тое ж.

Акрамя выказаных заўваг кніга С. Рассадзіна мае вялікую колькасць памылак друку (с.4, 22, заўвага 33, 41, 55, 62, мал.50), што сведчыць аб адсутнасці рэдагавання аўтарскага тэксту як з боку навуковага рэдактара (В. Цяплова), так і рэцэнзентаў (У. Казлякоў і Г. Карзенка). Фактычна яны распісаліся ў сваёй некампетэнтнасці.

Такім чынам, можна канстатаваць, што рэцэнзаваная кніга С. Рассадзіна не з'яўляецца навуковым выданнем ні па геральдыцы, ні па вексілалогіі, ні па дзяржаўнай сімволіцы Беларусі, бо:

1. не вырашае звязаных з заяўленай тэматыкай навуковых праблем;
2. напісана на сумніўных метадалагічных асновах;
3. сведчыць аб неразуменні аўтарам прадмета вывучэння па прычыне няведання ім крыніц і гістарыяграфіі па тэме;
4. носіць ярка выяўлены публіцыстычны і прапагандысцкі характар.

Думаю, калі б адзначалі самую горшую навуковую кнігу года па гісторыі, твор С. Рассадзіна па праву мог бы прэтэндаваць на перамогу. З другога боку, лепшай кампрамітацыі сучасных Дзяржаўных сімвалаў Беларусі адшукаць будзе цяжка нават у беларускіх "*нацыяналістаў*". Гісторыя сцягоў Беларусі надалей патрабуе сур'ёзнага навуковага вывучэння, а таму чакае на свайго даследчыка.

*Аляксей Шаланда (Менск).*

* * *

## Мікульскі Юры.

*Увекавечанне міфа.*
*Вакол помніка літоўскаму князю Міндоўгу ў Наваградку.*//
Беларуская думка. 2013. № 1. С.69–76.

Прапанаваны ўвазе Чытачоў ніжэй тэкст быў напісаны намі для часопіса "*Беларуская думка*" у адказ на артыкул Юрыя Мікульскага. Па невядомых нам прычынах ён так і не быў там надрукаваны, хаця ўдзел у дыскусіі на старонках выдання прынялі Алесь Краўцэвіч[758], Аляксандр Груша[759] і Ігар Марзалюк[760]. Свой адказ на крытыку Алеся Краўцэвіча апублікаваў тамсама і Ю. Мікульскі[761]. Здавалася б публікацыя нашай рэцэнзіі сёння ўжо згубіла сваю актуальнасць. Тым не меней, прапануем Чытачам яшчэ раз

[758] Краўцэвіч А. *Блуканне па міфах.*// Беларуская думка. Мн., 2013. № 5. С.84–86.
[759] Груша А. *Нужен ли Новогрудку памятник Миндовгу?*// Беларуская думка. Мн., 2013. № 8. С.96–103.
[760] Марзалюк І. *У абарону праўдзівай гісторыі Новагародка.*// Беларуская думка. Мн., 2013. № 11. С.88–95.
[761] Мікульскі Ю. *З фактамі не паспрачаешся.*// Беларуская думка. Мн., 2013. № 5. С.87–93.

звярнуцца да сутнасці пытання, тым больш, што помніка Міндоўга ў Наваградку дагэтуль няма. У сувязі з гэтым, пакідаем наш тэкст без змен і правак, у тым выглядзе, у якім ён быў створаны год таму.

**Міндоўг і Беларусь: вакол помніка каралю Літвы ў Наваградку.**

Зноў засесці за напісанне тэксту, прысвечанага Міндоўгу, мяне прымусіў артыкул маладога, але даволі амбітнага магістра гісторыі Юрыя Мікульскага, які быў надрукаваны ў "*Беларускай думцы*" у № 1 за 2013 г.[762] Трэба адзначыць, што да гэтай працы аўтар быў вядомы нам па двух публікацыях, далёкіх ад падзеяў, звязаных з Міндоўгам[763]. У новым даследаванні аўтар пашырыў далягляды сваіх навуковых інтарэсаў і высунуў 6 тэзаў, якія можна назваць "*6 не*": Міндоўг не быў наваградскім князем, Наваградак не быў сталіцай ВКЛ, беларускія землі і Наваградак не былі ядром фарміравання ВКЛ, Наваградак не прымаў Міндоўга на княжанне, а таму ўвайшоў у ВКЛ яўна не мірным шляхам, Наваградак – не месца каранацыі Міндоўга і ён не быў пахаваны ў Наваградку. Далей ён паспрабаваў іх абгрунтаваць, не пагадзіўшыся з некаторымі высновамі, якія былі выкладзены намі яшчэ ў далёкім юбілейным 2003 г. у двух артыкулах, прысвечаных паходжанню і лёсу роду Міндоўга, а таксама складу яго баярства[764]. Улічваючы тое, што болей са сваіх апанентаў, акрамя нябожчыка Міколы Ермаловіча, Ю. Мікульскі, нікога не назваў па імёнах, ганебныя па танальнасці аўтара званні "*беларускіх гісторыкаў-адраджэнцаў*", "*нацыянальнай інтэлігенцыі*", "*барацьбітоў за незалежнасць*" і "*беларускіх дзеячоў*" прыдзецца абараняць мне.

Напачатку хочацца падзякаваць Ю. Мікульскаму, што ён знайшоў час і прачытаў згаданыя нашыя працы. Сапраўды прыемна, што ў тым ліку і яны падштурхнулі маладога даследчыка ўзяцца за напісанне тэксту па новай для яго навуковых інтарэсаў тэме. Але на гэтым прыемнасці сканчаюцца. Больш таго, азнакамленне з усёй працай Ю. Мікульскага нясе поўнае расчараванне, бо аўтар не скарыстаў свой шанец сказаць па праблеме нешта сапраўды новае і сваё. Тэкст пакідае ўстойлівае ўражанне, што ён пісаўся "*на замову*" ці "*на злобу дня*", а таму носіць не навуковы, а публіцыстычна-правакацыйны характар. Не ведаю, што вывучаў аўтар на гістарычным факультэце Ягелонскага універсітэта ў Кракаве і за што атрымаў званне польскага магістра гісторыі, але публіцыстычны жанр – яўна не яго стыхія. На гэтым можна было б спыніцца, калі не агрэсіўна-паблажлівы, а часам нават хамскі стыль вядзення дыскусіі пачынаючага свой шлях у навуцы даследчыка.

Улічваючы характар артыкула Ю. Мікульскага свае заўвагі мы мусім, наколькі гэта магчыма, падзяліць на два блокі: публіцыстычна-палемічны і навуковы. Ужо ў прэамбуле аўтар заявіў галоўную мэту артыкула і сваю прынцыповую пазіцыю – Міндоўг не заслугоўвае помніка ў Беларусі. Што ж, такая асабістая думка Ю.Мікульскага мае права на існаванне. У замен ён прапануе паставіць помнікі князю Яраславу Мудраму і мітрапаліту Кіпрыяну[765]. Здавалася б пасля гэтага аўтар павінен быў накіраваць увесь свой імпэт на абгрунтаванне сваёй прапановы, паспрабаваць звязаць гэтыя постаці з Наваградкам на падставе "*аналізу і супастаўленні сучасных ім гістарычных крыніц*"[766].

---

762 Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа. Вакол помніка літоўскаму князю Міндоўгу ў Наваградку.*// Беларуская думка. Мн., 2013. № 1. С.69–76.

763 Mikulski J. *Smoleński ośrodek latopisarski w latach 20–50 XV w.*// Białoruskie zeszyty historyczne. Białystok, 2010. Nr 33. S.17–49. Мікульскі Ю. *Грунвальдская бітва 1410 г. у старабеларускай традыцыі.*// Вялікае княства Літоўскае і яго суседзі ў XIV–XV ст.: саперніцтва, супрацоўніцтва, урокі: Да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы: Мат-лы Міжнар. навук. канф. (Горадня, 8–9 ліпеня 2010 г.). Мн.: Беларуская навука, 2011. С.92–120.

764 Шаланда А. *Паходжанне і лёс роду Міндоўга.*// Герольд Litherland. Горадня, 2003. № 1–2. С.3–9. Шаланда А. *Баярства Міндоўга: склад і паходжанне.*// Герольд Litherland. Горадня, 2003. № 1–2. С.12–23. Шаланда А. *Склад і паходжанне баярства Міндоўга.*// Ашмяншчына: праблемы рэгіянальнай гісторыі Беларусі. Зб. навук. арт. Рэдкал.: А. Каваленя і інш. Мн.: Беларуская навука, 2011. С.99–121.

765 Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.76.

766 Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.70.

Але дарэмна чытач будзе шукаць патрэбную аргументацыю ў даследаванні. Усё, што аўтар напісаў пра Яраслава Мудрага і Кіпрыяна ў некалькіх абзацах мае да Наваградка малое дачыненне і смела можа кваліфікавацца паводле тэрміналогіі самога Ю. Мікульскага як "*домыслы*". Бо як яшчэ можна назваць яго выснову пра тое, што: "*...Яраслаў Мудры і Кіпрыян – людзі, чые дасягненні для Навагрудскай зямлі і ўвогуле Беларусі, у адрозненне ад Міндоўга, бясспрэчныя*" з адной спасылкай на дакумент з "*Рускай гістарычнай біблятэкі*"? Сапраўды на ўказаных старонках знаходзім словы Кіпрыяна:

"*...Новый-Городокъ литовьскый давно отпалъ и язъ его оправилъ, и десятину доспелъ къ митрополіи же, и села*"[767].

Прыводзім тут гэтую цытату з той прычыны, што яна дазволіць нам зразумець, як аўтар артыкулу выкарыстоўвае свой метад "*аналізу*" крыніц. Звярнуўшыся да прапанаванага ім дакументу высвятляецца, што, па-першае, Кіпрыян у 1378 г. лічыў Наваградак літоўскім, г.зн. у Літве, а не ў Русі, а таму яго дзейнасць па аднаўленню і распаўсюджанню праваслаўя насіла агульналітоўскі характар і ажыцяўлялася з санкцыі вялікіх князёў літоўскіх. За што ў Маскоўскай Русі гэта было пастаўлена яму ў віну:

"*Кладетъ на меня вины, что былъ есмь в Литве первое: и которое лихо учинилъ есмь, бывъ тамо?*"[768].

Па-другое, самае галоўнае – увесь дакумент Кіпрыяна – гэта скаргі, абінавачванні і апраўданні, а таму ўсё, што патрабавалася ад прафесійнага навукоўца Ю. Мікульскага – гэта якасна правесці крытыку вельмі спецыфічнай крыніцы. Напрыклад, Кіпрыян піша ў сваё апраўданне, што:

"*Аще былъ есмь въ Литве, много христіанъ горькаго плененіа освободилъ есмь; мнозе отъ неведящихъ Бога познали нами истиннаго Бога и къ православной вере святымъ крещеніемъ пришли...*"[769].

Калі прыняць на веру ўсе словы мітрапаліта, то атрымліваецца, што дзякуючы яго намаганням Літва стала праваслаўнай, якую ён далучыў да мітраполіі ўсяе Русі:

"*Церкви святыа ставилъ есмь, христіаньство утвердилъ есмь, места церковная, запустошена давными леты, оправилъ есмь приложити къ митрополіи всея Руси*"![770]

Наколькі гэта адпавядала праўдзе, яшчэ трэба разабрацца. У любым выпадку ў такім святле словы пра Наваградак выглядаюць зусім інакш – ён "*адпаў*" ад кіеўскай мітраполіі, а Кіпрыян "*зноў*" яго вярнуў. Відавочна, што сам мітрапаліт кіеўскі, рускі і літоўскі бачыў галоўную сваю заслугу менавіта ў "*аднаўленні*" хрысціянізатарскай місіі праваслаўнай царквы ў Літве. Але шаноўны Ю. Мікульскі з ім не згодны. Ён лічыць, што Кіпрыян, адрамантаваўшы наваградскі храм ці храмы, аднавіўшы дзесяціну і замацаваўшы за царквой яе землі, яўна з падтрымкай вялікага князя літоўскага, зрабіў вялікія дасягненні "*для Наваградскай зямлі і ўвогуле Беларусі*", а таму заслужыў помнік. Мусім прызнацца, што мы не маем нічога супраць самой гэтай прапановы, але з такім жа поспехам помнік у Наваградку заслужыў і вялікі князь літоўскі Альгерд Гедымінавіч, з

---

767 *Русская историческая библиотека. Памятники древне-русского канонического права. Памятники XI–XV в.* Ч.1. СПб., 1880. Т.6. С.182–183. № 20.
768 *РИБ*. Т.6. С.182.
769 *РИБ*. Т.6. С.182.
770 *РИБ*. Т.6. С.182.

санкцыі якога адбывалася місія Кіпрыяна. А вось ці падтрымае гэта Ю. Мікульскі? Маем вялікія сумненні.



*Іл.33. Адзін з праектаў помніка каралю Міндоўгу ў Наваградку.*

Увогуле ўвесь тэкст Ю. Мікульскага насычаны супярэчнасцямі, агрэсіўнымі выпадамі ў адрас апанентаў, грубымі памылкамі. Няма сэнсу пералічваць усе аўтарскія пэрлы. Чаго варты, напрыклад, пасаж: “*І гэта пры тым, што не існуе ніводнай гістарычнай крыніцы з эпохі Міндоўга...*”, а праз радок: “*...якая абсалютна пярэчыць крыніцам XIII–XIV стагоддзяў*”[771]. Што можа пярэчыць таму, чаго няма? Выглядае на тое, што аўтар мае пэўныя праблемы з фармальнай логікай. З другога боку, акрамя пісьмовых ёсць жа іншыя крыніцы, а не толькі “*адпаведныя дакументы*”, напрыклад, археалагічныя. У тым ліку і на іх падставе Аляксандр Краўцэвіч абараніў доктарскую дысертацыю і выдаў манаграфію на тэму: “*Стварэнне Вялікага княства Літоўскага*”[772]. Але дарэмна шукаць яе ў спісе літаратуры Ю. Мікульскага. Відаць таму, што прыйдзецца прызнаць актыўныя балта-славянскія кантакты ў адзначаны перыяд, а гэта яўна не на карысць “*б не*”. А можа Ю. Мікульскі сумняецца ў прафесійнасці доктара гістарычных навук Аляксандра Краўцэвіча і не лічыць яго кнігу навуковай працай? Але навошта тады пісаць са спасылкай на літоўскіх аўтараў: “*як сведчаць вынікі археалагічных раскопак*”[773]? Чым яны лепшыя? Толькі тым, што аўтар падзяляе іх думкі? Яшчэ можна зразумець літоўцаў,

[771] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.69.
[772] Краўцэвіч А. *Стварэнне Вялікага княства Літоўскага*. Мн.: Беларуская навука, 1998. 208 с.
[773] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.70.

якія ўклалі вялікія дзяржаўныя і еўразвязаўскія грошы, каб "*прывязаць*" Міндоўга да сучаснай тэрыторыі Літоўскай Рэспублікі. Што ж, святкаваць кожны год каранацыю "*Міндаўгаса*" ў беларускім Наваградку сапраўды нязручна – адчуваеш сябе госцем. Але што з гэтага мае іх адэпт Ю. Мікульскі? Якую такую гістарычную ісціну? Пра тое, што Кернаў і Вільня былі "*развітымі княжацкімі асяродкамі*"? Ну тады адсылаю апанента да яшчэ аднаго аўтара, кніг якой няма ў яго спісе літаратуры – Фрыда Гурэвіч[774]. Так, проста пачытаць хаця б для параўнання, бо ў розных месцах свайго даследавання Ю. Мікульскі то піша пра мізэрнае значэнне Наваградка[775], то завяршае артыкул на такой мажорнай ноце пра яго значэнне[776], што чытач застаецца ў поўнай разгубленасці – у якім месцы аўтар быў шчыры.

Абсалютна непрыймальны ментарскі тон Ю. Мікульскага ў адрас нябошчыка Міколы Ермаловіча. І не таму, што пра памерлых або добра, або нічога. З нейкай паблажлівасцю магістр Ю. Мікульскі піша, што Мікола Ермаловіч – не быў гісторыкам па адукацыі[777]. Ну і што з таго? Што гэта за аргумент у спрэчцы? Усім добра вядома, што аўтар, як піша Ю. Мікульскі, "*міфічнай тэорыі беларускіх "ліцвінскіх" дзеячаў*" скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэту Мінскага педагагічнага інстытута[778]. Але навошта гэтыя скрытыя кпіны? Ёсць маса прыкладаў, калі чалавек атрымаў адну спецыяльнасць, а яго талент і здольнасці праявіліся ў другой. Выкажам сваю думку. Можна па-рознаму адносіцца да канцэпцыі Міколы Ермаловіча, прымаць яе ці не прымаць, але абзываць яе "*домыслам*", прабачце. Мне асабіста падабаецца вызначэнне яго канцэпцыі як "*рамантычная*"[779]. Іншая справа, што яна далёка не ўсімі падзяляецца. Але адхіляючы чужую канцэпцыю, прапануй сваю, калі на гэта здатны. Для мяне асабіста значэнне кніг і прац Міколы Ермаловіча заключаецца ў тым, што яны прымусілі звярнуцца да сур'ёзнага чытання (менавіта так!) і вывучэння старажытных крыніц па гісторыі Беларусі ў часы, калі большасць нашых прафесійных гісторыкаў абараняла дысертацыі па гісторыі КПБ–КПСС. Хоча таго ці не Ю. Мікульскі, але працы Міколы Ермаловіча занялі сваё месца ў нацыянальнай гістарыяграфіі, яго імя і кнігі вядомы ў нас і за мяжой, а ў сітуацыі, калі ў Беларусі адсутнічаюць гістарычныя школы ў тым сэнсе, як яны разумеюцца ў свеце, ён адзін з нямногіх, хто мае кола сваіх паслядоўнікаў[780], да якіх я асабіста, адразу супакою апанента, не належу. Дазволю сабе, як старэйшы, каліва маралізатарства, бо лічу, што трэба паважаць чалавека, які зрабіў болей за цябе. Асабліва, калі толькі пачынаеш свой шлях у навуцы. Інакш, хто будзе паважаць цябе самога?

Самае цікавае ў працы Ю. Мікульскага – яго ўласныя погляды на гістарычную навуку. Так, для аўтара, які лічыць сябе прафесійным даследчыкам, працы ананімных "*беларускіх адраджэнцаў*" – лухта. Што ж ён прапануе сам? Паводле яго вызначэння, гісторыя – не казка, а навука, якая грунтуецца на аналізе і супастаўленні крыніц[781]. Вось так. Але, прабачце, проста "*аналіз і супастаўленне*" вельмі прыдасца, напрыклад, пры збіранні паштовых марак. А калі так, то філатэлія – таксама гістарычная навука. Няўжо на гістарычным факультэце Кракаўскага універсітэта навучылі такому разуменню гісторыі? Схіляю сваю галаву перад выкладчыкамі філалагічнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута, дзе вучыўся Мікола Ермаловіч, бо яго як раз у сляпым следаванні за крыніцамі не западозрыш.

[774] Гуревич Ф. *Древний Новогрудок: посад – окольный город*. Л.: Наука, 1981. 155 с. Гурэвіч Ф. *Летапісны Новгородок (Старажытнарускі Наваградак)*. СПб.: Агенство РДК-принт, 2003. 324 с.
[775] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.70.
[776] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.76.
[777] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.69.
[778] *Мікола Ермаловіч. Выбранае*. Мн.: Беларускі кнігазбор, 2010. С.5.
[779] *Мікола Ермаловіч–Вікіпэдыя*.// http://be-x-old.wikipedia.org/wiki/Мікола Ермаловіч. Доступ: 18.03.2013 г.
[780] *Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзі*. Зб. дакументаў і матэрыялаў да 85-годдзя з дня нараджэння Міколы Ермаловіча. Успаміны, творы, фотаматэрыялы. Мн., 2007. 306 с.
[781] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.70.

Не хочацца займацца лікбезам, але нават папулярная і даступная ў інтэрнэце Вікіпедыя і тая не згодная з Ю. Мікульскім. Спецыяльна для яго і шаноўных чытачоў "*Беларускай думкі*" нагадаем пададзенае там тлумачэнне гісторыі: гэта – вобласць ведаў, а таксама гуманітарная навука, якая займаецца вывучэннем чалавека – яго дзейнасці, стану, светапогляду, сацыяльных сувязяў і інстытуцый і т.д., а ў вузкім сэнсе – навука, якая вывучае ўсе магчымыя крыніцы аб мінулым для таго, каб высвятліць паслядоўнасць падзей, гістарычны працэс, аб'ектыўнасць апісаных фактаў і зрабіць высновы аб прычынах падзей[782]. Калі крыніц не стае, высновы гісторыкаў часта грунтуюцца на больш ці менш верагодных гіпотэзах. Класічнай працай у гэтым плане, напрыклад, з'яўляецца даследаванне польскага гісторыка Генрыка Лаўмяньскага[783]. Але, наколькі можна зразумець аўтарскі ход думкі, Ю. Мікульскі ставіцца да такіх падыходаў адмоўна і навогул адмаўляе гісторыкам у праве на гіпотэзу:

"*Усе рэканструкцыі развіцця падзей пры адсутнасці адпаведных (?) дакументаў будуць у лепшым выпадку гіпотэзамі*"[784].

Аднак хочацца запытацца: а наколькі будзе адпавядаць ісціне аўтарская "*рэканструкцыя развіцця падзей*" на "*адпаведных*" дакументах? Па-першае, незразумела, што шаноўны аўтар разумее пад "*рэканструкцыяй*" і "*адпаведнымі*" дакументамі. Па-другое, не зразумела пра які "*аналіз*" ідзе гаворка? Магчыма, Ю. Мікульскі меў на ўвазе аналіз крыніцазнаўчы, але апошні будуецца на знешняй і ўнутранай **крытыцы** крыніцы, а ў яго працы як раз гэтай крытыкі і няма, бо аўтар карыстаецца нейкім універсальным метадам "*супастаўлення*".

Авалодаўшы ім у дасканаласці Ю. Мікульскі з ходу вырашае самыя дыскусійныя праблемы беларускай гісторыі, нават тыя, па якіх існуе вялікая гістарыяграфія. Так, аўтар *ничтоже сумяшеся* на поўным сур'ёзе сцвярджае, што "*Рускай Праўдай*" карысталіся ў ВКЛ у XV ст.[785], але пры гэтым замоўчвае, што меліся на ўвазе толькі некаторыя яе юрыдычныя нормы ў складзе "*Судзебніка*" Казіміра 1468 г.[786] Не ведаю, як для каго, але для мяне асабіста стала адкрыццём тэза Ю. Мікульскага аб тым, што ў часы Яраслава Мудрага "*Русь была моцнай і адзінай дзяржавай*", якая "*пабівала і літоўцаў, і палякаў (?), і іншых ворагаў, што квапіліся на навагрудскую зямлю*"[787]. У гэтай сувязі асоба полацкага князя Брачыслава Ізяславіча становіцца нейкай недарэчнай і непатрэбнай. Сапраўды, што пра яго гаварыць, калі яго таксама "*пабівалі*", бо, як "*сведчаць*" мілыя аўтару "*старабеларускія*" летапісы, пісаныя ў Кіеве і Ноўгарадзе, ён пацярпеў ад Яраслава Мудрага паразу ў бітве на рацэ Судаміры ў 1021 г., за што апошні адарыў яго Віцебскам і Усвятамі[788]. Дазволім сабе таксама яшчэ адную цытату: "*Дастаткова згадаць, што ўсе беларускія князі паходзілі з дынастыі кіеўскіх князёў – Рурыкавічаў, а ў перыяд ВКЛ многія прадстаўнікі беларускай шляхты выводзілі свой радавод ад першых кіеўскіх князёў*"[789]. Невядома каго са шляхты-князёў ён меў на ўвазе і куды трэба аднесці князя

---

[782] *История–Википедия*.// http://ru.wikipedia.org/wiki/История. Доступ: 18.03.2013 г.
[783] Łowmiański H. *Studia nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego*. Wilno, 1931–1932. T.1–2. Прыкладам такога плану працы ў літоўскай гістарыяграфіі можа служыць манаграфія Артураса Дубоніса, гл.: Dubonis A. *Traidenis. Monarcho valdžios atkūrimas Lietuvoje (1268–1282)*. Vilnius, 2009. 242 p. З айчынных гісторыкаў можна парэкамендаваць кнігу Сяргея Віцязя, гл.: Віцязь С. *Прусы і яцвягі ранняга Сярэднявечча: этнакультурныя трансфармацыі ў Верхнім Панямонні*. Мн.: Беларуская навука, 2012. 411 с.
[784] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.70.
[785] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.75, 76.
[786] Юхо Я. *Судзебнік 1468*.// Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Мн.: БелЭн, 2006. Т.2. С.641–642.
[787] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.76.
[788] Параўнай: Ермаловіч М. *Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды*. Мн.: Мастацкая літаратура, 1990. С.94–96. Заяц Ю. *Полоцкие события "Саги об Эймунде"*.// Полоцкий летописец. 1993. № 1. С.10. *Гісторыя Беларусі: У 6 т. Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст*. Рэдкал.: М. Касцюк і інш. Мн.: Экаперспектыва, 2000. Т.1. С.152–153.
[789] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.76.

Рагвалода ці князёў Палубенскіх ці Крошынскіх, якія лічылі сябе Гедымінавічамі, а сапраўднае іх паходжанне дагэтуль не даследавана. А Сапегі, якія выводзілі сябе ад Нарымунта Гедымінавіча, а Хадкевічы – ад жамойта Барэйкі, а Валовічы – ад літоўца Высыгіна? Спіс можна доўжыць, але з якіх часоў радаводныя легенды сталі надзейнай крыніцай для Ю. Мікульскага, каб зрабіць такую глабальную выснову? Адным махам ён вырашыў усе праблемы беларускай генеалогіі, а таму болей там няма чаго рабіць.

Пачынаючы навуковы блок сваіх заўваг, адзначым, што па-першае, мы не збіраемся нікога, у тым ліку апанента, пераконваць у неабходнасці ўстаноўкі помніка Міндоўгу ў Наваградку. Ён там па-просту неабходны і гэта відавочна ўсім, хто ведае гісторыю Беларусі. Па-другое, для Ю. Мікульскага нармальнай з'яўляецца практыка не называць з кім канкрэтна ён вядзе палеміку. Акрамя двух выключэнняў. Першае датычыць Міколы Ермаловіча, але аўтар яго працы, відаць, так не паважае, што нават не згадвае ні ў сваім тэксце, ні ў спісе літаратуры. У ТЭЗЕ 1 галоўным суб'ектам крытыкі Ю. Мікульскага з'яўляюцца ананімныя "*некаторыя нашы дзеячы*", якія лічаць, што Міндоўг быў наваградскім князем. Прызнаемся, што так лічым і мы, а таму цалкам адказныя за навешаны на нас ярлык. Праўда, наша думка была трошкі іншай – Міндоўг быў рэгентам пры малым Войшалку – сыне ад першага шлюбу з Ізяслаўнай, які дасягнуўшы паўналецця ўзначаліў наваградскі сталец[790]. Аднак і гэта не задаволіла апанента, бо згадкі пра наш пункт гледжання няма. Відаць, наша аргументацыя не пераканала, а таму на яе можна проста не звяртаць увагі. Але мы таксама не можам пагадзіцца з высновай Ю. Мікульскага пра Наваградак, які не адыгрываў "*ніякай выключнай ролі*" у рэгіёне, бо гэта яўна супярэчыць крыніцам. З іх дакладна вынікае, што вайна паміж Галіцка-Валынскім княствам і Міндоўгам ішла менавіта за яго:

"*Данило же и Василько поидоиста к Новоугроду*"[791].

Навошта ваяваць за тое, што не вартае? Пры гэтым на Наваградак ідуць асноўныя аб'яднаныя сілы галіцка-валынскіх князёў, а дапаможныя – на Ваўкавыск, Слонім, Здзітаў[792]. Літва неяк ўвогуле не згадваецца, але ж ніхто не будзе адмаўляць, што галоўным супернікам галіцка-валынскіх князёў быў Міндоўг.

ТЭЗА 2 увогуле не мае сэнсу, бо праблема рэзідэнцыі ці рэзідэнцый Міндоўга – дыскусійная, пра што шмат пісалася ў першую чаргу літоўскімі даследчыкамі, напрыклад, Томасам Баранаўскасам[793]. Не прымаючы яго спробаў прынізіць значэнне Наваградка, адзначым, што нават ён піша пра "*працэс збліжэння Літвы і Русі менавіта ў Наваградскай зямлі*"[794]. У дыскусію гэтую Ю. Мікульскі не ўносіць нічога новага, акрамя свайго "*не*". Ёсць меркаванне, да якога далучаемся і мы, што рэзідэнцыяй Міндоўга было тое месца, дзе знаходзіўся асабіста манарх, а таму ёй быў і Наваградак. Заўважым, што тэза пра Наваградак, як пра "*сталіцу*" Міндоўга, сфармаваўся яшчэ ў гістарыяграфічнай традыцыі ВКЛ (г.зн. у часы, калі існавала такая дзяржава)[795], а таму абвінавачваць у гэтым сучасных беларускіх гісторыкаў не трэба. Думаю, як падставы для помніка Міндоўга ў Наваградку гэтай ВКЛаўскай традыцыі хопіць з лішкам. Але Ю. Мікульскі ідзе далей. Ён упэўнены, што "*асноўны цэнтр ВКЛ знаходзіўся на тэрыторыі Літвы (сучаснай?), а не на беларускіх землях*"[796]. Толькі ён не называе гэты таямнічы цэнтр, а прыведзены ім факт

---

790 Шаланда А. *Баярства Міндоўга: склад і паходжанне*. С.22.

791 *ПСРЛ*. М., 1962. Т.2. Слп.816.

792 *ПСРЛ*. М., 1962. Т.2. Слп.816.

793 Баранаускас Т. *Новогрудок в XIII в.: история и миф.*// Castrum, urbs et bellum: Зб. навук. прац. Баранавічы: Баранав. узбуйн. друк., 2002.С.39–42.

794 Баранаускас Т. *Новогрудок в XIII в.: история и миф*. С.42.

795 Баранаускас Т. *Новогрудок в XIII в.: история и миф*. С.41.

796 Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.70.

зусім не пераконвае ў тым, што Войшалк ідзе з Наваградка ў Літву “*займаць літоўскі трон*”[797]. У летапісу гэта падаецца трошкі інакш:

“*Воишелкъ поиде с Пиняны к Новоугородоу и оттоля поя со собою Новгородце и поиде в Литвоу княжить. Литва же вся прияша и с радостью своего господичича*”[798].

Ніжэй з тэксту таго ж летапісу вынікае, што не за тронам пайшоў Войшалк, а помсціць сваім ворагам:

“*Воишелкъ же нача княжити во всеи земли Литовьскои и поча вороги свое избивати…*”[799].

Але можа Ю. Мікульскі меў на ўвазе такі “*старабеларускі*” летапіс як сінадальны спіс Наўгародскага першага летапісу старэйшага ізвода? Чытаем. Войшалк:

“*съвкупи около себе вои отца своего и приятели, помоливъся кресту честному, шедъ на поганую Литву, и победи я, и стоя на земли ихъ все лето. Тогда оканьным възда господь по деломъ ихъ: всю бо землю ихъ оружиемь поплени, а по християнской земли веселие бысть всюда*”[800].

“*Паход за літоўскім тронам*” тут увогуле падаецца як наваградска-пінская (беларуская) акупацыя “*паганскай Літвы*”, якая доўжылася “*лето*”. Па меншай меры, гэта вынікае са слова “*стоял*”, бо на троне “*сядзяць*”. Як бачым, ёсць магчымасці для канфрантацыі крыніц, але прасцей карыстацца “*гатовымі*” высновамі літоўскіх гісторыкаў. Ніхто гэтага не забараняе, але навошта хаміць у адрас сваіх калег?

Другое выключэнне датычыць ўжо ўласна нашай сціплай асобы. У ТЭЗЕ 3 спасылаючыся на нашу публікацыю Ю. Мікульскі прыходзіць да супрацьлеглай высновы, што “*ад самага свайго пачатку і паводле назвы, і паводле складу палітычных эліт ВКЛ было дзяржавай Літоўскай, а не Літоўска-Рускай (ці, кажучы на сучасны манер – Літоўска-Беларускай)*”[801]. Каб яе падмацаваць аўтар бачыць “*дзяржаўныя структуры*” там, дзе іншыя гісторыкі іх не бачылі – у спісе літоўскіх князёў з 1219 г., у сведчаннях крыжацкіх хронік пра бацьку Міндоўга, паўтараючы пры гэтым памылку Вячаслава Насевіча[802]. На нашу думку, няма ніякіх падстаў не давяраць высновам Генрыка Лаўмяньскага:

“*Навогул старэйшых князёў з 1219 г. ні за манархаў, ні за валадароў зямель лічыць не можам. Былі яны наймагутнейшымі правадырамі дружын, якія пацвярджалі Раманавічам мір ад уласнага імя і ад імя падуладных сабе і паіменна пералічаных другарадных правадыроў, нарэшце, ад імя ўсяго літоўскага племені*”[803].

І далей:

“*У Літве не знаходзім выразных слядоў манархіі: у Жамойці – навогул, у Аўкштоце ж – да часоў Міндоўга*”[804].

---

[797] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.70.
[798] *ПСРЛ*. М., 1962. Т.2. Слп.861.
[799] *ПСРЛ*. М., 1962. Т.2. Слп.861.
[800] *Новгородская первая летопис старшего и младшего изводов*. М., Л., 1950. С.84–85.
[801] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.71.
[802] Шаланда А. *Паходжанне і лёс роду Міндоўга*. С.5.
[803] Łowmiański H. *Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego*. Poznań, 1983. S.315.
[804] Łowmiański H. *Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego*. S.311.

Што да крытыкі Ю. Мікульскага ў наш адрас, то спачатку сапраўды хочацца павініцца. Магчыма, нашы тэксты напісаны так нязграбна, што ён проста не зразумеў, што мы імкнуліся давесці. Па-першае, намі не даследавалася “*палітычная эліта Міндоўга*”[805], а толькі склад і паходжанне яго баярства, якое больш-менш адбілася ў крыніцах (нават ў тых, якія лічацца фальсіфікатамі, але намі разглядаюцца як вартыя даверу). Нягледзячы на фенаменальныя матэматычныя выкладкі Ю. Мікульскага (19–1–1–1=16 літоўцаў на 1 русіна[806]), баярства гэтае (у летапісах “*людзі ці прыяцелі Міндоўга*”) было самага рознага этнічнага паходжання, былога сацыяльнага статусу і канфесійнай прыналежнасці[807]. Гэта – заканамерны факт, бо ў адрозненне ад часоў пляменнай дэмакратыі, дзе крэўна-сваяцкія сувязі маюць галоўнае значэнне, манархічны лад будуецца на зусім іншых прынцыпах і сацыяльных сувязях. У гэтым плане мы згодныя з Наталляй Якавенка, якая заўважыла:

“*Сярэднявечны чалавек падпарадкоўваўся не дзяржаве, а іншаму чалавеку*”[808].

Той жа Яраслаў Мудры, які для Ю. Мікульскага з’яўляецца ўзорам манарха, актыўна карыстаўся паслугамі найманай варажскай дружыны, але пры гэтым яго атачэнне ў этнічным плане было пярэстым. Па-другое, наш апанент упарта не хоча браць у разлік безыменнае навагрaдскае баярства (летапіснае “*навагрaдцы*”), якое з 20-х г. XIII ст. было рэальнай сілай ў рэгіёне і прымала самы актыўны ўдзел у станаўленні ВКЛ[809]. Наколькі можна меркаваць, яно таксама ў этнічным плане было неаднародным, але, думаем, што не памылімся, калі выкажамся на карысць перавагі сярод іх русінаў. Менавіта з біэтнічнага характару баярства Міндоўга (а не палітычнай эліты, як прыпісвае нам Ю. Мікульскі[810]) вынікае наша выснова, што ад самага пачатку манархія Міндоўга “*была літоўска-рускай (пазней літоўска-беларускай) дзяржавай*”[811]. Дадамо яшчэ адзін аргумент, на які Ю. Мікульскі не звярнуў ніякай увагі. Галоўнай прыкметай, нават умовай існавання манархічнай дзяржавы, з’яўляецца дынастыя, прадстаўнікі якой па сваіх генеалагічных лініях забяспечваюць спадчыннасць, пераемнасць і легітымнасць улады[812]. Пра паходжанне і лёс роду Міндоўга мы ўжо пісалі і прыйшлі да высновы, што ён быў літоўска-рускі – балцкі па паходжанні, цесна звязаны праз шлюбы з рускімі княжацкімі родамі, а таму моўна і культурна рутэнізаваны[813]. У сувязі з гэтым складваецца ўражанне, што Ю. Мікульскі абсалютна не разумее палітычных, сацыяльна-эканамічных і культурных працэсаў, што адбываліся ў Літве і Навагрaдскім княстве ў XIII ст. Ці не хоча іх разумець. У яго Навагрaдак застыў на стадыі памежнага горада-крэпасці Русі. Можа так

---

805 Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.71.

806 Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.71. Аўтар па надуманых прычынах (“*невядома яго рэлігійная прыналежнасць, бо не прыводзіцца яго праваслаўнае імя*”) адкідвае рускае паходжанне Хвала, якога мы выводзім з былых чарнігаўскіх баяраў, гл.: Шаланда А. *Баярства Міндоўга: склад і паходжанне*. С.17–18. Ці значыць гэта, што ён лічыць Хвала літоўцам? Ю. Мікульскі ўхіляецца ад адказу, бо гэта псуе эфект ад яго матэматычных вылічэнняў.

807 Шаланда А. *Баярства Міндоўга: склад і паходжанне*. С.21–22.

808 Яковенко Н. *Место князя в системе мировосприятия позднесредневековой Украины-Руси*.// Наш радавод. Мат-лы Міжнар. навук. канф. “*Культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII–пач. XX ст.*” Гродна, 1991. Кн.3. Ч.III. С.475–476. Параўнайце думку Т. Баранаўскаса пра “*грамадзянства*” жамойтаў у дзяржаве Міндоўга, гл.: Баранаускас Т. *Новогрудок в XIII в.: история и миф*. С.34.

809 Шаланда А. *Баярства Міндоўга: склад і паходжанне*. С.22.

810 На нашу думку, несур’ёзна гаварыць пра палітычную эліту ў часы Міндоўга, а тым больш рабіць з гэтага нейкія высновы. Пры гэтым Ю. Мікульскі не раскрывае свайго разумення тэрміна. Што да матываў выбару рэлігіі Міндоўгам, то ў гэтым пытанні заўсёды пераважалі палітычныя прычыны. Сувярэнныя манархі ўсіх часоў і народаў (Даўмонт Пскоўскі сувярэнам не быў) кіраваліся імі, а не “*памкненнямі сваіх падданых*”. Дзівіць, як аўтар лёгка верыць адным звесткам з позніх летапісаў (Скіргайла ў Полацку) і не верыць другім (Міндоўг у Навагрaдку). Па якіх прычынах гэта робіцца, чытач можа зрабіць выснову сам.

811 Шаланда А. *Баярства Міндоўга: склад і паходжанне*. С.22.

812 Семянчук Г., Шаланда А. *Да пытання аб пачатках Вялікага княства Літоўскага ў сярэдзіне XIII ст.*// Białoruskie zeszyty historyczne. Białystok, 1999. Nr 11. S.30.

813 Шаланда А. *Паходжанне і лёс роду Міндоўга*. С.4, 6, 8. Табліцы 1–2.

ён і бачыўся з Кіева ці Галіча, але пасля іх разгрому, палітычная сітуацыя вакол Наваградка ў корані памянялася. Шмат пра гэта напісана ў літаратуры, якая, на жаль, не трапіла ў гістарыяграфічны спіс Ю. Мікульскага.

З ТЭЗЫ 4 вынікае, што аўтар з'яўляецца прыхільнікам старой як свет канцэпцыі экспансіі Літвы на Русь, робячы акцэнт на тое, што "*далучэнне беларускіх зямель да Літвы адбывалася часта праз збройныя выправы, а калі землі і ўваходзілі "мірна", дык усё роўна пад ваенным націскам Літвы*"[814]. Не будзем адвакатамі літоўцаў, якіх літоўскі даследчык Эдвардас Гудавічус параўнаў з "*шакаламі*". Як кажуць, яму відней. Магчыма, і здараліся паміж суседзямі канфлікты, хаця прыкладаў супрацоўніцтва было значна болей. Але чаму Ю. Мікульскі не піша, што раней на беларускія землі часцей за літоўцаў хадзілі паходамі кіеўскія і ...галіцка-валынскія князі. Той жа рускі летапісец зусім "*апатрыятычна*" занатаваў пад 1251 г. пра князя Данілу Раманавіча:

"*плениша всю землю Новгородьскоую... оттоуда же возвратишася с помощью Божиею приемше плен великъ*"[815].

Ды і самыя беларускія князі хадзілі паходамі ў Прыбалтыку, а Полацкае княства даходзіла сваімі межамі да Балтыйскага мора[816]. Ад апанента хацелася б толькі нейкай храналогіі дакладных фактаў пра захоп Полацка, Смаленска, Турава, Пінска, бо канкрэтных прыкладаў, прыведзеных ім, яўна малавата. У сваю чаргу, зусім недарэчна выглядаюць спробы Ю. Мікульскага выдаць за беларускае Бранскае княства. Тут аўтару трэба патлумачыць. Беларускімі некаторыя землі Бранскага княства сталі менавіта пасля ўваходу і замацавання ў складзе ВКЛ, а не наадварот. У іншым выпадку, дзе цяпер той "*беларускі*" Бранск?

Пытанне выклікае таксама сам тэзіс пра "*ваенны націск "мірнага" уваходжання*". Прабачце, гэта як? Яшчэ можна было б знайсці ў ім нейкі сэнс, калі б аўтар напісаў: "*беларускія землі ўваходзілі ў склад Літвы пад ваенным націскам Арды*", але не. Ю. Мікульскі бачыць толькі адную пагрозу – Літву, а вось у адрас мангола-татараў, якія агнём і мячом прайшліся па Русі, ён пафасна піша як "*нашы продкі прынялі на сябе асноўны ўдар*", не дапусціўшы іга ў Літве і Еўропе[817]. Што адказаць на гэта? Як маглі тыя, хто сам сябе не абараніў, абараніць кагосьці – гэта нешта з арсеналу прапаганды, а не навукі. З другога боку, можа агульная тэндэнцыя замены разбітых мангола-татарамі і палітычна збанкрутаваных Рурыкавічаў з Рускага улуса Залатой Арды на літоўскіх князёў у Смаленску (1239 г. – N), Наваградку (1240 г. – Міндоўг), Полацку (1248 г. – Таўцівіл), Пскове (1262 г. – Даўмонт), Ноўгарадзе (1333 г. – Нарымонт Гедымінавіч) сведчыць пра нешта іншае? Відаць, нашы і літоўскія продкі былі нашмат разумнейшыя за сваіх нашчадкаў, якія да сённяшняга дня высвятляюць свае адносіны, разадраўшы на кавалкі Каралеўства Міндоўга.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што ёсць адзін аргумент у тэксце Ю. Мікульскага, на які трэба звярнуць увагу. Здавалася б ён цягне на сенсацыю:

"*Маем сведчанне і на захоп Міндоўгам новагародскіх зямель. У пасланні рымскага папы да Міндоўга ад 1255 года чытаем: "З твайго боку было даведзена нам, што ты, з нястомнай энергіяй змагаючыся супраць каралеўства Русі (маецца на ўвазе Галіцка-Валынскае княства. – Ю. М.) ды яго насельнікаў, падпарадкаваў сваёй уладзе некаторыя землі гэтага каралеўства*"[818].

---

814 Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.72.
815 Шаланда А. *Баярства Міндоўга: склад і паходжанне*. С.12. *ПСРЛ*. М., 1962. Т.2. Слп.819.
816 Шаланда А. *Ліст караля Літвы Міндоўга I на Сялонію для Тэўтонскага Ордэну ў Лівоніі з 1255 г.*// Герольд Litherland. Горадня, 2003. № 1–2. С.29–30.
817 Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.73.
818 Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.72.

Але пры бліжэйшым разглядзе аказваецца, што зноў маем прыклад прымянення метаду “*спалучэння*”. Справа ў тым, што ў 1254 г. Наваградскае княства аддаецца Войшалкам і Міндоўгам князю Раману Данілавічу: “*вдасть Романови сынови королевоу Новогородъкъ от Миндога*”, “*Вышелкъ бе далъ Новогородокъ Романови*”, якім той валодае да 1258 г.[819] Фактычна Наваградскае княства становіцца сумесным валоданнем караля Літвы Міндоўга і караля Русі Данілы. Аднак, дэ юрэ правы на Наваградскую зямлю ў 1255 г. Папа аддаў свежаспечанаму каталіку Міндоўгу, што цалкам зразумела. Трэба ж было неяк кампенсаваць каралю-неафіту яго тэрытарыяльныя страты на карысць Тэўтонскага Ордэну. Так што ніякай сенсацыі, а эфектную выснову Ю. Мікульскага, што “*Літва размаўляла з Новагародкам выразна з пазіцыі сілы*”[820], трэба пакінуць на сумленні аўтара.

Самая кароткая ТЭЗА 5 пра месца каранацыі Міндоўга. Яно невядома, але гістарыяграфічная традыцыя ВКЛ называе гэтым месцам менавіта Наваградак[821]. Але Ю. Мікульскі традыцыйна абвінавачвае ў гэтым нейкіх ананімных “*нашых дзеячаў*”. Сам ён з усіх гіпотэз абраў быццам бы версію літоўскага даследчыка Томаса Баранаўскага аб каранацыі Міндоўга ў Варуце[822]. Дзе знаходзілася тая Варута – загадка над якой б’юцца ўжо некалькі пакаленняў гісторыкаў і археолагаў. Цалкам магчыма, што знаходзілася яна на сучаснай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь[823]. Невядома, чаму Ю. Мікульскі лічыць Томаса Баранаўскага аўтарам гэтай гіпотэзы. Наколькі нам вядома, апошні выказваўся за тое, што такім месцам было Палатаўскае гарадзішча каля вёскі Латава ў сучаснай Літве[824], што ў сваю чаргу з’яўляецца спробай прывязкі да мясцовасці думкі Генрыка Лаўмяньскага. У свой час польскі даследчык лічыў, што каранацыя Міндоўга “*праўдападобна*” адбылася ў нейкім яго двары ў Літве, бо бліжэйшы па даце каралеўскі дакумент быў выстаўлены ў 1253 г. “*in Lettowia in curia nostra*”[825]. Так што гіпотэз хапае, невядома толькі чаму ўсе, услед за Ю. Мікульскім, павінны прыняць “*літоўскую*” версію? Паўторым тое, што ўжо казалі – для абгрунтавання ўстаноўкі помніка Міндоўгу ў Наваградку гістарыяграфічнай традыцыі ВКЛ болей чым дастаткова.

У ТЭЗЕ 6 аўтар змагаецца з міфамі ўжо іншага складу – з “*Гарой Міндоўга*” у Наваградку, якая на працягу 200 год лічыцца мясцовымі жыхарамі легендарнай магілай караля Літвы, што, насуперак ўяўленням аўтара, сведчыць пра даволі жывучую памяць пра яго. Месца сапраўднага пахавання Міндоўга невядома. Як піша Ю. Мікульскі, асабліва спрычыніўся да папулярызацыі назвы “*Гара Міндоўга*” польскі паэт Адам Міцкевіч, а таму легенда яўна небеларускага паходжання. З такой логікай, відаць, Адам Міцкевіч ніколі б не дачакаўся свайго помніка ў Наваградку. Але ён ёсць і не выклікае ніякіх пярэчанняў. Стаіць і гара – адная з турыстычных атракцый рэгіёна. Можа Ю. Мікульскаму варта паглядзець на “*Гару Міндоўга*” як на яшчэ адзін помнік славутаму ўраджэнцу Наваградка? Тады б не ўзнікала ў яго такая негатыўная рэакцыя? А можа аўтару варта было б скіраваць увесь свой імпэт у выкрыцці “*польскай інтрыгі*” на іншае? Напрыклад, на даўно наспелую замену назвы Навагрудак, што з’яўляецца расійскай калькай з польскай мовы, на беларускую – Наваградак. Але тут яго “*праваслаўнае*” сумленне маўчыць.

Затое ў сваіх ацэнках дзейнасці Міндоўга аўтар катэгарычны:

---

[819] Шаланда А. *Баярства Міндоўга: склад і паходжанне*. С.22. *ПСРЛ*. М., 1962. Т.2. Слп.831, 837–838.
[820] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.72.
[821] Баранаўскас Т. *Месца каранацыі Міндоўга*.// Спадчына. 2002. № 5–6. С.26–27. Дзярновіч А. *Фрэскі гісторыі: артыкулы і эсэ па гісторыі і цывілізацыі Беларусі і Цэнтральна-Усходняй Еўропы*. Мн.: РІВШ, 2011. С.11–16.
[822] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.73.
[823] Донскіх С. *У пошуках замка Міндоўга*.// Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 2012. Вып.8. С.145.
[824] Баранаўскас Т. *Месца каранацыі Міндоўга*. С.30.
[825] Łowmiański H. *Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego*. S.336. Заўвага 408.

“*Нічога добрага ні з пункту гледжання сваіх сучаснікаў, ні з цяперашняга Міндоўг для нас не зрабіў*”[826].

Фактычна, Ю. Мікульскі ўзяў на сябе права гаварыць ад імя як прошлых, так сучасных пакаленняў беларусаў, па праблеме, у якой так па-сутнасці і не разабраўся, пры гэтым апялюючы да ведаў беларускіх школьнікаў. Як былы настаўнік гісторыі Беларусі магу сцвярджаць: кожны школьнік ведае, што пачатак беларускай дзяржаўнасці – у Полацкім княстве, а ВКЛ – гэта наступная форма яе развіцця, дзе ніякага заняпаду нашай “*старажытнай велічы*” не было, а наадварот даследчыкі культуры вылучаюць “*залаты*” век. На жаль, гэтага не ведае прафесійны гісторык, супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі Ю. Мікульскі. Яго лямант аб “*прыпыненні візантыйскай цывілізацыі*”, нам увогуле незразумелы. Тым болей, што даследчык прыпісвае гэтую “*заслугу*” аднаму чалавеку, у якога сын быў ...праваслаўны! Характэрна, што здавалася, калі не Міндоўг, то хаця б Войшалк заслужыў у аўтара помнік у Навагрудку. Сапраўды, Ю. Мікульскі нават называе яго постаць “*цікавай*”[827], але не больш. Куды важней Яраслаў Мудры і Кіпрыян, бо па аўтарскай сістэме каардынат яны – “*свае*”, а Міндоўг і Войшалк – “*чужыя*”. Дзіўны падыход, як на прафесійнага гісторыка. Але ён добра тлумачыць на падставе чаго рэальна грунтуюцца тэзы Ю. Мікульскага і чаго яны вартыя.

Каб канчаткова дэманізаваць ненавісную сабе асобу Міндоўга, аўтар не спыняецца нават перад вольнай інтэрпрэтацыяй крыніц. У прыватнасці, ён сцвярджае, што яму “*вядома варожае стаўленне Міндоўга да праваслаўя*”[828]. У якасці аргумента – словы летапісца пра тое, што Міндоўг дакараў свайго сына Войшалка за манашаскі лад жыцця: “*оукоривашеться емоу по его житью*”[829]. Непаразуменні паміж сынам і бацькам, выкліканыя другім шлюбам апошняга і яго дынастычнымі планамі[830], Ю. Мікульскі трактуе як варожасць да праваслаўя ў цэлым[831]. Вось такі “*аналіз*”, галоўным матывам якога нам бачыцца апеляцыя да рэлігійных пачуццяў чытачоў. Сумнеўны, як для прафесійнага даследчыка, прыём. Пры гэтым аўтар эмацыйна крытыкуе наш тэзіс аб тым, што Міндоўг ведаў і карыстаўся рускай мовай. Праўда, потым Ю. Мікульскі зразумеў, што яго, як таго Астапа, “*панесла*”, у сувязі з чым пасля “*само па сабе непраўдападобна*” прызнаў: “*веданне Міндоўгам рускай мовы цалкам магчымае*”[832]. У такіх хістаннях цяжка шукаць рацыянальнае зерне. Тым не менш, мы мусім назваць слушнай заўвагу Ю. Мікульскага наконт таго, што летапісец, хаця і не заўсёды, цытуе па-руску ўсіх “*замежнікаў*”[833]. Але, на нашу думку, пры гэтым варта ўлічваць характар таго ці іншага паведамлення. Напрыклад, тады, калі летапісец ужывае слова “*река*”: “*Миндогови же приславшю слы своя река не чини има милости*”, “*присла Миндовгъ к Данилоу прося мироу и хотя любви о сватьстве*”, “*присла Выкынтъ рекыи яко Немце хотят востати на помощь Тевтивилоу*”, “*Тевтивилъ присла Ревбоу река поиди к Новугородоу*”, “*Тевтилъ прибеже к Данилоу и Жемоить и Ятвязь река яко Миндовгъ оубеди я серебромъ многимъ*”[834]. На нашу думку, летапісец зафіксаваў не толькі актыўную камунікацыю, але сітуацыю білінгвізму калі не ў Літве, то па меншай меры ў асяроддзі Міндоўга. Ды і пасол Таўцівіла Роўба, які валодаў рускай мовай, яўна быў літоўцам. З другога боку, хто яшчэ

[826] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.73.
[827] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.75.
[828] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.74.
[829] *ПСРЛ*. М., 1962. Т.2. Слп.859.
[830] Семянчук Г., Шаланда А. *Да пытання аб пачатках Вялікага княства Літоўскага...* S.39–40. Кибинь А. *Литовский князь и индийский царевич: в поисках сходства (история о Войшелке).*// Studia Slavica et Balcanica Petropolitana. Петербургские славянские и балканские исследования. 2011. № 2 (10). С.13.
[831] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.74.
[832] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.74.
[833] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.74.
[834] *ПСРЛ*. М., 1962. Т.2. Слп.815–816, 818, 820. Думаем, што не памылімся, калі прымем, што менавіта на рускай мове “*пронесе доумоу Товтовиловоу*” Траняце баярын Пракоп Палачанін, гл.: *ПСРЛ*. М., 1962. Т.2. Слп.861.

мог карыстацца пячаткай з надпісам: "*МЪNГДОВЬ*"?[835] Сярод варыянтаў: кароль Літвы Міндоўг – Міндоўг князь Гальшанскі, легендарны кіеўскі намеснік пры Гедыміне, больш падстаў звязаць згаданы сфрагістычны матэрыял менавіта з першым. У любым выпадку, быў гэта літовец Міндоўг, які ведаў рускую мову.

Ёсць адная частка артыкулу маладога даследчыка, якую можна кваліфікаваць як палітычны данос:

"*Такому вось чалавеку хочуць паставіць помнік нашы "дзеячы", якія называюць сябе "нацыянальнай інтэлігенцыяй". Гэтая ініцыятыва пярэчыць беларускай нацыянальнай ідэі і дзяржаўнай ідэалогіі, з'яўляецца апатрыятычнай. Помнік Міндоўгу – гэта адначасова і выклік праваслаўнай царкве, жаданне прынізіць яе значэнне ў гісторыі Беларусі як старажытнай веры нашых продкаў, абыякава паставіцца да яе традыцыі. Зусім незразумела, чаму яны, гэтыя "барацьбіты за незалежнасць", гарой стаяць за помнік Міндоўгу, роля якога ў гісторыі Беларусі, мякка кажучы, сумнеўная і памяць пра якога ў нас нічым не пацверджаная, і гэтак зацята выступаюць супраць устаноўкі ў Беларусі помніка Аляксандру Неўскаму – князю, якога шанавалі ўсе беларусы ва ўсе часы: яго імя сустракаем у старабеларускіх мінеях (кнігі са службамі святых на кожны дзень года), яму старабеларускія кніжнікі прысвячалі літаратурныя творы, яго ўсхвалялі ў летапісах*"[836].

Не хочацца гэта каментаваць, але, відаць, Ю. Мікульскі забыў, што зараз не 1937, а 2013 г. Яго апеляцыя да кіраўніцтва ўстановы (Інстытута гісторыі?) і Беларускай праваслаўнай царквы сведчыць толькі пра поўную навуковую непаўнавартасць тэзаў аўтара, у чым ён гэтым абзацам уласнаручна распісаўся. Наконт помніка князю Аляксандру Неўскаму, магу патлумачыць, чаму супраць яго (помніка) асабіста я, бо маю, як і Ю. Мікульскі, такое ж самае канстытуцыйнае права на выказванне і адстойванне сваёй думкі. У Беларусі цэлы шэраг праваслаўных храмаў асвечаны ў гонар гэтага святога, так што рэлігійныя пачуцці нікога не пакрыўджаны. Па меншай меры мае, як праваслаўнага, дакладна. Ну, а помнік за што? За тое, што з-за літоўскай пагрозы, як піша сам Ю. Мікульскі, забраў свайго сына з Віцебска ды ўцёк (у апанента – далікатна "*адступіў*") у Ноўгарад?[837] Дык неяк няёмка ставіць помнік за такія "*заслугі*" перад Беларуссю. Як былы выкладчык "*Асноваў ідэалогіі Беларускай дзяржавы*" магу засведчыць – беларуская нацыянальная ідэя і дзяржаўная ідэалогія грунтуецца зусім на іншых прынцыпах і ідэалах. Можа непрыемна здзіўлю Ю. Мікульскага, але "*барацьбіты за незалежнасць*" Беларусі – гэта тыя, на каго мы ўсе павінны раўняцца. Мяркую, што аўтару як мінімум трэба папрасіць прабачэння, асабліва ў праваслаўных вернікаў, чые пачуцці ён выкарыстаў як "*аргумент*" у сваёй няўдалай нарацыі. Роля разбуральніка "*міфаў*" яму яўна не ўдалася. Можа варта ўсё ж сур'ёзна заняцца навукай?

Некалькі слоў хочацца сказаць і на адрас выдання. "*Беларуская думка*" – штомесячны грамадска-палітычны і навукова-папулярны часопіс, а таму яго профіль цалкам зразумелы. Аднак, далей у выходных дадзеных пазначана, што заснавальнікам яго з'яўляецца Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Па-мойму, гэта павінна накладваць пэўную адказнасць за адбор тэкстаў для публікацый, бо крытэрый для іх адзін – яны павінны працаваць на кансалідацыю беларускага грамадства, а не дзяліць яго па канфесійнай прыкмеце або правакаваць на нейкія бясплённыя дыскусіі з непадрыхтаванымі для гэтага аўтарамі. Варта помніць, што акрамя свайго ў выдання ёсць

[835] Ліхачоў М. *Пячатка-пломба Міндоўга?*// Герольд Litherland. Горадня, 2003. № 1–2. С.25. Седых В., Белецкий С. *Памятники средневековой сфрагистики из Тимерево.*// XVI Всероссийская нумизматическая конференция. Тезисы докладов и сообщений. СПб.: Изд-во Гос. Эрмитажа, 2011. С.108–109. Мал.2–3. Дзярновіч А. *Фрэскі гісторыі*. Мн.: РІВШ, 2011. С53.
[836] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.74.
[837] Мікульскі Ю. *Увекавечанне міфа*. С.72.

і знешні чытач, які ад душы пасмяецца ад такіх “*беларускіх*” думак. Гэта – у лепшым выпадку, бо ў горшым падобныя публікацыі б’юць па палітычнаму іміджу краіны.

*Аляксей Шаланда.*

